**В.С. Новак**

# СЛАВЯНСКАЯ МІФАЛОГІЯ

## (НА МАТЭРЫЯЛАХ ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ)

Мінск
«Права і эканоміка»
2009

УДК 398 (476.2)
ББК 82.3 (4БЕі - 4 Гом) - 44.002.2
Н 72

Навуковыя рэцэнзенты:
А.У. Марозаў, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў ДНУ “Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы” НАН Беларусі.
У.І. Коваль, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства

**Новак В.С.**
**Н 72** Славянская міфалогія (на матэрыялах Гомельскай вобласці): манаграфія / В.С. Новак. – Минск: «Право и экономика». 2009. – 324 с.

У даследаванні знайшлі адлюстраванне як аўтэнтычныя мясцовыя запісы звестак па народнай дэманалогіі Гомельшчыны, так і іх тэарэтычнае асэнсаванне.

Кніга будзе цікавай для этнографаў, гісторыкаў, фалькларыстаў, настаўнікаў, студэнтаў.

У кнізе выкарыстаны малюнкі студэнтаў устаноў адукацыі “Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны”, “Мазырскі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя І.П. Шамякіна” М. Ржавецкай, А. Гуневіч, Н. Клешчанка, Ю. Аніпавай, В. Крывецкай, В. Бялецкай, А. Сіраж, А. Баран, А. Яхімовіч, В. Васільковай, Ю. Шабета.

**УДК 398 (476.2)**
**ББК 82.3 (4БЕі – 4 Гом) - 44.002.2**

**ISBN**

# ПРАДМОВА

Міф у перакладзе з грэчаскай мовы (mythos) – слова, казанне, паданне.

Міф заснаваны на фантазіі, звязаны са сферай сакральных і таямнічых ведаў, з’яўляецца формай пераходу ад магічнага да мастацкай рэальнасці (Ю. Бораў). Гаворачы пра міф, даследчыкі ў першую чаргу маюць на ўвазе асаблівасці ўспрымання і першаснай народнай інтэрпрэтацыі з’яў рэчаіснасці (на ўзроўні пачуццяў, эмоцый, суперажыванняў, настрояў). Беларускія вучоныя, вызначаючы сутнасць паняцця міф, пагаджаюцца з азначэннем, прапанаваным Я.А. Касцюхіным: “1) сістэма архаічных уяўленняў аб свеце, выражаных у канкрэтна-пачуццёвай форме; 2) апавяданні, якія ўвасобілі гэтыя ўяўленні”.

У гісторыі развіцця духоўнай культуры чалавецтва не знойдзецца іншай такой з’явы, як міф, пра якую б выказваліся такія шматлікія, нават супрацьлеглыя меркаванні. Гэта невыпадкова: міф з’яўляецца аб’ектам даследавання розных навук – гісторыі, фальклupарыстыкі, літаратуразнаўства, этнаграфіі, псіхалогіі, філасофіі і інш., кожная з якіх імкнецца даць гэтаму паняццю найбольш прыдатнае азначэнне з улікам спецыфікі свайго прадмета даследавання. Адзінай жа думкі ў сучаснай навуцы наконт азначэння міфа так і не склалася. Паколькі амаль да XIX стагоддзя еўрапейцы ведалі толькі апавяданні старажытных грэкаў і рымлян пра багоў і іншых звышнатуральных істот, то і была надзвычай устойлівай тэндэнцыя разумець пад міфамі старажытныя казкі, займальныя гісторыі, створаныя ў антычнасці. Пры такім падыходзе ігнаруюцца галоўныя перадумовы своеасаблівай міфалагічнай логікі (стан нявылучанасці першабытнага чалавека з прыродна-сацыяльнага асяроддзя, сінкрэтызм мыслення, наіўнае ачалавечванне сіл, уласцівасцей і розных фрагментаў космасу), якія даюць падставы сцвярджаць, што міф – гэта не што іншае, як своеасаблівы спосаб асэнсавання навакольнага свету, уласцівы для людзей першабытнай формы грамадскай свядомасці. Яскравым доказам таго, што ў міфе пераважае эмацыянальна-асацыятыўны пачатак, з’яўляецца выказванне А.К. Сержпутоўскага: “Каб добра зразумець сучаснае жыццё людзей, трэба азірнуцца назад, у глыб стагоддзяў,

падглядзець і падслухаць, як раней жыў, думаў і верыў старажытны чалавек. Ён глядзеў на з'явы і рэчы так, як на самога сябе. Ён думаў, што ўвесь свет, усе рэчы гэтак сама жывуць, адчуваюць і думаюць, як і ён сам" [1, с. 1].

Старажытную аснову міфаў складала адзінства чалавека і прыроды ў першабытную эпоху, калі галоўным прынцыпам міфалагічнай свядомасці людзей было ўспрыманне імі прыродных з'яў як жывых істот. Вынікам гэтага стала адухаўленне навакольнага свету, шырокае метафарычнае супастаўленне прыроды і грамадства, увасабленне рэчаў і з'яў.

Асноўныя рысы, звязаныя з міфам, з міфалагічнай свядомасцю, – гэта антрапамарфізм (чалавек пераносіў на прыродныя аб'екты свае ўласныя асаблівасці), заамарфізм (уласцівасці жывёл), сінкрэтызм (непадзельнасць з'явы і сутнасці, прадмета і яго назвы), сімвалізм (канкрэтныя прадметы і з'явы, не трацячы сваёй канкрэтнасці, станавіліся знакамі іншых прадметаў і з'яў, сімвалічна замяняючы іх), генетызм (паходжанне прадмета выдаецца за яго сутнасць), этыялагізм (растлумачыць асаблівасці якога-небудзь прадмета або з'явы – расказаць, як яны ўзніклі), амбівалентнасць (супярэчлівасць, дваістасць, наяўнасць супрацьлеглых уяўленняў, усе боствы то дапамагаюць, то шкодзяць).

Міф як своеасаблівы тып мыслення выконваў у першабытным грамадстве асноўную функцыю разумення свету. Міфалагічны характар успрымання рэчаіснасці, аснову якога складае пазнанне рэчаў праз прызму ўласных пачуццяў, перажыванняў, уласцівы не толькі для культуры мінулых часоў, але выяўляецца і ў сучаснасці. Аднак сёння гэта ўжо не тыя міфы, у якіх тлумачацца з'явы прыроды, пераважная іх большасць мае сацыяльны, палітычны характар.

Гаворачы пра міф, варта нагадаць і пра яго суадносіны з казкай і легендай. Агульным у казках і міфах з'яўляецца прынцып увасаблення з'яў прыроды і чалавечых уласцівасцей: і там, і тут жывёлы, прадметы, прыродныя з'явы паводзяць сябе як людзі, мае месца фантазія. Міф адрозніваецца ад казкі этыялагічнай функцыяй: у казцы няма тлумачэнняў (расказваецца для забавы, заключае ў сабе дыдактычна-павучальны сэнс), у міфе тлумачацца тыя ці іншыя з'явы навакольнага свету. Паняцці міфа і легенды даволі часта не адрозніваюць, размежаваць іх надзвычай складана, аднак варта мець на

ўвазе, што калі міфы – гэта апавяданні, пазбаўленыя гістарычнай асновы, то легенды – гэта творы, звязаныя з гістарычнымі падзеямі.

У міфах-аповедах (гэта толькі адна з праяў міфалогіі) гаворыцца пра багоў, тлумачыцца, як узніклі неба і зямля, чалавек, расліны і жывёлы і інш. Акрамя гэтага, міф уключаўся ў бязмежна шырокі міфалагічны свет, у які ўваходзілі рытуалы і абрады, прыкметы і павер'і, з'явы прыроды і прадметы побыту і г.д. У сувязі з гэтым і абумоўлена разуменне міфа як сінтэтычнай формы, у якой арганічна з'ядналіся народная мудрасць, сапраўдныя веды аб прыродзе, мастацкія вобразы, маральныя нормы, рэлігійныя вераванні. У адрозненне ад міфаў іншых народаў міфы беларусаў грунтоўна не вывучаны. Між іншым, менавіта для гэтага славянскага народа характэрна шырока распрацаваная народная міфалогія. Нават пасля прыняцця хрысціянства міфалагічныя аповеды пра духаў розных локусаў, ведзьмаў, русалак і інш. працягвалі сваё актыўнае бытаванне ў народнай свядомасці. Штогадовыя запісы фалькларыстаў у палявых экспедыцыях з'яўляюцца яскравым пацвярджэннем устойлівасці захавання беларусамі рэшткаў старадаўняй міфалагічнай традыцыі (асабліва на тэрыторыі Палесся). Шкада, што не захаваліся тэксты сапраўдных славянскіх міфаў, што так і не склалася цэласная сістэма славянскай міфалогіі, што можна весці гаворку толькі пра асобныя элементы, міфалагемы, міфалагічныя мадэлі, якія захоўваюцца ў сучаснай народнай культуры.

У прапанаваным выданні "Славянская міфалогія" (на матэрыялах Гомельскай вобласці) звесткі па ніжэйшай міфалогіі, запісаныя з вуснаў інфармантаў, адлюстраваны і ў міфалагічных аповедах, і ў вербальна афармленых дэманалагічных уяўленнях. Характарыстыка міфалагічных персанажаў зроблена з улікам такіх момантаў, як іх знешні выгляд, іпастась (антрапаморфная, зааморфная, фітаморфная і г.д.), сацыяльны статус, атрыбуты, генезіс, месца і час знаходжання, функцыянальнасць, амбівалентнасць, здольнасць да метамарфоз, сродкі засцярогі ад шкоднага ўздзеяння і інш.

Прадстаўленыя ў кнізе матэрыялы пададзены з дакладным захаваннем асаблівасцей мясцовай гаворкі.

Сістэматычнае дэталёвае вывучэнне этнічных міфалагічных уяўленняў беларусаў дае падставы сцвярджаць, што гэты фрагмент народнай культуры, які звязаны з ніжэйшай міфалогіяй, мае шыро-

кую геаграфію распаўсюджання і багатую лакалізацыю (аб гэтым сведчыць багацце прадстаўленых у кнізе мясцовых варыянтаў), яшчэ недастаткова вывучаны і мае вялікія перспектывы для даследавання.

У прапанаваным выданні змешчана толькі невялікая частка сучасных міфалагічных звестак, у першую чаргу звязаных з персанажамі ніжэйшай міфалогіі. Народныя аповеды пра найбольш “прадуктыўных” міфалагічных персанажаў суправаджаюцца невялікімі тэарэтычнымі фрагментамі.

Недастаткова даследаванымі яшчэ застаюцца сёння міфалагічныя аповеды, прысвечаныя вобразам ніжэйшай міфалогіі. Як заўважыла Н.А. Крынічная, “фарміраванне матываў і сюжэтаў народнай міфалагічнай прозы адбываецца ў кантэксце агульнага фальклорнага працэсу, які часткова вызначаецца аднымі і тымі ж вытокамі, часткова наступным міжжанравым узаемадзеяннем, як і спецыфікай кожнага з кампанентаў гэтага працэсу” [2, с. 10].

**Літаратура:**

1. Сержпутоўскі, А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў / А. Сержпутоўскі. – Менск: Друкарня Бел. Акад. Навук, Галоўлітбел, 1930. – 281 с.

2. Криничная, Н.А. Русская мифология: Мир образов фольклора / Н.А. Криничная. – М.: Академический проект; Гаудеамус, 2004. – 1008 с.

# ПЕРСАНАЖЫ НІЖЭЙШАЙ МІФАЛОГІІ

## *Балотнік*

Звернемся да характарыстыкі міфалагічнага персанажа – балотніка, пра якога ў беларускай міфалагічнай навуцы вядомы вельмі сціплыя звесткі, што падрабязна прадстаўлены ў працы М. Нікіфароўскага [Никифоровский Н.Я. Нечистики: Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. – Вильно, 1907. – С. 80-82]. Што датычыць сучасных запісаў, то яны нешматлікія: зроблены ў в. Гаць Акцябрскага раёна, в. Майсеевічы Петрыкаўскага раёна, в. Залессе Чачэрскага раёна, в. Дземяхі Рэчыцкага раёна, в. Неглюбка Веткаўскага раёна, в. Скепня Жлобінскага раёна. Амаль усе інфарматары пацвердзілі, што балота – месца знаходжання гэтага нячысціка. Беларусы вылучалі некалькі відаў балотнікаў: "Панурыя, няўклюдныя, нерухомыя, яны жывуць поруч са сваімі братамі Багнікам і Аржавеннікам, а таксама Лознікам (Лазавіком), дапамагаюць адзін аднаму праследаваць ахвяру – чалавека ці свойскую жывёлу" [1, с. 42].

Апісанне знешняга выгляду балотніка ў сучасных аповедах інфарматараў мала чым адрозніваецца ад характарыстыкі, дадзенай гэтаму персанажу М. Нікіфароўскім. Паводле апісанняў апошняга, гэты нячысцік "зусім без вачэй, увесь у тоўстым пласце гразі, да якой прыліплі ў беспарадку багавінне, мохавыя валокны, смаўжы, мухі і іншая вадзяная жамяра" [2, с. 62].

Калі параўнаць сучасныя новыя мясцовыя запісы звестак пра балотніка на Гомельшчыне, то можна пераканацца ў супярэчлівасці міфалагічных уяўленняў беларусаў: напрыклад, паводле некаторых сведчанняў, балотнік "заўсёды быў гразны, вачэй у яго не было. Балотнікі маленькія, з гнілымі зубамі" (Запісана ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н., в. Залессе Чачэрскага раёна), а інфарматары з в. Дземяхі Рэчыцкага раёна ўяўляюць балотніка з "вялікімі вачамі, сам тоўсты, паходзіць на мужчыну (Запісана ад Пашкуновай Марыі Максімаўны, 1927 г.н.), падобны на чалавека-таўсцяка, бальшых размераў" (запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.).

Жыхары в. Куты Веткаўскага раёна былі пераканаы, што балотнік уяўляў сабой "корч": "І на етым балоце мы ўбачылі

балотніка. Сначала яны і не думалі, што корч пасярод балота быў балотнікам. Аднак той пачаў варушыцца, а потым у багну пайшоў" (запісана ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.). Аналагічныя звесткі пра знешні выгляд балотніка занатаваны ў в. Вулька-2 Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці: "Балотнік пахожы на корча" (запісана ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.). Паводле ж успамінаў Валянціны Іванаўны Кавалёвай, 1946 г.н., з в. Старое Сяло Веткаўскага р-на, балотнік мог набываць фантастычны воблік: "… гэта такі цвёрды студзень з чырвонымі вачыма. Дзядзька расказваў, што аднойчы ля балота ірваў сабе нейкія травы і пачуў нейкія незразумелыя звукі. Глянуў на балота, аж адтуль вылазіць еты студзень. Дзядзька перапужаўся, бо вочы свяціліся вялікай злосцю". Бытуе меркаванне, што балотнік як істота не мае выразных абрысаў, гэта "тая гразь, екая ў балоці" (запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.). Як бачым, паралельна з уяўленнямі пра балотніка як пра пэўны прадмет (корч), гразь, студзень, зафіксаваны звесткі пра антрапаморфны выгляд балотніка. Ёсць адзінкавыя прыклады звестак, паводле якіх балотніка ўяўлялі чортам: "Колісь мой брат пойшоў з соседом у болоцістое месца ля вёскі рыбу ловіць, просёк полонку, наклоніўса к водзе, а ў водзе ему отрозілосо: глядзяць на его і говораць: "Цібе ўжэ ждуць". А самі ў чорном з бліскучымі гузікамі. Брат спужаўса і ўцёк" (запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на ад Комар Надзеі Мікалаеўны, 1939 г.н.).

Якімі б рознымі ні былі мясцовыя варыянты аповедаў пра балотніка, дзесьці можна пагадзіцца з высновай даследчыцы А.Я. Леўкіеўскай: "У адрозненне ад іншых прадстаўнікоў нячыстай сілы, балотнік не ўмее мяняць свой воблік" [3, с. 350]. Аднак не зразумела, што мела на ўвазе даследчыца.

Што датычыць функцыянальнасці гэтага нячысціка, то, як сцвярджаюць інфарматары, балотнік – гэта "нечысць, якая зацягвае людзей у балота" (в. Майсеевічы Петрыкаўскага раёна); "калі пойдзеш куды ў лес, дык цябе пачынае цягнуць у балота нейкая сіла" (в. Залессе Чачэрскага раёна); балотнік "мог зацянуць чалавека ў балота" (в. Гаць Акцябрскага раёна); "можа п'янага чалавека завесці ў балота… Балотнік робя на балоці ўсякія чудзеса…" (в. Неглюбка Веткаўскага раёна).

У найбольшай ступені балотнік можа нашкодзіць п'янаму чалавеку: "Ён можа п'янага чалавека завесці ў балота. Што заставе, то і

будзе дзелаць чалавек. Аднаго п'янага чалавека завёў у балота і заставіў яго іграць, а сам танцаваў пад яго музыку. Калі чалавек ачнуўся ўтрам, то аказаўся на пні і кругом яго ляжалі адні чарапкі, а не дзеньгі" (запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на ад Герасіменка Ганны Іванаўны, 1934 г.н.).

Балотнік заманьвае чалавека або якімі-небудзь гукамі ("можа падробліваць розныя-розныя звукі, галасы" – запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.), або пахам кветак, якія "вырошчвае ў сваіх уладаннях" (запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.). Паводле сведчанняў Анастасіі Паўлаўны Грабок, 1936 г.н., з в. Перасвятое Рэчыцкага р-на, ахвярамі балотніка становяцца людзі, якія адрэагавалі на пэўныя гукі, падробленыя балотнікам, калі ён "ціўкае, як птушка, то гагоча, як качка, то мычыць, як карова".

## Літаратура

1. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мн.: Беларусь, 2004. – 592 с.

2 Никифоровский, Н.Я. Нечистики: Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / Н.Я. Никифоровский. – Витебск: Типография им. Коминтерна, 1995. – 85 с.

3 Левкиевская, Е. Мифы русского народа / Е. Левкиевская. – М.: Астрель; АСТ, 2005. – 526 с.

## *Балотнік*



Я не ведаю, як дзе, а як я помню, балотнікам называлі злога духа, які жыў у лясным балоце. Ніхто ніколі не мог сказаць, якім ён быў: маленькі ці вялікі, тоўсты ці худосны, бо хаваўся ён удала.

Балота ў нас было толькі ў лесе, дый і тое ніхто не ведаў, у якім месцы. Яно з'яўлялася нейк, як ніадкуль. Казалі, што калі балотнік захоча зацягнуць каго-небудзь у сваё гнілое месца, то выстаўляе перад ім сваё балота. Ой, колькі там павозак дый коней папрападала. Людзі выратоўваліся, але ж было такое, што і засмоктваў ён і людзей. Казалі, што выходзілі з таго месца толькі мерцвякамі. Калі не ўгодзіць балотніку ў тым глыбокім царстве чалавек чым-небудзь, то выпускае ён іх, аднак толькі дыханне ў іх забірае, а потым тое ягонае балота дыша мёрцвым дыханнем. Бывала, што знаходзілі гэтых людзей і на беразе возера, і на беразе рэчкі, але ж заўсёды без дыхання.

Я ўжо так і не помню, шосьці чула, як маціна кума, цётка Аўдоцця, казала нешта, як хтосьці трапіў у тое балота, аднак рукі яго

шчэ не паспелі засмактаць, і ён пачаў хрысціцца і прасіць Бога памагчы. Як толькі пачаў маліцца, балотнік адпусціў ягоныя ногі, як быццам спужаўся нечага, і той удала выратаваўся з той багны, аднак карова ягоная павязла.

Некаторыя казалі, што бачылі хату гэтага балотніка. Як быццам жыве ён там, дый робіць свае чорныя справы. А хатка ягоная невялікая, з ветак і броўнаў пабудаваная, а на ветках тых сляды ад рук дый нагцей чалавечых, якія, мабыць, чапляліся за іх перад смерцю.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***

Крыксы і злыдні суправаджаюць ліха аднавокае. Ад ніх дабра не чакай. Яны рагатыя, касматыя, бязабразныя, нападаюць на людзей на балоце, ездзяць на іх верхам да першых пеўняў. Злыдні заманьваюць людзей у трасіну. Хмыры і крыксы – балотныя духі, якія тым і апасныя, што могуць прычапіцца да чалавека, нават усяліцца ў яго, асабліва на старасці год, калі ў жыцці чалавек нікога не любіў і ў яго не было дзяцей.

***Запісана ў в. Вецвіца Чачэрскага р-на***
***ад Новікавай Варвары Герасімаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Бельскай К.***
***(2003 г.)***

Багнік жыве ў балоці, у самых непрахадзімых мястах. Ён зацягвае людзей у балота і губіць.

Ноччу на балоце ён запальвае агні. Часамі цяжка ўздыхае. Хто трапіў у яго владзенія, той ужо ніколі не выберыцца.

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на***
***ад Дайнека Дар'і Фядосаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Камандзірчык Н.***

Чула яшчэ і пра балотнага чорта – балотніка. Ён любіць каровай рэўці, мекае, бекае. У самае балота цягніць, думае, што ўтопіць, дурны.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Свірыдзенка Таццяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай А.***

Балотнік жыве звычайна ў лясным балоце. Гэта нябачны злодзей, які забірае нядобрых людзей да сябе. Заўважала калі-небудзь у лесе балацяністае месца, на паверхнасці якога ёсць купіны? Гэта балотнікавы хітрасці. Заманіўшы на іх, балотнік наводзіць страх на чалавека ці жывёлу, а тады цягне да сябе. Інцірэсна, што дружакі ў яго ёсць: забруджаная вада, балотная расліна, цінь і пузыры, з дапамогай якіх балотнік дыхае. Ня дай, Бог, трапіць у пастку да балотніка. Рэдка хто ратуецца ад яго сілы.

***Запісана ў в. Званец Рагачоўскага р-на***
***ад Бацук Кацярыны Аляксееўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***

А ішчэ ў лясах балотнікі ёсць. Такія во яны маленькія, зялёныя, з зубамі ж такімі во гнілымі. Малыя, зато, ого, сколькі шкоды ад іх. Пойдзеш па ягады ў лес, а цябе як начынае зацягваць. Во становісся, ну, кочка, а глянеш, дык трасіна. Во так бывае.

***Запісана ў г.п. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Смяглікавай Ніны Піліпаўны, 1943 г.н.,***
***студэнткамі Ярохавай С., Псырковай І., Лапінай В.***
***(2003 г.)***

Балотнік жыве ў балоце. Гэта была страшэнная асобіна. Таўсты, вокаў у яго не было. Ён быў вельмі гразны. Яшчэ мая маці казала, што далека не хадзіце, дзе расце трава-багун, якую, як быццам, вырашчвае балотнік. Яна можа задурыць галаву чалавеку, каб той ішоў у балота.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Юліі Сцяпанаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбасавай Ю.***

# *Вадзянік*

Вадзянік з'яўляецца адным з важнейшых прадстаўнікоў славянскай дэманалогіі. Гэта "мужчынскі міфалагічны персанаж, злосны дух, які знаходзіцца ў вадзе, гаспадар і апякун воднай прасторы" [1, с. 396]. Прыведзеная дэфініцыя міфалагічнага персанажа "вадзяны" знаходзіць выразнае пацвярджэнне ў мясцовых запісах звестак на Гомельшчыне . Напрыклад, як сведчаць інфарматары, гэта "злы дух, які жыве ў вадзе" (в. Бялёў Жыткавіцкага р-на), гэта "хазяін вадаёма" (в. Хутар Светлагорскага р-на), "вадзянікі – гэта мужчыны, якія ўтапіліся, або іх утапілі сілком" (в. Перавалока Рэчыцкага р-на).

Найбольш шырока бытуюць павер'і пра вадзяніка на тэрыторыі Беларусі і ў паўночна-заходніх раёнах Расіі. А. Леўкіеўская сцвярджае, што павер'і, звязаныя з вадзянікам, народжаны "старажытнымі язычніцкімі ўяўленнямі пра тапельнікаў, якія працягваюць дажываць у вадзе свой век. Падобныя вераванні да гэтай пары сустракаюцца ў некаторых месцах Палесся" [2, с. 340].

Звернемся да характарыстыкі знешняга выгляду вадзяніка. Паводле апісання М. Нікіфароўскага, гэта "глыбокі стары сярэдняга росту, з доўгай лапацістай барадою, з такімі ж доўгімі валасамі на галаве ў форме кліна, з гладкай бліскучай скурай, расплывістым тварам, азызлым пузам і непрапарцыянальна доўгімі нагамі, на якіх між пальцаў перапонкі. Акрамя таго, і ўсё цела Вадзяніка пакрыта доўгімі валасамі, якія, пры бліжэйшым разглядзе, аказваюцца ці тонкімі струменьчыкамі вады, ці нечым накшталт водарасцяў, што прыліплі да яго скуры" [3, с. 57].

У сучасных лакальных міфалагічных традыцыях Гомельшчыны знешні выгляд вадзяніка звязаны з тапельцамі-мужчынамі (в. Перавалока Рэчыцкага р-на), у іншых павер'ях – "гэта проста мужык, пакрыты зялёнай цінай, няўклюжы" (в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на), "дзед маленькага роста з сінімі ці зялёнымі валасамі і абязацельна з дліннюшчай барадой" (в. Чарацянка Гомельскага р-на), "зялёны дзед, увесь у ціне і водараслях" (в. Салтанова Рэчыцкага р-на).

Сустракаюцца і сведчанні інфарматараў, паводле якіх знешні воблік вадзяніка адлюстроўвае як антрапаморфныя, так і зааморф-

ныя рысы. Факт з’яднанасці розных рысаў у апісанні гэтага міфалагічнага персанажа пацвярджае супярэчлівасць народных уяўленняў. Напрыклад, ва ўспрыманні жыхароў в. Міхалькі Гомельскага р-на, вадзянік падобны не толькі на чалавека з доўгай барадой і доўгімі валасамі, але і на рыбу (“... вместа ног у яго хвост, як у рыбіны”). З падобнымі павер’ямі давялося сустрэцца на тэрыторыі Буда-Кашалёўскага р-на: “Цела ў яго (вадзяніка – В.Н.) усё склізкае, усё ў слізі. Хвост ён імее, як у рыбы, і чышуёй пакрыты. А рукі, як у гуся лапы, штоб лучшэй плаваць” (в. Шырокае), Светлагорскага р-на: “... гэта паўрыба-паўчалавек, у яго ёсць барада, як трава ці ціна” (г.п. Парычы), Жлобінскага р-на: “Сам ён такі тоўсты, валасы доўгія такія, зялёныя, з травой. А барада, дык яшчэ даўжэй. На руках – бальшыя когці і не ногі ў яго, а хвост, як у рыб” (в. Чырвоны Бераг), Акцябрскага р-на: “Вадзянікі маленькія, як пачці ўсе нячысцікі. Яны з доўгай барадой, з доўгімі валасамі вельмі і всегда ў ціне. У іх ёсць рыбіны хвост” (г.п. Акцябрскі).

Месца знаходжання вадзяніка – “глыбокія месцы вадаёмаў (слав.) пад крутымі берагамі, віры рэк (рус., бел., карпац.), глыбокія лясныя азёры (рус.), месцы, якія зімой не замярзаюць (бел.), месцы зліццяў і паваротаў рэк (пол.), калодзежы і крыніцы (у.-,з.-слав.), лужы (луж.). Вадзянік жыве пад шлюзамі (бел.), каля запруд для лоўлі рыбы (пол.), побач з мельніцамі, якія дзейнічаюць (рус., бел., карпац., луж., у.-серб.), або ў старых закінутых мельніцах (рус.). Вадзянік пад вадой жыве ў багатым шкляным або крышталёвым палацы (у.-слав., пол., луж., у.-серб) [1, с. 398]. Звернемся да тэкстаў міфалагічных аповедаў, згодна з якімі месцамі знаходжання вадзяніка з’яўляюцца: вір (“Вадзянік жыве ў вірах” – в. Лахва Лунінецкага р-на), глыбокія месцы рэчак і азёраў (“Вадзянік знаходзіцца ў самых глыбокіх месцах рэчак і азёраў” – в. Дзяражычы Лоеўскага р-на), пруд (“Я веру, што ў пруду ёсць вадзянікі” – в. Хамічкі Мазырскага р-на), вадаём (“Вадзянікі жывуць у вадаёмах” – г.п. Карма Кармянскага р-на), балота (“Ён жыве ў вадзе на балоце” – г. Гомель). У пераважнай большасці міфалагічных аповедаў вадзянік паўстае як антрапаморфная істота: “гэта стары чалавек з зялёнымі валасамі, а барада ў яго з травы, ціны” (в. Дзяражычы Лоеўскага р-на), “вадзянікі ўвасабляюцца ў чалавека” (г.п. Карма Кармянскага р-на), “гэта стары з зялёнымі валасамі, з барадою з водараслей” (г. Гомель), “вадзянік увэсь покрыты

волосамы, тоўсты, з доўгімы вусамы, волосамы на голові. Гэто стары маленькі дэдок” (в. Багданаўка Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.), “эта стары чалавечак з дліннай-дліннай барадой, якім-та клінам, валасамі на галаве” (в. Кірава Жлобінскага р-на) і інш.

Паводле мясцовых павер’яў, вадзянік “любіць жыць ля млыноў, пад шлюзамі” (в. Перавалока Рэчыцкага р-на; в. Хутар Светлагорскага р-на), “вадзянікі могуць жыць у калодзежах” (в. Бялёў Жыткавіцкага р-на), “у крыніцах бяздонных, у глыбіні рэк і азёр, у такіх месцах, якія зімою не замярзаюць, бо лёд тае ад дыхання вадзяніка” (г. Добруш), “вадзяныя жывуць у азёрах і глыбокіх балотах” (в. Чарацянка Гомельскага р-на), “вадзяны жыве ў балоце” (в. Міхалькі Гомельскага р-на), “яго любімым месцам з’яўляюцца рачныя омуты бліз вадзяных мельніц” (р.п. Бальшавік Гомельскага р-на), “у прудах, азёрах, рэках жывуць вадзянікі” (г. Гомель).

Сучасныя запісы міфалагічных звестак дазваляюць зрабіць вывад, што інфарматары праводзілі выразную мяжу паміж добрымі і злымі вадзянікамі: “Добрага звалі ціхоня, і жыў ён у чыстай вадзе, а злога звалі ці баламут, ці вірун (я ўжо точна не помню), і жыў ён у грязнай вадзе. Ціхоня людзям не дзелаў зла, на то ён і ціхоня. А вірун не любіў людзей, ён так і глядзеў, каб каго-небудзь утапіць ды забраць к сабе” (в. Міхалькі Гомельскага р-на).

Аналагічныя ўяўленні пра вадзяніка пацвярджаюць запісы, зробленыя ў в. Заселле Рэчыцкага р-на (“Вадзянік жыве ў вадзе, а асобенна ў кручах. І калі чалавек купаецца ў етым месці, вадзянік яго абізацельна зацягне к сабе. І чалавек топіцца. Ета злы вадзянік. Гавораць, што е і добрыя вадзянікі. Яны падганяюць рыбакам рыбу ў сеткі ці на вудачкі”), в. Рудня Марымонава Гомельскага р-на (“Вадзянік бывае і злы, і добры. Ён харашо сябе вядзець, то і рыбкі паймаеш і пакажа, дзе растуць вадзяныя арэхі”). Згодна з павер’ямі беларусаў, вадзянік шкодзіў асабліва тым людзям, якія купаліся “пасля такога свята, як Ілля, бо ў гэты час ён ідзе адпачываць. А той чалавек, які ідзе купацца, мяшае адпачынку вадзянога. Тады той пачынае сільна зліцца і забірае таго чалавека да сябе” (в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на), якія, выпіўшы гарэлкі, ішлі купацца (“Не любіў ён (вадзянік – В.Н.) і п’яных людзей. Калі п’яны залезеш у ваду, ён цябе ніколі не прапусціць, тожа ўтопіць” (в. Міхалькі Гомельскага р-на; в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на).

У пераважнай большасці вадзянік тапіў тых, хто "абазліў воднае нутро" (г. Добруш), хто "ўвайшоў у ваду без крыжа" (г. Гомель; в. Бялёў Жыткавіцкага р-на). Вадзянік топіць людзей, якія "яму нравяцца. Еслі эта хлопец, то будзе вадзянікам, а еслі дзеўка – русалкаю" (в. Хутар Светлагорскага р-на), топіць "маладых дзевак, асобенна красівых. Яны перарабляюцца ў русальніц, памагаюць яму губіць людзей" (в. Чарацянка Добрушскага р-на).

Паводле павер'яў жыхароў в. Гарадзец Рагачоўскага р-на, вадзянік "зацягвае тых, якія яму не спадабаліся, а каторыя спадабаліся, ён іх ні чапае. У в. Бубнаўка Акцябрскага р-на "вадзяны дзед мог зацягнуць чалавека на дно" [5, с. 173]. "Каб улагодзіць Вадзяніка, яму рабілі прынашэнні, якія маглі прымяркоўвацца да пэўных дзён: Іванава дня, "Сочельнику", дзён памінання тапельнікаў" [1, с. 398]. Каб задобрыць вадзяніка, прыносілі "на рэкі і азёра яду, дамашнія калбасы, яйкі, малако" (в. Чарацянка Добрушскага р-на). Рыбакі імкнуліся таксама яго ўлагодзіць: "лілі ў ваду масла, кідалі туды гусей (гусі – любімыя птушкі вадзянога)" (г.п. Парычы Светлагорскага р-на).

М. Нікіфароўскі, характарызуючы нячысцікаў, адзначыў наступныя шкаданосныя функцыі вадзяніка: "Вадзянік можа і жартам, і па злосці пужаць рыбу каля сетак рыбакоў, раз'язджаючы на сваім любімым кані (соме), рве і выварочвае сеткі і іншыя прылады, раскрывае плаціны на млынах, псуе і зрывае млыны, уважліва пільнуе тых, хто купаецца, падхопліваючы ахвяры між іх, рыбакоў і людзей, якія ўпалі ў ваду па неасцярожнасці, прычым не робіць літасці і скаціне: сеўшы на жывёлу, якая плыве ці валтузіцца ў вадзе" [4, с. 10]. "Асноўная шкаданосная функцыя вадзяніка – заманьваць людзей (іншы раз жывёл) у ваду і тапіць іх (а.-слав.)" [1, с. 398].

Як сведчаць інфарматары, "каб не злая воля вадзянога, то б не было ўтопленікаў ваабшчэ. Утопленікаў ён сільна давіць і ціскае, паэтаму-та яны такія раздутыя і сінія" (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на). Паводле некаторых мясцовых павер'яў, вадзянік мог выконваць і станоўчую функцыю, у прыватнасці, аказваў дапамогу рыбакам ("заганяе рыбу ў сеці" – в. Бялёў Жыткавіцкага р-на; "мог дапамагаць рыбакам. Калі чалавек лавіў шмат рыбы, то казалі, што яму вадзянік памагае" – г. Гомель).

Заўважым, што М. Нікіфароўскі, класіфікуючы вадзянікоў на вірнікаў і ціхонь, не адзначае розніцы ў іх функцыянальнасці: "Ся-

род іх (вадзянікоў –В.Н.) бываюць вірнікі і ціхоні, першыя жывуць у рухомай вадзе, а другія – у стаячых водах (азёрах і ставах (прудах)). Але гэта розніца вельмі нязначная, што дазваляе гаварыць пра ўсіх вадзянікоў увогуле, да таго ж адзін і той жа вадзянік здольны займаць і бягучыя, і стаячыя вадаёмы, абы толькі яны злучаліся адзін з адным” [3, с. 57]. Сучасныя ж запісы дазваляюць зрабіць вывад, што інфарматары праводзілі выразную мяжу паміж добрымі і злымі вадзянікамі: “Добрага звалі ціхоня, і жыў ён у чыстай вадзе, а злога звалі ці баламут, ці вірун (я ўжо точна не помню), і жыў ён у гразнай вадзе. Ціхоня людзям не дзелаў зла, на то ён і ціхоня. А вірун не любіў людзей, ён так і глядзеў, каб каго-небудзь утапіць ды забраць к сабе” (в. Міхалькі Гомельскага р-на).

Моцнай была ў людзей вера ў тое, што толькі дзякуючы ахвярапрынашэнням, можна пазбегнуць злых і помслівых дзеянняў вадзяніка: “Каб вадзянік не зацягваў людзей, нада да яго паддабравацца, кідаць яму розную ежу ці дабро” (в. Антонаўка Добрушскага р-на), “Раней рыбакі перад тым, як сеткі брасаць, вадзянога карmілі, каб ён сеткі не чапаў” (в. Савічы Калінкавіцкага р-на).

Даследчык В. Казначэеў звяртае ўвагу на факт распаўсюджанасці на Гомельшчыне наймення “вадзяны дзед”, якое з’яўлялася сродкам запалохвання дзяцей, каб пазбегнуць іх прагулак да вады: каб “дзеці не хадзілі да калодзежа, іх пужалі дзедам” (в. Галоўкі Рэчыцкага р-на), дзедам з барадой (в. Дабрынь Ельскага р-на), “не глядзі в колодзец, в колодцы – дзед з бородой” (в. Махнавічы Мазырскага р-на), вадзяным дзедам (в. Бубнаўка Акцябрскага р-на) [5, с. 173].

У многіх беларускіх запісах сучасных міфалагічных звестак матыў ператварэння вадзяніка інтэрпрэтуецца аднастайна. Напрыклад, як сцвярджаюць інфарматары, у пераважнай большасці вадзянікі “ўвасабляюцца ў чалавека” (в. Хамічкі Мазырскага р-на). У. Дабравольскі падае звесткі наконт таго, што вадзянік мог “ператварыцца хоць у якую рыбіну” [4, с. 72]. Паводле нешматлікіх пра вадзяніка міфалагічных звестак, прадстаўленых у працах М.Я. Нікіфароўскага, У.М. Дабравольскага, Я.А. Ляцкага, Е.Р. Раманава, А.Я. Багдановіча, М. Шаховіча, Кібарта, вадзянік мог набываць і выгляд чорнага сабакі (“у вадзе сядзіць чорт у выглядзе

чорнага сабакі, які заваблівае да сябе людзей” [4, с. 76] і “шэрай пачвары на карачках” [4, с. 73]. Зыходзячы са сведчання Соф’і Мікалаеўны Русаковай, 1923 г.н., з в. Лясец Калінкавіцкага р-на, вадзянік “мог ператварыцца ці ў жывёліну якую, ці ў расліну”, а таксама мог “пераўтварацца ў любую рыбіну” (в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на).

Жыхары в. Астрожанка Лельчыцкага р-на перакананы ў тым, што “пры сустрэчы з вадзяніком, русалкамі трэба перакрысціцца, прачытаць малітву “Отчэ наш”, обезацельно трэба, штоб було ў руках якее-небудзь жалеза” (запісана ад Заяц Любові Васільеўны, 1926 г.н.). Засцерагацца можна было ад вадзяніка і пры дапамозе крыжыка: “але вадзянік баіцца тых, у каго на шыі хрэшчык” (в. Баршчоўка Добрушскага р-на). Забаранялася пляваць у ваду і сварыцца, бо верылі, што “вадзянік мог адпомсціць і забраць да сябе” (в. Халоднікі Калінкавіцкага р-на). Марыя Сямёнаўна Лук’янава, 1923 г.н., з г. Касцюковічы Магілёўскай вобл. прыгадала, што вадзянікі таксама баяліся свісту: “Хлопцы нашы свісцелі тутака. Гаварылі, што ён (вадзянік) баіцца свісту”. “Абярэгам ад вадзяніка лічыліся попел, свіст, а таксама хлеб з мукі, змолатай на Купалле: з’еўшы яго, чалавек не мог патануць” [3, с. 59]. Як адзначае А. Леўкіеўская, “каб засцерагчыся ад вадзяніка, неабходна захоўваць правілы паводзін на вадзе: не купацца ў недазволены час, заходзіць у ваду з крыжам і малітвай, прасіць у вадзяніка дазволу пакупацца і набраць вады” [2, с. 349].

## Літаратура:

1. Левкиевская, Е.Е., Усачёва, В.В. Водяной // Славянские древности. / Е.Е. Левкиевская, В.В. Усачёва. Этнолингвистический словарь под ред. Н.И.Толстого. – Т.1: А – Г. – М.: Международные отношения, 1995. – 584 с.

2. Левкиевская, Е. Мифы русского народа / Е. Левкиевская. – М.: Астрель, АСТ, 2000. – 526 с.

3. Никифоровский, Н.Я. Нечистики, свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / Н.Я. Нкифороский. – Витебск: Издатель Н.А.Паньков, 1995. – 88 с.

4. Цыт. па кн.: Міфы Бацькаўшчыны. /Беларус.Энцыкл.;Уклад. У.А. Васілевіч. – Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1994. – 109 с.

5. Казначэеў, В.В. Сучасны стан усходнепалескай міфалагічнай традыцыі // Гаворац чарнобыльцы. З мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі / В.В. Казначэеў. – Мінск: Інст-т моваз-ва імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі, 1994. – С. 164 – 221.

6. Ненадавец, А.М. Ніжэйшая міфалогія беларусаў // Міфалогія. Духоўныя вершы / А.М. Ненадавец. – Мінск: Беларуская навука, 2003. – С. 225 – 318.

7. Зямная дарога ў вырай. Беларускія народныя прыкметы і павер'і. Кн.3. / Уклад., прадм., пер.і паказ. У. Васілевіча. – Мінск: Маст. літ-ра, 1999. – 654 с.

8. Славянская мифология. Энциклопедический словарь. – М.: Эллис Лак, 1995. – 416 с.

9. Богданович, А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов / А.Е. Богданович. – Гродно: Губернская типография, 1895. – 186 с.

* Выкарыстаны матэрыялы з фальклорнага архіва кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі ГДУ імя Ф. Скарыны.

## Вадзянік



Колісь з’явіўся ў нас у копанцы вадзяны, да ўрэдны быў, а мы ў копанцы і купаліся, і сціралі, і рыбу лавілі. А ён шкодзіць пачаў, сеці, вуды рве, ломіць, шуткуе над рыбакамі: то лягушку на кручок пасадзіць, то яшчэ што. Асабліва злаваўся на тых, хто пасля Іллі купацца лез, тапіў такіх, мала хто вырваўся ад яго.

А некаторыя й бачылі яго. Казалі, што страшны ён, увесь у брудзе, ціне, як рыба, весь у чашуе і хвост у яго рыбны, але ж і рукі ў яго ёсць. Шкоды рабіў ён усім, а потым неяк знікае і няма ўжо яго. Людзі кажуць, гэта ён у другое балота перайшоў, копанка сохне.

***Запісана ў в. Галоўкі Рэчыцкага р-на***
***ад Галоўка Алены Аляксееўны, 1924 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

Вадзянік жывёт на балоце. Хадзілі як-та ў лес з мужам. Іду ў адзін бок, а меня цянет у другі. Муж пастаянна меня звал, каб я не заплутала. Аташлі мы з ім ад аднаго куста і пашлі ў другі бок, а вернулісь апяць к тому кусту, дзе былі. Так вадзянік заманівал у балота.

***Запісана ў р.п. Бальшавік***
***(раней пасёлкі № 1, 2, 3, 4 торфазавода "Бальшавік")***
***Гомельскага р-на***
***ад Шкода Г.Д., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петрачковай К.***
***(2001 г.)***

Пра вадзяніка я мала што помню, бо штосьці я нічога такога і не чула. Я ведаю, што балотніка, пра якога я казала, і лічылі тым жа вадзяніком. Ой, пачакай, пачакай, вадзянік, вось я прыпамінаю, казалі, хазяйнічае ў чыстых водах: у возеры ці ў рэчкі, а балотнік – у сваім балоце. Казалі, што вадзянік выпускае русалак на бераг і зазывае зноў туды ж. Ён прыняў іх у сваё царства, таму яны паслухмяна выконваюць яго загады.

Казалі, калі яму спадабаецца якая дзеўка, то заманьвае да сябе ў царства, проста топіць ці загадвае русалкам зрабіць гэта.

Казалі, помню, такую казку ні казку, праўду ці не, аднак людзі верылі. Дзеўка была ў вёсцы прыгожая, адзіная дачка ў маці з бацькай. А што з ёй здарылася-то? Бацькі-та не паверылі ёй, што з ёй на возеры было. А было, як яны потым некаму казалі тое, што явіўся ёй вадзянік у галках, клікаў, маніў, запрашаў стаць жонкай яго і жыць у ягоным царстве. Яна перапужалася і ўбегла. Бегла толькі і крычала: "Ніколі не змяню зямлю на ваду!". А праз некалькі дзён яе знайшлі ў калодцы. Старая Параска адразу бацькам сказала, што гэта тый вадзянік забраў яе да сябе, зацягнуў праз калодзец у сваё царства. З

таго часу людзі больш насцярожыліся да любых чутак пра вадзянікоў ды й русалак.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***

А ета ж вадзянік той, што ў вадзе жыве. Січас жа паказуюць сказкі, мульцікі з вадзянымі, так вот такія аны і есць – з барадой, лахматыя. Гаворaць, што не нада яго гневаць, бо тады плоха будзе рабіць, можа ўтапіць чалавека.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Стала Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(ранней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на)***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Вадзянік жывець у вадзе. Гэта стары дзед з доўгай барадою. Ён топіць людзей, якія плывуць далёка: “Не плыві далёка, вадзянік утопе”. Дзетак малых пужаюць вадзяніком, калі яны врэднічаюць. Да. У нас гадоў дваццаць назад дзеўка патанула. Заплыла на сярэдзіну і знікла. А хто яго ведае чаму.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н.,***
***Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Як гаварыла мая мама, вадзянік – гэта стары дзед, які жыве ў вадзе. Ён не любіць, калі да яго хто-та прыходзя, муця воду, плёскаецца ў вадзе. На рэчку нас не пускалі ў поўдзень, казалі, што там вадзянік. Але ўсядно ўцікалі і нікога там не бачылі, плёскаліс дый усё.

***Запісана ў в. Мормаль Жлобінскага р-на***
***ад Гладкай Елізаветы Ільінічны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Аўсянікавай С.***

Вадзянік – ета злая істота, якая можа жыць толькі ў вадзе, бо на сушы памірае. Ён з’яўляецца гаспадаром усіх вод. У кожнай вёсцы вадзяніка апісваюць па-featureнаму.

У нашай кажуць, што вадзянік мае выгляд старыка, які аброс імхом і травой. Гавораць, што ў яго ёсць рогі і хвост, а хто кажа, што ён падобны на рыбу і г.д.

У вадзяніка ёсць сям'я: жонка і дзеці-русалкі. Кажуць, што ета тыя дзеўкі, якія трапілі ў яго сеці. Хлопцы таксама станавіліся ахвярай вадзяніка. Ён рваў сеткі рыбакоў, пужаў людзей, якія купаліся.

Кажуць, што вадзянік будзе добрым тады, калі яму людзі дадуць што-небудзь. Паетаму людзі кідалі ў ваду ежу ці так нешта.

***Запісана ў в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***



Вадзянік – гэта стары дзядок з доўгай барадой, доўгімі вусамі, доўгімі валасамі на галаве, гладкай і бліскучай скурай. Цела яго пакрыта водарaслямі, а рукі і ногі вельмі доўгія. Вадзянік можа жыць толькі ў вадзе, бо на сушы ён гіне. Вадзянік дакучае людзям. Ён ірвець рыбацкія сеткі, ломіць вадзяныя мельніцы, разрушае плаціны і г.д. Вадзянік можа схапіць за нагу таго, хто купаецца, і забраць з сабою на дно. Калі вадзяніку трапляецца дзяўчына, то тая становіцца русалкаю, а мужчына становіцца вадзяніком.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Паляшчук Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Вадзянік жыл абычна ў балоце, азёрах, запрудах. Страшны мужчына з дліннай зелёнай барадой. Тапіл людзей (цянул за ногі на дно).

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Казачэнкавай Таісіі Паўлаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Тупіцкай А.***

Яны жывуць у вадзе. Пойдзеш купацца, а ён цябе і затопіць. Вадзянікі гукаюць людзей у ваду.

Быў выпадак, калі вадзянік гукаў аднаго чалавека. А другі кажа:

– Куды ты пойдзеш?

– А я спаласнуцца.

– Не хадзі.

Паслухаўся і не пайшоў купацца. А заўтра всё раўно пайшоў і ўтапіўся.

*Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на*
*ад Сафонавай Тацяны Захараўны, 1927 г.н.*
*(раней пражывала ў п. Мядзвежжа Чачэрскага р-на)*
*студэнткай Малашанка В.*



Дзела была летам. Пашлі тры хлопцы ноччу купацца і не вярнуліся. Ох, іх маткі паравелі. Тры добрыя хлопчыкі прапалі. Кажуць, што іх вадзяны забраў, бо пра яго хадзіла легенда, што быў сын у яго. Жыў той сын у раке, а людзі яго ўбілі. З тых пор і шкодзіць людзям. А дзяўчат вось і не трогае.

*Запісана ў в. Зашчоб'е Рэчыцкага р-на*
*ад Цайко Раісы Нікіфараўны, 1937 г.н.,*
*студэнткай Верамеевай Т.*

Вадзянік – худы старычок з сівай дліннай барадою. Жыве ў балоце, на невялічкай травяністай купіне. Ён закручваў людзей, якія траплялі ў балота, блудзіў іх, заманьваў іх у трысіну.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.,***
***Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Мельнічэнка Н.***

Вадзянік – ента злы дух. Ён з'яўляецца гаспадаром рэк, азёр, балот і вадаёмаў. Вадзянік – ента стары дзед з доўгай барадой і валасамі. Цела яго пакрытае рыбінай скурай. Многа бяды прыносіць ён людзям, калі тыя ловяць рыбу. Забірае прыгожых дзевак сабе ў русалкі, а прыгожых хлопцаў забірае ў вадзянікі. Днём вадзянік спіць, а вечарам зладзейнічае. На сушы ён не жыве, бо можа загінуць, пагэтаму яго можна сустрэць толькі ў вадзе.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мяшковай Лісы Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Вадзяны, пэўна, вельмі страшэнны дух. Нядобры. Шмат ён харошых людзей губіць, жыццё ў іх забірае. Гэта такі здаровы, сільны, высокі мужык. Ён жыве ў глыбокіх рэках, азёрах. Калі ноч наступае, ён вылазіць з глубіні і пачынае свае чорныя справы. Таму нельга купацца ноччу ў возеры, а то можна пакрыўдзіць вадзяніка і за гэтае паплаціцца жыццём. Трэба купацца днём, калі сонейка свеціць. Ён сонца не любіць. Любіць ноч. Таму нават і не трэба ноччу хадзіць каля возера ці рэчкі, бо вадзянік пачуе гэта, падрыхтуецца і пацягне ў глыбіню. З тапельніц ён робіць русалак.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Велічкевіч Ю.***
***(2004 г.)***

Вадзянік сільна жадны. Людзі ж раней піталіся рыбай. І вот, калі яны бралі штосьці з мора ці рэк, то вадзянік сільна за ета мсціў у дзесяці пакаленнях. За ета ён сільна наказваў: тапіў караблі, лодкі, людзей. За такое павядзеніе вадзяніка Бог ад яго адказаўся. Вадзянік

стаў прыслугай нячыстай сілы. Ён забіраў сабе дзевак, якіх насільнічалі, якія самі тапіліся. Ета была яго дабыча. Вадзянік дзелаў етых дзевак напалавіну рыбай, напалавіну людзьмі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міцкевіч Марыі Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Трыпуць І.***
***(2004 г.)***

Вадзянік – гэта такое страшнае сушчаство, што ў вадзе жыве. Ён глыбей любіць сядзець, каб ніхто не ўбачыў яго ды не злавіў. Любіць болей ціхую ваду, дзе больш ціха, спакойна. Сам ён такі тоўсты, валасы доўгія такія, зялёныя, з травой. А барада, дык яшчэ даўжэй. На руках бальшыя когці, і не ногі ў яго, а хвост, як у рыб. І дзе ён жыве, там і хазяйнічае. Вось сядзіць ён сабе і чакае, пакуль хто-небудзь у ваду не залезе. А таго чалавека, які глыбей заплыве, хватае і цягне да сябе на дно. А яшчэ вадзянік не любіць тых людзей, якія ідуць купацца пасля такога свята, як Ілля, бо ў гэты час ён ідзе адпачываць. А той чалавек, які ідзе купацца, мяшае адпачынку вадзянога. Тады той пачынае сільна зліцца і забірае таго чалавека да сябе. І зімой можа схваціць каго. Дык гэта часцей рыбакі. Бо калі рыбу ловяць, дык таксама будзяць яго.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Архіпавай Дар'і Іванаўны,***
***студэнткамі Завадскай В., Шышкінай С.***
***(2003 г.)***

Старыя людзі расказвалі. Бяллё паласкалі. Гавораць, ідзе малады такі хлопец і раздзяецца купацца. А яны яму: "Дзетачка, не раздзявайся і не ідзі туды". Вот толькі з вады раздаўся чалавечы голас: "Рады быць, ды німа, вот нада быць, ды німа". А хлопец ім: "Да што вы, бабкі, у етым раўчаку я ўтану!?" Як раздзеўся, пашоў у ваду, так і не вярнуўся. Яго там ужэ што-та ждало. А хто там быў, Бог яго знае, мы не знаем. Ці то русалка, ці вадзяны, ці можа так проста нада быць.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на***
***ад Філімонцавай Ніны Платонаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Бандзюк А., Макеевай С., Хатэнка С.***

Вадзянік – эта такая нечысць, каторая жыве ў рэках, балотах, вазёрах. Яна, эта нечысць, ну, такая яна уж, як дзед стары, толькі ад вады валасы ў няго сталі як балота, што лі, зялёныя. Ён жа можа зацягнуць цябе ў ваду і патапіць там. Калі хто з людзей прыходзе ў лес, то лешы таму пасля сваіх здзекаў над этым чалавекам адпраўляе яго да вадзяніка, к лесному озерцу, гдзе знаходзіцца вадзянік. І эта, негледзячы на то, што вадзянік і лешы – врагі лютыя. І тады вадзянік ужо топіць таго чалавека. І пры этым смяецца з лешым умесце так, што іх смех слышно далёка в лесу, калі дрэвы трышчаць ад смеху іх.



*Запісана ў г.п. Цярахоўка Добрушскага р-на ад Мануілавай Соф'і Лявонаўны, 1935 г.н., Мануілава Анатоля Міхайлавіча, 1938 г.н., (раней пражывалі ў в. Кругоўка Добрушскага р-на), студэнткамі Ярохавай С., Псырковай І., Лапінай В. (2003 г.)*

Вадзянік – зялёны дзед, увесь у ціне і водарослях. Жыве ён у рэчцы, возеры. У яго ёсць дочкі – русалкі. Ён адпраўляе іх тапіць людзей. Русалкі прыгожыя. Яны сваімі ўлыбкамі заманіваюць людзей у ваду, асобенна маладых хлопцаў.

*Запісана ў в. Салтанова Рэчыцкага р-на ад Грабцэвіч Марыі Канстанцінаўны, 1919 г.н., студэнткай Васілюк А. (2003 г.)*

У нас не баяліся ў лес хадзіць або купацца. Можа, нехта жыў у вадзе, але яго не бачылі і не баяліся. Было ў нас некалькі разоў, калі дзевачкі тапіліся.

Адна ішла каровак пасці. Праз дарогу прайшла, праз лес, а потым як пабяжала. Бегла хутка, усё хутчэй і хутчэй. Дабегла да возера і ў ваду ўкінулася і ўтапілася, быццам яе цягнуў туды нехта або зваў.

І яшчэ было. Жыла жанчына з унукамі, двума хлопцамі і дзевачкай. Маці іх памерла. Вось паехала яна з імі ў вотпуск. Дзевачка пайшла на рэчку і ўтапілася. Ёй перад тым два разы маці снілася і клікала яе да сябе. Дзевачка адмаўлялася. А на трэці раз маці прыйшла і за руку яе ўзяла, кажа: “Пайшлі са мной”. Вось дзевачка і памерла.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Марашкоўскай Клаўдзіі Іванаўны, 1926 г.н.,***
***(перасяленка з в. Малянік Кармянскага р-на)***
***студэнткай Андрэевай А.***
***(2003 г.)***

Вадзяны – вельмі багаты гаспадар вадаёмаў, рэк... У яго ёсць свая хатняя гаспадарка: ёсць каровы, быкі, коні, якія пасвяцца на лугах ноччу, а пасуць іх русалкі. Рыбакі павінны паважаць вадзянога, як-небудзь спрыяць яму, напрыклад, рабіць падарункі. Таму што менавіта ад яго залежыць улоў. Рыбакі лілі ў ваду масла, кідалі туды гусей (гусі – любімыя птушкі вадзянога). Зімою вадзяны спіць, а з надыходам вясны прачынаецца. У гэты час ён галодны і сярдзіты, таму буяніць, ламае лёд на рэках і разганяе ўсю рыбу.

Людзі гавораць, што гэта паўрыба-паўчалавек. У яго ёсць барада, як трава ці ціна. Валасы ў яго дліннныя, таксама з гэтай травы. Гавораць, што ён нават можа ператварацца ў звычайнага чалавека і з’яўляцца ў гэтым абліччы ў вёску ці ў горад. Але ж усё роўна распазнаць вадзянога можна. З яго адзення заўсёды капае вада.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Шаўчэнка Зоі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шырокай В.***
***(2003 г.)***

На Палессі многа балот. а ў балотах жыве нячыстая сіла. Яе водзіцца там многа, да і не толькі ў балотах. Вабшчэ ў вадзе всегда ёсць нячысцікі. Яны шкодзяць чалавеку. Вот, напрыклад, вадзянікі водзяцца. Вадзянікі маленькія, як пачці ўсе нячысцікі. Яны з доўгай

барадой, з доўгімі валасамі вельмі і всегда ў ціне. У іх ёсць рыбіны хвост. Абітаюць у вадзе, жывуць недзе ў самых глыбокіх месцах. Могуць вельмі нашкодзіць чалавеку.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Тарун Вольгі Аляксееўны, 1950 г.н.,***
***студэнткай***
***Шамонінай В.***
***(2003 г.)***



Па вісне багата вады. Днепар разліваецца. Вісной людзі ні баяліся хадзіць на рэчку, лавіць рыбу, вада ішчэ халодная, і ўсе вадзяныя закапваюцца ў глей і спяць. Ішчэ дзед мой казаў, нібыта вадзяныя жывуць на глубіне. А там, дзе расла раска і ціна плавала, іх не было. Вадзяныя баяліся запутаць у іх даўгую бараду. Вадзяныя ні любяць мацерных слоў, як хто ў вадзе маціры ўся, яны іх стараліся ўтапіць, плуталі ногі етаму чалавеку і цігнулі на дно, дайжы войкнуць ні ўспіваў. А мы, малыя, збігаліся на ваду, купаліся і, яй Божачку, ні казалі мацерных слоў.

***Запісана ў в. Доўск Рагачоўскага р-на***
***ад Баразённікава Івана Міхайлавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Вадзяныя жывуць у вадзе, на самам дне, у глеі. Яны тоўстыя, пузатыя. На галаве і па ўсім целе ў іх лісця ўсякая вісіць. Яны шкод-

зяць рыбакам багата. Сеткі іхнія спутуюць ці разрываюць. А то і саўсім куды зацягнуць, шо патом не найдзяш.

Вадзяныя яшчэ людзей топяць, а патом самі імі становяцца. А ноччу ходзяць і пужаюць усіх.

Калісь хлопяц адзін пайшоў уранні на рыбалку і не вярнуўся да вечара. Уранні гвалт паднялі, шукаць яго сталі. А адна маладзіца сказала, шо яна ноччу па вуліцы шла, дак ён яе напужаў. Так што, кажа, не валнуйцеся, прыйдзя. Аж у той дзень яго рыбакі ўтопляным найшлі. Пазней яго зноў бачылі. Казалі, каля лесу хадзіў.

***Запісана ў в. Чамярысы Брагінскага р-на***
***ад Сніцарэнка Ганны Ільінічны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***
***(2003 г.)***

## Вампір

Вампір (“вупыр”) – міфалагічны персанаж, які вядомы ў традыцыях усіх славянскіх народаў, гэта “нябожчык, які ўстае ноччу з магілы, ён шкодзіць людзям і жывёле, п’е іх кроў, наносіць шкоду гаспадарцы” [1, с. 283]. “Вера ў вампіраў звязана з уяўленнямі аб існаванні двух відаў нябожчыкаў: тых, чыя душа пасля смерці знайшла супакаенне на “тым свеце”, і тых, хто працягвае сваё пасьлясмяротнае існаванне на мяжы двух светаў” [1, с. 283].

У адпаведнасці з агульнаславянскімі павер’ямі вампірамі становяцца тыя людзі, якія на працягу жыцця парушалі рытуальныя або маральныя нормы.

Паводле беларускіх павер’яў, вампір – гэта “нябожчык, які выходзіць ноччу з могілкі” (в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на), “вупер – ета нечысць такая, якая ноччу з магіл выходзіць” (п. Чамярня Веткаўскага р-на). Калі чалавек ператвараўся ў вампіра? Як сведчаць канкрэтныя запісы, “просты чалавек мог таксама стаць вупыром. Гэта здаралася тады, калі яго кусаў сапраўдны вупыр” (п. Чамярня Веткаўскага р-на), вампірамі станавіліся людзі, якія “пры жызні з нечысцю вадзіліся, ета ведзьмы” (в. Збароў Рагачоўскага р-на), сапраўдны вампір – гэта “чалавек, якога закапалі ў зямлю жывым. Ёсць такая хвароба, калі надоўга засыпаеш, а людзі не ведаюць і хароняць чалавека. А калі ён прасыпаўся ў магіле, пачынаў з голаду грызць свае рукі” (в. Гадзічава Гомельскага р-на), вампірам можа стаць “мяртвец, каторага чорная кошка перапрыгне” (в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на).

Знешні выгляд вампіра ў лакальных міфалагічных традыцыях беларусаў таксама вар’іруецца: “вампір выглядае як чалавек, але ў яго вострыя вушы і вялікія зубы, красныя вочы” (в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобласці), “вампіры вельмі страшныя, з ледзянымі вачыма” (п. Палянаўка Веткаўскага р-на), “кажуць, зубаты ён, … ходзіць бледны, што аладка няпечаная” (в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на), “вампіра можна ўгадаць па вялікіх зубах, росту вялікаму, красным глазам і твару” (в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на).

Матыў пярэваратніцтва ў адносінах да вампіра мае рэальнае пацвярджэнне не толькі ў канкрэтных міфалагічных аповедах бал-

гар, сербаў, але і беларусаў. Факт ператварэння ведзьмы ў вампіра, які прымаў воблік кошкі, зафіксаваны ў в. Шэйка Веткаўскага р-на ад Ніны Канстанцінаўны Рослікавай, 1930 г.н.: "Раніцай, калі яшчэ не развіднела, бачылі на ганку чорную кошку, у якой уся пыса была ў крыві. Пасля ўжо ніхто не сумняваўся, што гэтай кошкай была тая вядзьмарка".

У іншых славянскіх міфалагічных традыцыях вампір "можа мець выгляд прадмета – "ползущего полотна або гайды (музычнага інструмента), напоўненага крывёю (балг.). Вампір паказваецца ў фантастычным выглядзе: чалавека, які носіць сваю галаву пад пазухай (укр., пол.), чалавека з голым чэрапам, у якім гарыць агонь (кашуб.), сабакі з чалавечай галавой (балг.)" [1, с. 284].

Вампір, як сведчаць запісы, шкодзіў не толькі чалавеку, але і жывёле: "У поўнач выбіраўся, калі мог, і нападаў на скот і грыз яго, каб напіцца крыві" (в. Гадзічава Гомельскага р-на), "вампіры ўстаюць ноччу з магіл і сасуць у людзей кроў, асобенна любяць яны дзецкую кроў, таго, што яна дае ім сіл, і яны маладзеюць ад яе" (в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на), "вампіры нападаюць на людзей і жывёлу. Потым яны выпіваюць кроў у іх" (в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на). У ролі памочнікаў вампіра, паводле мясцовых павер'яў, выступалі кажаны: "Казалі, уночы будзеш ісці, цябе схопяць кажаны, аднясуць свайму хазяіну, і той вып'е ўсю з цябе кровушку" (г. Рэчыца).

Як засцерагаліся ад вампіраў? Да ліку агульнаславянскіх абярэгаў даследчыкі адносяць агонь, вострыя прадметы, расліны-апатрапеі, спецыяльныя заклінальныя славесныя формулы і малітвы. Як і ў павер'ях паўднёвых славян, беларусы надавалі таксама першаступеннае значэнне часнаку: "Казалі, што калі вампір з'есць часнок, ён памірае. Нават ад паху часнаку яму становіцца дрэнна. У тую хату, дзе людзі засцярагаліся часнаком, вампір не мог зайсці, і служкі яго туды не залятаілі" (г. Рэчыца), "ад вампіраў каб захавацца, трэба было насіць часнок, крыжы розныя" (в. Гадзічава Гомельскага р-на), "вампіры не пераносяць на дух шчэ часночнага запаху. Ён для іх, як для нас запах навозу" (в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на). "Для абароны ад вампіраў традыцыйна выкарыстоўвалі і розныя сакральныя прадметы – крыж, іконы, прасфоры, воск і інш. Напрыклад, для таго, каб перашкодзіць ператварэнню памёршага ў вампіра, палякі

аблеплівалі шыю памёршага пяццю шарыкамі з воску, а ўкраінцы ўскладалі на грудзі нябожчыку васковы крыжык і ў рукі ўстаўлялі васковую свячу; рускія сяляне насілі на шыйным крыжы запісаныя на паперы малітвы і спецыяльныя ладанкі, мяркуючы, што гэта засцеражэ ад нападзення вампіра і ўвогуле нячыстай сілы, а ў некаторых месцах і сам нацельны крыжык лічыўся дастатковай абаронай ад нячыстага нябожчыка" [2, с. 136].

Тыповымі засцярогамі ў беларускіх павер'ях былі сваты крыж, абрад хрышчэння, дзённае святло (г. Рэчыца), асінавае палена (кол): "І многія ж хадзілі на кладбішча, асінавы дубец у магілу савалі, так, каб не вылез какой вораг закляты" (в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на); "Але ўсё ж пасля многія паверылі, бо аднойчы мужчыны сабраліся разам і пайшлі на могілкі, там яны раскапалі труну і ўбілі асінавы кол у сэрца таго чалавека. Пасля гэтага той вупыр ужо ніколі не выходзіў са сваёй труны" (в. Шэйка Веткаўскага р-на); "Так нада абраціцца к харошай знахарцы, іна паможа, скажа, хто прырабіў і п'е з цябе кроў. Тады трэба зрабіць асінавы кол і забіць яго ў магілу" (в. Збароў Рагачоўскага р-на).

У шматлікіх міфалагічных аповедах матыў выпівання вампірамі людской крыві з'яўляецца цэнтральным. Ва ўсіх рэгіянальных традыцыях беларусаў адзначаецца, што вампіры – "ето тые людзі, екіе п'юць кроў" (в. Майсеевічы Петрыкаўскага раёна); "сасуць кроў" (г. Борань Аршанскага раёна Віцебскай вобласці); "любяць смактаць чалавечую кроў" (г. Светлагорск); гэта "памерлы чалавек, які ноччу ўстае з магілы, нападае на жывёлу ці людзей, выпівае іхнюю кроў" (в. Залессе Чачэрскага раёна); "ето сам чалавек, каторы жаждуе людской крыві" (в. Неглюбка Веткаўскага раёна). Паводле звестак, змешчаных у працы М. Федароўскага "Люд беларускі", вампір "настолькі помслівы, што за кожную знявагу ў свой адрас, за самую малую крыўду, нават за нястрыманае слова або жывым разрывае чалавека, або адкручвае яму галаву" [3, с. 160].

У сучасных запісах у розных мясцовасцях функцыянальнасць вампіра звязана з укусам чалавека і ператварэннем апошняга таксама ў вампіра: "калі вампір укуся, адразу робішся і сам вампірам" (г. Борань Аршанскага раёна Віцебскай вобласці); "вампір любіць чалавечую кроў і як укусіць чалавека, то і той становіцца вампірам" (в. Слабань Светлагорскага раёна); "калі каго вампір укусіў, то тады той чалавек сам становіцца вампірам" (в. Залессе Чачэрскага раёна).

## Літаратура

1. Славянские древности. Этнолингвистический словарь под ред. Н.И. Толстого. Т. 1. – М.: Международные отношения, 1995. – 584 с.

2. Краткая энциклопедия славянской мифологии: Ок. 1000 статей / Н.С.Шапарова. – М.: ООО “Издательство АСТ”: ООО “Издательство Астрель”: ООО “Русские словари”, 2003. – 624 с.

3. Беларуская міфалогія: Дапам. / Уклад. У.А. Васілевіч. – Мн.: Універсітэцкае, 2001. – 208 с.

## Вампір



Хадзілі чуткі, што на дальнім хутары жыў адзін вось такі. Аднак, хто яго ведае, мо слухі ўсё гэта. На тым хутары ўжо год колькі ніхто не жыў, усё беруком парасло і казалі, што з'явіўся той незнаёмец глыбокай ноччу. Бачылі яго начлежнікі з сенакосу. Адзеты ў нейкае чорнае, высокі стары, аднак спрытны. З тога часу, як засяліўся ён там, па вёсцы сталі лётаць кажаны, аднак раней іх ніхто не бачыў. Казалі, што той чалавек прынёс іх з сабой у плашчы, што гэта яго служакі, а ён над імі хазяйнічае. Да людзей ён ніколі не выходзіў, ды й да яго ніхто не хадзіў, бо баяліся, казалі, што гэта

вампір. Казалі, уноччы будзеш ісці, цябе схопяць кажаны, аднясуць свайму хазяіну, і той вып'е ўсю з цябе кровушку.

Аднаго разу знайшлі карову на лузе, недалёка ад таго хутара. Яна ўжо закачанелая была, і людзі пачалі казаці, што той вядзьмак і вампір са сваімі служкамі высушыў жывёліну.

Людзі засцерагаліся. Як? А вось часнаком і засцерагаліся. Казалі, што калі вампір з'есць часнок, ён паміраe. Нават ад паху часнаку яму становіцца дрэнна. У тую хату, дзе людзі засцярагаліся часнаком, вампір не мог зайсці, і служкі яго туды не залятaлі. Як агню баіцца такая нечысць хрышчэння, хрыста святога ды святла дзённага. І таму і выпаўзае на свае чорныя справы толькі ўноччы.

Да крові людской яны падкія, а сваёй крові не маюць, бо мёрцвыя яны ўжо. Неяк бабка шчэ казала, што пана іхняга так народ абазваў. Бо гэты пан не маў нічога чалавечага: ні сэрца, ні крыві, а з простага люду выцягваў, высасваў кровушку-та цяжкай працай ды й пабоямі.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***

Вампір – той, хто п'е людскую кроў. Яны вельмі страшныя, з ледзянымі вачыма. Ходзяць па кладзбішчу і кроў п'юць.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Валасянкінай А.І. 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Вампір – ента нябожчык, які выходзіць ноччу з магілкі. Вампіры нападаюць на людзей і жывёлу. Потым яны выпіваюць кроў у іх. Кажуць, што людзі, якіх укусіў вампір, становяцца вампірамі.

Вампір мае выгляд абычнага чалавека, калісьці жыўшага на зямлі. Вампіра можна ўгадаць па вялікіх зубах, росту вялікаму, красным глазам і твару.

Існуюць шматлікія заклінанні супраць вампіра.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мяшковай Лісы Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

А то былі шчэ і вупыры. Во дык мярзота, і людзі, гаворaць, бачылі тое. Кажуць, зубаты ён. Каго сібе выбярэ, тот і сам становіцца

вупыр, ходзіць бледны, што аладка няпечаная. І многія ж хадзілі на кладбішча, асінавы дубец у магілу савалі, так, каб не вылез какой вораг закляты.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на ад Свірыдзенка Таццяны Дзянісаўны, 1923 г.н., студэнткай Кузьмянковай А.***

Вупер – ета нечысць такая, якая ноччу з магіл выходзіць. Просты чалавек мог таксама стаць вупыром. Гэта здаралася тады, калі яго кусаў сапраўдны вупыр. Тады і гэты чалавек пачынаў хадзіць па начах і сасаць кроў у людзей.

А вось якую гісторыю расказаў мой тата. Вяртаўся ён аднойчы ў сваю вёску, і прыйшлося яму праязджаць праз могілкі. І вось едзе ён на кані, аж бача, што па могілкам ходзіць нейкі чалавек у чорным. Прыгледзіўся, а гэта адзін з яго аднавяскоўцаў, які нядаўна памёр. Мой бацька вельмі спужаўся і нават не мог крануцца з месца. І тут ён убачыў, што той чалавек неяк падскочыў і паляцеў ужо кажаном.

***Запісана ў п. Чамярня Веткаўскага р-на ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н., студэнткай Шаўко І.***

У нашай вёсцы жыла адна вядзьмарка, якую называлі вампірам і якая ўсім казала, што і пасля смерці не дасць сваім ворагам жыцця. І нада сказаць, што больш за ўсіх яна ненавідзела сваю суседку. І вось дзесьці ў канцы зімы памерла ета самая ведзьма. І што б вы думалі? Не прайшло і некалькі дзён, а суседка яе ўся змянілася з твара. Усе ў вёсцы пыталіся, што з ёю такое. А яна адказвала, што нешта па начах яе быццам бы душыць. І сапраўды, праз тыдзень яна памерла. А родныя яе казалі, што раніцай, калі яшчэ не развіднела, бачылі на ганку чорную кошку, у якой уся пыса была ў крыві. Пасля ўжо ніхто не сумняваўся, што гэтай кошкай была тая вядзьмарка.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н., студэнткай Шаўко І.***

Быў у нашай вёсцы адзін вупыр. Ён вельмі часта па начах выходзіў са сваёй труны і ішоў у вёску, каб пасмактаць з каго-небудзь крыві. Доўгі час ніхто не мог здагадацца, хто ж выходзіць са сваёй труны. Але аднойчы ў нас адбылося адно здарэнне.

Ноччы ў вёсцы пачала крычаць адна жанчына. Калі збеглася ўся вёска, яна расказала, што да яе прыходзіў вупыр і хацеў выпіць яе кроў, але яна па парадзе яшчэ сваёй бабулі, трымала ў хаце асінавае бервяно. Тым бервяном яна яго і стукнула, а той нема завыў і знік. Тады ўсе пачалі распытваць, хто ж гэты вупыр, а калі даведаліся, то доўга не маглі паверыць, бо той чалавек лічыўся вельмі добрым гаспадаром. Але ўсё ж пасля многія паверылі, бо аднойчы мужчыны сабраліся разам і пайшлі на могілкі, там яны раскапалі труну і ўбілі асінавы кол у сэрца таго чалавека. Пасля гэтага той вупыр ужо ніколі не выходзіў са сваёй труны.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Вампір – ета прывід. Імі становяцца людзі, якія пры жызні з нечысцю вадзіліся. Ета ведзьмы. Вампіры кроў п'юць па начах у тых, каму шкодзілі пры жызні. Іны прыходзяць у двінаццаць часоў, када месяц поўны, і высмоктваюць кроў у чалавека сваім змяіным языком. У нас кажуць, када відзяць бледнага чалавека, што іго вампір ссе. Так нада абраціцца к харошай знахарцы, іна паможа, скажа, хто прырабіў і п'е з цябе кроў. Тада трэба зрабіць асінавы кол і забіць у яго магілу.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Данілавай Галіны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

## Ваўкалак

Ваўкалакам называюць "чалавека, пераўтворанага ў ваўка, пярэваратня" [1, с. 70]. "Паводле ўяўленняў беларусаў, ператварэнне можа адбыцца як па ўласнай волі з пэўнымі эгаістычнымі мэтамі чалавека-чараўніка, так і па яго чарах, скіраваных на аднаго чалавека або групу людзей" [1, с. 71].

Пра старажытнасць уяўленняў пра ваўкалака сведчаць звесткі ў Кормчай па спісу 1812 года, дзе гаворыцца, што ваўкалак "гонит облака и изъедает луну" [2, с. 105]. Н. Крынічная, характарызуючы ўстойлівы характар народных вераванняў, звязаных з матывам пярэваратніцтва, адзначыла, што "міфы пра пярэваратняў зафіксаваны ўжо ў глыбокай старажытнасці. Іх мы знаходзім у сачыненнях Герадота, Платона і Плінія Старшага. Сюжэты гэтых міфаў выкарыстаны Гамерам, Вергіліем, Авідзіем. Класічнае ж апавяданне пра лікантропа ("чалавек-воўк" мае месца ў творы Петронія "Пір Трымальхіёна") можна лічыць антычным аналагам многім бывальшчынам, вядомым у розных этнакультурных і лакальных традыцыях, у тым ліку і ў паўночна-рускіх" [3, с. 322].

Цікава прасачыць, як распавядаецца ў міфалагічных аповедах пра ператварэнне чалавека ў ваўка. Паводле сведчанняў, занатаваных фалькларыстамі XIX ст., "каб пераўвасобіцца ў ваўка, трэба тройчы перавярнуцца цераз нож, уторкнуты ў зямлю, вымаўляючы пры гэтым асаблівае закляцце…" (Богданович А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнографический очерк. – Гродно, 1895); "у розных месцах і рознымі асобамі гэта ператварэнне адбываецца па-свойму. Так, адзін адшуквае ў лесе асінавы пень, які, калі секлі дрэвы, не перахрысцілі, хапаецца зубамі за яго край і праз галаву перакідваецца на супрацьлеглы бок пня. Другі кладзе на такі пень шчотку і грэбень ці трэску, якая са свістам адскочыла ўбок, калі секлі дрэва, і ў сваю чаргу куляецца цераз пень тройчы. Трэці ўторквае ў зямлю сем аднолькавых нажоў вастрыёй угору і куляецца цераз іх. Ва ўсіх гэтых выпадках, апынуўшыся на другім баку пня, нажоў, калоў, чараўнік робіцца ваўком…" (Никифоровский Н.Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. Витебск, 1897); "Пераварочваюцца ўсялякімі спосабамі. Хто ўбівае ў зямлю чатыры асінавыя калочкі і перакульваецца цераз іх, хто проста куляецца цераз асінавую калоду ці цераз пень і як толькі тое

зробіць, то становіцца воўкам ці чым іншым, што яму трэба" (Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. – Мн., 1930); "Перад тым, як ператварыцца ў ваўка, чараўнік заганяе ў зямлю пяць асінавых калоў у якім-небудзь патаемным месцы, але так, каб два калы нагадвалі пярэднія ногі, два заднія, а пяты – хвост, і, скачучы наперад цераз усе, пачынаючы ад задняга кала, ён становіцца ваўком" (Шейн П.В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западнога края. Т.3. – СПб, 1902); "Каб ператварыцца ў нейкую жывёлу, чалавек уторквае ў глухім месцы леса, аддаленай пусткі дванаццаць аднолькавых нажоў у зямлю, вастрыём угору, і тройчы куляецца цераз іх, імкнучыся не скрануць нажоў з месца (Никифоровский Н.Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. Витебск, 1897) [6, с. 161-171].

Параўнаем прыведзеныя даўнішнія звесткі пра ваўкалака з сучаснымі запісамі. У многіх мясцовасцях бытуюць ўяўленні, звязаныя з добрымі і злымі ваўкалакамі: "Могуць быць злыя і добрыя ваўкалакі, але ж часцей за ўсё злыя" (в. Халоднікі Калінкавіцкага раёна); "ваўкалак можа быць добры і злы" (г. Добруш); "ёсць людзі, якія могуць самі ператварацца ў ваўкоў, то яны прыносяць людзям шкоду. Гэта калдуны… Есць яшчэ ваўкалакі і добрыя па натуры. Гэта людзі, якіх за грахі пакараў Бог ці паздзекваўся калдун" (в. Буркі Брагінскага раёна).

У памяці некаторых інфарматараў засталася (хоць і не дастаткова выразна) сітуацыя ператварэння чалавека ў ваўкалака з дапамогай трох нажоў: "Браліся тры нажы, утыркаліся ў зямлю і пачыналі кружыцца ў тым кругу (паміж нажамі), тры абарота ў адну старану, тры – у другую" (в. Скепня Жлобінскага раёна). Паводле ўспамінаў інфарматараў, у працэсе ператварэння ў ваўкалакаў прысутнічалі тыя ж тры нажы, якія "чараўнікі ўтыкалі ў зямлю, а потым скакалі праз іх тры разы" (в. Грамыкі Веткаўскага р-на). У некаторых аповедах размова вядзецца пра "зачараваныя рэчы" (праўда, канкрэтна яны не ўдакладняюцца) (в. Людзвін Хойніцкага р-на), праз якія калі пераскочыць, можна стаць ваўкалакам. У некаторых лакальных міфалагічных традыцыях былі вядомы іншыя павер'і, звязаныя з пераўтварэннем у ваўкалака: напрыклад, "бяруць нож яны, у пень тыркаюць і сягаюць праз яго. Некаторыя цераз старое кола, без восяў, пралазяць" (г. Добруш), "ваўкалак – гэта чараўнік, калдун, які

ў поўнач прыходзіць у лес і ператвараецца ў ваўка. Для гэтага ён націрае ўсяго сябе сокам чараўнічай травы, сабранай пад Іванаў дзень на Лысай гарэ. Чараўнік павінен перапрыгнуць праз асінавы пень з ваткнутымі ў ім 12 нажамі" (г.п. Парычы Светлагорскага р-на).

Нягледзячы на тое, што міфалагема ператварэння чалавека ў ваўка мае ўстойлівы характар у славянскай міфалогіі, усё ж такіх міфалагічных аповедаў у беларусаў зафіксавана нязначная колькасць. У запісаных сюжэтах знайшлі адлюстраванне дзве тэндэнцыі:па-першае, чалавек сам, па ўласнай волі набываў воблік ваўкалака ("ваўкалакам можа быць, калі сам ператварыўся" – в. Бывалькі Лоеўскага р-на), па-другое, у гэтым працэсе ўдзельнічалі іншыя чараўнікі ("а могуць любога чалавека злыдні ператварыць" – в. Бывалькі Лоеўскага р-на). Даволі падрабязна характарызуючы працэдуру пераўтварэння чалавека ў жывёлу, М. Нікіфароўскі падкрэсліваў, што для гэтага трэба ўваткнуць "12 аднолькавых нажоў у зямлю, вастрыём уверх, і тройчы перакуліцца праз іх" [4, с. 77].

Здаўна замацаваныя ў народных уяўленнях асаблівасці ператварэння чалавека ў ваўкалака знайшлі працяг і набылі ўстойлівасць у працэсе бытавання ў сучасных запісах, якія дэманструюць пераемнасць міфалагічных традыцый. Паводле ўспамінаў інфарматараў, у працэсе ператварэння ў ваўкалакаў прысутнічалі тыя ж тры нажы, якія "чараўнікі ўтыкалі ў зямлю, а потым скакалі праз іх тры разы" (в. Грамыкі Лоеўскага р-на). У некаторых аповедах размова вядзецца пра "зачараваныя рэчы" (праўда, канкрэтна яны не ўдакладняюцца) (в. Людзвін Хойніцкага р-на), праз якія, калі пераскочыць, можна стаць ваўкалакам. У некаторых лакальных міфалагічных традыцыях былі вядомы іншыя павер'і, звязаныя з ператварэннем у ваўкалака: напрыклад, "бяруць нож яны, у пень тыркаюць і сягаюць праз яго. Некаторыя цераз старое кола, без восяў, пралазяць" (г. Добруш), "ваўкалак – гэта чараўнік, калдун, які ў поўнач прыходзіць у лес і ператвараецца ў ваўка. Для гэтага ён націрае ўсяго сябе сокам чараўнічай травы, сабранай пад Іванаў дзень на Лысай гарэ. Чараўнік павінен перапрыгнуць праз асінавы пень з ваткнутымі ў ім 12 нажамі" (г.п. Парычы Светлагорскага р-на).

Як асэнсоўваецца ў народным асяроддзі міфалагічны персанаж ваўкалака сёння ? Інфарматары звяртаюць увагу на такія адметныя рысы гэтай істоты, як наяўнасць чалавечага погляду ("вочы ў

ваўкалака чалавечаскія” – в. Бывалькі Лоеўскага р-на), акустычныя асаблівасці голасу (ваўкалак “вые як бы плача”, “Гэтыя ваўкалакі вельмі жаласна выюць і стогнуць, нібы хворыя людзі” (в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на), “страшэнны вой яго пахож на плач” (в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на), “тыя, што ператвораныя, зусім як ручныя – жаласна скуголяць, у іх душа яшчэ чалавечая” (п. Мядкоў Светлагорскага р-на), адметнасці харчавання: “Не ганяюць жывёлу і не палююць на яе, харчуюцца раслінай” (в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на), “яны ядуць траву, корні, ягады, кару і розную лістоту” (в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на). У в. Забалатнікі Клецкага р-на (Мінская вобласць) запісаны міфалагічныя звесткі, згодна з якімі цяжарная жанчына, якая “не хацела дзіцятка, і тады яе нешта карала за гэтае, і яна пераўтваралася на ноч у ваўкалака”.

У шматлікіх народных мемаратах сцвярджаецца, што “ёсць добрыя і злыя ваўкалакі” (в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на), “Розныя ёсць: добрыя і злыя. Ёсць тыя, хто сам ваўкалакам захацеў быць (ета злыя)” (г. Добруш). Калі ваўкалак злы, то ён “заўсёды і ўсім зайздросціў, па начах бегаў і душыў скот сваіх суседзяў, а аднойчы і аднаго чалавека загрыз” (в. Людзвін Хойніцкага р-на), “яны нападаюць на скаціну і на людзей, выпіваюць у іх кроў і мозг” (в. Бывалькі Лоеўскага р-на), “можа нападаць на звяроў, на людзей” (в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на).

Як дазнацца, хто прымае воблік ваўкалака? Аказваецца, на гэты конт у жыхароў в. Шэйка Веткаўскага р-на існуе наступнае павер’е: “Трэба тое месца, дзе часта бывае ваўкалак, пасвяціць вадой з царквы і паміж дрэвамі завязаць ленту белага колеру. Дык вось, ваўкалак будзе бегчы, і калі пераскочыць гэтую ленту, то на некалькі хвілін прыме чалавечы выгляд, а тая лентачка адразу стане чырвонай”.

Засцерагчыся ад ваўкалака, паводле перакананняў беларусаў, можна з дапамогай малітвы і крэйды: “Нужно этим мелом нарисовать круг, стать в него и читать молитву. Оборотень испугается молитвы и убежит, только так можно спастись” (в. Пералёўка Веткаўскага р-на). Устойлівым з’яўляецца народнае меркаванне адносна боязі ваўкалака, каб хто-небудзь са староннiх не парушыў тыя прадметы (нажы), якія ён выкарыстоўвае ў самім рытуале пярэваратніцтва: “Баіцца ён толькі аднаго: калі хто-небудзь выцягне з пня адзін з дванаццаці нажоў, тады ён ужо ніколі не зможа стаць зноў чалавекам, прыняць чалавечае аблічча” (г.п. Парычы Светла-

горскага р-на). Жыхары в. Вільча Жыткавіцкага р-на працэс адваротнага ператварэння ваўкалака, набыцця ім чалавечага вобліку звязваюць з поясам, які, лічылі, “трэба працягнуць па зямлі, і калі ваўкалакі пераскочылі б праз яго, то й сталі б ізноў людзьмі”. Калі дзейнічалі ведзьмакоўскія чары (“у ваўкалака чалавека магла ператварыць і ведзьма” – в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на), то, каб вызваліцца ад іх, у гэтай мясцовай традыцыі прапаноўвалася “пралезці ў хамут ілі ж перакуліцца цераз парог” (в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на). Як у рускіх міфалагічных павер’ях, так і паводле вераванняў беларусаў, тыповай з’явай было ператварэнне людзей у ваўкоў чараўнікамі падчас вяселля: “І больш за ўсё чараўнікі абарачаюць у ваўкоў людзей у час вяселля” (в. Вільча Жыткавіцкага р-на). Захавалася многа варыянтаў расповеду аб тым, як “чараўнік ператварыў у ваўкоў увесь вясельны “поезд” з-за таго, што яго не запрасілі на вяселле, пад скурай забітага пярэваратня знаходзяць абрадавы пояс “вясельнага маршалка” (“свадебного тысяцкого”) – галоўнага распарадчыка вясельнага рытуала” [5, с. 187].

### Літаратура

1. Беларуская міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.

2. Власова, М. Новая АБЕВЕГА русских суеверий / М. Власова. – СПб.: Северо-Запад, 1995. – 383 с.

3. Криничная, Н.А. Русская народная мифологическая проза: Истоки и полисемантизм образов / Н.А. Криничная. Том второй: Былички, бывальщины, легенды, поверья о людях, обладающих магическими способностями. – Петрозаводск: Карельский научный центр РАН, 2000. –410 с.

4. Никифоровский, Н. Нечистики, свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / Н. Никифоровский. – Витебск: Издатель Н.А. Паньков, 1995. – 88 с.

5. Краткая энциклопедия славянской мифологии. Ок. 1000 статей / Н.С. Шапарова. – М.: ООО “Изд-во АСТ”; ООО “Изд-во Астрель”; ООО “Русские словари”, 2003. – 624 с.

6. Беларуская міфалогія: Дапам. / Уклад. У.А. Васілевіч. – Мн.: Універсітэцкае, 2001. – 208 с.

# Ваўкалак



Старыя людзі ў нас заўсёды казалі, што чараўнік мог ператварацца ў ваўкалака пры дапамозе трох нажоў. Гэтыя чараўнікі ўтыкалі нажы ў зямлю, а потым скакалі праз іх тры разы, пасля чаго ператвараліся ў ваўкалакаў. А потым, калі яны ў такім выглядзе пераробяць усе свае справы, вяртаюцца на тое самае месца і зноў скачуць праз тыя нажы.

***Запісана ў в. Старыя Грамыкі Веткаўскага р-на ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н., студэнткай Шаўко І.***

Ваўкалакі – гэта людзі, каторыя могуць станавіцца ваўкамі пры дапамозе скокаў праз зачараваныя рэчы. Тое, што ведзьмы і калдуны скачуць праз нажы, усе ведаюць.

У нас быў адзін такі вядзьмак, які часта рабіўся ваўкалакам. А чаму рабіўся? Гэта яго так сквапнасць ператварала. Ён заўсёды і ўсім зайздросціў. Таму па начах бегаў і душыў скот сваіх суседзяў, а аднойчы і аднаго чалавека загрыз, бо той стаў багацейшым за яго. Гэтага ўжо людзі сцярпець не змаглі. Аднойчы падгледзілі яны тое месца, на якім ён ператвараўся, а калі той пабег, то адзін нож вытыркнулі з зямлі і закінулі яго ў возера. А самі пачалі чакаць, калі ж з'явіцца той калдун. І вось з'явіўся той перавярэцень, скокнуў тры разы, і тут здарылася для яго нечаканае: усё цела было чалавечае, акрамя ног. Вядзьмар стаяў і ўсё глядзеў на свае лапы, не могучы

зразумець, што такое здарылася. А мужыкі, што чакалі яго прыходу, выйшлі з-за кустоў і забілі тую пачвару.

*Запісана ў в. Людзвін Хойніцкага р-на*
*ад Лобан Юліана Антонавіча, 1930 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І.*

Пра ваўкалакаў я ведаю ад сваёй маці. Яна казала, што ваўкалакамі робяцца злыя людзі. Але трэба сказаць, што іх можна пазнаць. Трэба тое месца, дзе часта бывае ваўкалак, пасвяціць вадой з царквы і паміж дрэвамі завязаць ленту белага колеру. Дык вось, ваўкалак будзе бегчы і калі пераскочыць гэтую ленту, то на некалькі хвілін прыме чалавечы выгляд, а тая лентачка адразу стане чырвонай.

Жыла ў нашай вёсцы ведзьма, а ў той была дачка. І была яна не вельмі прыгожай. Аднаго разу прыехаў у вёску прыгожы хлопец, у якога ведзьміна дачка закахалася. А той ёй сказаў, каб яна аб ім і думаць забыла, бо ў яго ўжо ёсць нявеста. Тая гэта як пачула, дык пайшла і ўтапілася. Маці яе, калі аб гэтым даведалася, паклялася, што раз гэты хлопец не хацеў кахаць яе дачку, то хай кахае ваўчыц. І пайшла затым, а на наступную раніцу казалі, што некаторыя бачылі, як той хлопец выйшаў з хаты і, пераступіўшы парог, адразу ператварыўся ў ваўкалака. Пасля гаварылі, што тая ведзьма нешта там падлажыла заварожанае.

*Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на*
*ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І.*

Было ета ўжо так даўно, што я і не памятаю ўсіх дэталяў. А дзяўчына тая мала таго, што была багатая, дык яшчэ і чароўна прыгожая. І хлопцы з твара былі нармальныя, але адзін з іх быў па характару вельмі ўжо паганы. Ну, дзяўчына і пачала аддаваць перавагу дабрэйшаму з іх. А той другі затаіў сваю злосць і хадзіў заўсёды пануры. Бацька ж гэтага хлопца, як кажуць, быў калдуном. І вось адзін раз сын калдуна запрасіў таго другога хлопца да сябе ў госці, а там яго нечым апаіў. І кажуць, што той прыгожы і добры хлапец стаў ваўкалакам.

*Запісана ў в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на*
*ад Даўгала Зоі Васільеўны, 1924 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І.*

Аднаго разу ішлі мы з маці праз поле, якое было каля лесу, і бачым, што ляжыць воўк на зямлі і есць ці то капусту, ці то нешта іншае з расліны. Мая маці нават і не паверыла, а ўжо потым людзі ёй растлумачылі, што гэта быў не просты воўк, а зачараваны ваўкалак.

***Запісана ў в. Старыя Грамыкі Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Ганны Іванаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Ваўкалакам можна быць, калі сам ператварыўся, а могуць любога чалавека злыдні ператварыць. Ваўкалак атлічаецца ат абычнага ваўка. Ён трохі большы за ваўка і вые, як бы плача. Вочы ў ваўкалака чалавечаскія. Тыя, што самі ператварыліс у ваўкалакаў, атносяцца да нячыстай сілы. Яны завісяць ад чорта, яны яму прадаюць душу. Яны могуць прэўрашчаць людзей у ваўкоў. Яны пахожыя на абыкнавенных ваўкоў, толькі злейшыя. Яны нападаюць на скаціну і на людзей. Выпіваюць у іх кроў і мозг. Мозг для таго, што яны думаюць, што паетаму стануць маладымі.

Саўсім другія ваўкі, якіх прэўрацілі ў ваўкоў. Яны як ручныя, выюць жалка, не нападаюць на людзей. Ваўкалакамі яны не могуць быць усю жызнь, а толькі на некаторае ўрэмя.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на***
***ад Пікас Ганны Яфімаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Кілаш А.***

На людзей кажуць: “Скрыты, як ваўкалак”. Засценчавае, скрытнае, таінственае сушчаство. На чалавека на таго гавораць ваўкалак, які маўчыць: “Ой-ой, маўчыць, як ваўкалак”.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Было, чула і пра ваўкалака таго. Ці воўк, ці чалавек? Казалі, што чалавек. І жывець як мы. А ўжо нанач глядзя перакідваецца ў ваўка. Так, каб плахога рабіў, дык і не чутна было, но і каня мог задраць, і спугаць, што аб...ся. Мо ведзьмы іх маглі аслабаніць ад етага дуру.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Свірыдзенка Тацціяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай А.***

Ваўкалак – ета такі чалавек, які апынаецца ваўком. Ёсць добрыя і злыя ваўкалакі. Адны ваўкалакі губяць людзей, здзекваюцца над імі. Другія вельмі добрыя. Яны нічога дрэннага людзям не робяць. Не ганяюць жывёлу і не палююць на яе. Харчуюцца раслінай. Так яны жывуць некалькі гадоў, а потым зноў становяцца людзьмі.

***Запісана ў в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Ваўкалак – гэта чалавек, які пераатвораны ў ваўка. Ваўкалакі нападаюць на людзей і асабліва на дзяцей. Потым яны выпіваюць кроў у людзей, нібы тыя вампіры. Бываюць і такія ваўкалакі, якія не нападаюць на людзей. Яны ядуць траву, корні, ягады, кару і розную лістоту. Гэтыя ваўкалакі вельмі жаласна выюць і стогнуць, нібы хворыя людзі. Ваўкалакі ніколі не бываюць ператворанымі на ўсё жыццё, а толькі на некалькі гадоў.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Паляшчук Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Ваўкалак – нячыстая сіла, якая можа ператварыцца ў чалавека і назад. Ён трохі большы за ваўка абычнага. Страшэнны вой яго пахож на плач. Сільна злы, з здаровымі клыкамі. Яны нападаюць на скаціну і чалавека у зацішным месцы. Выпіваюць у іх кроў. У ваўкалака чалавека магла ператварыць і ведзьма. Каб пазбавіцца ад злых чар, трэба было пралезці ў хамут ілі ж перакуліцца цераз парог.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.,***
***Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Мельнічэнка Н.***

Ваўкалак – гэта не просты воўк. Ён намнога здаравейшы за ваўка, моцны такі, злы-злы. Можа нападаць на звяроў, на людзей, на цэлую валу. Гэта вельмі страшны дух, па начах ён грозна вые і вые. Падпарадкоўваецца ён чэрцям, робіць усё, што трэба, што чорт скажа. Калі яны нападуць на чалавека, то яны яго не з'ядзяць, а толькі кроў вып'юць і стануць яшчэ злейшымі. Ваўкалакі пасля нападу

доўга не нападаюць потым, проста рышчуць па лесе, аглядаюць усё, аддыхаюць.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёускага р-на ад Лапіцкай Алы Уладзімірауны, 1932 г.н., студэнткай Велічкевіч Ю. (2004 г.)***

Існавала такое павер’е. Нейкі чалавек шоў аднойчы лесам. А насустрач шоў чалавек страшны-прыстрашны, і выгляд нездаровы, увесь хворы, і вочы яму пакасіла.

Чалавек запытаў у яго, чаму ж гэта ён такі пакалечаны ёсць. А ён яму адказвае, што будзеш пакалечаны, як ваўком пабегаеш колькі год. І пачаў ён расказваць, як гэта было: “Пасварыўся з суседкай. Крыў я гумно сваё і скінуў неяк колькі там снапоў саломы на яе каноплі”. Яна кажа: “Ты мне паламаў каноплі”. А я кажу: “Хіба ж я хацеў? Дак і суд нічога мне не зробіць”. А яна кажа: “Я цябе сама рассужу”.



Ну, праз тыдзень паехаў я ў млын. Еду назад. І стала мне на сэрцы так нудна і моташна, смутна, і захацелася праз хамут абавязкова пралезці. Як я пралез, так і стаў ваўком і пабег.

Бегаў тры гады адзін, без ваўкоў, а на чацвёрты яны ўжо прынялі мяне да сябе ў гурт.

– Раз наказалі нам рабога каня з’есці. З’елі таго каня і цэлы тыдзень есці не хацелі. Другі раз захацелі мы есці, дак ваўкі паслалі мяне ў статак. Я прыбег, парася ўзяў, а пастух кажа: “Што ж ты ўзяў без дазволу?” Дак і стаў я, як укопаны, ні з месца. А кругом мяне яма, не павярнуцца. Ваўкі крычаць, каб я кідаў парася і ўцякаў, а мне няма куды ўцякаць. Пастух узяў пугу і хвастануў разоў дванаццаць па мне, і так, што шкура воўч’я аб’ехала. Так і зрабіўся чалавекам, толькі пакалечаны крыху.

Вось такая гісторыя. Яшчэ існавала павер’е аб тым, што ваўкалакі былі такія ж людзі, толькі іх нейкі чараўнік абавярнуў

у ваўкоў. І больш за ўсё чараўнікі абарачаюць у ваўкоў людзей у час вяселля.

Калі сустрэнеш ваўкалака, трэба працягнуць па зямлі пояс, і калі ваўкалакі пераскочылі б праз яго, то й сталі б ізноў людзьмі.

***Запісана ў в. Вільча Жыткавіцкага р-на***
***ад Канапацкай Серафімы Якаўлеўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Фёдаравай В.***
***(2003 г.)***

Ваўкалак – гэта чараўнік, калдун, які ў поўнач прыходзіць у лес і ператвараецца ў ваўка. Для гэтага ён націрае ўсяго сябе сокам чараўнічай травы, сабранай пад Іванаў дзень на Лысай гарэ. Чараўнік павінен перапрыгнуць праз асінавы пень з ваткнутымі ў ім дванаццацю нажамі. І толькі тады ён ператвараецца ў ваўка. У гэты час луна становіцца чорнай і вельмі небяспечна апынуцца ў гэту гадзіну дзе-небудзь у лесе.

Ваўкалак вельмі злы. Яму німа месца ні сярод людзей, ні сярод ваўкоў. Баіцца ён толькі аднаго: калі хто-небудзь выцягне з пня адзін з дванаццаці нажоў, тады ён ужо ніколі не зможа стаць зноў чалавекам, прыняць чалавечае аблічча.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Шаўчэнка Зоі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шырокай В.***
***(2003 г.)***

Був у нашой дзеревні такі случай. Молодыя жонка і чоловек погналі товар на пашу. А паша ў лесі. Чоловек кажэ: “Хочеш убачыць воўка?” Жонка кажэ, што на што вон? Але вон настояў. Вона ўже забула, то вон зайшоў за кусты і прыгнуў адтуль воўкам з страшнымі зубамі. Жонка вельмі спужалась, але вона познала зубы свого чоловека. Вон побачыў, шчо вона вельмі спужалась, зайшоў за кусты і зноў стаў чоловекам. Увечары, колі загналі товар, жонцы было вельмі погано. Вона позвала свою цётку і ўсё ей росказала. Уранцы вона ўмерла, а чоловек прапаў, больш ёго ў дзеревні ніхто не бачыў.

***Запісана ў в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на***
***ад Бурым Варвары Якаўлеўны, 1930 г.н.,***
***студэнтамі Кашавар В., Сабуравым Дз., Козыравым С.***
***(2003 г.)***

# Ведзьма

Ведзьма – адзін з галоўных персанажаў у ніжэйшай міфалогіі славянскіх народаў, які адносіцца да разраду паўлюдзей-паўдэманаў. “Існуе нямала павер’яў пра людзей, якія, атрымаўшы па сваёй волі або міжвольна магічныя веды, уступаюць у кантакт з дэманамі і з іх дапамогай уплываюць на прыроду, стыхіі, атмасферныя з’явы, ураджай, здароўе і пладавітасць людзей і жывёл. Гэта ведзьмы, ведзьмакі, знахары…” [4, с. 357].

Л. Вінаградава вызначыла наступныя ўніверсальныя для характарыстыкі ведзьмы ў розных славянскіх зонах рысы: здольнасць стаць пярэваратнем, каляндарная прымеркаванасць актывізацыі яе дэманічных уласцівасцей, сістэма спосабаў распазнавання ведзьмы сярод звычайных жанчын, матыў палётаў на шабаш. Даследчыца адзначае, што “вялікая рэгіянальная шматстайнасць імён-назваў персанажаў гэтага тыпу і бясконцая колькасць варыянтаў іх якасных характарыстык, якія сустракаюцца ў кожнай мясцовасці, стварае складаную карціну тыпалогіі славянскіх “ведзьмаў…” [2, с. 230].

Міфалагічны персанаж “ведзьма” з’яўляецца ўстойлівым у розных дыялектных павер’ях. “Ён ідэнтыфікуецца на аснове такіх галоўных прымет, як рэальная жанчына, якая мае стасункі з нячыстай сілай, валодае звышнатуральнымі ўласцівасцямі і выкарыстоўвае іх у шкодных у адносінах да людзей мэтах” [2, с. 230].

Характарыстыка “сацыяльнага статусу» ведзьмы мае багатую мясцовую спецыфіку. У лакальных міфалагічных традыцыях Гомельшчыны гэты міфалагічны персанаж падобны на жанчыну (“Маленькая, маленькая жанчына, а валасы, ты б толькі пабачыла, такія чорныя, аж страшна стала” – в. Бабічы Рэчыцкага раёна; “Ведзьмы хадзілі ў чалавечым абліччы. Былі аднак страшныя, кульгавыя” – г.п. Капаткевічы Петрыкаўскага раёна; “Выглядае ведзьма як жанчына, але погляд у яе вельмі злы быў. Валасы ў яе былі гразныя, сівыя, нерасчосаныя” – в. Бабоўка Жлобінскага раёна і інш.). Ведзьма, паводле народных уяўленняў, магла прымаць не толькі жаночы, але і мужчынскі воблік: “ведзьмай бывае як жанчына, так і мужчына” (в. Будаўнік Хойніцкага раёна).

Ведзьма паўстае пераважна ў антрапаморфным выглядзе, але можа набываць і зааморфны воблік, здольнасць ператварацца ў жывёл і птушак, паўставаць у выглядзе прадметаў. Гэта тыповая рыса

палескай ведзьмы. Зыходзячы з канкрэтных міфалагічных павер'яў, "ведзьмы маглі станавіцца катом, казой, свіннёй, сабакай" (в. Пакалюбічы Гомельскага раёна), "ведзьма пайшла карову даіць, не сваю, канешне, а чужую, у хлеў зайшла, а гаспадар каровы яе ўбачыў. Дык яна зрабілася колам,ператварылася ў кола такое дзераўяннае" (в. Неглюбка Веткаўскага раёна).

Асабліва пашыраны на Гомельшчыне павер'і, паводле якіх ведзьма магла ператварыцца ў розных жывёл, напрыклад, барана ("Бараньчык зайшоў у тую ваду, дзе пянька была, і крычыць. Яны ўслед за бараньчыкам у ваду, хацелі яго выцягнуць. Схваціліся за яго хвост, пацягнулі і самі ўпалі ў тую ваду. А ў руках іх была тая пянька. А бараньчык тады засмяяўся і знік" (в. Пакалюбічы Гомельскага раёна). Зааморфны выгляд ведзьмы ў лакальных традыцыях звязаны з ператварэннем у чорную кошку (в. Новы Макрэц Брагінскага раёна, в. Бацвінава Чачэрскага раёна, г. Жлобін, в. Бабоўка Жлобінскага раёна); сабаку (в. Новы Макрэц Брагінскага раёна, в. Шырокае Буда-Кашалёўскага раёна, в. Целяшы Гомельскага раёна і інш.); курыцу (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага раёна і інш.); казу (в. Капань Рэчыцкага раёна і інш.); свінню (в. Целяшы Гомельскага раёна, в. Сямёнаўка Рэчыцкага раёна, в. Васільеўка Добрушскага раёна, в. Глазаўка Буда-Кашалёўскага раёна, в. Неглюбка Веткаўскага раёна і інш.).

У в. Сямёнаўка Рэчыцкага раёна жыхары нагадалі, што ведзьма магла прымаць воблік і сабакі, і свінні, і каня, і жарабяці, і зайчыка, "была яна і калясом, якое каціла" (Запісана ад Кірэнка Пелагеі Рыгораўны, 1923 г.н.). У мясцовай традыцыі в. Перавалока Рэчыцкага раёна таксама "ведзьма можа быць і чалавекам, і катом, і кабылай, і варонай, і парасёнкам, можа ў столб перавярнуцца" (Запісана ад Канавалавай Марыі Трафімаўны, 1932 г.н.). Паводле ўяўленняў жыхароў г. Гомеля, ведзьма валодала здольнасцю ператварацца і ў жабу, і ў свінню (Запісана ад Баранавай Валянціны Міхайлаўны, 1931 г.н.). У мясцовай традыцыі в. Агародня-Гомельская Добрушскага раёна ведзьма магла скідвацца і катом, і сабакам, і свіннёй, і вужом, і жабай, і калясом.

Адносна генезісу ведзьмы дакладных версій не існуе. На думку Л.Вінаградавай, што ведзьма "мае адносіны да чорта – тады гэта "вучоныя" ведзьмы, але ёсць і "родимые", якія нарадзіліся ад маці-ведзьмы" [2, с. 233]. Паводле мясцовых звестак, "ведзьмай становіцца жэншчына, каторая знаецца з нячыстай сілай" (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага раёна), "ведзьма – злая жанчына, хаўрусніца

дзьявала» (в. Пералока Рэчыцкага раёна), "ведзьма – нячысты дух, ведзьмы жывуць разам з чарцямі (в. Целяшы Гомельскага р-на), "ведзьма тожа адносіцца да нячысцікаў, гэта злая калдунья, ведзьмы хадзілі ў чалавечым абліччы" (г.п. Капаткевічы Петрыкаўскага р-на), "злая чараўніца ў чалавечым абліччы" (в. Ударнае Лельчыцкага р-на), "ведзьма – злая чараўніца, надзеленая незвычайнымі здольнасцямі. Яна звязана і з людзьмі, і з нячысцікамі" (в. Бялёў Жыткавіцкага р-на), "ведзьма – злая жэншчына, хаўрусніца дзьявала" (в. Пералока Рэчыцкага р-на), "ведзьмы – гэта нячыстая сіла, яны – обаратні, яна прадае сваю душу нячыстай сіле, дзьявалу" (в. Азершчына Рэчыцкага р-на), "калдуння – гэта ведзьма. Яны палюбоўніцы і памошніцы чорта" (в. Матнявічы Чачэрскага р-на), "ведзьмай бывае як мужчына, так і жанчына, гэта людзі, якія належаць нячыстай сіле" (в. Будаўнік Хойніцкага р-на), "ведзьма – гэта такая жанчына, якая паддалася спакусам д'ябла. Яна многа награшыла і ўвайшла ў цесную сувязь з дэманам" (п. Куляшова Буда-Кашалёўскага р-на), "ведзьма – гэта жэншчына, каторая очэнь награшыла, … яна з д'явалам мае кантакт" (в. Лазараўка Рэчыцкага р-на), "ведзьмы – эта жэншчыны, якія водзяцца з чортам" (в. Салтанава Рэчыцкага р-на), "ведзьма – гэта такая жанчына, каханка чорта. Яна прадала яму душу за тое, каб умець калдаваць і каб чорт спаў з ёю" (в. Грабаўка Гомельскага р-на), "ведзьма – ето жанчына, яка знаецца з нячыстай сілаю" (в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на).

Зыходзячы з вышэйпрыведзеных сведчанняў, можна зрабіць вывад, што надзвычай устойлівымі з'яўляюцца вераванні, звязаныя са з'яўленнем звышнатуральных уласцівасцей ведзьмы ў выніку яе цеснага саюза з чортам. "Але канчаткова жанчына стане ведзьмай, калі пазнаёміцца з чортам. Чорт або ўсяляецца ў яе, або паступае да яе на службу, або вядзе сумеснае з ёй жыццё, але абавязкова заключае з ёй дагавор, згодна з якім душа ведзьмы пасля яе смерці дастаецца чорту" [4, с. 359].

Час актывізацыі ведзьмы – гэта Купалле, Юр'еў дзень, Вялікдзень, Зялёныя святкі. Асабліва шмат міфічных гісторый прыгадваюць інфарматары пра дзеянні ведзьмы ў купальскую ноч: "У нашай вёсцы была такая жанчына, умесце работалі, радам жылі, а калі прыходзіць Іван Купала, то яна скідаецца сабакам і бегае па дварах" (в. Хутар Светлагорскага раёна), "у ноч на Івана Купалу ведзьмы выходзяць і дзелаюць людзям плахое" (в. Пакалюбічы Го-

мельскага раёна), "ведзьма адбірае малако ў кароў на празнік Іван Купала" (г.п. Акцябрскі) і інш.

Сярод функцый, якія выконвае ведзьма, найбольш пашыраныя, паводле фактычных матэрыялаў, такія, як адбіранне малака ў кароў, насыланне шкоды людзям, жывёлам і інш. Шэраг павер'яў знаёміць з другараднымі дзеяннямі, якія выконваюць ведзьмы: гэта здольнасць выклікаць розныя стыхійныя прыродныя з'явы, ператвараць чалавека ў жывёлу і інш. Звернемся непасрэдна да запісаў. У розных лакальных традыцыях карціна бытавання павер'яў, звязаных з функцыянальнасцю ведзьмы, мае даволі пярэсты характар: яна можа, напрыклад, запаліць хлеў у таго чалавека, з якім пасварылася (п. Куляшова Буда-Кашалёўскага раёна); навесці на чалавека "порчу" ("Ведзьмы толькі пакасцяць. Яны дажэ вот могуць нагнаць на чалавека порчу, калі яго дзе ўбачаць. А могуць, і не бачыўшы, па фатаграфіі" – в. Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна); адмоўна паўплываць на якасць малака ("Калі ведзьма паглядзіць на малако, то яно ўкісне, а калі паглядзіць на карову, тады карова малака не дасць" – в. Лазараўка Рэчыцкага раёна); наслаць на чалавека і яго блізкіх хваробу (п. Арол Лоеўскага раёна), пашкодзіць жыта ("... пасярод поля стаіць звязаны пук каласоў, а самі галоўкі з зернем заломаны і пяском прысыпаны. Ну, дзеўкі хацелі яго, гэты пук, зрэзаць, а адна жанчына падышла і сказала, каб мы не чапалі, бо гэта ведзьмін залом" – п. Арол Лоеўскага раёна); знішчыць ураджайнасць зерневых культур ("Могуць нагнаць балезні на чалавека ці неўраджай дажа на ўсю дзярэўню" – в. Марусенька Жлобінскага раёна); ператварыць чалавека "у розныя істоты (мядзведзя, ваўка, ястраба, жабу)" – в. Маладуша Рэчыцкага раёна; давесці да смерці ("Гэтыя істоты дзелаюць усякае: каб чалавек памёр..." – в. Востраў Рагачоўскага раёна); "зводзяць у магілу" – в. Баршчоўка Добрушскага раёна і інш.

У розных вёсках Гомельшчыны зафіксаваны цікавыя гісторыі пра ператварэнні ведзьмы. Найбольшая колькасць павер'яў паказвае метамарфозы гэтага персанажа ў дачыненні да такой істоты, як свіння: "І вот выйшлі яны на вуліцу і пасыпалі ўдоўж вуліцы мялля (што лён мялі), калі будуць ісці каровы з паствы, карова, у якой хазяйка – ведзьма, не пойдзе праз гэта мяллё. І ў гэты час выбягае свіння з двара, што быў радам з імі" (в. Бабічы Чачэрскага раёна); "ведзьмы дзелаліся свіннямі" (в. Азершчына Рэчыцкага раёна); "ведзьма можа быць свіннёй, вужом, капой сена" (г. Ветка) і інш. Факт набыцця ведзьмай вобліку якой-небудзь жывёлы або птушкі

знайшоў шырокае пацвярджэнне ў сучасных запісах: “Яна можа пе-ратварыцца ў кошку, сабаку, свінню” (в. Баршчоўка Добрушскага р-на), “Маці расказвала, што калі яна была маленькая, то ў іх вёсцы жыла ведзьма. Яна ператваралася ў карову, свінню” (в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на), “Превращчались в чорных сабак, чорных катоў” (в. Стараселле Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.), “Слыхала, што ведзьма можа дзелацца мышшу, чорнай кошкай, воранам” (г. Горкі Магілёўскай вобл.), “Аж у 12 часоў бачыць: жаба здаровая скача. Падскочыла да вумя, павісла на дойцы і малако ссе” (в. Чамярысы Брагінскага р-на), “На нейкае свята жанчына заўважыла ў сваім хляве ластаўку ці, можа, іншую пцічку, якая нагадвала ластаўку…і, выганяючы яе, ударыла гэтай пцічцы па назе. На другі дзень адна з жанчын у вёсцы выйшла на вуліцу і стала кульгаць на тую нагу, па якой учора ўдарылі пцічку. Тады ўсе здагадаліся, што гэта была ведзьма” (в. Ламавічы Акцябрскага р-на), “Ведзьма спасобна прыўрашчацца ў чорную кошку, сабаку ілі курыцу” (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на), “Ведзьмы бываюць разныя. Яны могуць прэвращчацца ў катоў, сабак, свінней” (в. Хутар Светлагорскага р-на).

Найбольшай колькасцю мясцовых сведчанняў інфарматараў адрозніваецца матыў ператварэння ведзьмы ў свінню і кошку: в. Пакалюбічы Гомельскага р-на, в. Новы Макрэц Брагінскага р-на, в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на, в. Сямёнаўка Рэчыцкага р-на, в. Хутар Светлагорскага р-на, г. Жлобін, в. Старое Сяло Веткаўскага р-на, в. Васільеўка Добрушскага р-на, п. Кавалёў Рог Чачэрскага р-на, в. Глазаўка Буда-Кашалёўскага р-на, в. Бабоўка Жлобінскага р-на, в. Неглюбка Веткаўскага р-на, в. Азершчына Рэчыцкага р-на і інш.

Як засцерагаліся ад ведзьмаў? На гэтае пытанне ў розных вёсках былі атрыманы цікавыя адказы. Яны дазволілі правесці класіфікацыю павер’яў у сувязі з тымі дзеяннямі, якія выконваліся. У в. Сівенка Веткаўскага раёна засцерагаліся ад ведзьмы, праносячы “васьмёркай над сталом перад выганам каровы спечаную булку хлеба”. У р.п. Бальшавік Гомельскага раёна “клалі ў вокнах хаты крапіву як сродак супраць чараў ведзьмы, вешалі ў хлеў забітую сароку”. Каб ведзьма не адабрала малако ад каровы, “трэба было ў цадзілку пакласці 3 іголкі, а потым малако праз калітку выліць” (в. Губарэвічы Хойніцкага раёна). Каб засцерагчы дамашнюю жывёлу ад яе шкоднага ўплыву, “трэба ў вербную нядзелю пабіць карову свяцонай вярбой, у чысты чацвер падразаць карове хвост і вешаць яго пад страху хлява” (в. Хуснае Петрыкаўскага раёна).

Як бачым, шматстайнасць варыянтаў былічак і павер’яў даносіць да нас водгукі поглядаў нашых продкаў на свет, прыроду, сведчыць аб “заземленасці беларускай міфалогіі” [3, с. 15]. Запісаныя звесткі пашыраюць нашы ўяўленні аб тым месцы, дзе мы жывём, падкрэсліваюць багацце працэсаў лакалізацыі міфічнай традыцыі.

**Літаратура:**

1. Славянская мифология. – М.: Эллис Лак, 1995. – 416 с.

2. Виноградова, Л.Н. Народная демонология и мифо-ритуальная традиция славян / Л.Н. Виноградова. – М.: “Индрик”, 2000. – 432 с.

3. Зямная дарога ў вырай. Беларускія народныя прыкметы і павер’і. Кн.3. /Уклад., прадм., пер.і паказ. У. Васілевіча. – Мінск: Маст. літ-ра, 1999. – 654 с.

4. Левкиевская, Е. Мифы русского народа / Е. Левкиевская. – М.: Астрель, АСТ, 2000. – 526 с.

## *Ведзьма*



Даўно было эта ў нашай дзярэўні. Толькі точна не ведаю, як звалі эту жанчыну: ці то Моця, ці то Аксіння. Яна жыла наводшыбе ад усёй дзярэўні. Хата яе стаяла маленькая, уся заросшая кустамі. Помню, дзеці ўсё баялісь гуляць там. Гэта жанчына была якая-та дзікаватая, пужалася ўсіх. Свет запальвала толькі ўноччы. Людзі казалі, што ўноччы да яе прыязджалі людзі з розных вёсак, каб палячыцца, пагадаць ці загаварыць каго-небудзь. Загаварваюць яны па чорным кніжкам, іх называлі “не ад Бога”. Днём яе не было бачна, бо яна страчвала сваю сілу. І вабшчэ ведзьмы – эта страшныя людзі. Каб ад іх засцерагчыся, трэба крэст насіць, а ў доме венік ставіць у вуглу. Гэтага яны баяцца як смерці. Вось як.

***Запісана ў п. Крыстаполле Рагачоўскага р-на***
***ад Бондаравай В.П., 1936 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***

Ведзьма – эта прастая жэншчына. Толькі яна знае, як лячыць, як порчу навесці, як зачараваць, як залом здзелаць.

Ты не думай, яны і харошыя бываюць. У нас раньшэ, гадоў з сорак назад, жыла адна. Я ўжэ не помню, як яе звалі. Но к ей усе хадзілі, як хто бальны, ці няшчасце якое ўстрэціцца, усе к ей ідуць. А як дажджа не была, дак яна падходзіць к калодцу, што-та шэпча там доўга – на следушчы день дождж ідзе. А ў саседней дзярэўне нету. Вот так.

Но ведзьмы ўсё большэ злыя ўстрачаюцца. У Філімончыкавых раньшэ саседка была. Яна ўжэ памерла. І старая Філімончыха з ей нікак ужыцца не магла. Усё врэмя ругаліся. І вот адін раз Філімончык уначную быў. Філімончыха чуе, стучыцца хто-та. Падходзіць к дверы, а ёй хто-та мужыковым голасам просіць адкрыць. Яна прыаткрыла, а на яе сабака бальшая як накінецца. Яна быстра дверы закрыла. А на следушчы дзень эта Танька, саседка, гаворыць: “Сільная ты, павезло табе”.

Вот табе і історыя. Ведзьмы яшчэ і абаратнямі бываюць. Но в аснавном ані “лечаць і калечаць”. Патаму, так Танька эта, гаварылі, патом Філімончыка ў магілу звяла. Яна яго любоўніцай стала, ачаравала яго, а патом усе сокі з мужыка выцягнула.

Цётка Даша расказвала, што ў Змяёўке раньшэ была, а не так ужэ і даўно, з паўгода назад была. Жыла ў іх адна дачніца. Вроде нармальная, улыбаецца ўсем, у госці хадзіць любіла.

А ў адной сем’і ў дзевачкі была дзень раждзенія. Ну, ані рашылі сем’ёй атмеціць. А дачніца эта как-та узнала, прышла. Яе прыглашаюць выпіць. Ана адказалась, но падарак дала. Эта былі румачкі. Ані ўдзівілісь, но паставілі румкі. Аднажды ў дзерэўне памінкі былі. І паставілі этыя румкі. І ўсе, хто піў з іх, памерлі. А румкі пацемнелі. І тады сабралі і паставілі ей на двор. Вот яе да сіх пор нету. Как лета будзе, так можа прыедзе.

Кроме ведзьм, бывают ешчо і ведзьмакі. Эта мужчыны, а так нічэм ад ведзьм не атлічаюцца.

Была аднажды ў нас свадзьба. Многа тада людзей прыехала. Правільна, дзірэктар завода дочку замуж аддаваў. І вот адзін сядзеў там, усё ему не нравілась. Хацеў выйці пакурыць, но ево не выпусцілі. І он тада хлопцу этаму гаварыт: “Ты шчас вапшчэ на столб залезеш”.

І праўда, пашлі танцаваць на ўліцу, а таму хлопцу, как што стала. Залез на стоўп і стаў кукарэкаць. Смеху была! Патом доўга ешчо

ўспаміналі. Но рашылі, што мужчына тот ведзьмаком быў. А хто ешчо так здзелаць хлопцу мог.

Ешчо забыла цібе расказаць, как ведзьмамі становяцца. Усе знанія можна пераняць ад другой ведзьмы. Эта можат быць матка, но можат быць і другая. Начэнает ана её учыць, как смерць блізка пачуствует. І пака ана всю сваю сілу другой не перадасць, не ўмрэ, долга мучацца будзет.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на ад Брухавецкай Ніны Андрэеўны, 1933 г.н., студэнткай Чаўшнік Н.***

Раньшэ і цяпер былі і ёсць ведзьмы. Это такіе цёткі, што ўмеюць усё падрабляць. Яны ўмеюць рабіць добрае і злое другім людзям. Яны пахожы на старых жанок з распушчанымі сівымі касамі. Ведзьмы звязаны тожэ з чартамі (з нячыстай сілай). Каб зрабіць плоха людзям, яны нашэптваюць ці падкідаюць ім якіясьці прадметы. У выніку гэтага хварэюць і паміраюць людзі ці скаціна, плачуць дзеці, не робіцца ніякая работа. Раньшэ гаварылі, што вядзьмарак спальвалі, а цяпер, калі такія людзі ўміраюць, то стараюцца перадаць сваё вядзьмарства, свае “веды” сваім родным ці блізкім. Яны, ведзьмы, цяжка паміраюць, таму іншы раз ім прабіваюць у столі дырку. Это плахія ведзьмы. А добрыя ведзьмы могуць вылечыць ад ляку і хвароб.

***Запісана ў в. Мілашавічы Лельчыцкага р-на ад Лісіцкай Тацяны Салаўёўны, 1911 г.н., студэнткай Купрацэвіч Т.***

Старыя людзі паведамілі і перадалі нам сваю спадчыну, мы цяпер перадаём яе сваім дзецям.

Мая бабуля расказвала мне і пра злых духаў, якія былі варожа настроеныя да людзей. Гэта былі Баба Яга або Ведзьма. Яны здзекваліся над людзьмі, але ж як самі пападуцца, то мусяць цярпець муку. Кажуць, што лягчэй усяго злавіць яе на весенняга Юр’я. Тады ведзьмы ходзяць па хлявах ці па загарадах, дзе стаяць каровы, і псуюць іх. От тады, хто знае і ўмее, як абысціся з поганню, той можэ і сцапаць у якой-небудзь другой постаці ведзьму ці чараўніка. З нашага сяла хтосьці бачыў, як ведзьма скінулася жабаю да і цягла з каровы малако. Дагадаўся гэты чалавек, што гэта ведзьма ў постаці жабы-распухі ссе карову, схапіў кій дый давай яе перыць. Біў-біў яе да і

выкінуў праз плот. Назаўтра людзі ўбачылі, што суседка адна ляжыць, уся пабітая. Пра яе даўно ўсе гаварылі, што яна ведзьма.

***Запісана ў в. Старая Дуброва Акцябрскага р-на***
***ад Шуляга Ганны Васільеўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Сінкевіч С.***

Я была яшчэ маладая, і вось у нашай вёсцы здарылася такая гісторыя. Людзі бачылі, як адна жанчынка ператвараецца ў чорнага ката. Яны хацелі праверыць, ці на самой справе гэта так. Палажылі барану каля дзвярэй уверх коллем. Калі яна зайшла ў барану, людзі адрэзалі ёй вуха і адпусцілі. Потым бачылі тую жанчыну бяз вуха. Мы думалі, што гэта ведзьма ператвараецца ў ката.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Берлінай Тацяны Кузьмінічны, 1927 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Залессе Чачэрскага р-на)***
***студэнткай Шахрай В.***
***(2001 г.)***

Ведзьмы рабілі шкоду па начах. Ад ведзьмы затыкалі крапіву каля дзвярэй, каб яна не падышла.

Ведзьмы яшчэ забіралі ваду ў калодцы ноччу, каб не было ў каровы малака.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Шылец Аляксандры Мітрафанаўны, 1930 г.н.,***
***(перасяленка з в. Нудзічы Брагінскага р-на)***
***студэнткай Шахрай В.***
***(2001 г.)***

Даўно, кагда шчэ була жывая мая маці, на нашай уліцы жыло тры жэншчыны. Толькі ані не булі пахожыя на другіх жыцелей. Іх звалі ведзьмамі. І вот у іх усегда каровы давалі малака больш, чэм у каго ў дзярэўні. І вот насчот етага на ўліцах начыналі хадзіць гамонкі, што после прыхода каго-нібудзь з етых жэншчын, начынало прападаць малако ў каровы, і ена не хацела іці ў ва двор, уцякала ад хазяіна. Буў такі случэй і ў нас.

Прышла адзін раз да маёй мацеры цётка Маня (адна з ведзьм) і папрасіла ў яе ўгалькоў, бо не було чэм растапіць у печы. Ну, маць була добрай жанчынай і пазычыла колькі ўгалькоў. Шчэ ведзьмы маглі папрасіць сіто (рэшата) ілі шчэ яку мелач. І вот утром карова

дала заметно менш малака, а ўзаўтрэй – шчэ менш. Пад вечар яна ўжэ саўсем не хацела іці ў ва двор і ні з таго ні з сяго ўцякла.

Прашло тры дня, а яе не було, не ішла дадому. Мой бацько падумаў-падумаў і рашыў іці к чарнакніжніку. Булі і такіе ў нашэй дзярэўні. Іменна ані і памаглі нам.

***Запісана ў в. Макарычы Петрыкаўскага р-на ад Галота Ганны Пятроўны, 1918 г.н., студэнтам Бялько Дз. (2001 г.)***



Ехаў наш сусед па полю. Убачыў, бегае авечка. Думае, злаўлю яе, дык зарэжу на мяса. А яна як зарагоча і кажа: "Дурні, што вы робіця". Ён адпусціў і наўцёкі.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н., студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Ведзьмы голыя раздзяюцца да і бегаюць по дворам, по хлявам, каб укусіць корову, спокусіць яе. Говорылі некаторыя, што нада на плоту поставіць кувшыны і туда само молоко налеяць. О таке от говорылі, штоб от ведзьмы асцерагаліся. Крапіву чаплялі людзі, штоб ведзьма не могла прыці.

***Запісана ў в. Карані Светлагорскага р-на ад Малец Вольгі Якаўлеўны, 1929 г.н. (раней пражывала ў в. Кіраў (раней Махаеды, Мухаеды) Нараўлянскага р-на) студэнткай Лагута Ю.***

Які год гэта быў, я не помню. Вясна была, бо на агародзе, каля хаты я кірпалася. Нешта мне спатрэбілася ў хаце. Падыходжу да

ганку, а на яблані варона сядзіць ды і крычыць, каркае. А я яе часта бачыла каля хаты. Падыходжу ды і пытаю: "Калі ж ты ведзьма, то закрычы другім голасам". І яна замяўкала.

Другі выпадак быў гадоў колькі назад. Мой унук вяртаўся з танцаў. Адкрыў калітку – бачыць: каля хлява стаіць некі малы чалавек, па росту малы, а так, дзядок быў. Унук мой пабаяўся і пабег, пералез з другога боку праз частакол. Забег у хату і гаворыць, як і было. Дзед мой сказаў: "Чаму ж ты віламі ў плечы не даў?" Узяў вілы і пайшоў. Але там ужэ нікога не было. А раніцай малако было з кроўю.

***Запісана ў в. Конкавічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Несцярчук Галіны Мікалаеўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Курловіч І.***



Пакойны бацька мой расказваў, што ведзьмы-жэншчыны дзелалі ў жыце заваі, каб наўрадзіць людзям. А таксама яны ператвараліся ў каткі. Аднойчы случылася так. Мой бацька з другам убачылі, як на іх коціцца каток. Яны ўзялі, ды з двух бакоў – каламі ў спіцы катку. Ператвараецца гэты каток у жанчыну, і яна кажа:

– Хлопцы, я больш ня буду.

– А клубком ты дзелаешся?

– Да.

– Будзеш дзелацца – уб'ю.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Панамарэнка Ніны Міхайлаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Малашанка В.***

Ваабшчэ раньшэ па зямле многа знахарей хадзіла, а цяпер зямля праклятая. Када я была маладая, адзін хлопец з дзеўкай гуляў, а патом кінуў. Тут яе бабка пераўтваралася ў калясо, даганяла таго хлопца і біла яго. Адзін раз хлопец шоў з другам, і яны аддубасілі етае калясо палкай. Утрам бабка ўся пабітая дома ляжала. А шчэ буў знахар, які жыў у вялікай хаце, таму мы прыходзілі да яго гуляць і заўсёды што-небудзь стваралася: то зайчыкі з-пад печы пабягуць, то шчэ што, а то зварыць супу, паставіць на пол, з-пад печы выпаўзуць вужы і разам з дзецьмі суп ядуць. І пережыў ён яшчэ дзяцей сваіх, якіх ён вучыў етаму, і памёр толькі ў 125 гадоў. А дзядзька ён быў такі, што яго каней воўкі не трогалі. Ваабшчэ знахары пераўтвараліся ў калёсы, у свіней і всегда былі какімі-небудзь камкамі.

***Запісана ў в. Заспа Рэчыцкага р-на***
***ад Цітавец Варвары Нікіфараўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Кацярыніч А., Стрэльчанка Д., Азёма А.***

Гэта было, калі я яшчэ была маладой. Жала жыта, на паласе нікога ні было. Тут раздаецца голас: “Памагай Бог”. Я гавару: “Спасіба”. Пераварачваюся, а там нікаго. Гляджу – непадалёчку ад мяне свежая сцежка. Вось тады гаварылі, што гэта ведзьмы шкодзяць усім.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Ісачанка Лукер’і Харытонаўны, 1920 г.н.,***
***студэнткай Малашанка В.***

З ведзьмамі сама я не ўстрачалася. Але чула я ад свайго бацькі. Было гэта пад Паску. А к дзеду майму хадзілі гуляць. Дзед выйшаў на двор, чуе жэнскі красівы голас. Голас заве за сабой. Дзед уваходзіць у хату і кажа: “Што за голас?” Выйшлі ўсе за хвортку, а там нікаго не было. А што за голас быў, ніхто не бачыў.

Гавораць людзі, ведзьмы ператвараліся ў свінней, кошак, каткі. Гэтыя каткі бегалі за людзямі. Бывала, коціцца каток за дзеўкамі і можа быць ускоча. Тады дабра не ждзі.

А чорная магія сушчыствуе. Я дажа знаю, хто етым занімаецца і ў каго ёсць такая кніга. Калі я яшчэ была дзеўка, вось аднойчы сабраліся хлопцы і дзеўкі ў 12 часоў ночы каля аднаго дома. А там як загарыцца цяпло, і цераз вароты вылетае змей. Мы – хто куды.

Яшчэ адно здарэнне. Пакойны бацька расказваў. Ехаў аднойчы ў поле за снапамі з сабакам праз кладбішча. Адтуль паявілася кошка. Села на сабаку і давай яго рэзаць. Потым саскочыла і пабегла назад на кладбішча. Вазрашчаўся бацька са снапамі дамоў. Зноў паўтарылася такое. З тых пор сабака з двара ніколі не выходзіў. А што за кошка выскаківала, тут ужо ніхто не знае.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Дземчанка Ніны Сяргееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Малашанка В.***

Ведзьмы дзелаліcь свіннямі. Калі каля чалавека ідзе як бы цень, то гэта калдуны бягуць за людзямі.

Была ў нас у вёсцы жанчына. Яна не хацела, каб яе сын жаніўся на адной дзяўчыне. Але той не паслухаўся і ажаніўся. Так гэта маці-ведзьма стала паддзелываць усё, каб разлучыць іх. То ў краваць драч, клубок або іголкі падкіне.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Каротчанка Ганны Васільеўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Рэпішча Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Малашанка В.***

В дзярэўні Ліпнякі жыла ведзьма, і ана дзелала пакасці. В адной её саседкі была карова. В саседскай каровы стала прападаць малако. Аднажды её муж хацел праверіць, хто карову доіт. Эта ведзьма превраціласъ в кошку і пашла высмактываць малако. Сасед атсёк кату лапу. На ўтра ведьма пашла за вадой с перабентованай рукой. Сасед спрашывает, што ў неё с рукой, ана гавора, што шынкавала капусту і парэзала. А патом гаварылі, што яе ўбілі.

Яшчэ, кагда я была маладой дзеўкай, чула расказ такі. Два хлопцы с клуба дамой ішлі міма кладбішча, на матацыкле. Яны выглядзілі цень. Хлопцы было ўцякаць, а цень апяць за імі. Перад дзярэўней яна ісчэзла. А бацька хлопца аднаго сказал, што эта была смерць. Чэраз тры месяцы адін з гэтых хлопцаў памёр ад цяжкай балезні.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Сталяровай Феафаніі Іванаўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Смелы Лоеўскага р-на)***
***студэнткай Журо А.***

Яшчэ мая бабуля расказвала, што з дзядулем яшчэ ў маладосці здарыўся неверагодны выпадак.

Аднойчы ён паехаў у лес, каб нагледзець, дзе можна адшукаць добрую паляну з лясной травой і нарыхтаваць духмянага сена жывёле на зіму. Вяртаўся ён назад ужо прыцёмкам увечары. А вечар гэты быў няпросты, а перад святым Івана Купалы. Вось едзе ён уздоўж поля і раптам бачыць, што ў жыце стаіць зусім нагая дзяўчына з вельмі доўгімі чорнымі валасамі. Яна моўчкі звязвала верхушкі каласоў жыта ў пучок. Дзядуля адразу здагадаўся, што гэта была ведзьма. Яму, яшчэ маленькаму, казаў яго бацька, што на ўсе вялікія царкоўныя святы ведзьмы збіраюцца на шабаны і шкодзяць людзям. Дзядуля зразумеў, што ведзьма хоча пазбавіць людзей будучага ўраджаю. Дзядуля вырашыў прагнаць яе і паехаў хутчэй насустрач ёй, але дзяўчына знікла, злосна глянуўшы здалёк на дзядулю.

А вось яшчэ адзін цікавы выпадак. У вёсцы жыла адна бабуля, якую ўсе лічылі знахаркай. Але ж жыхары вёскі яе не вельмі любілі і нават баяліся. Бо казалі, што ўначы ў яе хаце заўсёды гарэла святло і чуліся нейкія неразумелыя гукі. У гэтай бабулі быў вельмі вялікі сад. І вось рашыў адзін хлапец накрасці смачных яблыкаў. Як сцямнела, ён перасігнуў цераз плот і пачаў рваць самыя прыгожыя яблыкі, на хаду адно адкусваючы. Раптам ён убачыў гэтую бабулю. Яна вельмі блізка падышла да хлопца, злосна паглядаючы на яго, і нешта мармытала пад нос. Хлапец кінуўся наўцёк. На другі дзень хлапец прачнуўся ад вельмі вострай болі ў жываце, нібыта яго рэзалі нажамі, падняўся жар, моцна балела галава. Так ён хварэў некалькі дзён. Затым яму стала крыху лепей. У той жа дзень ён даведаўся, што тая бабуля памерла...

Людзі казалі, што ўсе гэтыя дні яна вельмі часта ўспаміната яго імя і брыдка называла яго, кляла... Аднак яна не змагла да канца здзейніць свайго нагавору і памерла.

Вось яшчэ адзін выпадак пра гэтыя “чорныя сілы” – сілы чорнай магіі.

Адзін хлапец вяртаўся з гулянкі позняй ноччу. Падышоўшы да сваёй хаты, ён заўважыў суседку. Яна, не ўбачыўшы яго, раптам нешта кінула цераз плот у іхні двор. А раніцай ягонай бабулі стала вельмі дрэнна і яна, на жаль, памерла. Толькі тады ён успомніў пра гэты выпадак ноччу і пайшоў шукаць. Ля плоту ён знайшоў хусцінку. Развязаўшы яе, ён найшоў там розныя, вострыя зломаныя рэчы і

бітыя кускі люстэрка. Пра гэту суседку таксама хадзілі нядобрыя чуткі. Мабыць, яна вырашыла за нешта адпомсціць бабулі. На жаль, ёй гэта ўдалося...

Аднак, слава богу, што ёсць людзі і добрыя, якія лечаць людзей малітвамі. У нашай вёсцы жыла такая бабулька. Звалі яе бабка Міроніха (па мужу звалі, муж – Мірон). Яна лячыла рукамі і малітвамі: падымак, ўрокі, зляклі. За сваё жыццё яна выратавала вельмі шмат людзей дарослых і маленькіх дзетак. І вось у суседкі жаніўся сын. Усе сабраліся ля двара сустракаць маладых з роспісу. І бабуля Міроніха таксама вышла к двару. Раптам ёй стала вельмі дрэнна, і яна начала асоўвацца каля плоту. Потым глянула навокал сваімі добрымі, шэрымі вачамі і амаль упала на рукі адной дзяўчыне... і памерла.

З тых пор гэта дзяўчына лечыць усіх аднасельчан, чытае малітвы і таксама дапамагае ўсім, хто звяртаецца да яе.

***Запісана ў в. Пракопаўка Гомельскага р-на ад Шкляровай Антаніны Фёдараўны, 1930 г.н., студэнткай Фраловай А.***

У адной дзярэўні случылася бяда. Вот ідуць каровы з пашы, наядзяцца, прыходзяць дадому, а ў іх пустыя вымі. Ну, і хазяйкі началі абсуждаць, што гэта такое, нячыстая сіла ў нас завялася ў дзярэўні. Так не далжно быць. І думалі яны, думалі. Правялі сваё расследаванне, і падсказаў адзін старычок. Падазрэнне ўпала на адну жанчыну. Прыйшоў адзін раз ён к ёй, тады, як каровы ішлі, а ў яе віселі на гвоздзіках цадзілкі, вёдры вісяць унізу, і па тых цадзілках цячэ малако прама ў вёдры. Еты прыйшоў, а яе якраз у ета время не было ў комнаце. Паглядзеў і бягом назад пабег. Ага, поняў, што тута што-та не то. Ну, калі сталі гэтыя жэншчыны жаліцца, што такое няшчасце, ну, ён падсказаў адной жэншчыне, што гэта тая і тая, і вам нада ізбавіцца ад етага. А яго матка, етага дзеда, многа чаго ўмела, умела гадаць, дзяцей лячыць. Яна яму трохі чаго-та перадала, што сама ўмела. Ну, яна кажа: "Вам нада ўкрасці ў яе цадзілку, распаліць на ўліцы агонь. Етую цадзілку нада кіпяціць, цадзілка закіпіць, то ета жэншчына прыбяжыць к нам на двор і ўбачыце, што будзе". Яны так і здзелалі. Пайшлі ўжо каровы на пашу, яны ўзялі цадзілку, распалілі касцёр, павесілі збан, укінулі туды цадзілку і цадзілка закіпела. Яны мяшаюць яе. Мяшалі, мяшалі, аж бачаць – бяжыць ета жанчына. Бяжыць. Косы ў разныя стораны. Такая запыхаўшаяся, хо-

ча рукамі цадзілку выхваціць, а не можа, бо сільна горача. Яна бегала, бегала вакруг етага кастра, тыя жэншчыны папугаліся, патом яна яшчэ пяць мінут пабегала і тако на іх вачах і лопнула.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на ад Лаўрэнавай Жанны Аляксандраўны, студэнткай Канопліч Т.***

Як малымі былі, ведзьмаў баяліся. Бацька нас пугаў. Калі захочам цыбулі салодкай, галодныя ж былі, лезам у грады, а бацька пугаў, што ў жыці ведзьма сядзіць, спляце за косы і пацягне ў лес.

Баба Варывоніха ў вёсцы жыла. Людзі казалі, што ведзьмарыха яна. У чорным заўсёды хадзіла, нікога ў хату не дапускала, калітка ў ёй усё ўрэмя закрытая. Казалі, што магла скаціну пагубіці. Яксьці бацькі не было дома, мы з мамкай адныя ў хаце сідзелі. І тут за дзверру хтосьці пачаў грукаць. Мы мамку не хацелі пускаці, а яна ўсё роўна пайшла паглядзеці, што там, бо думала, што ведзьма. А гэта карова запуталася ў вяроўцы, павалілася на бок і стукала капытамі ў дзверы. Маці выпутала яе, пачала хрысціцца, духаў злых адганяць, біла яе прутам.

А аднаго разу па вёсцы ў некаторых хатах бабы жаліліся, што ў кароў з ночы пачало прападаць малако. Усе адразу на яе шышкі пасыпалі, на Варывоніху тую, да яе пайшлі яны. Прычынілася, нікога не пускае, толькі праклёны на нашы галовы пускае. Потым выйшла, косы папускала, вочы маланкамі страляюць. На ўсіх як стаўбняк напаў, сціхлі і разышліся.

Была я маладая, толькі выйшла замуж, ажно хросная мужа майго (дзеда Есіпа) не ўзлюбіла мяне. І штосьці зрабіла мне, бо шмат замоў, шэптаў ведала, лекарыла патроху, што ў мяне пачала гарэць у галаве. Сіжу на лаўцы і проста дубцом зямлю луплю. Існудзела ўся. Дзед мой павёў мяне да бабы Сцепаніды, тая адразу сказала, што здзелалі і хто, што ў падушцы зашыты валасы, што пер’е нада зпаліць і падушку. Тады я ачуняла і радзіла яшчэ шэсць дзяцей.

І ведзьмары былі таксама. Колісь кот прыбіўся ў хату, мяўкае на прыпечку, чэраз комін ускочыў. Мяўкае і мяўкае, я стукнула яго па лапе, як зараз помню, правая лапа то была. Ён заенчыў і ўцякаць. На другі дзень сусед Іван хадзіў з перабітай рукой (правай). Ён вядзьмарнічаў па вёсцы. Казалі, што ён мог звярмі рабіцца. Дзед мой аднаго разу збялеў, калі з Яноўкі шоў. Цёмна было, па восені недзе. Кажа, уцапіўся за ім конь. Ідзе, ледзь не трэцца аб дзеда, у морду дыша. Ён каня адганяе, а той ідзе і ідзе. Падыйшоў да двара,

праганяў, праганяў, казаў, што дамоў адпраўляў. Ідзі, кажа, дамоў, і ён тут жа знік, як і не было яго.

Я па сённяшні дзень цураюся ведзьмаў. Гэты страх яшчэ з калыскі бацькі заклалі. Бо, як казала матка, бойся быка спераду, каня ззаду, а ведзьму з усіх бакоў.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***



У нас сёння такіх і нямашака. Ну, а ваабшчэ, ведзьма – злая жэншчына, якая ўмела калдаваць, садзейнічала з нячыстай сілай, завідавала людзям, крывосіла. Магла нагнаць порчу як на чалавека, так і на скаціну, на хазяйства. Людзі стараліся абходзіць такіх. Пры сустрэчы гаварылі малітвы, хто якія знаў, каб аберагчыся. У сенцах пад лаўку лажылі тапор, была такая засцярога, яна яго баялася. У хляве і каля яго, вакол, пасыпалі макам свяцоным і прыказвалі: “Абсыпаю цябе, кароўка, макам, каб ведзьма сюда не хадзіла, вас не таміла”. Запальвалі свечку і дзержалі трошкі ў хляве, каб запах свечкі прайшоў у хлеў. У хаце тожа запальвалі свечку, абкурвалі

сям'ю, комнаты. Ну, а калі ўжэ і быў які ўрэд ад яе, калі яна ўжэ і ўзяла верх, то тады чалавеку плоха, ён балеў, балела і скаціна (калі была порча на хазяйства). Тады ўжэ старалісь такімі вот сродкамі лячыцца.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.,***
***Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Мельнічэнка Н.***

Ведзьмы непрыгожыя, злыя, страшныя жанчыны, якія робяць пакасці людзям. Усе яны падпарадкоўваюцца чорту. Бог для іх, канешне, не існуе. Кажуць ведзьмы ўсякую несуразіцу. Яны што захочуць, то і зробяць. Іх цікавіць усё, што вакол іх, і людзьмі яны таксама інцерасуюцца, глядзяць, як тыя жывуць. Пэўна, яны завідуюць людзям, бо самі такія яны грэшныя, нядобрыя. Але ўсё роўна робяць зло. Іх ужо нічога не астановіць, калі захочуць, давядуць чалавека, той і памрэ. Але мала хто памірае ад ведзьм, яны амаль нікога не чапаюць. Жывуць ціха, каб ніхто не пабачыў, але хочуць зрабіць нядобрае.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.***

Ведзьма таксама мае сувязь з нячыстай сілай. Яна можа наклікаць бяду на людзей. Яна можа ператварыцца ў жывёлу ці птушку. Ведзьмай можа быць старая жанчына, а можа быць і маладзіца. У нашай вёсцы ведзьмаў няма. Можа калі раней былі, а можа і не.

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на***
***ад Дайнека Дар'і Фядосаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Камандзірчык Н.***

Ведзьмы выглядаюць як абыкнавенныя жэншчыны. Яны служаць чорту. Ад абыкнавенных жэншчын яны атлічаюцца: ці крывыя, ці вусы растуць, ці шчэ што. Яны ўсягда маўчаць ці, наабарот, гамоняць і гамоняць. Іх не інцерасуя жызнь людзей, яны жывуць самі па сабе, ні да каго не ходзяць. Яны не вераць у Бога. Ведзьмы кладуць нацельны крэст пад пяту і носяць.

У каждай ведзьмы е свой чорт, які вучыць, што трэба рабіць. Ведзьмы могуць прэўрашчаць людзей у звяроў, у прадметы. Чалавек астаецца прэўрашчоным дзень ці трохі болей, а не ўсю жызнь. У яго можа астацца штось ад таго звера, у якога ён быў прэўрашчон ведзьмай.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на ад Пікас Ганны Яфімаўны, 1928 г.н., студэнткай Кілаш А.***

Ну, ета ж ведзьмы бываюць перад святам Іван Купала. Усягда ставяць старыя людзі і маладыя цяпер ету свечку свечаную страсную і крапіву вешаюць на дзвер хлява, штоб не забірала ведзьма малако.

Дак када была мая мама старая, паставіла, а яе пагрызлі. Мама шчарбатая, бяззубая, а то такія на свечцы дробненічкі зубачкі, дак маці казала: “Эта маладая, эта ведзьма маладая”.

Яна і кошкай магла зрабіцца, і сабакай, і свіннёй. Ведзьма можа і свіннёй здзелацца, да й хрухаць. А еслі, гавораць, што паб’еш, дак можа адразу чалавекам здзелацца.

***Запісана ў в. Заліп’е Гомельскага р-на ад Фарпоставай Іны Ісакаўны, 1931 г.н., студэнткамі Юрчанка Н., Радзькінай Т. (2002 г.)***

Васіль Дземідаў ішоў з Дзятлавіч, унізе, па ўзваллю. Узвалле – луг. Ён, значыць, ідзе, а дзеўкі, красівыя, валасы па пояс, забягут наперад, смяюцца, нагу падставят яму, ён упадзе, яны зноў давай смяяцца. Падымецца: “Да, дзеўкі, да не трогайце вы мяне”. Ён стане ісці, яны зноў яго піхнуць, ён упадзе, яны: “Ха-ха-ха!” Тут ён і дагадаўся, што што-та нядобрае, тут і давай крычаць: “Марына, ратуй мяне, Марына!”

А яны там крайнія жылі, дак ужо людзі ці шчо пачулі, я ня знаю, як ён ужо прыбіўся дадому.

Жыла адна баба, Гарпінай звалі. Не любілі яе, казалі – ведзьма. Яна ўсё плахое людзям паддзелвала. Ну вот здзелалася яна каровай. З жэншчыны здзелалася каровай. Ну, ідуць з клуба. Нашы ж такія пажылыя мужчыны знаюць. Яна ідзе і трэцца аб іх. Да адзін узяў палку і палкай яе. І яна ціхонька пайшла дамоў. Назаўтра ён прыходзіць і к ёй дамоў. Пытае ў мужыка: “А дзе Гарпіна?” Той: “Ды

вось дзе чэрці яе насілі, ці нагу, ці руку, хто ёй перабіў. Дык вось ляжыць вонь". Ну, а карову ж ён ударыў, а па жэншчыне – дак ці па руцэ, ці па назе атрымалася.

Вот так дзелаліся: каровай дзелаліся, катом дзелаліся.

Я чула, што малако маглі забраць у каровы і перадаць другому хазяіну. Яны ж і малако ў кароў адбіралі, і так рабілі. Ё такі дзень, калі яны ета ўсё рабілі.

Ну, вось яна накалдуе ўжо етаму чалавеку, той і балее крэпка, пакуль людзей, што дапамогуць, не нойдзе. А людзей нойдзе, так тыя і кажуць, што табе паддзелалі.

Мне самой паддзелалі. Падруга паддзелала. Мне да таго плоха стала, слабенькая такая зрабілася. Пайду, пагляджу кароўку, прыду дамоў, хочу есці - не здолею, сяду есці – лыжка падае. Я і вып'ю – нічога.

Тады прыязджала сястра: "Сонечка, у нас бабка шэпча, так яна мне сказала, што твая сястра вось-вось памрэ, адна нага яе ў грабу".

Нагаварыла вады яна мне, прывязла. Я пасцель ізбрызнула, сама ўмылася і легла тады памаленьку. Даждалася я ту бабку. Моліцца яна нада мной і гаворыць: "Табе паддзелала твая падруга, каторая ела твой хлеб і соль, яна табе паддзелала".

Нагаварыла мне етае вады, я ёй палажыла дзенег пяць рублей. Яна кажа: "Прыйдзеш дамоў, яна бывае к табе прыбяжыць, штоб ты яе не пускала". Яна (падруга) больш не прыходзіла. Я папіла этае вады і з тых пор стала выздараўліваць. Ета страшнае дзела, еслі яна на цябе зазліцца, так шчо хочаш яна табе здзелае.

Нічога не баліць, аслабееш – і ўсё.

***Запісана ў в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на***
***ад Васільевай Соф'і Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Юрчанка Н., Радзькінай Т.***
***(2002 г.)***

Ведзьмамі былі плахія жанчыны. Аны ўсё маглі зрабіць. Маглі ператварыцца ў каго захацяць. Гаварылі, што еслі ўбачыш яе, то трэба перахрысціцца і прачытаць малітву.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Сталы Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на)***
***студэнткай Мазоўка Г.***

На адну жанчыну, гаварылі, што ана ведзьма. На Шчодры бегла чорная кошка, і её стукнулі па наге. І ўсю жызнь та жанчына кульгала.

Ведзьма малако ад кароў адбірала, ці карова давала горкае малако. Яна (карова) не заходзіла ў двор. Нада было сабраць ружные цветы, пасыпаць іх каля двара, тагда ведзьма адступіць.

***Запісана ў р.п. Бальшавік Гомельскага р-на***
***(раней пасёлкі № 1, 2, 3, 4 торфазавода "Бальшавік")***
***ад Шкода Г.Д., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петрачковай К.***
***(2001 г.)***

Ведзьма – эта очынь плахой чалавек, каторый дзелая людзям врэд. Ведзьма можа превращчацца ў свінью і дажа можа ў ката. У нас адна жэншчына магла гэта рабіць. Сын начал гуляць з дзеўкай. Ана не хацела, штоб гулялі. Здзелалась свіньёй, прыгнула, бросілась, а сын отрубіл ей вушы. Патом прышол, а матка – без вушэй. Он дагадался, што ана ведзьма. Нада ж, здзелацца свіннёй. Во было!

Кагда ведзьма ўмірае, нужна ўзрываць паталок. Без гэтага яна не ўмрот.

Ішчо была вядзьмоўства. Развадзіла адна ў нас маладых, штоб не жылі. Ані пераходзяць дарогу маладым, дзелают спецыяльна. Ні в коем разе нільзя дзелаць так. Маладыя всю жызнь очынь плоха будут жыць. Паддзелывалі ведзьмы, клалі чорны клок трапкі пад падушкай. Я ноччу нашла іголку ў падушкі. Утрам распарола – нічыво нет.

Адін раз убірала ў кварціры, нашла пасцёганы мужскі рэмень. Хаця ў рукі браць нельзя. Нахадзіла ў сябе между крэсел две шаршаткі іголак. Ні з таго, ні з сяго – новенечкая іголка возле дзверы, адзін раз – булаўка. Эта штоб у нас былі дома стычкі і агонь.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Анісімавай Антаніны Майсееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Царковай В.***
***(2001 г.)***

Ведзьма – гэта ўжо страшная жэншчына. Яна ўсюды: і каля дома, і ў лясу, і ўсюды. Такая страшная, кудлатая, уся ў валоссі, падобная на чалавека, але страшная.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Валасянкінай А.І. 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

А ў ведзьму дык і я веру. Дзеўкай была, дак матка крычыць: “Карова мо забалела”. І не даець малака, і не даець. Дак бацька мне мой ужо патом гаварыў, што за хлевам сядзіць, а тут і вароты на замку раскрыліся, і яна тут з вядром. А ў вядрэ малако плёхаецца, мо ўжо дзе надаіла. Дак валасы аж да ж …, ды голая. А бацька яе – пу́гаю, пу́гаю. А патом не заходзіць к нам наша суседка. А пашла я за вадой, дак ана ў сініх пісягах уся.

А то шчэ і ката нашага дужа не любіла яна, а кот жа чуствуець, хто гдзе. Але ж былі і харошыя ведзьмы.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Свірыдзенка Таццяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай А.***

Ведзьмы ператвараюцца ў жывотных. Яшчэ мая бабуля паведала такую гісторыю.

У яе саседкі ў агародзе сталі засыхаць градкі. Наверна, цераз нядзелю яе муж вылавіў там жабу і пераламаў ёй лапы. Пасля таго ўсё стала расці. Але ў сяле сталі казаць, што ў другой саседкі зломаны ногі і яна не можа хадзіць. Еты сасед, што пераламаў жабе лапы, пайшоў к ёй і сказаў: “Не лазь, дзе папала – будуць ногі цэлыя”.

***Запісана ў в. Мармаль Жлобінскага р-на***
***ад Гладкай Елізаветы Ільінічны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Аўсянікавай С.***



Ведзьма з’яўлялася вернай служкай чорта. Яна тожэ робіць плоха людзям. Ведзьма мае чалавечы воблік. Яна заўсёды крывая, мае бародаўку, чуць валасоў, лішні палец або аднаго няма. У ведзьмы двайны рад зубоў. У іх мужны, суровы позірк спадылба, прычоска неахайная, зморшчаны лоб, густыя бровы, якія зрасліся. Адным словам, ведзьма вельмі страшная. А голас у яе хрыплы, таму яны ўвесь час маўчаць або бурчаць без перапынку.

Ведзьмы звычайна пачынаюць з таго, што носяць нацельны крыж пад пятою, забываюць абразы і малітвы і пачынаюць браць урокі вядзьмарства ў прыстаўленых да іх чарцей. З першых урокаў яны выракаюцца ўсяго святога, бацькоў і сваякоў, абяцаючы варожа адносіцца да ўсяго, што не мае дэманічнай афарбоўкі.

Большасць жанчын, чым мужчыны, становяцца ведзьмамі. Ведзьмы вядуць сумеснае жыццё з нячысцікамі, ад якіх маюць нават дзяцей. Вось, калі ведзьма робіць зло людзям, яна можа передзелаць людзей у розную істоту. Людзі увесь час хацелі ізбавіцца ад ведзьмы, шукалі спосабы зрабіць гэта. Ведзьма не чувствуе болі, калі яе б’юць, але чувствуе, калі б’юць па яе цені. Калі людзі відалі яе, то яны забівалі гваздзём цень ведзьмы - вось тады яна нікуды не збяжыць.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Шчэрбін Праскоўі Яўфрэмаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Сузько Л.***
***(2003 г.)***

Ведзьма – ета жанчына, якая мае нячыстую душу. Таму і абшчаецца з сілаю нячыстаю. Ведзьма можа ператварацца ў каго-небудзь. У яе ёсць чатыры клыкі.

Маці расказвала, што калі яна была маленькая, то ў іх вёсцы жыла ведзьма. Яна ператваралася ў карову, свінню і г.д. Ведзьма магла ператварацца ў які-небудзь прадмет. Людзі сталі яе баяцца. Потым яе спалілі, але яе дух лётаў яшчэ доўга па вёсцы. Пасля етага людзі казалі, што з вёскі трэба зняць яе калдаўство, але ніхто не мог етага зрабіць. Праз некалькі гадоў людзей напаткала няшчасце. Многія з іх памерлі, а многія паз’язджалі, засталося чатыры сям’і. Праз некалькі гадоў і яны з’ехалі з ентай вёскі, таму што адбылася Чарнобыльская трагедыя. Зараз етае вёскі няма. Там засталіся толькі яблыні. Зараз там садочак, дзе людзі бяруць яблыкі.

***Запісана ў в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Ведзьма – ента цёмная жанчына, якая валодала нячыстай сілаю. Яна веравала ў злых і нячыстых духаў. Калісьці ў якойсьці вёсцы дзве жанчыны не падзялілі мужыка. адна з іх пракляла другую. Потым з ентай жанчынаю, якую пракляла другая жанчына, пачалі ад-

бывацца неверагодныя з’явы. У яе памерлі браты і сёстры, жывёла пачала дохнуць, а сама яна захварэла туберкулёзам і памерла. Ёй жа было толькі дваццаць шэсць гадкоў. Людзі пачалі казаць, што другая жанчына – ведзьма, таму што яна пракляла бедную жанчыну.

Людзі па вечарам бачылі яе старой дзеваю, якая хадзіла ва ўсім белым. Кожнай раніцою яна хадзіла ў чорным адзенні. Ноччу людзі чулі на ўсю вёску хрыпы і смех. Смех быў вельмі жудасны. Казалі, што яна здзекваецца над кім-небудзь. Потым енту вёску асвяцілі пасвяцонаю вадзіцаю, а ведзьму спалілі разам з хатай. Вёска ентая стала светлай і цудоўнай. Зараз у ёй жывуць добрыя людзі.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мяшковай Лісы Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Ведзьмы – тайныя людзі, мы іх не бачым. Ім усё аддаецца. Крэпка цяжка паміраюць: ускрываюць паталкі.

Яны абладаюць чорнай магіяй. Людзям, якія знаюць усё, ім не вязе. Ім кідаюць абы-чаго на забор. Бывае, людзі сохнуць, чахнуць, худзеюць – ведзьмы што-то дзелаюць.

Быў адзін бацюшка, крэпка ўрэд людзям дзелаў.

Есць такія, што малако адбіраюць. У адабраным малаке заводзяцца чэрві. Была жэншчына, адбірала малако: сабірала ў фартух след ад каровы.

Ілі (я была малая) захажу да адной жэншчыны, а ў яе стаіць ступа, з баку дзірачка – з яе бяжыць малако ў банку. А я тады не панімала.

Яшчэ так бывае, малако адбіраюць: цаўём нож у сценку забіт і з яго цячэ малако. Есць такія жэншчыны, што чымсьці яны лечаць. К ім ходзяць, запісываюцца. У іх які-та магніт. Раждаюцца такія адароныя людзі. Ім ложыш ложку жалезную на грудзі, а яна не падае.

Бывае, коціцца ўночы калясо па вуліцы. Мама гаварыла, што то пан ехаў у каляске да баб, што на версе горкі граблі сена, а тут паднялась шура-бура (шчас гавораць “смерч”), яго панясло. Доўга шкуматала, пан памер. От можа і то нячыстая сіла.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Дудзянавай Вольгі Сямёнаўны, 1928 г.н.***
***(перасяленка з в. Ачэса-Рудня Добрушскага р-на)***
***студэнткай Тупіцкай А.***

Ведзьма – гэта такая жанчына, якая паддалася спакусам д'ябла. Яна многа награшыла і ўвайшла ў цесную сувязь з дэманам. Звычайна яе баяліся і абыходзілі стараной, таму што яна магла зглазіць, наслаць порчу, праклясць.

Жыла ў нашай дзярэўні адна такая. Раз пасварылася яна з адной бабай, і ў гэтую ж ноч у гэтай бабы загарэўся сарай. Жыла гэтая ведзьма на адшыбе, бліжэй да лесу, у такім доме, які хутчэй быў пахожы на хлеў ці зямлянку. І нават пасля яе смерці ніхто не асмеліўся зайці ў яе дом. Яго падпалілі, і гарэў ён цэлую ноч і дзень.

А яшчэ мне маці расказвала такую гісторыю. Калі я была маленькая, мы жылі на Украіне ў вёсцы Вужгарад. Я была вельмі хворым дзяцём. А недалёка ад гэтай вёскі ёсць пяшчэра, у ёй заўсёды калдавала адна жанчына. Мая маці не згаджалася доўга на ўгаворы аднавяскоўцаў, каб гэтая калдуння мяне палячыла. Але потым згадзілася, і мы ўтрох (маці мая, гэтая жанчына і я, зусім малая) пайшлі ў гэтую пяшчэру. Як расказвала мне ўжо потым мая маці, гэтая калдуння начарціла круг, паставіла вакол свечкі. Мы сталі ў гэты круг, і варажуня пачала нешта бубнець. Вакол гэтага круга павыходзілі цені і сталі хадзіць вакруг. Мая маці вельмі спужалася, а жанчына растлумачыла, што мы стаім у крузе, і нам яны нічога не зробяць і што гэта духі яе сям'і, якія таксама былі варажбітамі і зараз дапамагаюць ёй. Як не дзіўна, але потым мне стала лепш і ўжо шмат гадоў я амаль не хварэла, а мне ўжо, слава Богу, 89 гадоў.

***Запісана ў п. Куляшова Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Ермаковай Ганны Кірылаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Пруднікавай І.***
***(2003 г.)***

Так, ведзьма – гэта страшная жэншчына, да яе і жэншчынай не назавеш. Яе так проста не ўгадаеш. Яна ж нікаму не скажа, што яна такая. Вот она жывёт на краю сяла і жджэ свайго часу. А яна не любіць такіх красівых, добрых дзевак і хоча ім наўрэдзіць, забраць у іх красату. А ешчо ведзьмы загаворваць могуць, праклінаць. От, калі не панравіцца ёй чалавек, дык она его праклінаць будзет.

Ведзьма очэнь малчалівая. Яна, гавораць, ноччу з коміна вылятае, але ў гэта мала хто верыць. Гавораць, што яе плоха ўгадаць, але ўсё ж такі можна. От кагда ана печ запаліць, дык дым проці ветра іці будзе. А ешчо ў неё чорныя кошкі жывуць, а больш у яе хазяйства

няма. Яна з чортам дружыць. Яны адзін аднаму ўсё памагаюць. І ў неё, как у чорта, хвост ёсць, гаворацць, дык яна яго ўсё прачыць. А сама яна гарбатая і страшная.

Гавораць, што ведзьма панімае, што жывотныя гавораць. А інагда яна і сама ў іх абарачаецца і тады ўсё бегае ды пакасціць усё. Дажа часта ў лес забягае.

А вот у другім сяле быў случай. Ішлі вечарам хлопцы дахаты. І тут на іх стала кідацца дзікая свіння. Яны тады ўзялі палкі і пабілі яе. На другі дзень убачылі, што іх суседка ўся пабітая ходзіць.

А яшчэ я знаю, што ведзьмы болю не баяцца. Калі яе будзеш трогаць, дык яна і не пачуствуя. А калі наступіць ёй на цень, то ёй будзе больна.

Ведзьмы толькі пакасцяць. Яны дажэ вот могуць нагнаць на чалавека порчу, калі яго дзе ўбачаць. А могуць, і не бачыўшы, па фатаграфіі. Вот такіе вот гэтыя ведзьмы злыя.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Жураўлёвай Матроны Давыдаўны,***
***студэнткамі Завадскай В., Шышкінай С.***
***(2003 г.)***

Ведзьма – гэта жэншчына, каторая очэнь награшыла. І злая вельмі. Яна з д’явалам мае кантакт. Яе людзі вельмі баяліся. Счыталі, калі ведзьма паглядзіць на малако, то яно ўкісне. А калі паглядзіць на карову, тады карова малака не дасць.

У нашай дзярэўні таксама была ведзьма. Яе вельмі баяліся. Гаварылі, што яна можа ператварацца ў чорную кошку. Аднойчы яна прыйшла ў мой двор у раніцу, у пяць гадзін. Была зусім голая. І яна прывязвала кускі чырвонай ткані ў двары: на дзерава, на забор, на гародніну. І я выйшла і прагнала яе. Потым пазбірала гэтыя кавалачкі тканіны і сажгла, а потым на перакростку рассыпала пепел. А калі гэтая ведзьма памерла, то ў яе хаце ўзрывалі крышу, каб выйшла душа з хаты.

***Запісана ў в. Лазараўка Рэчыцкага р-на***
***ад Стрэльчанка Фаіны Несцераўны, 1925 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Велін Рэчыцкага р-на)***
***студэнткамі Сарокінай І., Сілко С., Навуменка Н.***
***(2003 г.)***

Ведзьмаў усюды хватае. І ў нашай дзярэўні тожа ё. На Купалу яны на Лысай гарэ ўсе збіраюцца і пляшуць там. На той гарэ дзярэўї ўсе віхрам выкручаны, паломаны. Там дажа трава не расце. Пясок такі на попел пахожы, як прысак. Ад людзей ведзьма на від нічым не адрозніваецца. Дажа і красівыя бываюць. Толькі жывуць яны самі па сабе. Ходзяць, маўчаць, і позірк у іх якісьці злы. Ну, на тое яны і ведзьмы. Гавораць, што ведзьмы малако ў кароў адбіраюць ці кісляць яго прама ў вымі. Шкоды яны робяць багата. Луччай з імі не звязвацца. А то калі палаешся з ёй, то, шчытай, прапала ўсё. Яна і табе якую хваробу нашле, і тваім дзецям, і хазяйства ўсё перапорціць.

Ведзьмы ўсягда ходзяць па лесу і збіраюць усякую траву. Яны ж шчэ і лячыць могуць. Калі папрасіць, так і пашэпча, і зглаз вылечыць. Ішчэ, гавораць, што яна панімае ўсіх жывёл, пціц, што яны на сваёй мове размаўляюць.

На Купалу ў ведзьмаў празнік. Уночы яны вылятаюць са сваіх хат і шкодзяць усім. Таму нанач трэба вешаць усюды на замках крапіву. Ішчэ на форткі вешаюць, на вокны кладуць і на гладышкі з малаком, каб ведзьма не папорціла малака і ў хату не залезла ці ў хлеў, каб нашкодзіць.

Ведзьмы і ператварацца могуць у кошку, ці ў свінню. Бывае што і ў жабу, і ў змяю. Быў случай адзін.

Ішлі хлопцы ўночы з гулянкі. Ужэ пад ранне было. Ну і бачаць – свіння бяжыць, здаровая такая. Яны сталі і глядзяць, куды ж яна пойдзе, а самі думаюць, чаго ета свіння ўночы гуляе, можа ў каго з хлява вылезла. А етая свіння міма не пайшла, а за імі наўздагон. Ну яны, хлопцы, хто-куды ўцякаць. Адзін хлопец схапіў палку ды давай яе лупіць па галаве і нагах. А тады дадумаўся па цені біць. Дак тая свіння як завішчала ды як пабегла. Гавораць, што калі па ведзьме самой б’еш, то ёй не баліць, а калі па цені, тады яна крычыць, таму што баліць, і ўцякае. Назаўтра ўжэ бачылі адну бабу з нашай дзярэўні, якая кульгала чаго-та. Спрасілі, што з нагамі, а яна кажа, што ў пограб упала. А ета, мабыць, яе і пабілі ўночы хлопцы.

А то жалі ўжэ пад восень жыта і тут пасярод поля стаіць звязаны пук каласоў, а самі галоўкі з зернем заломаны і пяском прысыпаны. Ну, дзеўкі хацелі яго, гэты пук, зрэзаць, а адна жанчына падышла і сказала, каб мы не чапалі, бо гэта ведзьмін залом. Сама ж яго распутала, вырвала з карэннем і забрала з сабой. Ета, наверна, яна еты залом і зрабіла.

Гавораць, што калі памірае ведзьма, то ёй абязацельна трэба перадаць сваю сілу каму-нібудзь. А так яна будзе доўга мучыцца і не памрэ. Ішчэ калі такі чалавек памірае, то крышу нада разабраць, каб лягчэй памерла. Калі ўжэ ведзьма перадасць сваю сілу, то тады яна ўжэ лягчэй памірае. Для таго каб перадаць тое, што яна знае, ведзьма павінна дакрануцца да таго чалавека, якому яна хоча паведаміць магію.

***Запісана ў п. Арол Лоеўскага р-на***
***ад Святочнай Ганны Фёдараўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Зыбко В.***
***(2003 г.)***



Ведзьмы – эта жэншчыны, якія водзяцца з чортам. Яны робяць людзям шкоду: малако ў каровы могуць забраць, порчу навесці.

Раз у год усе ведзьмы сабіраюцца ўсе ў адным месцы і хваляцца друг другу, хто людзям шкоды больш нарабіў. Ніхто, кроме ведзьмаў, не ведае, дзе тое месца знаходзіцца, но людзі каторыя гавораць, што на Лысай гары ў Кіеве.

Мая знакомая адна дый расказвала мне, што бачыла сваю саседку, як тая на мятле ляцела к свайму дому, а тут якраз певень запеў, дык яна і бухнулася, не даляцеўшы дахаты, прама ў жыта. Пра этую жэншчыну многія гаварылі, што яна ведзьма. А я, як жыла ў другім доме, дык у мяне там тожа саседка шкоду рабіла. Падкідвала мне штосьці пад сарай, што мая карова аж на сценку лезла і малака не давала. Ну я думаю: “Трэба ж цябе падпільнаваць”. Ды так і не палучылася. А я всё равно знаю, што эта яна мне шкоду рабіла.

Цяпер этай жэншчыны ўжо няма ў жывых. А ў хаце яе, што засталася, дык ніхто не можа ўжыцца. Ужэ сколькі дачнікаў куплялі ету хату і ўсе прадаюць.

***Запісана ў в. Салтанова Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Марыі Канстанцінаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Васілюк А.***
***(2003 г.)***

Ведзьма – гэта такая жанчына, каханка чорта. Яна прадала яму душу за тое, каб умець калдаваць і каб чорт спаў з ёю.

Ведзьма або калдун маглі паяўляцца ў выглядзе ката, вароны, старой жанчыны або старыка, змея (вужакі).

Помню, у нас праз два дамы жанчына жыла. Прышлая яна была. Ніхто і не знаў, адкуль яна была. Страшная была, чорная вся. Валасы чорныя, глаза чорныя, скура вся цёмная. А мужыкам яна нравілася. Табунамі ў яе хату хадзілі. Так вот, яна ведзьмай была. Штосьць такое з мужыкамі дзелала, патом і яны, і жонкі іхнія нездаровыя былі, хварэлі многа. А яна пасля вясёлая такая хадзіла. Жыццё яна з іх піла, точна.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Масквіной Неанілы Аляксандраўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Грабаўка Гомельскага р-на)***
***студэнткамі Вальчанка В., Чарпухінай Я., Канавалавай В.***
***(2003 г.)***

У нас у сяле раней многа казалі пра ведзьмаў гэтых. То булі ведзьмы, якія ўсё гора людзям рабілі. Усе бабы булі адзінакавыя. У іх, етых ведзьмаў, булі вочы дужа лупатыя, косы ўсягда заблутаныя ў каўтуне, што таго каўтуна і не вычашаш, а косы доўгія булі.

А ў нас у сяле жылі й шаптухі тыя, што шапталі малітвы і так лячылі людзей. Зараз дык ужо ўсе паўміралі і няма іх, добрых тых. Шчэ яны травы розныя збіралі ды й лячылі. А була адна шаптуха, дык яна вадою лячыла. Усягды брала ваду з трох калодзезяў, дык шчэ, каб ніхто не бачыў, ноччу. Ды ў сяле ўсе людзі такія, як хто што робіць, дык убачаць ўсягды.

Многа зла тады рабілі ведзьмы тыя людзям. Калі то быў Юр’еў дзень, дык вядзьмаркі йдуць у поле і завіткі ў жыце завіваюць. Шчэ мой дзед казаў, што пайшоў у еты дзень раннем у поле – жыта паглядзець ці то коней глядзець.

Паглядзеў жыта, а там баба гола сядзіць ды й шэпча нешта, а сама ж гола, як маць нарадзіла. Косы свае распусціла, ды й нешта круціць тое жыта. А дзед пабачыў яе, дык як ухваціў яе за коссе, а яна зразу ж гадзюкай перакінулася. Шыпела так на яго, што, здаецца, вось-вось ужаліць. Як пабачыла, што крэпка дзяржыць яе, дык стала прасіцца чалавечым голасам, каб пусціў яе, а ён шчэ крапчэй яе дзержыць ды й кажа ёй: “Браў я цябе жэншчынай і не адпушчу, пака не зробішся жэншчынай, а так і ў сяло аднясу”. Дык зразу тады й прэўрацілася маладзіцаю. Толькі сільненько ўжэ ў яго прасіла, каб не казаў нікому ў сяле. Ён жа ёй ды й паабешчаў. А сам, як буў напіўся, дык на ўсю дзярэўню растрашчаў. А яна яго наказала тады: у каровы малако ўсё забрала. Зрабілася вымя ў тэя каровы бу камень. Дык тады забілі тую карову, а новую ўзялі.

Вядзьмаркі тыя людзям і жыта ўсе завязвалі, з калоссеў зерне павытрушваюць, у кароў малако пазабіраюць. Ды й галадалі людзі, як каму зробіць.

***Запісана ў в. Жахавічы Мазырскага р-на***
***ад Турбал Марыі Рыгораўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Есман А.***
***(2003 г.)***

Выгнали, как всегда, стадо коз на луг. А там баба своих пасёт. Дык Ванька нет, чтобы сразу назад, еще решил их рядом с ней попасти. Она стала и смотрела на наших коз долга. А потом он пришёл дамой, а наши козы – в хлев и попадали. На ноги встать не могли. День лежали, я их не гоняла никуда. Эта баба мне их пасурочила, чтоб ей пусто было. Теперь у меня все козы и казлята из этава памёта на ноги страдают. Слабые очень.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Бурыкінай Галіны Іванаўны,***
***студэнткамі Віцікавай П., Сувалавай Н.***
***(2003 г.)***

Сядзела моладзь на лаўцы. Ну, гулялі там дзяўчаты, хлопцы, як вездзе гуляюць. А тут па дарозе ад целегі калясо каціцца само па сабе. І нідзе няма нікога больш. Ну так. Малы нейкі палез да яго, а за ім і ўсе пасунуліся. Узялі тое калясо ды на гвазда павесілі вось тым местам, дзе калёссі з восею зходзяцца. Ну і забылі на яго. А назаўтра

ўранні бабы кароў выганялі, аж бачаць – на гвазду калдоўка вісіць, і гвозд той ёй праз усю галаву, ад вуха да вуха, прайшоў.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Візікава Мікалая Герасімааіча, 1955 г.н.***
***(пачуў ад бабулі)***
***студэнткамі Віцікавай П., Сувалавай Н.***
***(2003 г.)***

Ведзьма – ето жанчына, яка знаецца з нячыстай сілаю. Вона робіт пагано людзям. Адбірае малако ў кароў, прырабляе. Може зрабіць, шоб чалавек быў нядужы, шоб была сварка ў сям'е, накідае ненавісць на чалавека. Жанчына з доўгімі касамі, як у русалкі. Од обукновенной жанчыны не адлічаецца.

Жанчына прадае душу чорту. Вона ці сама вучыцца, ці ёй перадае ее маці ці бабка. Передаць сваю сілу можна толькі бліжнему родзічу. Жанчына може передаць сваю сілу толькі дочцэ ці ўнучцы, далей сіла вельмі слаба, і чоловек уже не може нічога зробіць. Вона, эк люба жонка, мае сям'ю і дзецей і ведзе хазяйство. То вона ж робіт, шоб воны не бачылі. А як робіт, то не своім.

У нашай дзеревні буў случай. Калі на Веліконне ўсе пошлі ў цэркоў на ўсюношну, у адной сям'е чоловек остаўса дома, штоб сцерегці хату. Уночэ ведзьма переробілась у кота і ўже хоцела зайці ў хлеў, штоб забраць молоко ў коровы. А тут чоловек з сокераю. Вон ек секане ее по нозе, але кошка ўспела ўцекці. Цэлэ лето ведзьма не вулазіла з свого двора – усе лечыла ногу, але ж усе раўно бачылі суседы з перэвязанай ногой.

Чорт обешчае ей разныя багатства пры жызні, а вона доўжна оддаць ему свою душу после смерці і шчэ закласці душы некалькіх своіх родзічоў.

У нас була одна стара жонка – ведзьма, вона знала, шо скоро ўмрэ і вельмі плакала. Не за того, шо скоро ўмрэ, а за того, шо заклала свою душу, двух сыноў і зяця. Вона знала, шо колі вона ўмрэ, то чэрэз тры дня по очэрэдзі воны ўсе тожэ ўмрут.

Вона ў молодосці про етэ не думала, а думала толькі про тэ, чым чорт ёй можэ помогці.

І, напраўда, колі вона ўмерла, то чэрэз тры дня повесіўса зразу одзін сын, потым другі, а потым і зяць.

Колі воны нікому не перэдалі свою сілу, то ім вельмі важко: воны мучаюцца і доўго не можут умерці. Напрымер, одна ведзьма

зоўсім недаўно ўмірала. І вельмі мучылас. Тогды ёй далі ў руку доёнку (доёнку, бо вона пры жызні одбірала ў людзей молоко) і пробілі дзірку ўверсі, і тогды вона полецела. І шчэ перэд своёй смерцю вона сказала, шо зоўсім скоро ў Гомель прылеціць іхня глаўна ведзьма.

Першы раз я ўбачыла ведзьму, колі мне було столькі, як тобе – 18 год. Шчэ не ўзышло сонца, я шла по грыбы і тут чую жоночы голос: "І-го-го, і-го-го!" Я обернуласа і ўбачыла голу жонку, ека скакала верхом на косе і крычала "І-го-го!". Я вельмі спужаласа, зразу ў мене пудкосіліса ногі, а потым я схавалася за дзерэво.

Слава Богу, яна мене не бачыла.

***Запісана ў в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на***
***ад Бурым Варвары Якаўлеўны, 1930 г.н.,***
***студэнтамі Кашавар В., Сабуравым Дз., Козыравым С.***
***(2003 г.)***

Выпадак здарыўся ў вёсцы Клімкова, там усе пра тое і зараз помняць. Неяк усюды і разам каровы пачалі сохнуць, і малака ў іх зусім не стала. Яўна чары. Па ўсіх аколіцах пачуліся скаргі і нараканні, але нельга было дазнацца, адкуль гэта "ліха" пайшло. Выпадкам сторaж з Клімкова, вяртаючыся на золку дадому, убачыў, як з хаты вылецела белая, як снег, варона. Здагадаліся, што там жыве вядзьмарка. Пачалі рознымі спосабамі цікаваць за ёю, каб раскрыць яе зладзейства. Нарэшце, дзіўным чынам усё само адкрылась. У купальскі вечар тая вядзьмарка схавалася сярод дзікіх лясоў, хапала далонямі расу і клікала нячыстую сілу, каб з усіх збірала малако і налівала яе начынне. А кабету за некалькі дзён перад тым нанялі служыць і не ведала, што яе гаспадыня, каб начынне было чыстым, усе гліняныя збаны і драўляны посуд перавярнула ўверх дном. Нячысцікі ж цэлую ноч насілі малако і, не бачыўшы таго, лілі яго на падлогу. А калі сонца ўзышло, уся вёска ўбачыла, што цэлая малочная рака цякла із-пад хаты чараўніцы. Не мінаваць бы ёй у той час смерці. Але даведаўшысе пра тое, што здарыласе, перакінуласе ў птушку і паляцела некуды далёка.

***Запісана ў в. Кругавец-Калініна Добрушскага р-на***
***ад Анішчанкі А.І., 1928 г.н.,***
***студэнткай Яўцюшкінай Т.***
***(2002 г.)***

Дзверы ў хлеве затыкалі крапівой, каб ніякія ведзьмы не пралезлі туды.

Каб ведзьма не ўкрала ў каровы малако, трэба ў цадзілку пакласці 3 іголкі, а потым малако праз калітку выліць. Тады паявіцца малако ў кароўкі.

Яшчэ было і такое, што дзяцей кралі, або іх у лес заманьвалі. У мяне ў знаёмай сыночку 8 годзікаў было. Пайшоў гуляць і не вярнуўся. Казалі, што бачылі недалёк ад лесу з нейкім чалавекам з чорным плашчом. А ішоў ён, казалі, нібы ляцеў. Яго клікалі, клікалі, а той як бы не чуе сабе і не агледжваецца. За імі пабяжалі, а тут глядзяць – ужо і няма, зніклі кудысьці.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сакун Аляксандры Адамаўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў з в. Губарэвічы Хойніцкага р-на)***
***студэнткай Кандаковай Н.***
***(2003 г.)***



Ведзьмы – гэта жанчыны. Яны не ходзяць у царкву і могуць калдаваць. Яны робяць заўсёды што-небудзь нядобрае. Могуць нагнаць балезні на чалавека ці неўражай дажа на ўсю дзярэўню.

Яшчэ мая маці мне расказвала, што ў іх у дзярэўні жыла старуха. Яна была непрыгожая, ніколі ні з кім не разгаварвала, дзяцей у яе не было і, наверна, нікаго з радні тожа, бо ніхто нікагда к ёй не прыязджаў. Лічылі, што яна ўмела калдаваць. Бо, расказвала маці, быў аднажды случай, што гэта старуха ішла па дарозе, а насустрач ёй жанчына, дык яна схапіла яе за палец і спытала: “Колькі часу?” Дык тая руку вырвала, спужалася і нічога не адказала. А назаўтра ў яе палец сільна балець стаў і пажаўцеў. Дык жанчына пайшла ў царкву, асвяціла ваду і ёю сабе палец кожны дзень мыла, дык усё і прайшло. А яшчэ чула я,

што ведзьмы з чарцямі дружаць ды ходзяць к ім на балота за разнымі травамі, каб потым людзям што-небудзь рабіць.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Прыбышэня Эмы Ігнацьеўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Марусенька Жлобінскага р-на)***
***студэнткай Прыбышэня Ж.***
***(2003 г.)***

На выгляд ведзьмы былі жанчынамі сталага ўзросту. У іх былі чорныя, сівыя валасы і чорныя злыя вочы. Яны заўсёды глядзелі ў зямлю, каб людзі не здагадаліся пра іх намеры. Ведзьма не магла жыць добра, пакуль каму-небудзь не зробіць дрэнна. Яна заўсёды толькі зайздросціць людзям і ніколі не зробіць добра ім. Ведзьме падпарадкоўваліся такія жывёлы, як пацукі, лятучыя мышы, чорныя кошкі. Таксама яна магла пераходзіць у іх выгляд, і здагадацца аб тым, што гэта ведзьма, можна было па вачах або па цені. Ведзьма заўсёды жыла ў тым доме, які стаіць асобна ад іншых. А калі зойдзеш у яе дом, то сцены на цябе давяць. І, здаецца, што няма паветра ў яе хаце. Тады хутчэй трэба бегці з хаты, глытнуць свежага паветра і перахрысціцца.

Ведзьма заўсёды выйдзе з хаты і выглядае, якая карова лепшая, ці выглядае тую карову, з хазяйкай якой яна пасварылася. Тады ноччу, у 12 часоў, то катом, то стаўбом прыйдзе карову даіць. Карова ўжо не такая, як трэба – не стаіць на месцы, малака няма. Тады трэба ўжо зваць знахарку, каб тая зняла сурок. Быў аднойчы выпадак такі і са мной.

Ішоў аднойчы знаёмы мужчына па нашай вуліцы і ўбачыў, што сунецца з нашага двара, сунецца, бы калода, і далей пасунулася, тады шчэ раз ішоў. Бачыць, скача стары чорны конь, аж стогне зямля, вочы гараць і дым з ноздраў. Праскакаў каля яго і знік, ні ў гэтым баку няма, ні ў тым.

Многія ведзьмы, як тыя вампіры, пагглядзяць сваімі злыднюткімі вачыма, дык энэргію забіраюць на ўвесь тыдзень.

Многія ведзьмы сядзяць на скрыжаванні дарог. Таму не трэба хадзіць, пераходзіць па перакростку на крэст, ці зразаць, а трэба ісці па паралелі. Многія так сабе хвароб назараблялі.

Сярод нячысцікаў ведзьмы ў нас самыя врэдныя і злыя. Таму людзі іх і баяліся. Ведзьмы маглі людзей пераўтвараць у розныя істоты (мядзведзя, ваўка, ястраба, жабу і г.д.). Па гэтым

пераўтварэнні ведалі, які быў характар у чалавека. Гэты выгляд захоўваўся нядоўга, але захоўваў след. Верылі, што барадаўкі насылае ведзьма.

*Запісана ў в. Маладуша Рэчыцкага р-на ад Васілец Еўдакіі Паўлаўны, 1920 г.н., студэнткамі Дзяйкун М., Толкач М. (2003 г.)*

Ведзьму лічылі нячыстай сілай. Гэта вельмі страшная жанчынка, старая. У яе заўсёды распушчаныя валасы. Ведзьмамі называлі некаторых жанок, якія рабілі ўсякія гадасці людзям. Яна магла перадаць свае ўмельства сваёй дачцэ, але толькі перад смерцю. Ведзьма магла ператварацца ў якую-небудзь жывёліну. У вёсках такіх людзей не любілі, гналі куды далей.

*Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на ад Журо Юліі Сцяпанаўны, 1930 г.н., студэнткай Курбасавай Ю. (2003 г.)*

Як-та раз у вёсцы ў людзей гора случылася. Не стала ў кароў малака, і не ў адной каровы, а амаль ва ўсіх. Усе хацелі дазнацца, што случылася, як спасацца ад гэтай напасці. Адзін мужык, ідучы дадому, убачыў, што з акна адной хаты вылецела белая, як снег, варона. Ён расказаў, што варона вылетала, а мудрая баба сказала, што гэта там вядзьмарка жыве. Пачалі людзі назіраць за той хатай, каб вылавіць гэту варону. Але ў купальскую ноч само па сабе раскрылася. Тая жанчына ў лесе стаяла на каленях і хапала, рвала траву і зямлю, і звала нячыстую сілу, каб адабрала ва ўсіх кароў малако. А потым перакінулася ў варону і паляцела. Людзі падсцерагалі гэту варону каля дома і пачалі яе палкай ганяць. Даў адзін вароне па назе, а та праляцела.

На наступны дзень убачылі гэту жанчыну з перавязанай нагой, хадзіла і кульгала. Так і здагадаліся, што гэта яна была варонай. Пачалі гэту жанчыну людзі ганьбіць і клясці, зганяць яе з вёскі. Калі ўвайшлі ў яе хату, то ўбачылі, што там было шмат розных траў і шмат малака.

Людзі казалі, што ведзьма можа ў любую жывёлу і птушку ператварацца, ва ўсіх, у каго захоча. Яна ператвараецца ў вужа і ссе ў каровы малако, можа ў жабу ператварыцца.

Каб засцерагчы жывёлу ад ведзьмы, трэба ў вербную нядзелю пабіць карову свяцонай вярбой. Можна яшчэ ў чысты чацвер падразаць карове хвост, і вешалі яго пад страху хлява.

Гаварылі, калі ведзьма памірае, то не можа памерці. Тады здзіраюць страху, раскрываюць дзверы, вокны, уздзіраюць падлогу. Гавораць, што ведзьме трэба перадаць свае чары другому чалавеку, тады яна лёгка памрэ.

***Запісана ў в. Хуснае Петрыкаўскага р-на
ад Пракапенка Вольгі Пятроўны,
студэнткай Дыба Г.
(2003 г.)***

Калісь матка маёй бабы выжала завіць у жыці, як жала жыта. А сама яна етага ня знала. Бо як сьпеклі хлеб з таго жыта, дак ён горкі быў. І яна забалела, аж пры сьмярці ляжала. А яе суседцы да прысьніўся сон. І прысьніўся ёй дзядок адзін, да й кажа: "Я цябе навучу шаптаць, а ты ідзі і пашапчы сваю суседку. І шапчы яе дзевяць дней. Бо ета ёй Лутаўка зрабіла завіць". От шаптала яна матку маю баба восім раз. А як сабралася на дзявяты раз іці шаптаць, і толькі пералазіць чараз плот, аж явілася Лутаўка. Да як падляцела віхрам, да як кінулася на яе, дак тая аж аблегла. Ета ж тая ведзьма ня дапусціла, шоб Хадорка пашаптала дзявяты раз. Ох, дак яна як забалела, дак і к вясне чуць адхаялі.

Я сама проціў іх нічога ня знаю, а людзі ж знаюць. Проціў іх нада шаптаць. І мне раз зрабіла адна на семячках, я іх з'ела. А як сонца заходзіць, дак у мяне ўнутры ўсё гарэла. Аж агнём выпякала. Людзі кажуць: "Ідзі к Чавусу, ён умея аддзелуваць". Я і к яму. Узяў Чавус мяне за руку да й кажа: "Павучылася яна на табе да й добра, мая ты ўнучка". Пашаптаў ён мяне да й сказаў: "Ідзі дадому і не аглядувайся, бо як агляняшся, дак будзя сільна плоха тыбі. І будзя плоха тыбі, як яно будзя выходзіць з цябе, а тая, шо рабіла табе, дак будзя аж канаць, бо ета сіла ўся будзя з яе выходзіць". От як. Прыйшла я дадому, легла на койку, а ў мяне ўнутры ўсё гарыць, аж агнём выпякая. Чуць я ня ўмерла. Ужэ і смярцельная мне прыгатавалі. Дак няхай яны пакруцяцца, тыя вядзьмаркі, шо з людзей сілу і здароўя забіраюць. От як.

Послі вайны людзі галадалі, нічога ня было есці. Таго людзі сільна ірвалі жыта. Дак паставілі стоража, шоб сцярог. Ужо ж ён і расказуваў нам етая. Бачыў ён раз, як ноччу прыйшла адна жэншчы-

на з іконаю. Села на ікону і зрабіла завіць з жыта, а як убачыла стаража, дак сказала: “Калі ты скажаш каму, то табе ня жыць”. І прэдлажыла яму здзелаць з ёю дзела, дак той адказаўся. І ён праклянуўся, і нікому нічога ня сказаў, а толькі як уміраў, дак расказаў. Людзі кажуць, шо то была ведзьма.

Мы калісь, як жыта жалі, дак багата бачылі етых завіцяў у жыці. А старшына казаў, шоб мы іх ня чапалі.

Калісь расказуваў нам адзін чалавек, шо ішоў ён раз ноччу па вуліцы. А адна баба скінулася свіннёй да й кінулася мужыку на плечы. Ён узяў да й схваціў яе спeрадзі за лапы. Учапіўся за яе, прынёс дадому і адрубіў сакераю ёй дзве лапы, і пусціў. А назаўтра, як гналі тавар, дак ён сказаў усім: “Глядзіце, у якой бабы будуць рукі заматаныя”. Тут выйшла Хвеся, а ў яе на абеіх руках па тры пальцы адсечаны. І ўсе ўзналі.

А то, онь, тожа расказувалі пра адну вядзьмарку. Добра рабіць умела, шэльма. Узяла след чалавека да й – у комін. Я ж дак ня знаю такога, а яна от знала. Да яна і шчас ішчэ жыве. А ў таго чалавека вяселле тады было. А калісь жа вяселле, дак на конях правілі. От коні астанавіліся, а тая ўзяла да выцягла з-пад маладых сена жменю. Прама з таго места, дзе маладыя сядзелі. Агледзеліся ўсе, да позна. Тую вядзьмарку спаймалі да папабілі. А ён, бядняжка, чах, чах да й дуба даў. У яго ў сярэдзіне ўсё згарэла, так яму пагана было. От шо.

***Запісана ў в. Малажын Брагінскага р-на***
***ад Касьян Марыі Савельеўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Радкевіч А.***

Я сама родам з дзіревні Залатуха Калінкавіцкага раёна. І вот кагда я хадзіла в школу, была піанеркай, наш клас прыкрепляілі к бабкам, чтобы мы ім памагалі. Мы мылі палы, драва калолі, белілі в доме. І вот меня с падружкай прыкрепілі к адной бабке. А все в дзіревне гаварылі, што ана ведзьма. Но я с падружкай нічево такева неабычнава за ней ні відзелі. Ведзь ведзьма – эта злая калдунья. І есць такой празнік: Іван Купала с 6 на 7 іюля. Все ведзьмы пріврашчаюцца в жывотных і дзелают зло людзям: сасут у жывотных малако. С часа ночі ані гуляют, на лбу ў ніх вырастают рага. В эта время ані наводзят порчу на людзей, пугают іх, наводзят порчу і на жывотных. І меня мая мама ўчыла, чтобы в атрезак времені с 12 ночі я нікагда ні садзілась есць, ні лажылась спаць. Расказала мне мама і пра бабку, каторай мы памагалі. У этай бабкі была дач-

ка. І людзі все гаварылі, что эта бабка передала ей сваю сілу. А рядам с этай бабкай жыла саседка. І вот как-та пашла эта саседка даіць карову. Вашла в сарай і відзіт: стаіт её карова, а лягушка (толька не сама лягушка, а образ лягушкі – такой із цені) сасёт у каровы малако. Ана, хазяйка, взяла вілы і бросіла в эту цень – і пряма в лапу. Этат образ сразу прапал. А ўтрам ана ўвідзела дочку бабкі, каторая шла с завязаным пальцэм нагі. Саседка спрасіла, что ў неё с нагой, а та ей атвеціла, что на поле пракалола. Эта рана ў неё очень гнаілась. І кагда людзі пасаветавалі ей пасыпаць рану сасновай пыльцой – всё как рукой сняло. І ана да сіх пор жывёт там. Людзі гаварят, что і сійчас калдует.

А маць её ўжэ ўмірла. Эта была зімой. І людзі гаварілі, што та долга не магла ўмерець. Кагда ана ўжэ аташла, людзі той ночью відзелі 12 челавек в чёрнам, каторые забралі гроб і ўнеслі. Эта былі черці. А на следушчій дзень бабку пахаранілі. Людзей была очень мала. Все зналі, кем ана была, да і баялісь, ведь хараніла её дочкаведзьма, каторая пріняла сілу злую в себя.

Ведзьма, казалі, прырабляла на скаціну, смактала ў кароў малако з кроўю. І вось ад ведзьмы на Івана перад варотамі вешалі крапіву, каб ведзьма туда не зашла. А на ўсюночную людзі ад каліткі хадзілі с пасвецонай соллю і с макам паўз забор. Нада была так прайсці тры разы. І калі хадзілі, то гаварылі: “Як етых зёрнышак не пазбіраць, так у маём селішчы гада і ведзьмы не відаць”.

***Запісана ў в. Бабровічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Назаранка Анастасіі Сямёнаўны, 1941 г.н.,***
***студэнтам Каравякіным Ю.***

Ведзьмы нечым нагадваюць кікімар знешне, толькі шкоду людзям нясуць шчэ большую. Ведзьмы – гэта страшныя жанчыны. Яны з чорнымі доўгімі недагледжанымі валасамі, з чорнымі грознымі вачамі, бравямі. На від яны вельмі жудасныя. У іх сабрана ўсё самае адмоўнае. Ведзьмы заўсёды шкодзяць чалавеку, ніколі не прыносяць пользы ніякай. Ведзьмы на Івана Купала ходзяць і стараюцца сапсаваць хатнюю жывёлу. Ходзяць ноччу, падстраіваюць, каб карова малака не давала, свіння зламала нагу ці што другое.

Кагда ведзьма ўмірала, яна вельмі мучалася. Каб пазбегнуць гэтыя мукі, у столі рабілі дырку і тая хутка памірала. А калі дырку не рабілі, ведзьма магла сама ўзарваць столь пры дапамозе сваёй магіі,

таму што яна магла ўсё. Ведзьма, калі памірала, то магла перадаць свае спасобнасці каму-небудзь.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Тарун Вольгі Аляксееўны, 1950 г.н.,***
***студэнткай Шамонінай В.***
***(2003 г.)***

Ведзьмы – гэта етыя жанчыны. Етых жанчын адперваюць-та ці крапіўніцай, ці варонай. Гэтыя істоты дзелаюць усякае: каб чалавек памёр, ці чалавек балеў, бяруць яго след. Але можна, каб шкоды не падзейнічалі. Існуюць етаі бабулькі, які адгаворваюць, і ў нашай вёскі ёсць етая бабулька.

Ведзьмы маглі шкодзіць жыту. Етыя паганкі-ведзьмы патапталі ўраджай. Каб етыя етага не рабілі, людзі звязвалі каласы, каб паганкі путаліся і больш не шкодзілі. Ведзьмамі рабіліся загаворкі на жыта.

***Запісана ў в. Востраў Рагачоўскага р-на***
***студэнтамі Чагінай Н., Дзенісенка У.***
***(2003 г.)***

Калдунамі ці ведзьмамі людзі становяцца пры нараджэнні або палучаюць свае веды ад іншага калдуна, але гэта толькі пасля смерці. Я ведаю тое, што калдун не можа памерці, пакуль не перадасць свае веды каму-небудзь іншаму. Каб атрымаць чудадзейную сілу ад калдуна, трэба зняць з шыі крэст, падкласці яго пад пятку і тры разы адыйсці ад Бога.

Пазнаць калдуна ці ведзьму па знешняму выгляду амаль немагчыма. Тым больш, што яны стараюцца не выдаваць сябе. Вядуць сябе так, як і звычайныя людзі. Але ж іх можна пазнаць па некаторым рысам характара ці ліца: яны звычайна ні з кім не гавораць, суровыя, жорсткія ў адносінах да іншых. Абіжаюцца на іншых людзей. Твары іх непрыгожыя, са зросшыміся бравямі, вочы гараць, як агонь. Яны не глядзяць прама, удзень не любяць бываць сярод людзей, яны заўсёды ў іншых што-небудзь просяць, але трэба баяцца аддаваць сваю рэч, таму што разам з ёй можна аддаць і ўласнае шчасце.

Кожная ведзьма абярнецца, калі ёй паказаць кукіш. Калі калдуну падаць нож лезьвем к сэрцу, то ён уйдзе адтуль з бранью. Яшчэ

калдуна можна ўзнаць па тым, што ён перад іншым калдуном чарнее, а ведзьм па тым, што яны любяць хадзіць на чатвярэньках у сарочцы, з распушчанымі валасамі.

Обаратнямі з’яўляюцца амаль усе ведзьмы. Яна можа ператварыцца ў кошку, сабаку, свінню, і прагнаць у такім выглядзе ведзьму можна толькі асінавым колам.

Калдуны і ведзьмі ўзаемадзейнічаюць разам з нячыстай сілай. Яны існуюць на свеце для таго, каб рабіць зло.

Ведзьмы і калдуны насылаюць хваробы, зводзяць у магілу. Калдуны – людзі разумныя і дабіваюцца таго, чаго хочуць. Калі надыходзіць час смерці калдуна, то той шукае сабе чалавека, якому б можна была перадаць чарадзейную сілу, калі такога няма, то ён хапае за руку любога і са словамі: “На табе”. Уся сіла і моц пераходзіць гэтаму чалавеку. Пры пахаронах калдуна ці ведзьмы выконваюць розныя абрады, каб яны не з’явіліся пасля смерці.

Для гэтага труп выносяць з дому і нясуць яго галавой наперад. На перакрыжаваннях пераварочваюць кругом, каб калдун і ведзьма не знайшлі дарогу. Пасля смерці яны ходзяць, таму шта зямля не прымае іх. Іншы раз яны прыходзяць дамоў за ядой, а калі яны не знойдуць яды, то пачынаюць выць і пужаць людзей. Так яны блукаюць 6 тыдняў, а каб гэтага не было, трэба ўбіць у магілу асінавы кол. Гэта павінен рабіць хто-небудзь з блізкіх, а таксама свяшчэннік пры чытанні малітвы. Галоўнай абаронай ад іх служыць крыж і малітва.

***Запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на***
***ад Грудавенка Таццяны Івннаўны, 1927 г.н.,***
***Бабраўнічай Вольгі Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Мартынавай Н., Луцэнка Ю.***
***(2003 г.)***

Ведзьмы дзелаюць врэд, яны стараюцца людзей укусіць, плоха здзелаць. Выглядаюць, як абыкнавенныя людзі.

Са мной была гэта сорак лет назад. Прайшоў дождж. Мы папалі пад дождж. Я шла басая. Прыйшлі дамоў, і я вспомніла, што нада аднесці халву сястры. Іду назад, бачу, саседка бярэ зямлю на са-

вок з майго следа. На трэцці дзень у мяне забалеў палец, і з гэтага дня я ўжо сорак лет мучаюся. Урач сказаў шукаць бабку ці калдуна. Я і найшла калдуна.

Калі я паехала да яго першы раз, дык ён мяне шаптаў і выціраў ногу соллю, якую потым кідаў у печ, аттуль вылеціла тры клубкі агню. Я спугалася, ён стаў мяне ўспакаіваць. Потым узяў тры агромных нажы: адзін паклаў сабе за спіну, адзін у руке, а адзін перад ім, і стаў чытаць з чорнай кніжкі магію. Доўга чытаў. Потым узяў банку з вадой, трухнуў і сказаў: “Вон яна, у платке пад бараду завязана. Яна ў вас у хаце. Яна далжна што-небудзь узяць”. Дзеці былі дома і нічога не давалі ей, а яна пайшла ў сарай і наліла кірасіну. Таму што калі калдун аддзелае, то яе гэта мучае і ёй надо пайсці ўзяць і зрабіць яшчэ врэд.

Тады калдун сказаў узяць ваду ў калодзезі ад сябе і ў вядрэ ад сябе, калі будзе поўнач. І када я пайшла, то муж стаяў на двары, штоб я не баялася. Калі я шла, то малілася. Калі вярнулася, зашла ў дом, муж гаварыт: “Кот над акном тыкае мордай в шыбку і ў ката незабыкнавенная агромная галава”. А пад акном ляжалі доскі з гвоздзямі. І калі муж разбіў акно, то кот спугаўся і стаў на гвоздзь, і пракалоў нагу. Утрам у чатыры часы я пайшла к дзеду (калдуну) з вадой, якую набрала. Ваду ён выліў у кружку, перакрысціў яе, і вада выліцела адтуль. І сказаў: “Цябе на мужчынскам здзелана. І еслі я не памагу, ніхто цябе не паможет”.

Я прыйшла дамой і пашла в магазін. Мяне ўстрэціла жэншчына і спрасіла: “Што ў цябе случылася?” А то да яе прыходзіла гэта саседка, брала яе за шкіркі і спрашывала, куды ты яе атправіла, к каму, і сказала, чтоб лечыла яе. Яна мо ногу прабіла. Жэншчына: “Нічога не знаю”. Тая яе за грудкі – лячы. А патом ёй нада, штоб я зноў была з ёй у харошых атнашэннях і прасіла ў мяне прашчэння кажды раз перад Пасхай, але я не прасціла.

Мне мой бацька расказываў, што ў адной сем’і было тры браты: два жанатых, адзін халастой, а свякруха памерла, і нявесткі камандавалі хазяйствам, і ім замяшаў трэцці брат (дзевяр). І дагаварыліся яго ўнічтожыць. Сталі яго пугаць: то катом пад ногі, за

шэю, на плечы. Ён маўчаў, а потым стал жалавацца бацьку. Бацька не знаў, чым памоч і кажа: “Ты сільны, вось і хватай іх”.

Ідзе ён гуляць. Тут свіння пад ногі, зліцца і кусае. Ён сумеў яе паймаць і занес яе ў хату, туды, дзе маладыя хлопцы і дзеўкі збіраліся, і, шмяк, пасярод хаты. Рэшылі ёй правую лапу адсекці. І выкінулі гэты капыт, і яе выкінулі. Праз некаторае врэмя выйшлі – яе няма. Яго праводзілі дамой. Дома ён нічога не сказаў. А ўтрам толькі адна невестка ўстала, другая ляжыць на пячы. Мужык спрашвае: “Чаму ты не спала са мной?” Яна: “Я забалела”. Потым мужык сцягнуў яе с печы і ўбачыў, што няма рукі. Тады і дзевер расказаў, што случылася. І нявестак пасадзілі на лаўкі і сталі дапрос устраіваць. Але нічога не дабіліся. А тым врэменем дзевер худзее і худзее, а нічога ў яго не баліць.

Потым усё ж яны сазналіся, і іх выгналі з хаты.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Панкраценка Ніны Восіпаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Сарасека А.***
***(2003 г.)***

Адзін случай мне расказала мая бабка Параска. Було гэта ў нашай дзярэўні даўно. Адзін малады хлопец жаніўся на прыгожай дзеўцы. Жылі яны ў згодзе, любілі друг друга, паважалі. Праз нейкі час дзеўка затаўсцела і нарадзіла хлопчыка. Але ж нада було такому случыцца, што ў час родаў яна памерла. Астаўся хлопчык без мацеры. Як не стараліся – гэта дзіця не хацела піць малако. Многа плакалася днём, а ноччу было спакойным, цмокала губкамі, як бы сасала цыцку. Прайшло некалькі часу, і бацька захацеў узнаць, чаму ягонае дзіцё днём нічагуталькі не есць, а ноччу – спакойнае і спіць. Ён расказаў аб гэтым жанкам. Яны яму параілі запаліць свечку ў хаце і накрыць яе гаршком, а ноччу, калі дзіцё зацмокае, гаршок адкрыць. Вот так ён і здзелаў. Калі стала святаць, ён адкрыў гаршок і ўвідзеў, што дзіця корміць яго жонка, якая нядаўначка памерла. Ён спугаўся, а жонка яму сказала: “Калі ты не захацеўса, каб я гадавала сынка, то я забяру яго з сабой”. Сказала яна так і знікла, хаця не адкрываліся ні дзверы, ні вокны. Назаўтра аказалася, што хлопчык мёртвы. Яго

пахаранілі радам з маці. У магілу маці забілі асінавы кол, каб яна больша не ўставала па начам з магілы. Яе считалі ведзьмай.

***Запісана ў г.Гомель***
***ад Міхадзюк Зінаіды Сямёнаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Сухой Ю.***

У нашым горадзе ведзьмаў вельмі шмат. Усе яны да адной любяць людзям шкоду рабіць. От тады ў іх сэрца радуецца, калі сусед плача і жаліцца. Многа яны нам усім бед прынеслі: скаціну зводзілі, хваробу насылалі… А мы ўсё ж знайшлі ад іх спасенне.

Кароў першы раз выганялі вербамі, каб засцерагчы ад глаз ведзьмы. Яшчэ любая ведзьма баіцца яркай ленты любога цвету, вешалі ленту або трапачку на рага карове і гэтым засцерагалі жывёлу. Яшчэ зашывалі жывое серабро на ашэйнік.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Макеевай Ганны Пятроўны, 1946 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

У кожнай дзірэўні заўжды свая ведзьма была. Гэтую жанчыну вельмі лёгка пазнаць. У ведзьмы на насу і на губах барадаўка, а ва рту клыкі вострыя тарчаць ва ўсе бакі. Етыя жанчыны – нявесты самога чорта. Яны з ім шлюб мелі. А для чаго – і не ведаю, хутчэй за ўсё, што на грошы і славу пазарыліся.

Ведзьмы ў вёсках заўсёды розныя пакасці рабілі. Так у аднаго чалавека, які пасварыўся з вясковай ведзьмай, увесь скот прапаў. А ета ўсё яна, зладзейка, па начах прыходзіла і зводзіла жывёлу. Для яе няма большай радасці, чым каму-небудзь шкоду зрабіць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Ведзьма – ета такая жанчына, што была звязана і з чортам, і з д'яблам. На сяле яна ўсім робіць толькі дрэннае: праклёны наводзіць, жывёлу зводзіць. Мабыць, таму яна так цяжка і памірала.

Ведзьму пасля смерці распірае, яна не памяшчаецца ў грабу. Суседка ведзьмай была, вельмі доўга памірала, некаму было пера-

даць сваё калдаўство, дык з рота пена доўга ішла, некалькі дней яна памірала, а калі памерла, то ў яе язык такі вялікі вылез з рота.

Ведзьмы, нада сказаць, могуцьператварацца ў прыгожых дзевак. І калі яе палюбіць які хлопец і пойдзе за ёй, то яна забірае ў яго душу, і гэта прадлявае ёй жыццё, а хлопец, у якога яна забрала душу, чортам становіцца і ёй служыць.

***Запісана ў п. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Пііпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Ведзьм у нас вельмі баяцца, бо яны любяць чужую скаціну зводзіць. Каб спасці жывёлу ад ведзьмінага калдаўства, людзі бралі падкову і палілі яе на вуглях дакрасна, а тады кідалі ў малако. І вось хто зрабіў гэтае калдаўство, адразу ж і прыбягаў, бо ў яго гарэла і сквірчэла ў грудзях, як тая падкова ў малацэ. А яшчэ ад ведзьмінага калдаўства клалі на вароты крапіву, таксама секлі асінавыя дровы, неслі іх на скрыжаванне дарог і палілі. А над агнём сушылі цадзілку. Вось тады прыбягала ведзьма, бо ёй было дрэнна.

***Запісана ў г. Лоеў***
***ад Сілівончык Тамары Пятроўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Ведзьма – эта простая баба, якая толькі ўмела калдаваць. А так, знешне яе ніколі не адлічыш ад любой другой жанчыны. А шчэ этыя бабы-ведзьмы маглі прыняць выгляд чорнай кошкі, вужа, лісы, жабы, вароны. І тады яны прабіраліся ў чужыя сараі і кралі ў кароў малако, у свіней сала, а хазяева страдалі.

Ведзьмы очынь баяцца святога крыжу, малітваў, пасвяцонай вады. А шчэ ведзьмаў, у хлеў калі яны прыходзілі, маглі чакаць “падарункі”. На свята ведзьмаў, хлеў, дзе жыве жывёла, абтыкалі жгучай крапівай і рысавалі хрэсцікі на дзвярах.

***Запісана ў в. Заспа Рэчыцкага р-на***
***ад Вазюра Сцяпана Пятровіча, 1936 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Ну вось такую гісторыю магу расказаць. Было гэта на свята Івана, маладая я яшчэ была. Бачылі мы аднойчы, што баба адна ноччу на камянку нешта варыла, вярцелася каля іконы і прыгаворвала. А як дванаццаць ночы стала, дык папрыходзілі да яе нейкія жанчыны.

Адна хлебанула з чыгуна, другая, і ў комін вылятаюць. А на вуліцы іх мужчына вартаваў у той час. І ён пасля хлебануў і паляцеў.

Пасля той мужчына расказваў, што паляцелі яны да ведзьм, на зборышча. Там яму далі павозку залатую і коней, на якіх ён пасля гулянкі з ведзьмамі дамоў паехаў. А назаўтра, як праснуўся, дык убачыў: замест павозкі залатой і коней стаяў стул паломаны і павозка разламаная. Вось такія чудзеса здараюцца.

А яшчэ пра нячыстую сілу такую гісторыю знаю. У Гарывадзе было гэта. На вячорках нейк разгуляліся, што ўжо калі апоўначы было. І вось прыходзяць да нас гуляць якіясь хлопцы незнаёмыя, ды такія красівыя. Пасталі яны каля белай печы ў радок. І тут мы бачым, што ў іх хвасты вісяць ззаду. Значыць, нечысць якаясць. Мы ад гэтага відовішча хто куды ўцякаць пабеглі. І з тога часу больш так позна не гулялі, бо баяліся зноў нячысцікаў пабачыць.

Калісьці яшчэ пакойніца баба падаравала мне адну ленту, сказала, што ад усякай нечысці дапаможа. Вось абвяжу жывот лентай, што ніхто мяне пасля і не зачэпіць, нічога дрэннага са мной не здаралася. Усюды яна мяне аберагала. А на ленце той была напісана малітва, але яе не помню я, бо ў вайну згарэла гэтая лента, а словы я ўжо забыла. А добрая ж была лента.

***Запісана ў в. Жмураўка Рэчыцкага р-на***
***ад Кобец М.Г., 1930 г.н.,***
***студэнткай Шэндрык Т.***

Калісь казалі, што ведзьмы прэўрашчаліся ў свінню. От ідзем па вуліцы – каток коціцца, хоць свіння бяжыць. Адны казалі, што ўзяў чалавек на вуліцы ды ўрэзаў у вуха той свінне. А пад раніцу ўбачылі жанчыну з перавязаным вухам.

А дзейнічаюць яны звычайна ўвечары, ноччу. Кажуць, што як яны ўміраюць, дык вельмі трудна ім. Каб яны памерлі, ім трэба ўзрываць столь ці перадаць сваю сілу каму-небудзь: як толькі дакранецца да каго-небудзь, дык той стане імець яе сілу.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на***
***ад Касяковай Любові Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Старыкавай Т.***

Калісь мне расказвала суседка. Як яна была маладая, малая яшчэ, ідом, кажа, з мамкай – сунецца стоўб, ну, як целефонны стоўб такі, так вот дыша-дыша вельмі, а яе маці загаварывае, каб яна нават

не цапнула. І я колькі збіралася спрасіць, што будзе, як пацапаеш, так і не сабралася.

Расказваюць тожа, да і сама яна казала, ужо ладная была, што гулялі ўсе. Шчас, кажа, каціцца калясо. Яно коціцца і гарыць. Калі дагналі тое калясо, як схваціліся за яго – яно не гарачае. Яно гарыць, но яно не гарачае. І надзелі яго на кол. Уранні ўсталі – баба на калу, праз рот палка вылезла.

А шчэ якісь тожа ляжаў на дарозе корч і быў сучок у том карчэ. Хлопцы ўзялі той сучок і абсеклі. Назаўтра ўбачылі бабу без носа.

Дзейнічаюць яны звычайна ад 12 часоў. Як певень прапеў, то ім нічога няма дзелаць. Усё на места становіцца: кім была, у таго і пе-ратвараецца.

Былі і пашкоджані. Ведзьма прыходзя на свадзьбу, гуляе, як і людзі, а патом, бывае, усыпае, улівае, падкладвае што, та маладыя ўжэ не ўжывуцца, б'юцца там ці што. Патом паходзяць па бабкам, пашэпчуць і нармальна.

Бывае ў узрослага сілу бярэ. Пашоў чалавек, яна пяска возьме і ў платочак там ці што. Патом паходзіць і куды ўшые – і яму плоха.

От адзін случай быў. У аднае кварцірантка была. І яна, як толькі ўлетку, яна адзіяла аддае хазяйке, а на зіму забірае. Тая што прыдумала: узяла ў яе след і ў узялок, і ўшыла ў угалок адзіяла. І кварцірантка сохне, сохне, худая-худая, ужо сіл не мае, а патом пайшла яна ў бальніцу, бо ўжо не мажэ. У бальніцы, куды яна не аб-рашчалася, кажуць: "Ты здарова?". А яна ўжэ кажа: "Я ног не магу цягаць". Потым ёй сасніўся сон, у якім ёй сказалі: "Дзетачка, у том і том версе твайго адзіяла зашыты дзіцёнак". Яна ўстала ўранні і ціхенька распарола адзіяла, а там ніякі не дзіцёнак, а пясок. Яна ха-зяйцы сказала: "Што мне дзелаць?" Тая кажа: "Давай спалім".

А паліць нельзя. Нада той пясочак прывязаць к дзеркачу і несці на раўчак ці рэчку. І як вада, дык на самым беражку капаць ямачку і туды палажыць тое, што табе дрэнна, што знайшла. У тую ямку ло-жыш і туды прапусці ваду. Не ўмееш чытаць "Ойча наш", дык перахрысціся 12 раз, калі ўмееш – 12 раз прачытай "Ойча наш", по-тым зарый гэта зямелькай і ідзі дамоў. І ета ўсё, што яна здзелала каму-та зло, вернецца ёй.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на***
***ад Філімонцавай Ніны Платонаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Старыкавай Т.***

Ведзьма – ета абыкнавенна жэншчына, ека знае прыробкі, екія перадалісь ёй з пакалення ў пакаленне. Ведзьмы ходзяць на празнікі і прырабляюць. Оні просяць, каб ім далі што-небудзь: ці хлеба, ці грошай. Но ім нічего не нада даваць. Тады ана сама стараецца хоць трэску, хоць палку ўзяць са двара. Могуць у хлеве скаціне што зрабіць. Нада вездзе, куды будзе бегці ана (ну, як ты думаеш), пасыпаць макам і сказаць: “Пакуль еты мак не вызбіраеш, ка мне не ідзі”. Ана не можэ перейці эта места, і ана ўходзіць ад цебе.

Ведзьмы стараюцца на ўсходзе сонца прырабіць. От як свадзьба, то можэ з нажом перабегці дарогу маладым, тады маладыя будуць на нажах (ругацца, біцца). От шчэ знаю, што на жыце завіткі завязваюць, а што это, не знаю.

І ў лесе е такія дзерава – крывые і нехарошые. Это, кажуць, як ведзьма не зможэ людзям прірабіць, то ее мучае і ёй нада будзе хоць на чом зрабіць. От на дзераве і робіць. І тые дзерава крывыя і сохнуць. Іх нельзя на дрова, чі на хату строіць, спільваць.

***Запісана ў г. Ельск***
***ад Сугак Ганны Іосіфаўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Сугак М.***

Пра ведзьму я ведаю шмат чаго. Ведзьмы дажа булі ў нашай вёсцы, жылі асобна ад другіх людзей.

Ведзьма – ета жанчына, якая ў святы ператваралася ў каго-небудзь і рабіла ўсякую шкоду людзям. Напрымер, у свята Пятроўскага Івана ўсе хлявы абтыкалі крапіваю, каб ведзьма не дабралася да скоту і папекла сабе рукі. А яшчэ абычна замукалі ўсе хлявы нанач і вешалі над дзвярыма рапейнік. Ета таксама адпугвала вядзьмарак. Калі ж ведзьма дабярэцца да каровы, то яна выдойвала з яе ўсё малако, і кароўка пераставала даіцца, ды і зусім скацінка пачынала балець. А ў етай вядзьмаркі пасля такой ночы быў усягда вясёлы выгляд і добры настрой.

У ведзьмы нават у звычайныя дні вочы адрозніваліся ад вачэй іншых людзей. Яны неяк свіцяцца злыдным агнём.

Ведзьмы ніколі не жылі ў сярэдзіне дзярэўні, а ўсягда – на ўскрайку або зусім у лясу. Таму што лічылася, што калі яны будуць жыць сярод людзей, яе чары і зло будуць змяншацца. Яны ўсягда прыносілі людзям толькі бяду і няшчасці. Я і мая бабка (я яшчэ була тагды маладою) пайшлі неяк у суседнюю дзярэўню да родзічкі і затрымаліся там дапазна. Назад ішлі ўжо цёмначы. А ісці нам трэба

було цераз хату вядзьмаркі (Наста такая була). Ды калі мы падыйшлі да хаты, то ўбачылі, што яна каля вакна сядзела абапнутая пасцілкаю і раптам пачала галасіць. Галасіла яна нядоўга, а потым ператварылася ў чорную кошку і выскачыла з хаты. І менталем праз нас, толькі – шусь – і ўсё, і не відно яе стала. Ета яна, мабуць, пабегла нешта злобнае рабіць.

Калі яна ўжэ памірала, дык з таго боку, дзе яна жыла, чуўся страшны вой. А потым, 40 дзён пасля смерці, у нашай дзярэўні пужала. Вот ідзеш па вуліцы, і раптам насустрач вялізны конь ідзе, а потым, як шусьне – і няма нічога, як ветрам пройдзе і на сваім пуці ўсё смятае. І так було 40 дзён, а потым супакоілася.

Яшчэ я ведаю выпадак, калі ведзьма пашкодзіла адной сям'і. Гэта було ў суседняй вёсцы. Там жыла старая баба. Усе добра ведалі, што яна была ведзьмаю. І вось аднойчы ў етуй вёсцы было вяселле. І калі ўсе ўжо сядзелі за сталамі, раптам замецілі, што за сталом сядзіць і тая старая Анюта, хаця яе ніхто не запрашаў на вяселле. Усе адразу пачулі няладнае, але выгнаць яе ніхто не рашаўся. І вось вечар яна дабівалася ад маладых, каб яны выпілі з ёю за іх шчасце і падлівала сама гарэлку ім у чаркі. Калі вяселле падыходзіла да завяршэння, Анюта раптам знікла. Калі маладая ўстала з-за стала, у яе на плацці (на спіне) было чорнае мазутнае пятно. Але тады на етае ніхто ўвагі не звярнуў, палічылі, што яна проста негдзе выпецкалася.

І з першых жа дзён жыццё ў етаі пары не ладзілася: то яны хварэлі, то сварыліся, то ў хаце здараліся розныя няшчасці. Хутка ў іх нарадзілася дзіцятка. Яно таксама ўвесь час хварэла, усё плакала, аж выпручвалася, а маці яго рэзка пахудзела і з кожным днём станавілася ўсё худзейшая. Тагды яны пайшлі да аднае бабкі. І яна сказала, што ім нарабілі яшчэ на вяселлі. І шчэ сказала, каб яны пашукалі нешта ў хаце. Яны абшукалі ўсё ў хаце і знайшлі ў сенцах пад парогам курыную галаву, абаткнутую паламанымі іголкамі. А ў хаце (у падушцы) знайшлі свечку пераламаную і клок валасоў. Па савету бабкі яны вынеслі ўсё етае на шлях, дзе перакрыжоўваліся дарогі, і спалілі. А на наступны дзень тая ведзьма захварэла і хварэла вельмі доўга. А ў тае сямейкі, маліць Богу, усё наладзілася.

***Запісана ў в. Мархлеўск (раней Ліствінская Слабада)***
***Хойніцкага р-на***
***ад Ігнаценка Праскоўі Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Півавар Л.***

Ведзьма – ета тая баба, якая лячыла нейкаю травой, штось шаптала. Ведзьмы былі харошыя і плахія. Харошыя памагалі лячыцца ці жывёлу лячылі. Калі ў дзярэўні нешта було плоха, то казалі, што ето ўжэ ведзьма тая пракляла. Да тых баб рэдка хадзілі. Жылі яны ў лесе ці з краю ў дзярэўні. Дзяцей туды не пускалі хадзіць. Ведзьмай былі бабы малыя, гарбатыя, без зубоў, косы ў іх былі калматыя. Калі ў маёй каровы прападала малако, дак думала, што ето ўжэ ведзьма зрабіла.

У хаці ў яе віселі нейкія пучкі травы, некія баначкі стаялі з нейкімі мазямі. Скаціну яны не дзяржалі, з імі жыў кот ды сабака. А колісь мне расказувалі, што ім і хаты палілі, так верылі, што ето ўжэ навсегда і не будзе ніякіх гора да бяды.

***Запісана ў в. Антонаўка Калінкавіцкага р-на ад Самсонавай Васіліны Міхайлаўны, 1921 г.н., студэнткай Шклярэнка Т.***

Раскажу я вось такую гісторыю. Голад быў, а ў маёй бабы бальшая сям'я была. Паехаў дзед з дачкою па дзярэўнях сабраць якую яду. Абышлі яны дзярэўню, а ніхто і спаць не пускае. Папрасіліся к адным, а тая баба ведзьмай была, але гэтага не зналі. Леглі яны спаць і бачаць: адкрываецца хата і заходзіць вялікі чорны кот. А кот – гэта чалавек. Адкрывае кот шкафчык, а там стаіць поўна гладышак з малаком. Кот узяў і нашкодзіў у кожную.

Назаўтра сталі яны і самі не свае. А тут іх есці прыглашаюць. Так яны нічога не елі. А на вуліцы іх пытаюць, як накармілі іх. А пыталі таму, бо зналі, што эта знахарка. Яны і сказалі, што і сыр, і масла, і смятана, і малако было, усім угашчалі, але яны нічога не елі. А не елі таму, што чулі, што ведзьмак якісьці прыходзіў, які хацеў ім пашкодзіць, зло нейкае ўтварыць.

Яшчэ ведаю гісторыю, як вядзьмарка з нашай дзярэўні адной сям'і ўсё шкодзіла.

Знахароў багата тады было. Жыла ля маёй бабы адна такая, якая адну сям'ю не ўзлюбіла і сурочыла ўсё ім. Як дванаццаць часоў, дык у сараі гэтай сям'і каровы на ўсю равуць. Яны ўжо не ведалі, што з гэтымі жывёлінамі ім рабіць. І хтосьці іх навучыў, як гэтым каровам дапамагчы. Вот на свята Тройцу ставяць гаспадары май. У нас ставяць асінава дзерава. Дык мужык узяў эта дзерава і парубіў на кусочкі. А ў дванаццаць часоў ночы разлажыў на камінку аганёк з етых палачак, паставіў даёнку і палажыў на іх цадзілку. А пасля стаў мяшаць і круціць етую цадзілку ў даёнцы з малаком. І раптам

з'явілася ля вакна страшная на выгляд жанчына і пачала крычаць: "Максімка, галубчык, не сіраці маіх дзетак". А ён яе не слухаў, а ўсё круціць і круціць. Колькі ён так рабіў, не ведаю.

А назаўтра ўсе ўбачылі, што ў адной са знахарак пералізавала рукі і ногі паараднімала. Казалі, што еслі б той мужык болей закруціў, дык у яе б сэрца разарвалася. Пасля той ночы гэтая знахарка больш ужо нікому не сурочыла і не варажыла, а той сям'і дык стала і дапамагаць.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Кандраценка Н.П., 1935 г.н.,***
***студэнткай Шэндрык Т.***

Як плахі чалавек, ён вельмі доўга канае. Нада ўзрываць над ім паляніцу (дошку ў паталку), штоб нячыстая вылецела, а так ён вельмі доўга будзе мучыцца. Як хто радам, ён перадасць сваё, а як ні хоча ніхто пераняць ета дзела, дык узрываюць паталок. Каму ён захоча, таму і перадае: дачцэ, сыну, брату. Хто захоча ўзяць, ён жа не застаўляе, ён раскажа. А ўсё астальное само прыйдзе, гэта нядобрае. Злы дух мучыць яго, трэбуе, штоб чалавек дзелаў плахое, а калі не дзелае, яму дзелаецца плоха.

Расказвала саседка, радам жылі мы. Ана была малая. Дык кажа: "Буду ісці з бабай там ці з маткай, от ззаду хто-та сапіць. Глянула, аж там абыкнавенны столб, такое дзерава высокае і з касамі і сапіць". А вот сколькі я збіралася ў яе папытаць: ёй матка ці баба не давалі, штоб яна цапнулася за яго. А чаго не давалі цапнуцца, я не знаю.

А было, кажа, гуляем. Во каціцца калясо, ну з воза, і гарыць. Каціцца і гарыць. Хлопцы паймалі тое калясо і на кол, такі тонкі кол, надзелі ў гародзе. Уранні ўсталі – жэншчына на калу надзета. Эта казалі, радам манашка, дак эта манашкіна свякруха расказвала. Эта вечарам было. А ўранні ўжо праснулісь, глядзелі, маладзіца на калу сядзіць. Ну, нагаворвалі людзі, што яна такая. Ну, да эта ж ніхто не зная. Калі ўжо на кол надзелі, то, дзействіцельна, відна, што ена ж на калу. Мы ж надзявалі калясо, а палучылася – яна.

Ідом гуляць, ну, дзеўкі, хлопцы. На дарозе ляжыць калода, ну, палка тоўстая і там сучок. Хлопцы пабеглі, тапор узялі, сучок той ссеклі. А назаўтра баба без носа. Нос павязала.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на***
***ад Філімонцавай Ніны Платонаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Бандзюк А., Макеевай С., Хатэнка С.***

На адну жанчыну гаварылі, што ана ведзьма. На Шчодры бегла чорная кошка і её стукнулі па наге. І ўсю жызнь та жэншчына кульгала.

Ведзьма малако ад кароў адбірала, ці карова давала горкае малако. Яна (карова) не заходзіла ў двор. Нада было сабраць нужные цвяты, пасыпаць іх каля двара, тагда ведзьма адступіць. Казалі, што ана так сазывае кароў і адбірае ў іх усё малачко: “Кароўкі, кароўкі ўсякае масці, няхай ваша малако да мяне йдзе”.

***Запісана ў р.п. Бальшавік Гомельскага р-на***
***ад Петрачковай К.П.,***
***студэнткай Шэндрык Т.***

Гэта яшчэ бацька мой, Васіль, расказваў нам, малым. Быў у іх дзярэўні Макар якісь. Так ён са Скітка прывёз сабе жонку. Ніхто яе не бачыў дагэтуль. А від злы ў яе быў. Вочы чорныя-чорныя, бы вуглі. Хоць і красівая, казаў, была яна, але ўсе баяліся яе. Казалі, што яна ведзьмай была. Раз дзе-та на Купалле засталі ўночы яе голай на збожжы ў саседкі Макара. Яна, казалі, збірала ў жменю жыта, скручвала каліва, абвязвала іх сваімі валасамі і штось шэпча і шэпча. Патом збожжа тое зламіла і кінула. А сама пабегла ў стораны ракі. А пасля, казаў бацька, нашлі там якуюсь куклу. А саседке Макара ўсё плоха было. Галава баліць, раскалываецца, ногі пухнуць, есці нічога не брала. Ужо і бацюшку вызывалі, але нічога не спасло тую. Яна, бедная, як злягла, так і скончалася.

***Запісана ў в. Цярэшкавічы (раней Старыя Цярэшкавічы)***
***Гомельскага р-на***
***ад Казловай Ніны Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Каралёвай Н.***

Знаю, што як ведзьма цягне малако ў каровы, то нада дзелаць так: наліць у гаршчок малака, пакласці туды цадзілку і варыць на прыпеку, памешваючы асінавымі пруткамі. У еты час ведзьме, што цягала малако, стане плашэнна.

***Запісана ў п. Смелы Лоеўскага р-на***
***ад Міхута Фёклы Яўхімаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Каралёвай Н.***

Сейчас няма іх (ведзьмаў), раньшэ былі. Малако кралі, маглі паслаць балезнь. Ніхто не відзеў іх як чалавека, то як чорнага сабаку, то як ката часцей відзелі. Баяцца купальскай травы, крапівы, дзядоўніка. Не ідуць у хлеў, калі ёсць такое.

***Запісана ў в. Пракісель Рэчыцкага р-на***
***ад Канюшэнка Веры Зінавееўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Коваль М.***

Ведзьмы сабіраюцца на Купалу ў адно месца і ляцяць на мётлах. Ведзьма можа абраціцца ў сабаку, ката, калясо, чорную свінню. Еслі яе ўдарыць палкай, парэзаць, то назаўтра яна будзе хадзіць у сіняках, бітая. Ведзьмы могуць даць град. Ведзьмы жывуць разам з чарцямі. Чэрці служаць ім. Ведзьмы робяць шкоды часцей ноччу.

Ведзьмы шкодзілі ўсім. Яны ўтуркалі іголку ў плаццядмаладой, і тады маладыя не жылі, маладая балець доўга будзе.

Смецце часта находзяць. Гэта ведзьма падсыпала ў вугал тае хаты, дзе гуляюць свадзьбу.

Ведзьма дзелае заломы ў жыце, каб чалавек доўга балеў. Калі іх знойдзеш, іх нельга жаць. Трэба прачытаць 13 раз “Отчэ наш”, вырваць і спаліць на перакростку.

***Запісана ў в. Целяшы Гомельскага р-на***
***ад Шчадровай Зінаіды Аляксееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Маісеенка В.***

Сядзім з бабамі на лаўцы, чуем, а ў мяне ў хлеве свіння вішчыць як рэзаная, я туды быстрэй пабегла. Аказваецца, у хлеве вуж поўз, вялікі быў, свіння хватаць яго, а ён у язык ёй упіўся. Прыбегла я, і вуж зараз жа знік, а свіння вішчыць яшчэ мацней. Тут мне адна баба кажа: “Бяры штаны і цяры прарахом свінню, а потым цыбулінай”. Пацерла я, і дзе што дзелася.

Ведзьма адна рабілася птушкай. Балела тут у нас жанчына свінкай, дык ведзьма гэта зрабілася белай маленькай птушачкай, прыляцела ў двор і зрабіла гэту жанчыну свіннёй.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кавалёвай Вольгі Сцяпанаўны 1913 г.н.***
***(перасяленка з в. Барталамееўка (Бутрамееўка)***
***Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

У дзярэўні жыла адна баба, і ў яе вакне кожную ноч у 12 часоў гарэла яркае полымя. Аднойчы мы з хлопцамі і дзяўчатамі вырашылі паглядзець, што ж там такое свеціцца. Сабраліся ўсе разам, селі насупраць гэтай хаты і сядзім. Тут нешта яркае загарэлася ў вакне, а потым праз некаторы час з хворткі, як выбягае вялікая сабака кучаравая, вушы такія шырокія, а хвост вялікі-вялікі, касматы, як у каня, цягнуўся па зямлі. Сабака гэта пабегла па вуліцы, мы ўцякаць, усе папужаліся, больш туды не хадзілі.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Сідаракінай Вольгі Мікалаеўны, 1970 г.н.***
***(перасяленка з в. Вераб'ёўка Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***



Ведзьмы, знахары расказвалі, што было калісьці многа ведзьмаў і ведзьмакоў, рабілі ўрэд людзям. Днём яны былі людзьмі, а ноччу ў каго-небудзь прыкідваліся. Людзі палягуць спаць, а яны зробяцца свінёй і ідуць у сарай, абы-што дзелаюць. І кароў ноччу падояць.

Тыя разы сабяруцца бабы на вуліцы і багата што расказвалі пра ведзьмаў.

Аднажды шоў хлопец вечарам дамой і стрэў парася. Ён узяў і адрэзаў вуха яму. Яно пабегла. Ён зайшоў дадому і лёг спаць, а калі ўстаў рана назаўтра, то ўбачыў, што ў маткі была закручана галава назад і вуха аднаго няма. Ён зразу ўсё поняў, што матка – ведзьма.

Яшчэ помню такую історыю: раней людзі хадзілі па хатах адзін да аднаго валенкі валіць. Прыйшлі жэншчыны к адной валенкі валіць і паймалі яе, што яна надаіла многа чужога малака. Яны агледзелі гэта і нічога ў яе не кушалі. Больш яны не пайшлі к гэтай жэншчыне, бо ўзналі, што яна ведзьма.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Радчанка Соф'і Мацвееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Барысевіч А.***

Эта мне расказвалі. Адна жэншчына падходзе к той, што ў царкве свечкі прадае:

– Куды, мая галубка, этыя свечкі паставіць?

– А я , дзетачка, не знаю за што ты стаўляеш.

– На мяне суседка кажа – ты ведзьма.

– Ідзі, дзетачка, к папу.

Пашла к папу.

– Куда мне этыя, бацюшка, свечкі?

– А што то за свечкі?

– Укажы мне тую ікону, дзе стаўляюць, штоб здзелаць плоха.

– Дык я не знаю, за што ты стаўляеш.

– Ну на мяне кажа суседка, што ты ведзьма.

А поп ёй:

– А ў жэншчын абычна як сварка, дык – ведзьма ты, ведзьма.

– Не, ана так казала.

– Ну, сматры. Так ідзі, вон ікона, еслі ты правільна кажаш, шо нічога не знаеш. Я табе так скажу, жэншчына. Еслі ты на яе кладзеш свечкі і яна нічога не знае, то бальшая табе будзя шчэрб, і на дзяцей, і на скот. Так што нялзя, жэншчына. Нужна шоб правільна...

– Правільна, бацюшка, правільна.

– Сматры, жэншчына, глядзі, не абіжайся.

Ана ж і здохла.

(Памерла тая жанчына, якая ставіла свечкі ў цэркві на сваю суседку).

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на***
***ад Вялікай Праскоўі Лаўрэнцьеўны, 1918 г.н.,***
***студэнткамі Бандзюк А., Макеевай С., Хатэнка С.***

У дзярэўні жыла ведзьма, клічка ў яе была Курэпчыха. Ператваралася яна ў ката, вялікага, чорнага, у свінню. Яна нікога не пускала ў хату, аднак людзі казалі, што жыла яна разам з курамі і свіннямі. Аднойчы яна ператварылася ў свінню і бегла за хлопцамі і дзяўчатамі, а тут хлопцы ўзялі, ды палкаю пачалі біць па яе цені, а назаўтра яна хадзіла з забінтаванай рукой.

Курэпчыха гэта Галі Шутавай раз у кублі з яйцом штось падкінула, а тая ўзяла яго да ў печ укінула. Дык гэтае ведзьма зараз жа прыбегла. Ведзьмы здымаюць след голай нагі на зямлі і нашэптвалі на балезнь.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Плескай Ларысы Іванаўны, 1946 г.н.***
***(перасяленка з в. Гарысты Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

Нельга будаваць хату на тым месцы, дзе раней жыла ведзьма. Вось у нас у дзярэўні быў такі выпадак, калі не паслухаліся старых людзей, ды пабудавалі хату на вядзьмарскім, праклятым месцы. Дык к ім кожную ноч прыходзіла розная нячыстая сіла. Каб збавіцца ад гэтага, гэта сям'я павінна была паставіць свечку каля іконы. Яна даўжна была гарэць і ўдзень, і ўвечар. І вось тады ўсё знікла.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кавалёвай Раісы Мікалаеўны, 1953 г.н.***
***(перасяленка з в. Вераб'ёўка Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

Пасля вайны ета было. Пасварылася я з Варкай, суседкай маёй. Пашла та да маткі сваёй, та й навучыла яе вядзьмарству. Вот пашла я ў лес з козамі, нашла вожыка. Я яго ў прыпол і прынесла ў двор. У бочку ў сарай пасадзіла, сарай на замок закрыла. А потым адкрыла, а там – Варка, я й абалдзела. А яна мне: "Чаго гэта ты ўсё закрываешся?" – І пашла сабе.

Пайшла я сена красць на луг. Узяла бабу тваю, пайшлі мы. Вот яна і кажа: "Перойдам раўчак і набяром там сена, далей не пойдзем". А я кажу: "Пайшлі далей". Не пайшла яна, набрала каля раўчука. А я далей пайшла. Набрала сена ношку і нясу, а тут дзіўлюся – карова чорная за мной ідзе, ну, я думаю, ета яна за сенам ідзе. Дайшла дадому, пайшла ў двор, а карова каля каліткі маёй стаіць. Ну, я сена кінула, азірнулася, а там жанчына стаіць, памерлая даўно, а каровы й няма. Пастаяла жанчына ета й прапала, а следа на зямлі ніякага няма. А Толік, дзядзька твой, слухаў, як я бабе тваёй ета расказвала, ды й кажа: "Памром мы скора з табою, я тожа карову ету бачыў чорную". І вот расказаў нам з бабай. Шоў ён са двара да маткі, бабы тваёй, ідзе і як дашоў да Апанаса, ат глядзь – за ім карова чорная ідзе. Дайшоў да двара, азірнуўся – каровы няма, а стаіць жанчына памерлая.

Пайшлі мы з мужам маім у лес. Грыбоў набралі, ён жа месты знае. А пазвала я Варку з намі, а тая не пайшла, не захацела. Набралі мы грыбоў і дамоў ідзём, а я бачу, на дарозе збоку вожык ляжыць. Я кажу мужыку: "Давай возмем вожыка". А ён кажа: "Не бяры ты яго!" А я не паслухала, узяла яго ў кохту і нясу. Дашлі мы толькі да Азершчыны, пачаў варушыцца, чмыхае, а я тут упала, ды на роўным месцы. Падымаюся, дзіўлюся: дзе ж ета вожык, а яго й няма, як і не было. А мужык й кажа: "Гэта не вожык, а вядзьмак які!"

А я тады, як з лесу прыйшла, да бабы Кіпшачыхі пайшла. Жыла яна каля леса, а жанчына ета знахарка была. Каля дома яе крынічка была. Баба Кіпшачыха там масла біла ды вадой етай пырскала як святой. Пайшла я да яе, расказала пра вожыка. А яна й кажа: "Гэта табе накалдавалі, ворагі ў цябе ёсць, глядзі, вот така накалдуюць і памрэш ты. А я табе памагу". Вот дала яна мне дзяркач, ды не харошы, а такі негадзяшчы, паломаны. Пашаптала над ім й кажа: "Вазьмі еты дзяркач, ідзі й палажы яго ноччу пад калітку. Як перасігне та баба гэты дзяркач, будзе балець два тыдні, пазнае як што". Я пайшла ноччу тут жа і палажыла дзяркач еты пад калітку. Баба яго перасігнула, балела два тыдні так, што ўрачы не дазналі. А як перабалела, перастала мне калдаваць. А баба Кіпшачыха ўехала скора з вёскі.

У нас дзелаюць так. Нада на Крашчэнне ваду свяціць, уранні свяцяць, бяром мы яе. Дак на Крашчэнне запальваем свечку і ідзем да вады. Вот пайшлі мы раз з маці маёй па ваду. А даўно ета было, я дзяўчынай яшчэ была, зусім маладая. Узялі мы свечку, шклянку ад лампы паставілі, запалілі. Ідзём, каб вады свяцонай прынесці. Нам нада да царквы, дак мост перайсці, я ж раней тут жыла, на другім канцы з маці жыла. І вот перайшлі мы мост, а свечка ў шкле гарыць, толькі перайшлі, а тут машына прайшла. Мы глядзім, а кот сядзіць каля моста, пад дарогай, а ў нас ката не было. Ну, я й кажу маме: "Давай спаймаем, дамой занясём". А маці кажа: "Не нада, не бяры". Я кажу: "Я яго паймаю і ў дом панясу, а ты мяне тут падаждзі". Падхаджу я да ката, а ён адскоквае, пад рукамі шуруе, а ўхапіць нельга. Я крычу маме, каб памагла. Загналі мы яго пад мост. Я яго хватаю, ат у вачах у нас красна стала, ат бачу – мужчына стаіць пад мастом, а ката няма. А мужчына кажа: "Я другога чакаў, а вы мяне закружылі, надаедаеце," – і знік. Чуць мы з маці да хаты дабеглі, маці доўга патом балела.

А маладуха тая, што я з ёй пасварылася, доўга шчэ зло дзелала. Вот раз прывезлі мы сена, скінулі ва двары, а вечарам таскаць яго. Нашу, ат гляджу – яйцо ляжыць. Я нічога не думала, узяла яго, забрала, думала, кура мая снесла, а мужык мой і кажа: "Схадзі да знахаркі ў суседнюю вёску, бо яйцо якоесь падазронае". А я думаю, абыдзецца, кура мая не ў сараі, а ў сене снеслася, а потым пайшла. Паказала я чалавеку таму яйка. Паглядзеў ён, пашаптаў, а тады і кажа: "Ета табе зло робяць, падкладзень падкінулі, а ты вазьмі ета яйка і занясі ў двор таму, на каго думаеш, ды каб ні адна шкарлупка ў цябе не асталася". Прыйшла я дамоў, а мне цікава стала, што ў яйку.

Разбіла яго на трапку, а там жалезкі нейкія, іголкі, воск са свечак, крупа, а я дзіўлюся: як ета ўсё насыпалі, яйцо ж цэлае было? Ну, я ўсё гэта завярнула ў трапку ды і падкінула да Варкі.

А Варка яшчэ доўга зло людзям рабіла, але яна не была ведзьмай, ета яе матка ўсяму навучыла, а вот як памерла яна, Варка і калдаваць перастала. А што тых ведзьмаў, што раней былі, то такіх ужо няма.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Лапата Юліі Апанасаўны, 1924 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

Ёсць магія добрая, людзей такіх знахарамі завуць. Калі што баліць ці нядобрае што, то іх завуць, да іх едуць самі. А ёсць магія злая, такі чалавек, калі яе знае, на зло ідзе, людзям порціць.

Так, быў у нас случай у Галоўках. Стала ў адной сям'і пагана: усе хварэць сталі і нялад ідзе, плоха ўсё. Пашлі яны тады да знахаркі, пагадала яна па картам і кажа, што там і там порчу на вас наслалі. Так вот, ідзіце дахаты, вазьміце падушку, найдзіце такую і такую, у дванаццаць часоў, ноччу, разарвіце яе і спаліце, да глядзіце, каб ніхто не прыйшоў, і не давайце нічога нікому тры дні, калі дадзіце, то порча вернецца. От так яны і зрабілі, прыйшлі дамой. Найшлі падушку, разарвалі яе апоўнач і спалілі, а самі закрыліся на ўсё замкі, каб ніхто не прыйшоў. А суседка як пачула, прыйшла, крычыць, каб адчынілі, у дзверы грукоча. Яны пускаць яе не хацелі, але ўсё ж пусцілі. А баба тая аж заходзіцца, прыстала: дайце ёй малака, і ў самой карова ёсць. Ледзь яны яе выпіхнулі. А падушка як згарэла, дак і ўсё добра ў іх стала.

Ёсць у нас баба адна, яна смерць чуе. Разам ідзе па вуліцы і кажа: "Тут хтось памрэ, я запах смерці чую". От праз нейкі час і памёр чалавек. А якраз маці ў яе паралізавала, яна ходзіць і кажа: "Яна хутка памрэ, я запах смерці чую". От яна і памерла. Яна многа чаго знае, яна так і не робіць, як усе знахары, а як бы чуе чалавека, так скажа раптам што, а яно так і будзе.

***Запісана ў в. Галоўкі Рэчыцкага р-на***
***ад Маслак Соф'і Васільеўны, 1921 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

Ат ведзьмы рабілі ў нас так заўсёды. На Троіцу вечарам на вароты каліткі ставілі веткі клёну, бэзу і ў хаце там жа, каля хлява. З лесу прывозілі асіну, укапвалі напроць варот хлева ад ведзьмы. А

толькі праз тры дні, пасля Троіцы, збіралі і клалі ў каляіну, каб дождж намачыў.

На Купалу вечарам, перад ноччу, бралі крапіву і ў хляве пад страху, над варотамі клалі, каб ведзьма малако не пакрала.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Гошка Пелагеі Афанасьеўны, 1924 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

Була ў вёсцы ў мяне адна калдуння, ці, як вы кажаце, ведзьма. Ох, хітруга была. Усіх абдурыла, што ніхто і не знаў, што яна калдуння. Усё жыла ў нас у вёсцы і калдавала. Жыла ў нас шчэ і баба з троімі дзіцямі: две дзевачкі і мальчык. І так тая калдуння іх неўзлюбіла, што захацела іх со свету зжыць. Не знаю, што яна дзелала, а дзевачка адна забалела, доўга мучалася і ўмерла. І мальчык патом умер. Стала тая баба думаць, што ж ето такое, хто прокляцце наслаў. І падумала яна на ету калдунню, бо ругаліся яны сільно. А ў вёсцы казалі тады, што яна не така, як усе. І сказалі бабе, каб укапала ў землю кол, а стружкі з кола варыла. Тады паглядзіш, калдуння яна ці не. Так і стало. Калдуння була, бо прыбегла і просіць, каб не варыла. А баба кажа: "Як ты маіх дзетак згубіла, так і я цябе згублю". Так і було. Праз два тыдні спаліла баба калдунню ў яе хаце і сама разам з ёю згарэла. А дзевачка адна асталася, сіротка.

***Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Палуянавай Варвары Аляксееўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Данілевічы Лельчыцкага р-на)***
***студэнтамі Беразняцкай Н., Карпенка М., Асадчай Х.***

Раскажу жа вам, як я вірнуўся жыць у Доўск. У той дзірэўні, куда піраехаў, была там у міне саседка, да такая прыветлівая. Шчытай, што жыла ў нас, з хаты не вылазіла. Пражыў паўгода, а нічога ні нажыў, усё дохла, токі адна свіння была. Падказалі мне людзі з’ездзіць к Нічыпару, гаварылі, што ён многа зная. Падказаў ён міне, што ў міне нешта зарыта на двары. "І тоя, што найдзіш, – гавора, – завізі на кладбішча і роўна ў двінаццаць чісоў ночы падкладзі пад хрэсцік дзіцяткі". Прыехаў дамоў, рыўся днямі, нічога ні было. Выпусціў свінню папасціцца, і ена вырыла пад шулай звёртак у бумазі. Я за его, жонцы нічога ні сказаў, і павёз на кладбішча. А ў нас піскі, на лісапеце ні пакруціць. Так я ідзе ішоў, ідзе ехаў. Здзелаў усё як Нічыпар сказаў. І пайшоў. Успомніў, што аглідацца нільзя, і я

мітулям на лісапету сеў, разы два крутнуў і чую, некая баба крычыць: "Іван!" А аглідацца нільзя. А ена другі раз крыкнула: "Іва-а-ан!" Аж разрываецца. Я ні аглядваюся. І тады чую, хто-та за плічо схваціў і ўжо ікім-та слабым голасам шэпча: "Іван". І я весь абмяк. Ні помню, як с лісапеты саскочыў і дамоў дабег. Усю ноч ні спаў. А Нічыпар прыказаў, еслі назаўтра прасіць хто з саседзяў што будзя, ні даваць. Так аслабеў, што ў калхоз ні пашоў на работу. Вышаў на двор і стругаю, і ўспамінаю, чый жа эта голас такі знакомы быў. Тут саседка мая біжыць: "Вань, Іваначка, аддаўжы хлеба". А я сам сабе думаю: "Ні дам!" І ена пабегла. Ні прашло і поўчаса, апяць прыбігае і гавора: "Іваначка, дай нітак белых". Я апяць ні даў. І ена да палавіны вуліцы дабегла, бачу, крутнулася – і назад у мой двор. Бачу, хватае мае стружкі – і ў запазуху сабе. І тут я паняў, што ёй ні па сабе. І што ета Ганна мене тады звала. Схваціў ее за косы, выкідай, гавару, ведзьма, стружкі. А ў ее і голасу німа, і стружкі самі пасыпаліся, чуць паплілася з двара. После таго на вуліцу ні паказвалася і цераз месяц памёрла. Я после таго і вірнуўся ў Доўск.

***Запісана ў в. Доўск Рагачоўскага р-на***<br>
***ад Баразённікава Івана Міхайлавіча, 1929 г.н.,***<br>
***студэнткай Трошка Т.***<br>
***(2003 г.)***

Мамка хадзіла з хлопчыкам жыта жаць. Ну, ён вяжа куклы ў жыце і ходзя па жыту. Яна і кажа: "Сынок, што ты дзелаіш?" Ён і кажа: "Так нада". Мамка пайшла к бацюшкі і спрашуя, што ета такое. Расказала яму ўсё. Ён сказаў, што яго нада перакрысціць, што яго хросная перадала яму сваё вядзьмоўства, што нада выйці на ўліцу, каго стрэня первага, таго ўзяць у кумы. Яго, хлопчыка, перахрысцілі, а калі зноў пайшоў з мамкай жыта жаць, мамка і кажа: "Сынок, а чо ты куклы не вяжыш?" А ён кажа: "Мамка, няльзя куклы вязаць".

Калісь хлопцы і дзеўкі ноччы гулялі, каціўся каток. Яны паймалі яго, усунулі палку ў каток. А ведзьма дамоў прыйшла, у вушах палка ў яе тырчыць.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***<br>
***ад Казаннікавай Вольгі Акімаўны,***<br>
***студэнткамі Бандзюк А., Макеевай С, Хатэнка С.***

Ведзьмаў у нашай дзірэўні даўней багата было, да і шчас ё. Толькі етыя ні такія, як тады былі, етыя ні так багата знаюць, накупляюць кніжак і прыдзелываюць. Даўней толькі старыя бабы етым заніmаліся, а шчас і старыя, і маладыя жанкі. Ё і лекаркі харошыя, і аддзелываюць ніплоха. А ведзьма – ета чортава жана. Ены сільна любяць прыбігаць на празнікі і прасіць што-небудзь. Ім жа плоха робіцца, калі нікаму ні прыдзелаюць. Як толькі пераехалі мы ў Збароў, саседка цераз дом жыла з дачкой Тоняй і зяцем. Людзі казалі, што сільна многа зная Варка. Як памірала, шыбы павыліталі з вакон і сільны вецяр з дажджом быў. Вядзьмаркі трудна паміраюць. Кажуць, што знала, дочцы перадала. После етава дзе-та цераз год Тонька радзіла дачку і зразу памёр іе муж. Адныя гаварылі, што Тонька іго атравіла, бо піў. А некаторыя бабы шапталі, што ета, када ведзьма раджаецца, хто-та ў сям’і памірае. Тонька і шчас, кажуць, калдуя. Дачка прыязджае з горада, і на празднікі да ночы свет гарыць у хаці. Я раз на Купалу сама бачыла, як вышла Тонька з дачкой на гарод, точна помню, было каля поўначы, яшчэ на часы паглідзела, і што-та там рыліся, а патом куды-та пашлі, так я тады і падумала, што ўжо паскудства робяць каму-та. І да мяне не раз Тонька прыбягала, то хлеба, то солі прасіла, а то яіц, і ўсё жаліцца, што куры дохнуць. А скацінка сільна баіцца такіх і дохня. Тонька і завідавала, а вядзьмаркі толькі па завісці і робяць. Ены ж када зляцца на чалавека, у іх нічога не палучаецца.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Адамавай Кацярыны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Насупраць мяне жыла ведзьма. Звалі яе Вера. Сяйчас яна ўжо памерла. У яе абліччы нічога асаблівага не было. На шэраватым ліцэ была вялікая барадаўка каля носа, валасы да самой смерці былі чорныя, як смала. Вера трошкі кульгала і сутулілася. Апраналася заўсёды ў дліннную спадніцу чорным цветам. Яна была наша родственніца, мачаха майго мужа.

У ведзьмы прадана душа чорту, і яна баіцца яго ўспамінаць. Калі хто-небудзь скажа: “Пайшоў к чорту”, то Вера гаворыць: “Не нада, не нада пра яго гаварыць”.

Мой муж з 1931 года нараджэння, быў малым, толькі начынаў чытаць. Тады ён жыў разам з бацькам і мачахай. На куце ляжала

кніжка на полцы, і ён узяў проста паглядзець, заінцерасаваўся, таму што кніжка была чорная з белымі буквамі. У калі мачаха ўбачыла, што яе пасынак чытае кнігу, сільна яго набіла і пачала хаваць далёка. Гэту кнігу яна чытае спачатку слева направа, а потым справа налева. Калі яна так не адчытае, то чэрці яе замучаюць.

Аднажды сяджу я ў абед і гляджу з віранды на вуліцу. А ў Веры бяроза высокая-высокая расце перад домам. І тут як падняўся віхор ніадкуль вышэй бярозы, а насупраць копанка, і гэты віхор так круціў, аж чуць не знёс хату, а потым па сцежцы і знік у копанцы. Гэта здарылася таму, што ведзьма чытала сваю кніжку і не адчытала назад.

У другі дзень Каляд заўсёды прыходзіць што-небудзь папрасіць: ці то соль, ці спічкі. Але нічога ніхто не дае. Тады яна прыносіць свайго малака. Я аддаю катам, а калі яны не ядзяць, там заводзяцца чарвякі. Падкрадаецца ў сарай, крадзе навоз і сабе ў агарод кідае з нейкімі словамі, тады нічога не вядзецца. У нас прапала дзве каровы, даіліся кроўю, каб падаіць, трэба было пяць чалавек, з поля ў сарай не бегла, з хлява вылазіла з вялікімі бешанымі вачамі.

У чысты чацвер у 4 часы ўтра ведзьма нагаляк раздзяецца, распускае косы, бярэ венік і вымятае свой агарод, кідае саседзям смецце. Потым у яе ў агародзе чыста, а там ўсё зарасла, і не могуць ізбавіцца ад травы. Але ёсць багата загавораў ад гэтага. Трэба прынесці старое каляско ад цялегі і спаліць са словамі: “Гары, залом, залой упадзі, а ты, зямля-матушка, ураджай нарадзі. Амінь”.

Калі была свадзьба маёй дачкі, дык Вера прыйшла ў чорнай хустцы, а потым знайшлі на куце хлеб крастом.

Мне было сільна плоха і з’ездзілі да дзеда-загаваруна. Ён сказаў: “Трасіце свае падушкі”. Калі пачалі перабіраць пер’я, то знайшлі катышкі, акуратна склеяныя з тонкай матузачкай, зробленыя веерам. Гэта было зроблена на доўгую балезнь і смерць.

У маленькіх дзяцей крала крэсцікі – забірала розум і аддавала сваім унукам. Аднойчы пазвала маіх унукаў у хату і каждаму па яйку дала. Дзеці паказалі яйкі маці, і тая сказала іх выкінуць. А малодшы паспеў з’есці, дык у яго цэлы дзень жывот балеў. Тады я чытала загавор: “Госпадзі, ацец нябесны, сіла твая і воля твая. Спасі, сахрані і аберагі усе пуці, усе дарогі маіх унучат. Ад усякіх захворванняў, ад вады і агня, ад сцякла і нажа, ад любых болей. Адвядзі, Госпадзі, злых людзей. Амінь”.

На празнікі ўсе хадзілі ў царкву, а Вера апраналася і сядзела на лаўцы. Але ніколі ніхто не відзеў, каб яна крэсцілася і хадзіла ў царкву.

Калі будавалі хату, гэта ведзьма ўсё круцілася тут. Потым праз некалькі год мы мянялі шыфер, знайшлі подкладзень. Гэта было курынае гняздо з яйкам. Гэты подкладзень занеслі на перакростак вуліцы і спалілі са словамі: "Як гэты подкладзень гарыць, так хай у цябе нутро баліць. Як ад гнязда застанецца зала, так ад тваёй справы не будзе зла. У імя айца і сына, і святога духа. Амінь".

Паміралa вельмі цяжка. Прасіла падаць воду, калі падасі, то забярэш яе сілу, яе пакуты. Злы дух трэбуе, каб дзелаў чалавек плахое, а калі не дзелае, яму ж дзелаецца плоха, а ён тады бягіць да таго, каму хоча здзелаць плахое. Трэба было ўзарваць стольніцу, каб лягчэй памерці. Яе сын быў пажарнікам. Ён пазваў сваіх сяброў на дапамогу. І пасля пахарон у яго паявілася багата сядзіны. Ён запраціў расказваць, што было ў хаце. Калі рабілі гроб, дык чуць не пазабівала ўсіх, паламаліся ўсе станкі.

У іншай вёсцы жыла бабка. Твар нейкі шэры заўсёды, з барадой і вусамі ды ніколі не ўсміхаецца. Як паглядзіць спадылба ды калматых брывоў, дык нейкі жах агарне. Нешта бурчыць сабе пад нос, а з людзямі і не размаўляе ніколі. Уначы на Івана Купалу па вуліцы пабегла свіння, хлопцы пабралі палкі і так яе адлупцавалі, што не засталося і жывога месца. А назаўтра старая бабка ляжала і не магла падняцца з ложка. Так усе даведаліся, што яна ведзьма.

Калі ведзьма хоча, каб чалавек памёр, яна бярэ фатаграфію гэтага чалавека, завязвае ў вузялок і калі каго-небудзь хароняць, кідае ў магілу. Аднойчы былі пахароны, і раптам у магілу паляцеў нейкі скрутак. Гэты вузялок асталі, а там была фатаграфія чалавека. Але ўсё роўна ён потым здурнеў.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на ад Батура Ганны Раманаўны, 1935 г.н., студэнткамі Цімахоўцавай А., Ткачовай А. (2003 г.)***

Былі ў вёскі жанчыны, якія маглі што-небудзь зрабіць дрэннае. Не ведалі, хто гэта робіць і калі, але, канешне, асцерагаліся, не размаўлялі пра іх. Былі і тыя, што малако здойвалі ў кароў.

На свята Івана Вадзёмскага (у гэты дзень рабілі ўсё, каб засцерагчыся, прысвечана было засцяроге ад ведзьмаў) у хлеве дзверы і ўсе шчэлі затыкалі крапівай, каб не пралезлі і не здаілі малако.

Жанчыны (ведзьмы) пераўтвараліся ў розных жывёл, і ў кошку таксама. Вось у нас расказвалі, што мужчына адзін зайшоў у хлеў, а

там кошка чорная ходзіць каля каровы. Ён яе праганяе, а яна не ўходзіць. Тады ён узяў тапор і адсёк ёй лапу. А на наступны дзень яму сказалі, што жанчына адна ходзіць з перавязанай рукой: палец адсекла. Вось яна і была той кошкай – ведзьма, што кароў доіць.

Аднойчы да мяне прыйшла саседка і малака папрасіла, я дала. А потым у маёй каровы кожны дзень малако знікала. Некалькі дней не было. На поле карова хадзіла, а малака не было, а раней добра давала. Вось мне суседка і сказала, што можа тая ведзьма, што трэба ўзяць дойку з астаткамі малака, накрыць яе марляй і палажыць зверху тры іголкі. Даілку трэба пакласці каля парога на ўсю ноч, а раніцай выліць тое малако праз забор. Я так і зрабіла. Праз некалькі дней зноў малако было ў каровы.

***Запісана ад Сакун Аляксандры Адамаўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Губарэвічы Хойніцкага р-на)***
***студэнткай Андрэевай А.***
***(2003 г.)***

Ведзьмы адбіраюць малако. Вера лезла па вуглу і зубамі выцягвала салому. Жабай здзелаецца (прыгае ў вакно), свіннёй. І тады па той саломіне працэдзе малако ў гладыш.

Свякруха ў падушку натыркала іголак – паддзелывала. Будзеш тады сварыцца, біцца. Каб адлячыць, то вадой свянцонай можна.

Еслі мужык гуляе, то ўліць кроў, каб не бачыў, у яду, то не будзе бегаць па бабах.

***Запісана ў в. Рэпкі Рагачоўскага р-на***
***ад Кавардаковай Ніны Міхайлаўны, 1946 г.н.,***
***Петрусёвай Ганны Данілаўны, 1921 г.н.***

Ведзьма – гэта злы чалавек ці проста сазданне. Чалавек, які прачытае чорную магію, ноччу становіцца ведзьмай. У адной дзярэўні была жэншчына. Яна ведзьмай лічылася, штоб яе душы было лягчэй, ведзьмам трэба рабіць зло. І гэтая жэншчына абрашчалася ў свінню і ноччу хадзіла за маладымі парамі, усё выгледжвала і слухала, аб чым яны гавораць. А ўтрам усё, што рабілі і гаварылі маладыя, знала ўся дзярэвня. Маладая пара, канешне ж, разыходзілася пасля гэтага і крыўдзілась адна на аднаго. І вось аднаго дня павадзілася ведзьма хадзіць услед за аднае парай. Некалькі дней

хадзіла. Хлопцу гэта не спадабалася і хацеў ён прагнаць і пабіць гэтую свінню, але ні аднаго разу не сумеў падцэліць па ёй. Прыйшоў хлапец дадому і расказаў гэта дзеду свайму. Дзед, паслухаўшы, сказаў, каб хлопец, калі будзе лунны ноч і свіння з'явіцца зноў, біў яе па ценю. Хлапец так і зрабіў: аддубасіў цень свінні так, што свіння чуць пабегла. На ўтра сталі ўсе гаварыць: "Панкрацьеўна захварэла, чуць жывая". Дзед з унукам да яе, а яна збітая. Тут яны ўсё і зразумелі.

Вельмі ж гадкія і паганыя гэтыя ведзьмы былі. Называлі іх па-рознаму, дзе як. У Добрушскім р-не, еслі людзі зналі, што эта ведзьма, называлі яе паміж сабой "цётачка", кааб, калі яна пачуе, штоб не паняла, што пра яе гавораць. Ведзьма магла быць у любым абліччы: жывёлы ці дажа каляса ад дзеравяннай павозкі, магла быць любым знаёмым чалавекам. У нашай вёсцы аднойчы вось як было. Ішла моладзёж у дзярэўню з клуба. Глядзяць – каціцца калясо. Ім стала цікава. Хлопцаў было там многа. Ані ўзялі палку і захацелі прадзець у гэта калясо. Доўга за ім ганяліся, але ўсё-такі прадзелі. І як толькі яны гэта зрабілі, перад імі ляжала жэншчына, а палка была ўторкнута ў жывот.

Ведзьм распазнаюць па вачам. У яе вочы, як звярыныя, і глядзіць яна халодна, дажа калі ўсміхаецца. Таксама па паводзінам яны сябе прадаюць. Рэдкім ведзьмам удаецца скрываць сваё рамяство.

***Запісана ў в. Тарасаўка Веткаўскага р-на***
***ад Саўчанка Любові Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Жарносенка І.***
***(2003 г.)***

Ведзьмамі лічылі тых людзей, якія людзям рабілі дрэнна. У кожнай вёсцы ёсць такія. Ведзьмы маглі прырабіць карове, каб тая не давала малака. А каму зробіць так, каб чалавек не ўставаў з кравацi. Падраблялі многа каму. Такую шкоду рабілі, што проста ўжас. Жылі яны ў абычных хатах, расказвалі, што ў ведзьмы ноччу гарэлі свечкі, мабыць, нешта падрабляла каму-небудзь. Яны былі вельмі неакуратныя, хадзілі пастаянна мурзатыя.

***Запісана ў в. Лiскі Рагачоўскага р-на***
***ад Піліпенка Лідзіі Арцёмаўны, 1929 г.н.,***
***Піліпенка Алены Арцёмаўны, 1934 г.н.***

Калісь, расказвалі бабкі, што ведзьма і катом здзелаецца, і канём, і свіннёй, і калясом здзелаецца. Расказвалі старыя людзі, што калі маланка блісне, то яна танцуе. І вот тады ж хлопцы, гэта не цяпер, хлопцы не зналі, як паймаць. Так жа не паймаеш яе. І яны черaз калясо вяроўку завязалі, но яны знаюць, што гэта бабка. Уранні праснуліся, а яна ляжыць, і вяроўка ў яе цераз рот і жопу працягнута. Так яна ўжо прасіла, каб не расказвалі нікому. І прасіла, што здзелаюся калясом, а вы мне развяжыце вяроўку. Ну, і развязалі. І ведзьмы ўсё здароўе забіраюць і жывуць багата гадоў.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Вашэта Марыі Лаўрэнцьеўны, 1932 г.н.***

Ведзьма – ета старая жэншчына, очэнь страшная, з гарбом, седая. Но такжа ведзьмай магла быць і пажылая жэншчына. У яе чорныя косы, вочы тожа чорныя ці зялёныя.

Раньшы ў нашай дзерэўне старыя бабкі многа што пра етых ведзьмаў зналі. Гаварылі, што і ведзьмакі тожа ёсць.

Мне расказывалі, што жыў адзін мужык, дзяржаў хазяйства і курэй, свіней, каня і карову. І быў у етага мужчыны сасед. Усе людзі гаварылі аб ім плоха, што ведзьмак нейкі. І вот той мужчына расказваў, што ў яго то карова прыйдзе з кіслым малаком, то саўсем без малака. Куры несліся не на месцы, а ў чужых агародах, то свінні есці не бяруць, а вішчаць як галодныя. Неўзабаве пасля етага прыходзіць к етаму мужыку сасед і просіць солі. І так было часта, і ўсё ўрэмя еты сасед прыходзіў потым і што-небудзь прасіў. Патом еты мужык пайшоў да адной бабкі, а тая яму сказала, што яго сасед робіць яму шкоду і яго жывёлам, а патом усе ведзьмакі прыходзяць і пазычаюць што-небудзь. Пасля етых слоў мужык еты падсцярог саседа ноччу і наказаў яму строга, каб той болей не шкодзіў.

***Запісана ў в. Убалаць Калінкавіцкага р-на***
***ад Прышчэп Антаніны Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Нямковіч А.***
***(2003 г.)***

Ведзьмы – ета людзі, якія калдаваць умеюць. Яшчэ яны багата знаюць. Ведзьма можа загаварыць чалавека, і той памрэ ці захварэя. На скаціну яны порчу наводзяць, у кароў малако адбіраюць. Калісь маладзіца адна расказувала, шо калі не пойдзе ўранні карову даіць,

дак малака няма, нача хто вудаіў. Раз яна ноччу ў сянніку схавалася да й сцярагла карову. Аж у 12 часоў, бачыць, жаба здаровая скача. Падскочыла да вумя, павісла на дойцы і малако ссе. Пассала і паскакала. Маладзіца етая тапор схваціла да замахнулася па жабі. Аж толькі лапу адсекла, не ўбіла. Назаўтра бачыць, шо суседка яе, баба старая, з рукой перавязанай ходзіць. Кажуць, во то яна і крала малако.

Ведзьмы як паміраюць, дак перадаюць сваю сілу каму-нібудзь з родных. У нас була такая ведзьма. Памерла ўжэ даўно. Дак яна як памірала, хацела сілу сваю сыну аддаць. А сястра яеная яго не пусціла. Дак тая доўга мучылася і стагнала. Да рання не магла ніяк памерці.

А вонь у нас Лявон-знахар буў. Балота знаў добра. Дак ён добрая людзям рабіў. Як хто занямог, дак ён памагаў ім.

Памёр ён ужэ. Дак сяйчас, як сядзіш ноччу ў яго на лаўцы, дак чутна, шо лісця на дзераві шуршыць. А ветру няма. Во як.

***Запісана ў в.Чамярысы Брагінскага р-на ад Сніцарэнка Ганны Ільінічны, 1919 г.н., студэнткай Краўчанка Н. (2003 г.)***

Ведзьмы могуць быць такімі, што іх калдаўство перадаецца ад пакалення ў пакаленне, ад дзеда – сыну і так дальш, а могуць быць і такія, у якіх і ніколі ў пакаленні не было ні ведзьмаў, ні калдуноў.

З ранняга ўзросту ведзьмы могуць паддзелваць людзям. А за ўсё сваё жыццё яны могуць пагубіць нават больш за сто душаў чалавечых.

Ведзьмай можа быць не толькі дрэўняя баба з кійком, а нават вучыцелькі, урачы, інжынеры і г.д. А ведзьмамі ці калдунамі людзі становяцца тады, калі прадаюць сваю душу дзьявалу. Як толькі душа ўжэ прададзена дзьявалу, то еты чалавек назаўсёды лішаецца свайго ангела, які ў людзей праведных сядзіць на правым плячэ. Калі чалавек усё ж такі прадаў душу дзьявалу, то на левым плячэ ў яго сядзіць бес. Паетаму ў людзей некаторых ёсць прывычка: плюваць праз левае плячо і етым адвесці нейкую бяду.

Ведзьмы бываюць белыя і чорныя. Некаторыя людзі лічаць, што белыя ведзьмы – ета добрыя людзі, а чорныя – ета плахія людзі. Ета не так. Белыя і чорныя ведзьмы – ета плахія. Разніца паміж імі толькі ў тым, што чорныя могуць людзям паддзелваць, а белыя – паддзелваць і здымаць.

Ведзьмы маглі паддзелаць людзям самыя розныя порчы: развесці мужа і жонку, жэншчыну зрабіць бясплоднай, чалавека паралізаваць, разбіць на машыне і другія. Каб зняць порчу, трэба было звярнуцца да знаючага чалавека.

***Запісана ў в. Навасёлкі Рагачоўскага р-на***
***ад Лашаковай М.А., 1928 г.н.,***
***студэнткай Валодзькінай Н.***
***(2003 г.)***

Жыла ў нас Ціханіха. Яна ўсё врэмя паддзелывала людзям. І малако забірала ў кароў, не даіліся. І дочка ў яе етым занімалася.

Выглядзела як і ўсе: маладзіца красівая, харошая такая, статная. Не атлічалася ад нас.

І аднажды прынесла яна саседу свінку падгавараную. А ён знаў, якая яна, і знаў, што падгаварыла яе. Ціханіха пусціла яе ў двор. А ён яе – віламі. Дык аказалася, што свінка – Ціханіха, а прынесла яе дочка. А ён як жа пырнуў яе віламі, яна стала чалавекам, і на наге ў Ціханіхі былі чатыры дырачкі. Яна не выхадзіла дзесьці месяц, так зажывалі яны.

Ціханіха прэвращчалася і ў свінку, і ў кошку.

А перад Іван Купала ў яе вутрам, ранечка, заўсёды была абліта сцяна на двары вадой. Усегда так.

***Запісана ў в. Кароцькі Кармянскага р-на***
***ад Маскаленка Іны Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смірновай І.***

Ведзьма – жанчына, якая ўступіла ў хаўрус з д’яблам. Пры дапамозе пэўных заклёнаў і прыгавораў ведзьма можа перарабляцца ў розныя жывыя істоты.

***Запісана ў в. Загор’е Светлагорскага р-на***
***ад Кулажанка Святланы Ігараўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Савіцкай І.***
***(2003 г.)***

У нас тут няма, слава Богу, а вось у суседняй вёсцы, кажуць, жыве. Дык столькі няшчасцяў прыносіць. То град пройдзе ў іх, а нас абміне, то воўкі нападуць на статак, то адразу некалькі чалавек у хаце памрэ. І, кажуць, што гэта мсціць тым, хто яе не баіцца, хто ёй адмаўляе. У яе ж анічога няма: ні кароўкі, ні куры, нічога яна не

садзіць. Прыйдзе ў хату, не зачыняемся ж, сядзе на лаву і сядзіць. А што ж ёй адкажаш, не накорміш. Усе баяцца ёй што-небудзь сказаць, пакрыўдзіць. А то прычыніць урэд жывёле ці дзіцё захварэе, ці яшчэ што-небудзь здарыцца.

А хата яе стаіць на краю, асобна ад усіх. Такая старая, ніхто яе не падрабляе, ей мо ўжо сто гадоў. А той вядзьмарке мо і болей. Ніхто не памятае, чыя яна (даўно жыве), нават самыя старыя бабкі. І не старэе, не памірае. Пітаецца нячыстай сілай. І ў дом яёны ніхто не захадзіў. Ніхто не ведае, што там унутры. Бывае вабшчэ ніхто яе доўга не бачыць, думаюць, ужо ўсё, памерла, а потым з'явіцца і ходзіць па вёсцы. Ці хто-небудзь сустрэне яе ў лесе. Ходзіць там са сваім чорным катом, бармоча нешта сабе пад нос, схіляецца над зямлёй, можа, мужа свайго – ведзьмака, вызывае, а можа, нейкае заклінанне шэпча.

***Запісана ў в. Якімава Слабада Светлагорскага р-на***
***ад Новік Валянціны Ціханаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Новік В.***
***(2003 г.)***

Вадзіліся ў нашай дзярэўні ведзьмы. Не знаю, колькі іх усіх было, а адну дык точна помню. На від яна была такая страшная, што ўсе яе абходзілі бокам. Хадзіла ўсё ўрэмя ў чорным. Была яшчэ не старая, а косы, дак такія сядыя былі. Вочы чорныя-чорныя, як гляне на каго, дык таму чалавеку адразу пагана становіцца. Сначала не зналі, ад чаго людзям часціком было пагана, а патом ужо понялі, што Насця – вядзьмарка. І пайшла на яе такая мянушка – Насця-вядзьмарка.

Жыла яна адна не таго, што ні разу не была замужам, а таго, што ўсе мужыкі, якія з ёю жылі, паўміралі. Выходзіла замуж яна чатыры разы, але з кожным мужам жыла не болей года, і ўсе ж мужыкі крэпкія былі, здаровыя.

Насця-вядзьмарка ў маладосці была вельмі прыгожая, і мужыкі аж чародамі к ёй хадзілі, а тыя, якіх яна хацела, а яны яе адвяргалі, дак ім было сільна пагана ў жыцці. Помню Сцяпан Мар'ін быў горды хлопец, дак яму столькі ўсяго нарабіла, што бедны ўсё жыццё страдаў. Балеў багата, жонку страціў рана і дзяцей двое ў яго памерла. А дваіх гадаваў адзін і болей ужэ не жаніўся. А Насця-вядзьмарка, дак і тады к яму, казалі, падбівалася. Казалі, што яму будзе сільна добра жыцца, калі ён возьме яе. Але Сцяпан не сагласіўся.

Людзі сільна баяліся вядзьмарку. Я тады яшчэ падросткам была і баялася хадзіць гуляць. А калі гулялі, дак дзеўка якая-небудзь як скажа, падманіць, што ідзе Насця-вядзьмарка, дак усе разбягаліся, хто куды.

Казалі яшчэ, што ноччу яна праўрашчалася ў чорную кошку і бегала па дварах. Аднак я ў гэта не сільна веру. Думаю, што ета ўжэ выдумалі людзі.

А яшчэ была адна, яе я на сабе адчула. Прыйшла адзін раз ка мне Алеся, паглядзела так па двару, а ў мяне слівы ў вядрэ стаялі, дак яна кажа: "Дай мне, Алена, сліву". А я без усякіх падазрэнняў кажу: "Бяры". Яна набрала жменю і пайшла. Пасля таго мая карова не стала ісці ў мой двор, калі ішла з пашы, малака стала даваць напалавіну ці яшчэ менш. Гэта Алеся адабрала ў маёй каровы малако. Я тады стала шаптаць карову, пырскала яе святой вадой і мая карова не сразу, канечна, а з часам адыйшла.

***Запісана ў в. Катловіца Брагінскага р-на***
***ад Максімчык Алены Уладзіміраўны, 1932 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Крупейкі Лоеўскага р-на)***
***студэнткай Максімчык А.***

Ведзьмы – гэта людзі, якія прыносяць шкоду чалавеку. Шкоду яны прычыняюць рознымі спосабамі: могуць паслаць на чалавека нядобрыя словы па вятру, нагаварыць на якія-небудзь рэчы, якімі ты карыстаешся, падкінуць у двор што-небудзь дрэннае ці іншае зрабіць. Раней, як мне яшчэ расказвала маці, было вельмі многа такіх людзей, якія ведалі нешта дрэннае, можа іх і зараз шмат, не ведаю. Але маці расказвала шмат гісторый пра іх. Я раней жыла не тут, а ў іншай вёсцы, у Ламавічах Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці, і ў нас шмат у вёсцы жыло людзей, якія ведалі, як прырабіць каму-небудзь зло.

Вось аднойчы была такая гісторыя. Гэта гісторыя адбылася на Іванаў дзень. Кажуць, што ведзьмы тады пераўтвараюцца ў розныя жывёлы. У гэты дзень адна гаспадыня пайшла ў хлеў даіць карову і, зайшоўшы ў хлеў, убачыла жабу, якая піла ў гэтай каровы малако. Тады яна ўзяла палку і стукнула ёй па гэтай жабе. На другі дзень гэта гаспадыня заўважыла, што яе суседка не выходзіць на вуліцу. Яна палічыла, што суседка магла захварэць і ляжала ў краваці, і палічыла яе не турбаваць. Суседка не выходзіла некалькі дзён. Тады гэта гаспадыня сама пайшла да яе. Прыйшоўшы, яна ўбачыла, што ў суседкі

забінтавана рука. Тады яна зразумела, што на Іванаў дзень гэта суседка ў выглядзе жабы і шкодзіла яе карове.

Мне заўсёды маці казала, што, каб на Іванаў дзень нічога дрэннага з тваёй скацінай не сталася, трэба было ў хлеў затыкаць кляновыя або дубовыя веткі. Калі я ўжо пераехала сюды, у гэту вёску, мне таксама расказвалі шмат гісторый пра ведзьм. Адна з іх была падобна на выпадак з нашай вёскі.

На нейкае свята (інфарматар не помніць якое) жанчына заўважыла ў сваім хляве ластаўку ці можа іншую пцічку, якая нагадвала ластаўку, людзі па-рознаму казалі, і, выганяючы яе, ударыла гэтай пцічцы па назе. На другі дзень адна з жанчын у вёсцы выйшла на вуліцу і стала кульгаць на тую нагу, па якой учора ўдарылі пцічку. Тады ўсе і здагадаліся, што гэта была ведзьма.

Ведзьмы маглі прырабіць чалавеку дрэннае рознымі шляхамі. У нашай вёсцы расказвалі такую гісторыю. Адзін дзед паехаў за сенам на кані. На вуліцы было вельмі жарка, ён змарыўся і амаль што засынаў. Але, едучы, ён папаў з канём у віхор, які зрабіў вецер, і яны ўрэзаліся ў дзерава. Дзед упаў на цялегу і нібы заснуў, быў без прытомнасці. Конь павярнуў і паехаў дадому. Дома ніхто не мог разбудзіць дзеда, і яго маці з бацькам вырашылі пазваць каго-небудзь. Маці пайшла за бабкай, а бацька – за дзедам. Маці з бабкай прыйшлі ранней, і ўжо бабуля пачала шаптаць. У гэты час дзед, т.е. бацька таго непрытомнага, ішоў з іншым шаптуном. Не дайшлі яны да хаты, як гэты шаптун спыніўся і сказаў, што ў іх у хаце ўжо хтосьці ёсць, ён развярнуўся і пайшоў назад дадому. Бацька прыйшоў дадому і сапраўды ўбачыў, што ў іх ужо бабка сядзіць і шэпча над сынам, які пачаў прасынацца. Потым гэта бабка сказала, што нейкая ведзьма паслала па ветру дрэнныя словы, што абразавалі віхуры, у якія і папаў гэты чалавек. Потым дадала, што любому такому чалавеку, які папаў бы ў віхры, патрэбна была б іншая дапамога, бо без яе ён мог бы памерці.

Іншы раз ведзьма магла нагаварыць на якія-небудзь рэчы. Так, адна гаспадыня капалася ў агародзе і знайшла тры яйкі. Яна адразу зразумела, што тут штосьці нячыста і пайшла ды кінула гэтыя яйкі ў агонь. Гэтай жа ноччу, калі яна пайшла спаць, ей было вельмі дрэнна, спала яна плоха, усю ноч круцілася, яе кідала ў пот. Кажуць, што яна ледзь вытрымала да ўтра.

Падобная гісторыя была ў іншай хаце. У адных людзей часта ў хаце былі госці. А ўжо потым, калі госці ўхадзілі, усю ноч пад палом

грала музыка і нехта танцаваў. Гэты шум дакучаў жыхарам хаты, яны пачалі думаць аб небяспекі іхняй хаты. Яны звалі свяшчэнніка свяціць хату, але нічога не дапамагала. Тады яны вырашылі раскідаць пол і паглядзець, што там ім мяшала спаць. Так і зрабілі. Хазяйка знайшла ляльку, зробленую з саломы, у руках гэтай лялькі былі дзве палачкі і яйцо. Яна ўзяла ляльку і паклала яе на вуліцы, не ведаючы, што з ёй рабіць. А яе дачка, казалі, што яна была вельмі маладая, мо гадоў дваццаць тры, кінула гэту ляльку ў агонь. Дык ноччу ёй было так дрэнна, што ўсе думалі – яна памрэ. Але гэтага не было. Пасля гэтага выпадку яна доўга хадзіла схудалая, быццам бы хворая.

Не ведаю, як тут, але ў той вёсцы, дзе я жыла раней (Ламавічы), казалі, што ведзьма, калі памірае, будзе доўга мучыцца, калі не аддасць, ці як у нас казалі, не перадасць, свае веды каму-небудзь іншаму. Гаварылі, што ведзьма заключыла дагавор з чортам, і пасля смерці ведзьміна душа пераходзіць да чорта. Дык у нас у вёсцы, каб ведзьма не вельмі доўга мучылася, разбіралі паталок. Казалі, што так хутчэй выляціць яе душа.

Яшчэ ёсць такія людзі, якія таксама, як і ведзьмы, ведаюць нейкія словы або дзеянні, але апошнія дапамагаюць людзям. Некаторыя з іх могуць лячыць дзіця ад іспугу, зглазу. Іх называюць шаптухі. Іншыя могуць расказаць, хто табе што прырабіў, што ў цябе ў хаце нічога не вядзецца, могуць дапамагчы адвесці гэтую злую сілу. Але не заўсёды. Іншы раз такі чалавек можа расказаць табе, хто табе гэта або тое зрабіў, але не можа табе дапамагчы і адкажа: “Я не магу нічога зрабіць, яна сільнея мяне”. Мне расказвалі, што і такое было. Вось і ўсё, усякія людзі бываюць.

***Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на***
***ад Тукуновай Наталлі Прохараўны, 1957 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Тукуновай Н.***

# Дамавік

Даследчыца Л.Вінаградава, прааналізаваўшы шматлікія палескія матэрыялы, звязаныя з дамавіком, вылучыла яго наступныя тыпы: “1) дамавы дух антрапаморфнага выгляду, апякун сям’і і ўсёй гаспадаркі, які садзейнічае дабрабыту жывёлы; 2) нячыстая сіла, шкаданосны дух, чорт, які засяліўся ў доме, ад якога імкнуліся пазбавіцца; 3) нябожчык, які прыходзіць ноччу ў свой дом, дух памёршага родзіча; 4) зааморфны персанаж (вуж, ласка), які жыве ў хляве і ад якога залежалі дабрабыт жывёлы і членаў сям’і; 5) дух-“узбагачальнік”, які прыносіў у дом здабычу” [10, с. 285].

Уяўленні беларусаў, у тым ліку жыхароў Гомельшчыны, пра знешні выгляд дамавіка самыя разнастайныя. Яго антрапаморфны выгляд (гаспадыня, гаспадар дома, дамавік-мужчына) прасочваецца ў шэрагу былічак, запісаных на тэрыторыі Гомельскай вобласці. Напрыклад, яго ўяўлялі ў выглядзе “такога маленькага чалавечка. Ён стары і пахожы на дзеда. У яго чорная барада. Ён ростам малы, такі, як кукалка” (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на); “я відзела каждый вечар у нас мужчыну. І дажэ за руку меня дзержал” (г. Жлобін); “можа ўлезці ў чалавека. Выгнаць яго тады трудна. Гэтых людзей называюць беснаватымі” (г.п. Камарын Брагінскага р-на); “дамавік – ён нябачны гаспадар дома” (в. Будаўнік Хойніцкага р-на); “пахожы на гаспадара ці гаспадарку дома” (в. Пераралока Рэчыцкага р-на); “гэта маленькі старэнькі дзядок” (г. Рэчыца); “ён падобны на чалавека, толькі рост у яго вельмі маленькі. Сам ён чорны ці цёмны, па ўсім целе растуць валасы” (в. Дронькі Хойніцкага р-на); “дамавога ... называлі хазяінам, казалі, што ён быццам бы можа быць пахожым на гаспадара хаты” (в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на): “раз уначы выйшаў у сенцы, адкрыў дзверы, а пасярод двара стаіць маленькі дзядулька ў брыльку, такая на нём пашытая адзежка і зашчэплена” (в. Агароднія-Гомельская Добрушскага р-на): “дамавіка ўяўлялі сівенькім дзядком, у белай кашулі, падпярэзанай дзягай ці лыкам, з доўгімі валасамі, доўгай сівой барадой” (в. Ударнае Лельчыцкага р-на); “гэта сівы дзед у белай сарочцы з доўгімі касамі, доўгай сівай барадой” (в. Людзвінаўка Светлагорскага р-на); “дамавы – ета маленькі чалавечак, які жыве ў хаце і памагае людзям” (в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на); “ляжала я ў краваці, павярнулася і бачу нейкага маленькага дзядка з белай длінай барадой і валасамі...” (г. Гомель); “сам дамавік – красівы старычок з длінай

барадой” (в. Балотня Рагачоўскага р-на); “гэта хатнік. Кажуць, што ён мае від старэнькага дзядка з сядой барадою і длінньмі сядымі валасамі, адзеты ён у белую рубаху, падпаясаны дзягой” (г. Добруш); “ён маленькага росту, стары дзед з доўгаю сівою барадою” (в. Ванюжычы Петрыкаўскага р-на); “зайшла туды, а там у вуглу сядзіць сівы дзядок...” (в. Бацвінава Чачэрскага р-на); “Я прадстаўляю дамавіка як гноміка, старычок з барадой маленькай, па начах тупае ножкамі” (в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на); “пахожы дамавы на старога чалавека. Адзёжа ў яго ўся белая” (в. Міхалькі Гомельскага р-на). Як бачым, найбольшая колькасць запісаў сведчыць аб тым, што ва ўяўленнях беларусаў, у прыватнасці Гомельшчыны, дамавік мае выгляд старога дзеда ў белай вопратцы. Паводле даследавання Л. Вінаградавай, “...стэрэатып старога чалавека, падобнага на гаспадара дома, у большай ступені распаўсюджаны на самай усходняй мяжы Палесся” [10, с. 274].

Сустракаюцца павер’і, паводле якіх дамавік паўстае ў вобразе чорта. Цяжка сёння вызначыць прычыны ўзнікнення такой кантамінацыі. Можна прыняць пад увагу меркаванне В.В.Казначэева: “У в. Губічы (Буда-Кашалёўскі р-н) дамавік – “мужчына ў чорнай адзежы з бальшымі гузамі, як у генерала. Красівы, высокі, відны”. Вялікія бліскучыя гузы – вядомая прыналежнасць чорта. Тут паўплывалі дыфузія характарыстык розных міфалагем, натуральная ва ўмовах рэдукцыі міфалагічных уяўленняў, і вядомая тэндэнцыя да абагульнення ўсёй нячыстай сілы ў вобразе чорта...” [5, с. 164-165].

На думку Л. Вінаградавай, “адной з галоўных асаблівасцей палескай традыцыі варта прызнаць суіснаванне павер’яў пра антрапаморфную і зааморфную іпастась дамавіка...” [10, с. 274]. Апошняе знаходзіць пацвярджэнне ў шматлікіх павер’ях і былічках. Нават у адной і той жа мясцовасці, як заўважыла інфарматар Г. Шумская, “людзі па-ўсякаму прадстаўляюць дамавога: адны людзі – такога малога чалавечыка, старога дзядка з барадой, з вусамі, з такімі быстрымі вочкамі. Ну, а каторыя прадстаўляюць як перавертням у вобразе якога-небудзь воўка ці там другой якой жывёліны” (в. Рабуса Рэчыцкага р-на).

Звернемся да фактычных міфалагічных звестак, якія адлюстроўваюць уяўленні, звязаныя з зааморфным воблікам дамавіка. Напрыклад, яго ўяўлялі ў выглядзе ката: “он бывает катом” (г. Жлобін), “найчасцей дамавы паяўляецца пахожым на серага ката,

які любіць уночы пагуляцца з валасамі хазяйкі хаты” (в. Перавалока Рэчыцкага р-на); сабакі: “вось, напрыклад, каля адной хаты якая-та сабака пасялілася. І доўга яна туды хадзіла і спала ноччу там. Гаспадарам гэтага не трэба было, яны пачалі сабаку гнаць са двара. І ў іх захварэла баба. Праз час да іх прыехала ўнучка. Яна пачала карміць сабаку, гуляць з ёй. А баба тая выправі-лася. Калі ўнучка ўехала, то гаспадары пачалі зноў пхаць сабаку, і зноў стала дрэнна са здароўем. Яны падмецілі гэта і паспрабавалі карміць сабаку. Тады стала ўсім хараша. І гаспадарка палепшылася іхняя. Усёй вёскай вырашылі, што гэта дамавік быў” (в. Гадзічава Гомельскага р-на).

Паходжанне дамавіка звязваюць з памёршым членам сям’і, “першапродкам роду (усх.-слав.); памёршым членам сям’і, які за грахі прызначаны Богам ва ўслужэнне жывым “дамачадцам” (рус.); мужчынам, які памёр без пакаяння (рус.)” [1, с. 120]. На думку А. Леўкіеўскай, павер’і пра дамавіка як апекуна дома і жывёлы маюць некалькі істотных асаблівасцей, першая з якіх “заключаецца ў тым, што характэрныя рысы гэтага вобраза дастаткова моцна адрозніваюцца адзін ад другога на розных тэрыторыях, ... другая асаблівасць у тым, што ў многіх абласцях замест аднаго міфалагічнага вобраза існуюць два: дамавік, які апякуе толькі дом, і “дворовой” (у беларусаў – хлеўнік), пад апекай якога знаходзяцца двор і жывёла... Нарэшце, трэцяя асаблівасць вобраза заключаецца ў тым, што ў розных абласцях, побач з міфалагічнай істотай, ролю апекуна дома выконваюць якія-небудзь жывёлы: змяя, ласка, жаба, павук, певень, якія набываюць у народнай свядомасці міфалагічныя рысы” [2, с. 278-279].

Той факт, што гэты персанаж сапраўды займаў вельмі важнае месца ў сістэме традыцыйных народных уяўленняў, пацвярджаецца даволі значнай колькасцю вераванняў і міфалагічных аповедаў, якія працягваюць бытаваць сёння на тэрыторыі Гомельшчыны і іншых рэгіёнаў Беларусі.

Паводле мясцовых народных вераванняў, дамавік – гэта гаспадар дома, які памёр (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на); “дамавы – гэта чалавек умірае, што многа знаў” (г.п. Камарын Брагінскага р-на); “дамавік з’явіўся з гліны” (в. Глініца Мазырскага р-на); “дамавік пахож на памерлых родственнікаў” (в. Чырвоная Буда Добрушскага р-на); “дамавік – гэта нячыстая сіла, яны з богам не кантачуць, яны самі па сабе” (в. Матнявічы Чачэрскага р-на).

Вар'іруецца ў лакальных традыцыях і месца жыхарства дамавіка: і печ, і прыпечак, і століь, і цёмны куток, і швейная машына, і венік. Але найбольшая колькасць звестак сведчыць, што самае любімае месца знаходжання гэтай істоты – печ: "ён ("дамавой" – В.Н.) у нас дзе-та за швейнай машынкай" (г. Жлобін), "у хаце, абычна за печчу, жыве дамавік" (в. Новы Макрэц Брагінскага р-на), "многа пребывае дамавых у неасвечаных хатах" (г.п. Камарын Брагінскага р-на), "жыве ў доме, пад полам" (в. Пракісель Рэчыцкага р-на), "жыць дамавік можа на печы, пад печчу, у коміне, пад венікам, у куточку…" (в. Бабоўка Жлобінскага р-на), "абычна ён жыў ці ў цёмных вуглах, ці за печкай", "ён жыве ў пограбе ці за печкай" (в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на), "дамавік жыве на паталке, таксама ў веніку і ў кутку, дзе венік стаіць" (в. Агароднля-Гомельская Добрушскага р-на), "жыў ён у хаце пад падлогай ці пад печкай" (в. Ударнае Лельчыцкага р-на), "дамавік жыве ў шкафчыках" (в. Сяменча Жыткавіцкага р-на). "А ў некаторых рускіх абласцях верылі, што дамавік жыве ў спецыяльна падвешанай для яго на двары сасновай або яловай галінцы" [2, с. 282].

Надзвычай устойлівымі, на думку Л. Вінаградавай, з'яўляюцца "павер'і пра пастаяннае знаходжанне ў доме дамавіка (як антрапаморфнага духа) ва ўсходніх раёнах" [10, с. 276]. Гэтае меркаванне пацвярджаецца і эспедыцыйнымі запісамі апошніх гадоў: "у доме жывець дух, якога завуць дамавы" (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на); "дамавік іе ўсюду" (в. Хутар Светлагорскага р-на); "дамавой у каждава ёсць" (г. Жлобін); "в каждом доме есть хозяин домовой (г. Гомель, ад перасяленкі з в. Пасёлкі Кірэеўскага р-на Тульскай вобл.); "шчытаецца, што ў кожным доме, у кожнай кватэры ёсць дамавы" (в. Барсукі Кармянскага р-на); "хочам мы гэтага ці не хочам, а дамавік жыве ў кожнай хаце" (в. Бабоўка Жлобінскага р-на); "дамавікі ёсць у кожнай хаце, але іх мала хто бачыць" (г.п. Акцябрскі); "у кожнага ў хаце есць дамавы, гэта можа быць або жанчына, або мужчына" (в. Сівенка Веткаўскага р-на); "дамавікі, гавораць, жывуць у кожным доме, каму спрыяюць, каму врэдзяць, каму што" (в. Матнявічы Чачэрскага р-на).

Характэрны час з'яўлення дамавікоў у беларускіх павер'ях – дні пасля смерці гаспадара: "Я раньшы не знала, што ў міне ў доме жывець дамавы. А ўзнала я пра яго, када памёр мой муж. Нядзеля прашла после пахарон, і стаў мне сніцца дзядок маленькі" (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на). Прыведзены аповед блізкі да

міфалагічных уяўленняў, звязаных з прадказаннямі дамавіком смерці каго-небудзь з членаў сям'і: "бо калі муж бачыць дамавіка – памрэ жонка, а жонка бачыць – памрэ мужык" (в. Агародня-Гомельская Добрушскага р-на).

Як сцвярджаюць інфарматары, "дамавік іе ўсюду. Можа быць усякі. Іе харошы дамавік, які хазяіну спрыяе, а іе плахі" (в. Хутар Светлагорскага р-на). Паводле народных уяўленняў, дамавік, з'яўляючыся апекуном хаты ("ён хазяін дома"), гаспадаркі, сям'і, жывёлы, сочыць за парадкам у хаце, прычым падтрымлівае яго, калі гаспадары сапраўды акуратныя: "калі ў хаце парадак, лад, то дамавік садзейнічае гэтаму, а калі не, то ён злуецца" (в. Васільеўка Добрушскага р-на).

Шэраг мясцовых павер'яў пацвярджае функцыю дамавіка апекаваць гаспадарку ("дом глядзіць, памагае хазяйцы" (в. Пракісель Рэчыцкага р-на). Такі яго станоўчы статус магчымы толькі пры ўмове, калі гаспадары паміж сабой не сварацца, шчыра працуюць, сумленна ладкуюць сваё жыццё і з'яўляюцца дбайнымі людзьмі: "еслі ў доме ўсё ў парадку, то дамавы смотріт харашо за ім, сцеражэ скаціну, курэй, адпугвае чарцей ад двара" (в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на), "у каждага чалавека свой дамавёнак або ў каждай сям'і свой дамавёнак. Он любіць добрых, харошых людзей. Любіць парадак каб у доме быў, чыстату, асобенна на кухні, не дай, Бог, штоб пасуда была гразная. Не любіць, калі хазяева ругаюцца" (в. Балотня Рагачоўскага р-на). Дамавік дапамагае знайсці згубленую рэч ("нешта звалілася і не магла знайсці, шукала, шукала і не знайшла, а потым дамавічок паклаў на віднае места") (в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобл.), пазбавіцца ад павукоў і павуціння (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на).

Дамавік, хатнік – тэрміны блізкія і ў павер'ях з'яўляюцца сінанімічнымі. "Іншы раз функцыі догляду за жывёлай прыпісваліся роднаснаму персанажу – "дворовому" (рус.) або хлеўніку (бел.), які жыў у хляве разам з жывёлай і меў воблік маленькага чалавечка. З імем хлеўніка звязаны той жа самы комплекс павер'яў і абрадаў, што адносяцца да жывёлы, як і з дамавіком, а часта гэтыя персанажы зусім не адрозніваюцца" [1, с. 122].

Догляд за жывёлай – адна з важных станоўчых функцый дамавіка: "Інагда хатнік уздувае агонь, ідзе ў клець і прасушвае хлеб, таксама заглядвае ў хлеў і дае корму лашадзям і каровам, гладзіць іх"

(г. Добруш). Што датычыць канкрэтных павер'яў, звязаных з вышэйназванымі роднаснымі міфалагічнымі персанажамі – дамавіком і хлеўнікам, то варта адзначыць, што з апошнім звязаны больш негатыўныя характарыстыкі: "хлеўнік заязджвае коней і кароў, звычайна ён злы" (в. Дронькі Хойніцкага р-на), "хлеўнік – гэта дамавік, які жыве ў хляве. Ён очэнь плахі, патаму што плахое дзелае худобе" (в. Хутар Светлагорскага р-на), "хлеўнік – гэта халера ў хляве" (в. Перавалока Рэчыцкага р-на), "... калі завядзецца хлеўнік – гэта дрэнна, жывёла гіне" (г. Гомель).

У павер'ях, зафіксаваных у в. Будаўнік Хойніцкага р-на, в. Рэчкі Веткаўскага р-на, у г. Гомель, г. Светлагорск, хлеўнік падобны да "ласіцы" (ласціцы): "гэта звярок падобны на белку, але толькі знешне" (в. Будаўнік Хойніцкага р-на), "раней хадзіла ласіца па сараях, ганяла і коней, і кароў" (г. Светлагорск), "гэта той, які доіць кароў. Яго называюць ласачка" (в. Рэчкі Веткаўскага р-на), "у кухні, у хлеве жывуць такі звірушкі белыя, называліся яны ласкі" (г. Гомель).

Менавіта дамавіку як апекуну сям'і, гаспадаркі надавалася і функцыя прадказання будучага. Гэты нябачны ахоўнік дома звычайна сваім з'яўленнем папярэджвае аб пэўных, нечаканых для сям'і абставінах. Зыходзячы з рускіх павер'яў, "ён з'яўляецца ў вобразе гаспадара дома перад няшчасцем, часцей за ўсё перад смерцю члена сям'і, перад смерцю гаспадара ён з'яўляецца ў яго шапцы (рус.)" [1, с. І22]. Паводле ўяўленняў беларусаў, дамавік "прадчувае бяду. Тады он ноччу стукае ў сцены хаты або іздае няясныя звукі" (в. Бабоўка Жлобінскага р-на), "яшчэ ён мог прадупраждаць аб няшчасці: па начам тады можна пачуць, як ён цяжка ўздыхае, стучыць, а то можа скакаць на лашадзях, утамляць іх" (в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на), "прадупраждае, калі можа случыцца бяда. Ці, напрымер, хтось забалея, ілі случыцца пажар, то дамавік разнымі знакамі прадупрадзе: ілі стукам, ілі смехам, можа соннага пагладзіць па галаве" (в. Бывалькі Лоеўскага р-на). Нечаканае знікненне дамавіка з хаты ("дамавік жыў-жыў, а потым хутка з хаты ўцёк" (в. Марусенька Жлобінскага р-на) звязваюць з якім-небудзь магчымым здарэннем, напрыклад, з пажарам.

Л. Вінаградава, супаставіўшы шматлікія палескія запісы, прыйшла да высновы, што нават у матэрыялах, запісаных у адной і той жа мясцовасці, можна сустрэць супярэчлівыя сведчанні, "змешванне розных традыцый у адносінах да дамавіка то як да духа-апекуна, то як да шкаданоснай сілы" [10, с. 278].

У шматлікіх тэкстах, запісаных у апошнія гады, суіснуюць вышэйназваныя ўяўленні нават у характарыстыках аднаго і таго ж інфарматара. Напрыклад, у в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ўпэўнены, што “дамавыя бываюць добрыя і злыя”, трэба дзякаваць ім і ўлагоджваць іх, тады яны не будуць шкодзіць. Такія амбівалентныя ўяўленні характэрны не толькі для павер’яў Гомельшчыны. І на Віцебшчыне вераць, што дамавік “дапамагае людзям часта, але калі захоча, можа і нашкодзіць” (в. Хадакова Ушацкага р-на). Жыхары в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобл. перакананы, што ў “плахіх людзей дамавіка няма, добры дамавік жыве ў той хаце, дзе ёсць добрыя людзі”, таго ж меркавання прытрымліваюцца і асобныя інфарматары з Магілёўшчыны: “жывець ён (дамавік) толькі ў харошых гаспадароў, бо дужа любіць чыстату і парадак” (г. Горкі).

Сярод шкаданосных дзеянняў дамавіка варта адзначыць наступныя: ён можа здзеквацца з жанчыны (“дамавік не даваў ёй заснуць, тады ён дзёргаў за кружава на простыні, а потым сеў на полку і пачаў смяяцца з бабкі” (в. Хадакова Ушацкага р-на Віцебскай вобл.), “трохі тарэлак пабіць” (в. Ягаднае Веткаўскага р-на), “калі чалавеку трэба якая-небудзь вешч, то дамавы яе схавае і не захоча паказваць” (в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на), “калі пасварыцца з хазяінам (за гразь або цукерак яму не пакінулі), дык пасуду б’е, смецце раскідвае, шуміць пад печкай” (в. Грабаўка Гомельскага р-на), “усё шурудзіць, шуміць ды грыміць дзень і ноч у хаце ды на печы, спаць не дае” (в. Жахавічы Мазырскага р-на), можа пасварыць членаў сям’і (“калі дамавіку нешта не нравіцца, то ён можа і пасуду пабіць, і сем’янінаў паругаць...” (г.п. Акцябрскі), “можа пасварыць мужыка і жонку або суседзяў” (в. Востраў Рагачоўскага р-на), “акрамя таго, ён па начах можа даіць жывёлу, каб яна не давала малако” (г. Гомель).

У мясцовым дэманалагічным пантэоне Гомельшчыны іншы раз дамавік суадносіцца з чортам. “Пры захаванні назвы “дамавік” гэты персанаж атрымлівае рэзка негатыўную ацэнку і далучаецца да катэгорыі тыповай нячыстай сілы, ад якой хацелі пазбавіцца” [10, с. 278].

Запісаны шматлікія тэксты, у якіх адлюстраваліся ўяўленні пра дамавіка як прадстаўніка нячыстай сілы. Адной з прымет, па якой можна было ідэнтыфікаваць гэты міфалагічны персанаж з чортам, з’яўляецца наяўнасць хваста, капытоў у абмалёўцы знешняга вобліку (“Прышлі тыя хлопцы красівыя, ваенныя. Селі, разгаварываюць. А ў

адной дзеўкі ўпала верацяно. Яна сагнулася яго падняць, глядзіць, а ў тых хлопцаў з-пад шынеляў хвасты і капыты тырчаць. Вот ета і былі дамавыя” (п. Рэпішча Чачэрскага р-на); чорнай вопраткі з бліскучымі гузікамі (“… некаторым дамавік прадстаўляўся ў чорным пальто ілі ў касцюме з блісцяшчымі пугавіцамі” – в. Барсукі Кармянскага р-на). Сустракаюцца і непасрэдныя сведчанні інфарматараў аб тым, што “дамавік – гэта “страшэнны, што чорт” (в. Новая Рудня Ельскага р-на), “нечысць ён (дамавік)” (в. Ачэса-Рудня Добрушскага р-на), “дамавік, чорт, ведзьма, кікімара – гэтыя істоты ад нячыстага (д’ябла)” (г. Гомель). Невыпадкова некаторыя жыхары вельмі сур’ёзна адносіліся да рытуалу вячэрняй малітвы: “каб не было ў хаце ніякай істоты” (г. Гомель).

Згодна з іншымі павер’ямі, дамавіка нельга атаясамліваць з чортам, бо “ён дабрэйшы і не прыносіць столькі плахога, як чорт ілі другая нячыстая сіла” (в. Бывалькі Лоеўскага р-на).

Чым можна растлумачыць, што ў некаторых міфалагічных аповедах дамавікі і іншыя персанажы атрымлівалі найменне “чорт”? На думку М. Талстога, “падобныя выпадкі можна растлумачыць і тым, што ў народнай дэманалогіі іншы раз чорт выступаў як родавае паняцце, а лясун, вадзянік, лазнік і г.д. як паняцці відавыя” [11, с. 256]. Даследчык удакладняе, што “… увогуле такое становішча характэрна толькі для балотных дэманаў, а не для ўсіх народных дэманаў увогуле. У тых жа славянскіх дыялектах, дзе падобныя дэманалагічныя рода-відавыя адносіны зафіксаваны амаль для усіх асобін нячыстай сілы, магчыма, адлюстроўваюцца ўжо факты больш позняга парадку, якія сведчаць ад знікненні, аб трансфармацыі больш старажытных вераванняў” [11, с. 256-257].

Гаспадары імкнуліся задобрыць дамавіка, каб забяспечыць дабрабыт і спакой у хаце: “трэба дамавікоў задобрываць і карміць канхветамі. Яшчэ нельга ставіць радам два венікі, бо біцца будуць” (в. Хадакова Ушацкага р-на Віцебскай вобл.), “я ўжо тагда малако яму ў блюдцы ставіць пачала, штоб урэду не наносіў” (в. Ягаднае Веткаўскага р-на), “ну, задабрівалі его (дамавіка). Возле печкі всегда канфеткі ляжалі, а ночью клалі пакушаць. Очень любіт пяченье” (в. Чыяне Лельчыцкага р-на), “шчэ трэ, каб дамавік добры буў, яму есці даваць, дзякаваць яму, каб ўсё добра, у парадку ў селішчы було” (в. Жахавічы Мазырскага р-на), “… разоў два ў нядзелю стаўлю ў куточак малачка, як падаю карову” (в. Хуснае Петрыкаўскага р-на), “але каб быць у добрых адносінах з дамавіком, яго трэба задабры-

ваць: лажыць яму на талерку нешта смачнае. Тады і лад будзе ў хаце” (г.п. Акцябрскі), “яму абавязкова давалі есці. Звычайна на прыпечку ставілі гаршок з кашай і пакідалі яго на ноч, каб той не сароміўся людзей і паеў” (в. Баршчоўка Добрушскага р-на).

Паводле ўспамінаў іншых інфарматараў, каб задобрыць дамавіка, пакідалі на стале кавалачкі хлеба, мёд у талерцы (г. Гомель); ставілі каля печы сподак з ежай, верачы, што дамавік паспрыяе “добрай гаспадарцы і добраму ўраджаю” (в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на). Жыхары іншых вёсак таксама былі перакананы, што “… на ноч мы павінны астаўляць ежу, каб ён мог паесці” (в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на); “… даць яму розных пачастункаў, асабліва ён любіць малако” (Чачэрскі р-н); “трэба астаўляць на стале нанач што-небудзь з яды для дамавога” (в. Убалаць Калінкавіцкага р-на); “… трэба абязацельна на стале астаўляць скібачку хлеба, пасыпаную сахарам ці соллю. Нада ставіць варэнне, каб задобрыць яго. Ён любіць варэнне” (в. Хутар Светлагорскага р-на); “нада на ноч лажыць кусочак цукру або нешта іншае сладкае” (в. Капань Рэчыцкага р-на); “трэба заўсёды астаўляць ежу на стале” (в.Матнявічы Чачэрскага р-на); “а каб не сердаваў на нас, то пакідаеш яму на ноч вады ў вядры і трошкі паесці” (в. Глініца Мазырскага р-на); “яму астаўляюць есці на стале” (в. Ванюжычы Петрыкаўскага р-на); “патрэбна яму класці яду, каб не сердзіўся” (в. Чырвоная Буда Добрушскага р-на); “…яго трэба падкармліваць, заслашчваць, даваць канфеткі, сахар і разгаварваць з ім, каб быў добры” (в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на); “бывала, пакладзеш цукерку, а зрання іх няма, мабыць, з’еў” (в. Беседы Петрыкаўскага р-на); “…гаспадар спецыяльна на стале яму што-небудзь астаўляе, асобенна свежае малачко любіць” (в. Лясец Калінкавіцкага р-на); “на стол трэба паставіць трошкі хлеба, папіросы … і чарачку гарэлкі наліць, ён любіць салодкае, мо, якога сахарку драбочак трэба палажыць”(в. Рудакоў Хойніцкага р-на). Гэтыя звесткі пацвярджаюць тыповасць розных лакальных уяуленняў, звязаных з мясцовай сістэмай дзеянняў, скіраваных на тое, каб задобрыць, улагодзіць дамавіка – істоту, без якой нашы продкі і нават сёння некаторыя жыхары не ўяўляюць свайго месца жыхарства, шчыра вераць у наяўнасць таямнічай залежнасці свайго дабрабыту ад яго знаходжання ў хаце. “Дамавік ёсць ў кожным доме, яго адсутнасць лічыцца анамаліяй і прыводзіць да беднасці і разбурэння гаспадаркі, мору жывёлы, смерці членаў сям’і” [1, с. 122].

Паколькі з вобразам дамавіка, які сімвалізаваў "сваю", "абжытую" прастору, былі звязаны ўяўленні пра долю і шчасце насельнікаў дома, то на працягу стагоддзяў склалася даволі ўстойлівая сістэма прадпісанняў і забарон. Іх трэба было прытрымлівацца, каб не раззлаваць гэту істоту. Прыведзеныя вышэй вытрымкі з міфалагічных мемаратаў надзвычай цікавыя тым, што дэманструюць на рэгіянальна-лакальным узроўні ступень распаўсюджанасці масавых ведаў і пацвярджаюць факт наяўнасці розных спосабаў іх трансмісіі.

Рытуал кармлення дамавіка ў некаторых мясцовых традыцыях вербалізуецца, г.зн. суправаджаецца славеснай формулай: гаспадыня рыхтуе для дамавіка яго любімую страву – яечню, ставіць пад печку і кажа: "Дамавічанька, ідзі пад печаньку. Дам яечаньку" (в. Бабічы Рэчыцкага р-на).

Калі разгледзець асобна дэманалагічныя ўяўленні на ўзроўні ўзаемаадносін дамавіка з чалавекам, то можна адзначыць наступны тыповы момант, характэрны для ўсёй тэрыторыі Палесся і памежных раёнаў: факты яго добрага і дрэннага стаўлення да сям'і: "Вот еслі ён ладзіць з хазяівамі, значыць, у дварэ тады ўсё вядзецца: і карова, і конь. А еслі чым-та хазяін абіжае дамавіка, значыць, тады нічога не вядзецца" (в. Барсукі Кармянскага р-на). У народзе здаўна заўважана, чаго не любіць дамавік: "каб на стале ляжалі соль і нож" (в. Целяшы Гомельскага р-на); "каб на стале соль у салонцы стаяла, нажы ляжалі"(в. Дронькі Хойніцкага р-на); "дамавыя не любяць зеркал, ці можна яшчэ ўваткнуць нож у дзверы" (в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на); "вельмі баіцца катоў, асабліва калі гэта кошка, … ня любіць, штоб у хаце біліся, тады ён робіць бальшыя шкоды" (в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на), "баіцца іконы, краста, святой вады"(в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на), "дамавы не любіць, калі лажацца ці садзяцца на яго месца" (р.п. Бальшавік Гомельскага р-на), "баіцца Бога, уцякае з хаты пры малітве" (г.п. Уваравічы Буда-Кашалёўскага р-на), "не любіць, каб у хаце віселі люстэркі, выступае супраць вясёлых гульняў, зборышчаў у хаце" (в. Ударнае Лельчыцкага р-на), "яму ня нравіцца, калі на парогу ляжыць кошка, ці яшчэ хто-небудзь" (в. Малая Людзвінаўка Светлагорскага р-на), "не любіць, калі хазяева ругаюцца"(в. Балотня Рагачоўскага р-на), "хатнік любіць дружную сям'ю, не церпіць сварлівых баб" (г. Добруш), "дамавік не любіць лянівых" (р.п. Бальшавік Гомельскага р-на), "сільна непарадку не любіць" (в. Міхалькі Гомельскага р-на), "дамавік не любя дзёгцю і пакідае хлеў" (в. Скепня Жлобінскага р-на).

Такім чынам, сярод прадметаў, якія не даспадобы дамавіку, вылучаюцца ў шматлікіх павер'ях соль, нож, люстэрка.

Міфалагічныя аповеды беларусаў пацвярджаюць факт негатыўных адносін дамавіка да солі, нягледзячы на тое, што яе семантыка ў большасці народных уяўленняў звязана з засцерагальнай функцыяй. “Наданне солі функцый абярэга заснавана на яе матэрыяльных уласцівасцях: соль здабыў чалавек, і належыць яна свету культуры, садзейнічае кансервацыі прадуктаў і можа быць кінута ў твар таму, хто шкодзіць …” [8, с. 364]. Што ж датычыць мясцовых мемаратаў, звязаных з дамавіком, то яны адлюстроўваюць характэрную для міфалогіі амбівалентнасць уяўленняў, таму і валодае соль таксама ўласцівасцю адганяць “нячысцікаў”. З аналагічнымі прыкладамі павер'яў мы сустракаемся і ва ўкраінскай міфалогіі: “... злосны дух баіцца солі. Ва Уладзімірскай губерні думалі, што солі баіцца лясун і ніколі не падыдзе да агню, калі туды кінулі соль. Кашай без солі частавалі і дамавіка ў Харкаўскай губерні” [8, с. 364].

Люстэрка і нож таксама сімвалізуюць у народнай традыцыі сродкі абярэгу ад уздзеяння нячыстай сілы. Невыпадкова дамавік, які з'яўляецца адным з “нячысцікаў”, паводле ўяўленняў, адмоўна рэагуе на гэтыя прадметы. На тэрыторыі Палесся люстэрка, як і серп, барана, мужчынскія штаны, забітая сарока, крапіва, пасвечаная ў царкве вярба “шырока выкарыстоўваюцца як абярэг хлява для аховы жывёлы ад дамавіка і ведзьмаў” [8, с. 195].

Дамавік не толькі ажыццяўляе патранаж над дамашнімі жывёламі, але і кантралюе захаванне норм маральна-этычнага этыкету. Вышэй былі прыведзены прыклады павер'яў, паводле якіх не дапускаліся сваркі ў сям'і, лаянка, неакуратнасць і лянота гаспадароў, іх няўменне трымаць гаспадарку ў парадку, хату ў чысціні.

Якім жа чынам выражаў дамавік, згодна з уяўленнямі, свае адносіны да чалавека, калі асабліва быў незадаволены яго пэўнымі дзеяннямі? “Неадабрэнне дамавіка ўспрымаецца большай часткай акустычна: як стукі, бразганне дзвярыма, крокі або тупат” [12, с. 135].

Ва ўсходнеславянскай дэманалогіі практычна ўсе віды “начных шумоў у доме звычайна прыпісваюцца дамавіку” [13, с. 181].

Звернем увагу на вар'іраванне гукавых сігналаў як сродку камунікацыі дамавіка з гаспадарамі ў розных лакальных традыцыях: “Када скрыпне пол на кухні, то я ўжэ не баюся. Ета дамавы ходзя”

(в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на); “А Валя мне тады і гавора, што даўно замеціла, што ў іх дома не ўсё ў парадку. То, кажа, ноччу нейкі свіст чуецца, то тарэлкі падаюць са стала, то дзверы самі па сабе адкрываюцца і пастаянна пол скрыпіць” (в. Каромка Буда-Кашалёўскага р-на); “Напрымер, калі должэн пайці дождж, у мяне грыміць посуд” (в. Сямёнаўка Рэчыцкага р-на); “Калі яго ўгнявіш, то ён усю ноч не дась спаць. Будзе стукаць, грукаць” (в. Хутар Светлагорскага р-на); “ён і рагоча, і гукае” (в. Рудакоў Хойніцкага р-на); “Ноччу я часта слышу, будта хто-та шьёт. То ў сценке пасуда дребежжіць слышна, і доўга так, то как будта берёт што-та і ставіць, то звон слышу, што што-та не то ўпала” (г. Жлобін); “Толькі шаргаценне чутна, ну так старыя людзі ходзяць” (в. Новы Макрэц Брагінскага р-на); “Сама я яго бачыць – ня бачыла, а чула. Сплю, аж чутно – нехта мыецца, плёскаецца” (Перавалока Рэчыцкага р-на); “Можа стучаць па сценах, біць талеркі” (в. Будаўнік Хойніцкага р-на); “Шчэ можа біць пасуду, завываць страшным голасам у коміне, … ноччу стукае ў сцены хаты або іздае няясныя звукі” (в. Бабоўка Жлобінскага р-на); “Але ў хаце часта чуваць нейкі шопат і стук” (г. Гомель); “Калі дамавік злаваўся, ён мог шумець, шкрабаць пол або пішчаць, як мышы”(в. Гадзічава Гомельскага р-на); “А яшчэ ён прыходзіць ноччу, пачынае чым-небудзь стукаць, мяшае спаць” (в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на); “Многія людзі чулі, як ён крактаў” (в. Салтанава Рэчыцкага р-на); “Грыміць талеркамі, лыжкамі, шарпае нагамі, грыміць, скрыпіць дзвярыма” (г.п. Парычы Светлагорскага р-на); “А інагда стукаў па калодцы, пакуль заснём”(в. Кароцькі Кармянскага р-на); “А потым па начах сталі да мяне прыходзіць, стукалі, грукалі, свісцелі”(в. Сувіды Брагінскага р-на); “тады дамавік грукае ў сцяну, каб перасталі сварыцца” (в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобласці).

Як бачым, акустычныя характарыстыкі, якія вынікаюць з прыведзеных прыкладаў, уплываюць на ўстойлівы характар “гукавога партрэта” (Л. Вінаградава) дамавіка.

Паводле міфалагічных уяўленняў жыхароў в. Жахавічы Мазырскага р-на, дамавікі ахвотна падтрымлівалі імкненне чалавека кантактаваць з ім. Гэтае жаданне выражалася ў форме пэўных гукападражальных слоў, гукаў, такім чынам прадказваючы добрыя ці дрэнныя навіны для сям’і:”Бабы ў нас шчэ казалі, што дамавы мог прадказаць якіясь змены ў сям’і.Ён тады гудзеў у комін:”К дабру-у-у-у!”, як ўсё будзе добра, і “К худу-у-у-у!”, калі будзе што худое ці нядобрае”.

Сярод міфалагічных аповедаў сустракаюцца і такія тэксты, у якіх адсутнічае найменне “дамавік”, што “ў роўнай ступені можа быць звязана як з табуіраванасцю найменняў зама-гільных (незямных) істот, так і з адсутнасцю пэўнага, афармленага ўяўлення” [12, с. 135]. Напрыклад: “Кагда ў майго чалавека дзядька памёр, мы з пахарон з ім прыехалі. Первую ноч начавалі спакойна. А на другую прынесла дубцоў, паплялі кашы, ну да я вяздзе пазамукалася да і палеглі мы спаць. Я з краю, а ён – ад сцяны, калі чую: адчыняюцца дзверы, ідзе, і так у нас доска як рыпіць. Яно шагае добрымі шагамі, но бачыць, я не бачу, і як стукне кулаком па сталу” (в. Рудакоў Хойніцкага р-на). Факт прысутнасці дамавіка ў кожным доме бясспрэчны. Гэта звышнатуральная істота, паводле павер’яў, сапраўды блізкая да чалавека і яго жытла. Вытокі паважлівых адносін, велічанне дамавіка “гаспадаром” маюць генетычны характар: дамавік “у далёкай, першабытнай старажытнасці, узыходзіць да продка роду, прашчура, да родапачынальна сям’і, які абагаўляецца. Інакш кажучы, дамавік працягвае рэлігію, звязаную з пакланеннем продкам, якія становяцца апекунамі рода, ахоўваюць дом і сямейны ачаг” [14, с. 125].

Мясцовыя дэманалагічныя апавяданні знаёмяць з асноўнымі спосабамі выяўлення наяўнасці або адсутнасці дамавіка ў хаце: “Можна ўзнаць, ці іе дамавы ў доме. Нада ўзяць чатыры ложкі пустыя і чатыры кусочка газеты. На палоскі газеты пакладзі ложкі і завярні, каб ложкі былі ўнутры газеты. Раскладзі патом на падлозе крастом і скажы: “Скажыце, пажалуста, іе ў гэтай хаце дамавы і сколькі?”. У хаце трэба цішына, пасядзець некалькі мінут, а патом праверыць, развярнуць ложкі. Еслі дамавы іе ў доме, то ложка выпадзе з бумагі” (в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на), “Можна праверыць, ё дома дамавы ці не. Нужно для гэтага палажыць на стол кусочак хлеба. Еслі утрам устанеш і ўвідзеш, што на стале хлеба нет, значыць, яго забраў дамавы” (г.п. Церахоўка Добрушскага р-на). Ад перасяленца з в. Быстрыца Львоўскай вобласці Багдана Іванавіча Хоміна, 1953 г.н. было запісана наступнае ўкраінскае павер’е: “Калі хочаш даведацца, ці ёсць дамавік, ці няма, нужна пасярод сцены забіць іголку-цыганку. У 12 гадзін вечара, кагда начнуць ляпаць дзверы і мількаць свет, а на сцене і ігле будзе чырвоная пятно, значыт, ён жыве ў хаце”. У в. Баршчоўка Добрушскага р-на, каб убачыць дамавіка, трэба ў час вячэрняй службы ў царкве ўзяць запаленую свечку, прынесці яе, не тушыўшы, дахаты і падняцца з ёй на гарышча. Там абавязкова доўжан ляжаць дамавік, які пахож на сабаку ці голага чалавека”.

Сістэматызацыя запісаных беларускіх матэрыялаў дазваляе выказаць думку, што звычай клікаць дамавіка з сабой пры пераездзе ў новы дом быў распаўсюджаны і на тэрыторыі Беларусі, а не толькі ў рускай і ўкраінскай традыцыях, у якіх былі вядомы павер'і, што "дамавіка пераводзілі ў новы дом з часткай старой гаспадаркі: хлебам, лапцямі, памялом, дзяжой з цестам, гаршком вуголля са старой печы, венікам, кавалкам гною са старога хлява і інш" [1, с. 123]. У сістэме традыцыйных народных вераванняў дамавік як персанаж, які асацыіруецца з духамі продкаў, з'яўляўся важным суб'ектам шанавання, ад паводзін якога, лічылі, залежыла жыццё гаспадароў і членаў іх сям'і. Невыпадкова ў рускіх павер'ях адносінамі такой залежнасці былі прадыктаваны і многія рытуальныя дзеянні, заснаваныя на ідэях генетычнай павагі, ушанавання гэтай міфалагічнай істоты, ахвярапрынашэннях: "Таму, каб забяспечыць хаце трываласць, а жывучым у ёй – дабрабыт, пры будаўніцтве трэба было прынесці ахвяру дамашняму духу: "Денёжки клали, когда вот примером, [под первый] камень ямку выроют – в эту ямку денёжки клали. Во все четыре угла клали денёжки, да… Ну, так всё говорили, што: "Благослави, Господи, в доброй час во святой". Вот так приговаривали" [15, с. 105]. Напрыклад, у в. Салтанава Рэчыцкага р-на лічылі, што абавязкова трэба "паставіць бот пад печ і прыглашалі дамавіка: "Дзедушка, пашлі с намі ў новы дом жыць". Верылі, што ў гэтым выпадку можна заручыцца падтрымкай дамавіка ва ўсіх дамашніх справах ("І ён будзе прыяць"). Аналагічнай славеснай формулай-запрашэннем суправаджаўся рытуал пераезду ў новы дом у в. Жахавічы Мазырскага р-на: "Хазяін мой, хадзі са мной". Праўда, у гэтай мясцовай традыцыі спачатку "пускаюць свайго ката ў хату, трэ каб абжыўся, а пасля й самі пераяжджалі". У в. Маладуша Рэчыцкага р-на, "калі людзі пераязджалі ў новы дом, яны, калі ў іх быў ладны дамавік, ставілі лапаць пасярод хаты і казалі: "Дамавік, дамавік, садзіся ў лапаць, ды едзь з намі ў новае месца і зноў нам там дапамагай". Пасля гэтага лапаць пераносіўся на новую печ, і ён стаяў там тыдзень, пакуль дамавік не збярэ свае рэчы і не пераселіцца. Паводле ўспамінаў Адама Ігнатавіча Шкурко, 1928 г.н. з г. Гомель, таксама перавозілі дамавіка ў старым лапці. У рускай міфалагічнай традыцыі "для таго, каб перавезці Дамавога з аднаго дома ў другі, для яго ў выглядзе калёс або каляскі прапануюць пусты лапаць. Пры гэтым прыгаворваюць ласкава: "Хозяин-дворовой, иди покель на спокой, не отбивайся от двора своего" [14, с. 130]. Пры-

ведзеныя міфалагічныя аповеды пацвярджаюць перакананасць І.Разумавай у тым, што "ў сучасным быце ўяўленні пра дамавікоў рэалізуюцца, перш за ўсё, у рытуальнай практыцы перасялення ў новае жыллё, якая захоўваецца, у паўсядзённых вербальных формулах зваротах (пераважна пры страце рэчы) і дастаткова развітай апавядальнай традыцыі" [12, с. 134].

У в. Баршчоўка Добрушскага р-на здзяйснялі наступны рытул, звязаны з пераездам на новае месца жыхарства: "… перад гэтым гаспадыня гэтага дома тапіла печ у старым доме і пасля таго, як дровы згаралі, выграбала ўвесь жар у гаршок і пераносіла яго ў новую хату, пры гэтым нагаворваючы словы замовы ці малітвы, у якіх дамавіка запрашалі жыць у новым доме". У в. Чамярысы Брагінскага р-на рытуал перасялення ў новую хату таксама быў звязаны з дамавіком: "для етага нада ў прыпячак кусок хлеба пакласці". Жыхары в. Сувіды Брагінскага р-на былі перакананы, што падчас пераезду ў новую хату дастаткова проста паклікаць дамавіка: "Дамавы мой, пашлі разам з намі". У адваротным выпадку (калі не паклічаш), у новым месцы можа пасяліцца нядобры дамавік, які будзе толькі шкодзіць. Перш чым перавезці дамавіка са старой хаты, трэба было спачатку яго добра ўлагодзіць: пускалі туды найперш ката і пеўня, гаспадыня выпякала "тры булачкі і клала іх на печку. На ўтра глядзелі, ці з'ета хоць адна булачка або кусочак з'едзены. Калі не, то гаспадыня пякла яшчэ раз тры булачкі і зноў клала іх на печку. Лічылася, што дамавіку не спадабаліся булачкі і ён іх не кранаў. Назаўтра, калі ўсё паўтаралася тое, што было, гаспадыня павінна трэці раз спекці булачкі. Лічылася, што ў трэці раз абавязкова дамавік паесць булачкі" (в. Ламавічы Акцябрскага р-на).

Рытуал пераезду ў новую хату ў в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на таксама быў звязаны з дамавіком, для якога, лічылі, "нада драчык паставіць у вугал, каб дамавы на ім пераехаў на новае месца". Каб забраць дамавога, іншы раз "венік са старога дома ў новы пераносілі, каб і яго забраць" (в. Пракісель Рэчыцкага р-на). Інфарматары з в. Сівенка Веткаўскага р-на, распавядаючы пра роднаснасць паміж дамавіком і людзьмі, папярэджвалі аб тым, што пры перасяленні ў новую хату трэба не забыцца "паклікаць яго з сабою".

У в. Кавалёў Рог Чачэрскага р-на, пакідаючы старое жыллё, прамаўлялі: "Дамавік мой, пайшлі са мной. Дамавой ты мой, пайшлі са мной". Тыповасць такой славеснай формулы-звароту пацвярджа-

ецца і запісамі міфалагічных звестак у рускіх: “Отец выходит из дома первый, а за им все остальные, и говорит: “Ну, хозяин домовой, пойдем с нами на новое место жительство?” (в. Пасёлкі Кірэеўскага р-на Тульскай вобл.). Нават калі гаспадар часова ад’язджаў кудынебудзь (на дзень-два, тыдзень), то з мэтай засцярогі хаты ад злодзеяў, прамаўляў, стоячы на парозе: “Домові, от я ўжо еду і остаўляю свою хату і ўсё на цябе, штоб ніхто нічого не покраў, штоб ты сцерог” (в. Галоўчыцы Нараўлянскага р-на). Рытуал пераезду ў новую хату ў народных павер’ях в. Новая Рудня набывае ў мясцовых традыцыях спецыфічную афарбоўку. Ён суправаджаецца і магічнымі дзеяннямі (“валёнак бярэш, закідваеш на печ”), і славеснай формулай (“… і кажаш: “Дамавік, дамавік, пайшлі з намі жыць”). У р.п. Бальшавік Гомельскага р-на захоўваліся таксама пэўныя рытуальныя правілы перамены месца жыхарства: “Калі сям’я пераязджае на іншае месца, то абавязкова ў апошнюю ноч, перад выхадам са старой хаты, з хлебам-соллю просяць дамавіка на новае месца перабрацца разам з сям’ёй”. Матыў паважлівых адносін да дамавіка, які ілюструецца ўзорам славесных формул-зваротаў, сведчыць аб тым, што гэты міфалагічны персанаж карыстаецца народнай папулярнасцю. “І гэта ж гаворыць аб тым, што Дамавы, як боства, строга лакальны” [14, с. 131]. Дамавы абавязкова дае знаць, калі не захаваны рытуальныя правілы пераезду: “Когда мои дядя и тётя селились в новом доме, то наша бабушка пошла в новый дом, чтобы его заговорить. Она клала что-то по углам, а на один угол этого вещества не хватило. Клала она для того, чтобы ублажить домового, чтобы всё было хорошо. Теперь же из угла, который бабушка не смогла заговорить, доносится по ночам пение домового” [12, с. 135].

Як бачым, міфалагічны персанаж дамавіка, з аднаго боку, захоўвае ўстойлівы характар усходнеславянскіх павер’яў, а, з другога, вылучаецца багаццем лакальна-рэгіянальных характарыстык у традыцыях беларусаў.

## Літаратура

1. Славянские древности. Этнолингвистический словарь под ред. Н.И.Толстого. – Т. 1. – М.: Международные отношения, 1995. – 584 с.

2. Левкиевская, Е. Мифы русского народа / Е. Левкиевская. – М.: Астрель, АСТ, 2005. – 526 с.

3. Никифоровский, Н.Я. Нечистики, свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / Н.Я. Никифоровский. – Витебск: Издатель Н.А.Паньков, 1995. – 88 с.

4. Цыт. па кн.: Міфы Бацькаўшчыны. Укладальнік У.А.Васілевіч. – Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1994. – 109 с.

5. Казначэеў, В.В. Сучасны стан усходнепалескай міфалагічнай традыцыі // Гавораць чарнобыльцы / В.В. Казначэеў. – Мінск: Інст-т моваз-ва імя Я.Коласа Акадэміі навук Беларусі, 1994. – С. 164 – 221.

6. Ненадавец, А.М. Ніжэйшая міфалогія беларусаў // Міфалогія. Духоўныя вершы / А.М. Ненадавец. – Мінск: Беларуская навука, 2003. – С. 225 – 318.

7. Зямная дарога ў вырай. Беларускія народныя прыкметы і павер'і. Кн.3/ Уклад.,прадм., пер.і паказ. У. Васілевіча. – Мінск: Маст. літ-ра, 1999. – 654 с.

8. Славянская мифология. Энциклопедический словарь. М.: Эллис Лак, 1995. – 416 с.

9. Богданович, А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов / А.Е. Богданович. – Гродно: Губернская типография, 1895. – 186 с.

10. Виноградова, Л.Н. Народная демонология и мифоритуальная традиция славян / Л.Н. Виноградова. – М.: Изд-во "Индрик", 2002. – 432 с.

11. Толстой, Н.И. Язык и народная культура. Очерки по славянской мифологии и этнолингвистике / Н.И. Толстой. – М.: Индрик, 1995. – 512 с.

12. Разумова, И.А. Потаенное знание современной русской семьи / И.А. Разумова. – М.: Индрик, 2001. – 376 с.

13. Виноградова, Л.Н. Звуковой портрет нечистой силы // Мир звучащий и молчащий. Семиотика звука и речи в традиционной культуре славян / Л.Н. Виноградова. – М.: Индрик, 1999. - С.179 – 199.

14. Синявский, А. Иван-дурак. Очерк русской народной веры / А. Синявский. – М.: Аграф, 2001. – 464 с.

15. Морозов, И.А., Слепцова И.С., Островский Е.М., Смольникова С.Н., Минюхина Е.А. Духовная культура Северного Белозерья. Этнодиалектный словарь / И. А. Морозов. – М.: Инст-т этнологии и антропологии РАН, 1997. – 432 с.

*Выкарыстаны матэрыялы з фальклорнага архіва кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі ГДУ імя Ф.Скарыны.

## *Дамавік*

Дамавік ёсць не ў кожным доме, а толькі ў тым, дзе добра ўсё.



Калі людзі па-добраму, дык і ён хіліцца да іх. Памагае дзяцей калыхаць, і ноччу, калі побач, то яны не будзяцца. Толькі аддзякаваць яго трэба. Калі прыходзяць да нас госці, дык мы і яму пачастунак кладзём: ці то канхветы, ці малака цёплага наллём. Не любіць дамавы, калі ў доме б'юцца і сварацца, тады ён у хлявец уцякае і там шкоду робіць. Было адзін раз. Карова наша ацяліць доўга не магла, дык бацька мой жытам сцены абсяваў, а маці свяцонай вадой палівала.

***Запісана ў в. Бярозаўка***
***Кармянскага р-на***
***2003 г.***

Дамавік е ў кожным дому. Ён як хазяін і вартаўнік. Жыць ён можа як у хаце, так і ў хляве, дзе свойская жывёла. Дамавік бывае добрым і злым. Калі іменна стары чалавек на кожнае свята не пасвеціць усе куты, дык добрага дамавіка і не чакай. Праісходзяць у гаспадарцы нейкія нечысці: прадметы не на сваім ляжаць месцы, жывёла не слухае. Злосць сваю па-ўсялякаму паказвае: і пішчыць, і рагоча, і свісціць, і гукае. А ноччу немагчыма заснуць, так у комін стукае. Каб трохі сціх дамавік, трэба мёд паставіць у куце ды скібку хлеба палажыць. Вось як.

***Запісана ў в. Асінаўка Кармянскага р-на***
***ад Ковыля Міхаіла Іванавіча, 1916 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***

Дамавік жыве ў коміне. Ён як не чалавек, і не звер, а як нейкая нябачная істота. Мы ўжо з дзецьмі пачалі замячаць, што калі ў хаце нейкая сварка, дык ён вокны адчыняе. Напэўна, хоча звярнуць увагу на яго прысутнасць. А другі раз дзверы шкафчыка адкрывае і рыпіць. Мы ўжо звыкліся, дык нястрашна.

***Запісана ў в. Янаўка Кармянскага р-на***
***ад Бурацкай Кацярыны Дзмітрыеўны, 1945 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***

Я сама нічога такога не відзела. Эта мне матка, баба, дзед расказвалі, як я малая была.

Дамавікі разныя бываюць. Но ўсе ані маленькія, как дзеці, толька ліца ў ніх, як у взрослых. І па харакціру яны разныя: каторы добры, вясёлы, а каторы так усех замучае, што людзі перасяляюцца.

Мне баба расказвала, як цётка яе жыла з сынам і дачкой старшай. Усё нармальна было, пакуда ў ніх дамавік не завёўся. А як узналі: стаў хто-та ноччу іх шчыпаць, шчыкатаць. Эта сначала цётку. Ну, ана думала, што сніцца ей. Толькі патом дочка сказала, што её тожа хто-та шчыкоча і шчыпае, аж да сінякоў. Цётка тада і рашыла, што эта, наверна, злы дамавік, толькі што дзелаць не знала.

А сын быў не сказаць, каб малы, так, ужэ ладны. І вот аднажды чуствует он ноччу, што хто-та ціхонька так трогае ево. Он аткрыл глаза, а эта дамавік на ём сідзіт, но он ево не чуствует. Глядзіт хлопец, а дамавік к шэе его пальцы свае цяне. Тады хлопец не расцяраўся і сам схваціў его за горла. І дамавік тады сам па сабе ісчэз. І больш не паяўляўся ў іх.

Но дамавікі і в кварцірах жывуць, не толькі ў хатах. Эта Пахомаў расказываў. Сын яго нікагда ні ў Бога, ні ў чорта не верыў. Эта той, што ў прошлам гаду на машыне возле пераезда разбіўся. А так, як малады яшчэ быў, то жыў у Гомелі, начальнікам трохі быў. Дык вот, пасяліўся ў яго кварціры дамавік. Сталі вешчы прападаць, вілкі, нажы абы-дзе валяюцца. Жонка на яго крычыць, а ён-та не браў. А патом дак вабшчэ на паталку какія-та сляды непанятныя сталі паяўляцца. І тады жонка гаворыць яму: “Эта, наверна, нячысцік нейкі. Давай бацюшку пазавём, хай кварціру пасвеціць”.

Ён сразу не саглашаўся, а патом так дамавік іх замучыў, што ён сагласіўся. Прыйшоў бацюшка, пасвяціў. І больш не стала дамавіка.

Людзі шчэ гаварат, што есць такія дамавікі, каторыя памагаюць. Могуць дажэ дзіцёнка пакачаць. Но я пра такіх нічога не знаю.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Бруxавецкай Ніны Андрэеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Чаушнік Н.***

Дамавік іе ў каждай хаце. Ён жыве пад печчу ці пад вені-кам, можа жыць і ў хляве. Гэта стары, маленькі, сівы дзядок у белым адзенні, з доўгімі валасамі, усё яго цела пакрыта валасамі і пухам. Дамавік добры. Ён памагае людзям: па начах мые, чысціць падлогу, сцены і мэблю, шые, меле муку і любіць ён быць каля дамашняй жывёлы. Калі ноччу людзі чуюць шум ці стук, то гэта дамавік гаворыць, што ў хаце будзе бяда.

Дамавік любіць, калі яго ўважаюць. Калі хазяева дома сварацца, не любяць дамавіка, тады ён зліцца і капрызнічае. Раньшэ, калі людзі перасяляліся, забіралі з сабою і дамавіка. Для гэтага пад печ сунулі стары лапаць і прасілі яго пераехаць на новую хату. Патом на шпагаці перавозілі дамавіка ў хату. Ваабшчэ, дамавік добры.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на***
***ад Плісавай Агаф'і Фамінічны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Купрацэвіч Т.***

Дамавы як у харошых хазяіў, дык ён харошы, і парады так падказвае, а ў паганых, дак і беды насылае ўсякія, от. Людзі па-ўсякаму прадстаўляюць дамавога. Адны людзі – такога малога чалавечыка, старога дзядка з барадой, з вусамі, з такімі быстрымі вочкамі. Ну, а каторыя прадстаўляюць, як паравертням у вобразе якога-небудзь воўка ці там другой якой жывёліны. Як дома, ужэ ён годзіць, іе ўсякія ўгодныя і няўгодныя дамавікі.

***Запісана ў в. Рабуса Рэчыцкага р-на,***
***ад Шумскай Ганны Андрэеўны, 1930 г.н.***

Дамавы, калі не ўзлюбіць, можа задавіць. Аднойчы прыйшлі начаваць, матка на печ, а ён з другам на койку. Чуе: “Стук, стук”, клямка адкрываецца, чуе: “Топ-топ”, шырма адкрываецца, адзеяла адкідае, бача – кашлатая рука. Ён перахрысціўся, і дзе што было. А яшчэ было такое. Дамавік скінуў хлопца з кравper. Жонка спужалася.

Дамавік атамсціў яму за бацьку (той ужо мёртвы быў). А хлопец крэпка біў яго. Ну і научылі. Вазьмі асінавы кол, ідзі на кладбішча, забівай са словамі і да сонца. Туды ідзі і адтуль ні з кім не гамані.

***Запісана ў в. Рэпкі Рагачоўскага р-на***
***ад Кавардаковай Ніны Міхайлаўны, 1946 г.н.,***
***Петрусёвай Ганны Данілаўны, 1921 г.н.***

Дамавіка ніхто ніколі не бачыў. Але многа хто чулі нейкія шагі ноччу і казалі, што ў доме завёўся дамавік. Яны былі і харошыя, і плахія. Харошы рабіў толькі добрае, дапамагаў гаспадару, а плахі – усё дрэннае. Каб вывесці плахога дамавіка, трэба было пасвяціць маку і пасыпаць каля парога, каля вакон. І тады казалі, што дамавік не можа пераступіць святок.

***Запісана ў в. Ліскі Рагачоўскага р-на***
***ад Піліпенка Лідзіі Арцёмаўны, 1929 г.н.,***
***Піліпенка Алены Арцёмаўны, 1934 г.н.***

Тыя дамавікі, што жылі ў хаце, лічыліся дбайнымі гаспадарамі. Яны ахоўвалі дом, маёмасць, клапаціліся пра гаспадарку, назіралі за хатнімі справамі. Калі ўсе гэтыя справы выконваў дамавік, то ў хаце ўсё і шло шпарчэй. Людзі стараліся яго задобрыць, бо калі ён раззлуецца, то будзе шкодзіць: біць посуд, перастаўляць у хаце рэчы з месца на месца.

Здавалася такое і ў нашай хаце. Бывала, ляжым уночы і чуем, як хтосьці скача на лаве ў хаце або ў сенцах або стукае ў сцены. Калі гаспадар быў дрэнным, ён мог змучваць яго да смерці. Аднак дамавік заўсёды чула ставіўся да гаспадарскага двара і, калі сям'ю чакалі непрыемнасці, папярэджваў яе. У гэты час дамавік пачынаў плакаць, станаць, завываць, моцна грукаць у дзверы і ўсяляк падаваць знакі бяды.

З іншага боку, ён вельмі патрабавальны і вымагае да сябе пашаны. Таксама яму не падабаецца, каб у хаце віселі люстэркі. Не любіць ён і шумныя гулянкі і зборышчы ў хатах. Асабліва не падабаецца, калі на парозе ляжыць кошка ці якая іншая жывая істота, бо яна перашкаджае яму хадзіць з хаты ў сенцы і абратна.

Мая матуля з бабуляй расказвалі мне, што раней, ды й і цяпер гэта застаецца сапраўднай з'явай, што ў хатах сапраўдным гаспадаром чалавечага жытла быў дамавік, або звалі яго яшчэ хатнікам. Уяўляўся ён сівенькім дзядком, але яго ніхто ніколі не бачыў у вочы.

Ён хадзіў у белай кашулі, падпярэзанай дзягай ці лыкам. І была ў яго барада сівая і доўгая. Лічылася, што ён жыў у хаце пад печчу, ці пад падлогаю, або ў хляве. Тады яго звалі хлеўнікам.

***Запісана ў в. Старая Дуброва Акцябрскага р-на***
***ад Шуляга Ганны Васільеўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Сінкевіч С.***

Дамавікі – ну, ето тыя ж самыя нячысцікі. Так, штоб людзей гоняў домовік, то этага я не знаю. Но я знаю, што говораць, от у сараі яны особенно худобіну гоняюць. Корова выходзіць мокра-мокра. Гоняе домовой худобіну.



***Запісана ў в. Карані***
***Светлагорскага р-на***
***ад Малец Вольгі***
***Якаўлеўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кіраў***
***(раней Махаеды, Мухаеды)***
***Нараўлянскага р-на)***
***студэнткай Лагута Ю.***

Дамавік – жыве ў хаце. Гэта маленькі, старэнькі дзядок. Дамавік не дзелае ўрада, бо яго ніхто б не дзяржаў у хаце. Іх саздаў Господзь, каб у доме было спакойна, каб яны ў доме хазяевам памагалі.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Радчанка Соф'і Мацвееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Барысевіч А.***

Дамавы жыве ў каждай хаце, у каждым сараі. Ён абярагае імушчэства двара. А ў якой адзеждзе, я не знаю і не бачыла.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Малашанка Соф'і Харытонаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Малашанка В.***

Сейчас я живу в квартире, а давно, когда еще был жив мой отец, у нас жил домовичок. Хороший был. Хотя я никогда его не видела и меня он не трогал, но мама рассказывала как-то об этом отцу, а я подслушала. Нам, маленьким, такое не говорили, потому что боялись запугать. Но я любила подобные рассказы.

Так вот, мама говорила, что к ней, когда она спала, подходила домовиха, расчёсывала, а когда утром она встала, то рядом лежала новая расческа. Самое для меня до сих пор и осталось поразительное, так это то, что вся эта история происходила днём, ночью или под утро, вечером, а не как это обычно бывает. Именно днём.

На следующий день я рассказала об этом Володе, брату моему, он на год старше меня. Мне тогда было лет десять, по-моему. Я думала напугать его этой историей. Но не получилось, потому что удивлена была я, а не он. Он мне рассказал, кстати, тоже подслушал разговор наших родителей, что папа говорил маме, что к нему во сне приходил домовик и звал с собой гулять, но папа отказывался. Так домовик разозлился и начал бить его чем-то по ногам. А когда папа проснулся, то на ногах были синяки. Честно, то я не напугалась, а даже немного обрадовалась: если у нас живут домовик с домовихой, то, может, у них и домовенки есть. Так, на протяжении всего времени, как мы жили, я ждала, что ко мне придут домовята. Я даже конфеты ложила около кровати. Но каждое утро не было ни конфет, ни домовят. А потом нам дали квартиру, по времени всё забылось, но меня тянет в наш дом посмотреть, проверить, есть ли там домовики или нет.

***Запісана ў в. Доўск Рагачоўскага р-на***
***ад Марачкоўскай Маргарыты Данілаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Курловіч І.***

Дамавы – гэта такі дзядок. Жыве ён амаль у кожнай хаце. Штоб яго задобрыць, нада ставіць ваду ў печ.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Ісатчанка Лукер'і Харытонаўны, 1920 г.н.,***
***студэнткай Малашанка В.***

Дамавік – гэта маленькі чалавечак. Ён увесь заросшы, у яго хвост длінны. Ён не любіць шуму, кагда п'янкі, гулянкі ў хаце.

Дамавыя – яны розныя. Адны – злыя, а ёсць і добрыя. У нашай дзярэўні случай быў пра дамавога. Жана з мужам ляглі спаць, а в

кухні хто-та бармоча. Жана гавора: “Ідзі, пасматрі, хто там бармочіт”. Муж гавора: “Ідзі сама”. І ана пашла, а там на стале галава лахматая і балмоча. Яна ад спугу ўпала і палучыла інфаркт серца. А яшчэ, кагда на новую хату едуць, трэба ўзяць салому і кінуць на печ: “На цябе сані, паязжай з намі”.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Сталяровай Феафаніі Іванаўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Смелы Лоеўскага р-на)***
***студэнткай Журо А.***

Дамавік ёсць у кожным двары. Яго нада не агарчаць. Захоча урэду здзелаць, так здзелае. Пагэтаму яму трэба астаўляць смачнае частаванне.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Каротчанка Ганны Васільеўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Рэпішча Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Малашанка В.***

У бацькі майго (жылі мы тады ў Калінаўке, кала Стрэшына) была зроблена спецыяльная пуня: там у адным куце стаяў конь, а ў другім ляжала цэлая скірда сена. Када я шчэ маладая дзеўка была, гуляць бегала, рашыла спаць там на сене, штоб, када прыду позна з гулянкі, не будзіць бацькоў.

І вот аднажды, было гэта летам, вечарам легла я там на сене спаць. Ужо начала драмаць, ажно чую, нехта канём упраўляе: дае яму каманды ўсякія. Адкрыла я вочы і бачу: сядзіць на кані вярхом нейкі чалавек у капелюшы з шырокімі палямі. А тады на вёсцы ні ў каго такога не было. Ад страху я перакацілася праз тую скірду ды хутчэй на двор. Там шчэ хлопцы з гармонямі хадзілі. Так да самага рання і прахадзіла з імі. І спаць туды ўжо больш не пашла.А на другі дзень з канём здарылася бяда: ён патануў у балоце. Як гаварылі тады, сам конь ніколі не пойдзе ў тую багну, а то так угруз у гразь, што толькі вушы адны тырчэлі, і не змаглі яго адтуль выцягнуць. Гэта дамавік яго туды зацягнуў. Вось так.

***Запісана ў в. Лебядзёўка Жлобінскага р-на***
***ад Варчэня Надзеі Іванаўны, 1955 г.н.,***
***студэнткай Грыцкевіч К.***

Жыла калісьці жанчына. І быў у яе чалавек і сын. І вот еты чалавек яе нечым нечыстым занімаўся. У іх забалеў сын. Казалі, што гэта Бог пакараў за то, што чалавек гэты дрэнным занімаўся. І ніхто ні знаў, чым этага хлопца лячыць. Думалі, што ўжо не ачуняе. Але праз тыдзень усё ж ачуняў той хлопец, сын іхні. І ўсе сталі гаварыць, што гэта дамавік яму памог.

***Запісана ў в. Зашчоб'е Рэчыцкага р-на***
***ад Цайко Раісы Нікіфараўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Верамеевай Т.***

Дамавік – добры дух, які жыве па хатам. Але ён не ва ўсіх хатах ужываецца, а толькі там, дзе яго паважаюць, шануюць. Ён аберагае ў хаце пакой, засцерагае ад зла, бяды і паморка. У той хаце, дзе жыве дамавік, ніколі не аб'явіцца чарцяка. Казалі, што калі дамавік панясе на цябе крыўду, то ўсё. Жджы якое-небудзь ліха.

Аднаго разу старая леснічыха накідала старых трапак у тым вугле, дзе, як казаў дзед, дамавік кутаваў, дык на другі дзень, пакуль яна выдойвала цёлку, трапкі былі папалёны ў пячы.

У маёй жа сястры, у цёткі Мані, жыў дамавік. Які ж то дамавік, кот як кот. А яна ж кажа, што то – дамавік. Яксьць, казала яна, пайшоў паморак па дзярэўні. Да кожнай хаты прыбіўся, а да яе не завітаў, бо дамавік не пушчаў. У той час кот енты заўсёды на парозе спаў ці ў сенцах на полі. Манька казала, шо ўноччы, як стане канючыць, як стане дыбака. Яна яму і малака, яна яму і бульбы, а ён ні есці, ні піці не хоча, канючыць і канючыць. Дзед нейк не ўтрымаўся, агрэў рушніком, дык на другі дзень сышоў той кот з хаты. А як ён сышоў, малеча цёткі Мані схапіла тую хваробу. Гарэла яна дзён колькі, аж пакуль Маня не сшукала таго кісу. А ён прыбіўся ў сцёпцы ды гараваў там. Колькі яго Маня ні лашчыла, колькі ні прыкармлівала, усё ж такі збёг. Пабегаў, пабегаў вакол малечы, паенчыў, паенчыў і збёг усё ж такі. Маня мая дзеда-та свайго, ой, як лаяла, а шо яму, кажа, кот як кот, цубанулі троху – дык і сышоў.

Як на мой розум, тож і быў той дамавік. Бо бачыла яго мая Маня ў суседняй вёсцы. Кыцкала, кыцкала, а ён нічога, толькі зірнуў на яе, як казаці нешта хацеў, а да яе не пайшоў.

Дамавік – гэта добры дух, яго нельга крыўдаваць. Яны могуць быць бачныя і нябачныя, могуць быць у вобліку ката, мышы, павука, а некаторыя бачылі іх у вобліку старога кашлатага дзядка, і лічаць,

шо гэта ён сапраўды такі. Так ён паказваецца толькі таму, хто да яго з вялікім дабром падыходзіць. Калі ён так з'явіцца, тады з хаты той нікалі не пойдзе і за дабро плаціць дабром.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***

Дамавік – гэта такі дзядок з вялізнай барадою, які ахоўваў хату, сям'ю ад нечысці. Спрыяў добрай справе ў хаце, у гаспадарцы. Калі пераязжалі ў другую хату, то ў старай гаспадарка паліла ў печы, вуглі пералажывала ў вымыты гаршок і звала дамавіка: "Дамавік, дамавічок, хадзем з намі ў новую хату жыць". Лічылася, што дамавік жыў пад печкай. Баяліся і раззлаваць яго сваркай або словам якім-небудзь. Калі што прападзе ў хаце, гаспадарка пачынала ругаць дамавіка. Тады дамавік нарошна дзелаў благія справы, мог заганяць скаціну да пота ў хляве. У такіх выпадках прасілі прабачэння ў дамавіка, вечарам запрашалі да стала пачаставацца. Ну, а ў асноўным, мала хто быў зацікаўленым ў тым, каб у яго жыў дамавік, мала хто быў яму рады.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.,***
***Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Мельнічэнка Н.***

Ва ўсіх людзей у хаце, таксама ў горадзе, жывуць дамавікі. Гэта такі маленькі старэнькі мужычок, з дліннымі косамі, адзеты ён у рубаху, штаны. Ён любіць у хаце парадак, каб заўсёды былі нагатоўлены розныя стравы. Позна ноччу, калі ўжо ўсе адпачываюць, ён ходзіць па кухне і глядзіць, што нагатоўлена. Калі яму падабаецца, то ён не шуміць. Калі нешта яму не падабаецца, то ён пачынае грамыхаць відэлькамі, лыжкамі, тупаць, прадметы розныя перастаўляе на свой лад. Увогуле ён добры. Ён засцерагае хазяіна і ўсю яго сям'ю ад злых духаў, не пускае іх у хату. Таксама не любіць, калі ў хаце не прыбрана. Таму кожная хазяйка павінна хату садзержаць у чыстаце, каб дамавік не злаваўся. Не любіць ён таксама і ругані, ён любіць мір, калі ўсе жывуць мірна, добра, дапамагаюць адзін другому. Калі хазяева ўязжаюць на другое месца жыхарства, у другі дом, дамавік таксама едзе з імі, каб далей займацца сваімі

справамі. Таму дамавіка трэба ўважаць, і тады ў вашых хатах будзе ўсё добра, усё плахое будзе адыходзіць.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Велічкевіч Ю.***
***(2004 г.)***

У доме жывець дух, якога завуць дамавы. Ета такі маленькі чалавечак. Ён стары і пахожы на дзеда. У яго чорная барада. Ён ростам малы, такі, як кукалка. Дамавыя бываюць добрыя і злыя. У кажным доме іе свой дамавы, но не ўсе пра ета знаюць. Я раньшэ не знала, што ў міне ў доме жывець дамавы. А ўзнала я пра яго, када памёр мой муж. Нядзеля прашла после пахарон, і стаў мне сніцца дзядок маленькі. Сначала пытаўся ён міне душыць, а я тады прасыналася ў халоднам пату. Патом перастаў душыць. Раз чую: ляжыць рука валасатая на маім плячы, і голас чую: “Не бойся міне, Марыя. Я табе нічога злога не здзелаю. Адна ты асталася, і таму буду я табе памагаць. Но і ты міне не абіжай”. І так ён мне начэй пяць сніўся. Вот ціпер я і веру ў дамавых. Чаво вот пол інагда сам па сабе скрыпіць? Ілі, кагда што само па сабе падае. Вісіць сабе ручнік, а тут раз – і падае. А бывае, што кот сядзіць, сядзіць сабе, а патом як натапырыцца, шэрсць дыбам і ўцікаць. Усё гэта дзела дамавога. Када скрыпне пол на кухні, то я ўжэ не баюся. Ета дамавы ходзя. З кожнай пенсіі куплю я ў магазіне канфет ілі пранікаў. Трохі ўнукам дам. Часта яны прыходзяць ка мне за гасцінцамі. Так вот, я тры канфеткі ўсігда палажу ў місачку і пастаўлю гдзе на пол, каля сцяны, і скажу: “Ета табе, мой памошнік. Спасіба табе за ўсё”. Так я благадару свайго дамавога. І ён мне за гэта памагае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міцкевіч Марыі Іванаўны, 1925 г.н.***
***(раней пражывала ў Чачэрскім р-не)***
***студэнткай Трыпуць І.***
***(2004 г.)***

У кожнай хаце абязацельна жыве дамавой. Гэта добры дух, які памагае хадзяіну ў дамашняй рабоце.

Дамавой жыве ў печы. Ён ходзіць па хаце і глядзіць за намі, але мы яго не бачым. Ну, бывалі случаі, калі людзі бачылі яго. Гэта маленькі дзядок, увесь заросшы валасамі.

Бывае, што дамавой не дапамагае, а шкодзіць на хазяйстві. Тады трэба неяк яго заміласцівіць. Дамавога трэба прыглашаць да стала, тады ён будзе дапамагаць і папярэджваць аб бядзе. Былі такія случаі, што дамавыя будзілі хазяеваў, калі пачынала гарэць хата. І каб не дамавой, яны маглі б загінуць.

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на***
***ад Дайнека Дар'і Фядосаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Камандзірчык Н.***

У домі жыве дамавік. Эта маленькі дзядок з барадой. Ён можа жыці ў разных мястах, часцей у хатах. Дамавік любіць, штоб усё было па яго. Ён не любіць шуму, разных зборышчаў, калі штось ляжыць не на сваём месці. Еслі дамавіку штось не наравіцца, то ён уночы б'е пасуду, перастаўляе мебель. Толькі ніколі не чапае абразы і хлеб з соллю на стале.

Дамавік робіць і добрае для хазяіна. Ён мые, шые, ахраняе хату. Тожа ён прадупраждае, калі можа случыцца бяда. Ці напрымер, хтось забалее ілі случыцца пажар, то дамавік разнымі знакамі прадупрадзе: ілі стукам, ілі смехам, можа соннага пагладзіць па галаве.

За сваю работу дамавіка трэба ўважаць, не забываці, калі ў хаці празнік. Паетаму хазяін дома не доўжан забываць пра яго, прыглашаць на ўсе празнікі.

Дамавіка нельзя сраўніваць з чортам. Ён дабрэйшы і не прыносіць столькі плахога, як чорт ілі другая нячыстая сіла.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на***
***ад Пікас Ганны Яфімаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Кілаш А.***

Дамавікі ёсць, аны жывуць у тых хатах, дзе добрыя хазяіны, там, дзе плахія, аны не жывуць, уходзяць адтуль ці дзелаюць плоха. Я не відзела, какія аны, і ніхто не відзеў, но гавораць, што аны маленькія. Маці мая гаварыла, што аны – хазяіны дома.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Стала Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на)***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Ён жыве ў кожнай хаце, эта маленькі чалавечак. Дамавы бывае добры, а бывае і злы. Калі хазяін з ім добры, то і дамавы не будзе шкодзіць, а калі з ім па-плахому, то ён робіцца злым і шкодзіць у хаце.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Бачура Валянціны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Дамавік – гэта той, хто тайна жыве ў доме. Жыве на паталку. Ахраняе дом ад плахога. Невіднае, таінственае сушчаство, якое жывець у каждым доме. Такі стары дзядок, у яго длінная барада, маленечкі такі. Бывае плахі і харошы. Ён абычна жыве толькі ў харошых людзей. Не трэба пакідаць на стале гразную пасуду. Ён можа яе ўсю разлупіць, а можа тарабаніць ложкай па стале. Дамавікі ахраняюць дом, і яны баяцца кошак.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н.,***
***Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Канешне, ё. Ён у мяне такі смешны, другі хазяін. Я зараз не хаджу, бо паўгода назад зламала нагу. Да мяне прыходзя мой сын Коля і дапамагае мне. Каля мяне знаходзіцца ўсё, што мне трэба: ачкі, кружка, куўшын з вадой і інш. Дык вось, калі я сплю, мае ачкі куды-та прападаюць. Заўсёды ругаю сына, думаю, што гэта ён іх пералаждвае, але аказваецца, што гэта мой дамавік са мной гуляецца. Я яго бачыла: ён маленькі, лахматы. Мяне не хоча слухацца. Колькі раз казала прычасацца. А ён ніяк.

А вось мая сястра казала, што ў яе дамавік зусім другі. Ён высокі, у чорным плашчы, у чорнай шляпе і вельмі не любіць яе мужа. Калі муж адзін дома, то ён яго праганяе.

***Запісана ў в. Мормаль Жлобінскага р-на***
***ад Гладкай Елізаветы Ільінічны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Аўсянікавай С.***

Дамавы – ета хатні дух. Ён у хаце хазяін, таму што ён старэй за ўсіх тых, хто жывець у хаце. Мая маці мне расказвала, што дамавы вельмі любіць дзяцей і жывець ён за печкай, бо яму там утульней жыць.

Гаварылі, што дамавы пакідае хату тады, калі і гаспадары яе пакідаюць. У кожнай хаце ёсць свой дамавы. У кожнай хаце ён розны. Дамавыя шкод не робяць, бо яны вельмі добрыя і паслухмяныя. Дамавыя прыглядаюць за домам, нават тады, калі няма гаспадароў дома. Днём дома гаспадароў можа і не быць, але ў хаце ёсць дамавы. Днём дамавога амаль не чутна, бо ён, напэўна, спіць. Ноччу дамавы не спіць, бо ён робіць ту работу, каторую не зрабілі гаспадары, то есць што-та ўпусцілі і не зрабілі. Гаспадары етага ніколі не заўважаюць, бо яго працы не відна.

Але гаспадары знаюць, што ў кожнай хаце ёсць дамавы. Яго ўсе шануюць, а некаторыя лічуць яго галоўным членам сям'і і пакланяюцца яму.

Дамавы маленькага росту і з доўгай барадою. У него на галаве лысіна, а ручкі і ножкі маленькія і караценькія.

***Запісана ў в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Дамавы – ета як кот у хаці. Можна яго і качаргою перацянуць, кагда надаядаў, можна выгнаць на двор, на мароз. Ён самы добры з чарцей, бо яго абязанасць была памагаць хазяівам. Еслі абідзіш, то будзець табе шкоду дзелаць, а нет – ішшо і каня, карову наглядаць будзець.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Свірыдзенка Тацяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай А.***

Дамавой – эта дамашні хазяін, хто аберэгает дом, памагает людзям у хазяйстве. У меня і цепер жывёт дамавой. Я его заву Семёнам. У каждага ў доме должэн быць дамавой. І эта я гавару сер'ёзна. Завесці дамавога очэнь легко. Нада абезацельна спекці бліноў і паставіць на стол две румкі водкі. После этага сказаць: "Бацюшка-хазяін, захадзі ў дом" і перэкрэсціцца. Штоб ён вам харашо памагаў, нада каждую недзелю новага месяца ўгашчаць. Я раскажу вам адзін случэй.

Как-та раз я сушыла ў духоўке грушы-дзічкі. У эты дзень мы сабіраліся капаць картошку. Прыехалі за мной людзі, я быстра сабралася і пабежала з дома. А духоўку забыла выключыць. Кагда я з

мужам прышла дамоў, то ўся кварціра была чорнай: паталок, как вугаль, а вот агня не была.

Другой случэй. Убілі мы свінку. Павезлі на базар прадаваць, узяла я Семёна з сабой, сказаўшы такія слава: “Бацюшка-хазяін, паехалі з намі”. На базарэ мы прадалі сваё мяса самыя первыя. Вот такіе случэі. Но еслі ноч дамавой вас беспакоіць, то нада бросіць пад кравацъ венік.

Вам тожэ нужна завесці дамавога. Кагда он будзет з вамі вездзе, то тагда ў вас всё будзет харашо. Я расказала два случэя пра маево дамавога, кагда он памагал мне дома, у нашэй меснасці. А кагда ездзіла к дочке в Германію, то Семёна брала з сабой. І назад патом прывезла. Как я ево перевазіла? В сумке. Нужна сказаць некаторыя слава. А кагда вы рэшыце завесці сваево дамавога, я скажу всё падробней.

***Запісана ў в. Бабровічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Назаранка Анастасіі Сямёнаўны, 1941 г.н.,***
***студэнтам Каравякіным Ю.***

Дамавы – ента дух хаты. Дамавы жывець у хаце. Ента маленькі дзядочак. Яму столькі гадоў, колькі і хаце, і гаспадарам. Кажуць, што дамавы вельмі добры. Яго лічуць гаспадаром ці хазяінам хаты. Ён сахраняіць пакой у хаце. Ён вельмі любіць маленькіх дзяцей. Дамавы дапамагае гаспадарам даглядаць хату. Усе лічуць, што дамавы жывець за печчу, паентаму кідаюць туды шмат мусара, каб дамавы не перавёўся. У хаце можна пачуць некалі якісьці шорах. Ента дамавы штосьці робіць. Паентаму яго нельга баяцца, бо ён маленькі дзядочак, які нічога дрэннага не зробіць.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мяшковай Лісы Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Дамавік – гэта чалавечак такі, які ў хаце жыве. Ён любіць ласку і ўважэніе. Калі перабіраешся ў другі дом, нада яго зваць з сабой, іначэ ён рассярдзіцца і жыццё ў новым доме не будзе ладзіцца. Прасілі яго ісці ў іншы дом очэнь ласкава, дажэ ставілі ўгашчэнне ўсякае.

***Запісана ў в. Тарасаўка Веткаўскага р-на***
***ад Саўчанка Любові Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Жарносенка І.***
***(2003 г.)***

Дамавік – гэта дух, які абітае ў хаце. Дамавік – гэта такі сівы дзядок. Ён маленькага росту, чымсьці падобны на гнома. Яго мы не бачым, але ён ёсць. Дамавіка лічуць хазяінам хаты ці хатнім гаспадаром. Ён вельмі добры, таму нічога дурнога гаспадарам не робіць.



Дамавік жывець у хаце за печчу, бо яму там вельмі добра жывецца. Усе людзі за печ кідаюць смецце, каб дамавіку было добра і лепей жыць. Часта людзі кажуць, што на ноч мы павінны астаўляць ежу, каб ён мог паесці. Але калі на стале нічога не будзе, то дамавік пачынае шукаць ежу. Тады гаспадары могуць пачуць скрыпы ці шорахі нейкія. Днём дамавік спіць, бо яго не чутна.

Дамавіка лічуць добрым пакравіцелям хаты. Людзі палагаюць, што зла ці шкоды ён не робіць людзям. Пра дамавіка ў хаце нельга дрэннага ці брыдкага казаць, бо ён можа пакрыўдзіцца і перавесціся куды-небудзь у другое месца.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на ад Паляшчук Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н., студэнткай Курачкінай І.***

Дамавік невідзімы, у хаце ё. Ці ён плахі, ці ён харошы. У хаце нікаво нема, нема, а вешч ляжыць на другім месце. Нечысць ён. У многіх жэншчын у хаце скацерці згарэлі – тожа ён. Гаворать, калі нечысць у хаце – кот натапырыцца, прэдчуствуе.

***Запісана ў г. Гомель ад Дудзянавай Вольгі Сямёнаўны, 1928 г.н. (перасяленка з в. Ачэса-Рудня Добрушскага р-на) студэнткай Тупіцкай А.***

Дамавік – барабашка пад печью жыл ілі в трубе. Там цепло. Ешчо под венікам, гаварят, жывёт.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Казачэнкавай Таісіі Паўлаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Тупіцкай А.***

Калі хата стаіць даўно, то дамавік у ёй стары жыве, а як хата новая, то вот і дамавік малады. Я думала, то кот ноччы лазіць і стукае, а гляджу, дык не – дамавік. Ён не бальшы, як кот такі. З барадою і ў краснай сарочцы. Я ўжо тагда малако яму ў блюдцы ставіць пачала, штоб урэду не наносіў А так ён не ўрэдны, толькі можа трохі тарэлак пабіць. Вот.

***Запісана ў в. Ягаднае Веткаўскага р-на***
***ад Адзіночка Сафіі Паўлаўны,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Дамавы жыве ў кожнай хаце, толькі яго не відна. Але ён, калі захоча, можа паказвацца чалавеку. Сам ён маленькі такі, валасы ў яго па пояс, длінная барада. Рукі і ногі ў яго таксама валасатыя. Адзеты ён у шырокую кофту, падобную на сукенку.

Дамавы – гэта хазяін дома. Ён заўсёды глядзіць за парадкам. А яшчэ ён любіць, калі гаспадары да яго добра ставяцца, тады і ён будзе заўсёды дапамагаць. Вось, напрыклад, калі гаспадары селі абедаць, яны абавязкова павінны пазваць яго да абеду.

Вось мне гаварылі, што быў такі случай. Адна бабка схавала палову сваёй пенсіі і забыла куды. Доўгі час не магла знайсці. Ноччу прыйшоў да яе дамавы, пабудзіў і сказаў, дзе грошы ляжаць. І назаўтра гэта бабка знайшла іх. Потым усё дзякавала яму.

А яшчэ дамавы любіць сядзець за печчу, дзе цёпла. Гэта для яго асабістая хатка.

Ёсць яшчэ і злыя дамавыя. Яны такімі становяцца, калі гаспадары ім не дзякуюць ніколі. Такіх дамавых трэба баяцца. Калі яны злыя, яны нікога не жалеюць і робяць толькі шкоды. Можа такое быць, калі чалавеку трэба якая-небудзь вешч, то дамавы яе схавае і не захоча паказваць. Гаспадар будзе шукаць, а дамавы будзе ўсё смяяцца.

А яшчэ ён можа прыходзіць ноччу, пачынае чым-небудзь стукаць, мяшае спаць. А можа сваёй валасатай рукой пашчыкатаць.

Дык харашо, калі добры дамавы ёсць дома. Ён тады і хату сцеражэ, і любіць за дзеткамі-малышамі глядзець, калыхае іх у калясачке, песенкі пяе.

І ешчо кагда ноччу, а можа і днём, пол скрыпіць, дык знай, дамавы ходзіць, і не нада яго баяцца.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Сімановіча Ільі Ніканавіча,***
***студэнткамі Завадскай В., Шышкінай С.***
***(2003 г.)***

Дамавік – маленькі дядзька. Он охранял дом, іногда шуціл, біл посуду, вешчы забірал, дзелал всё в доме. Ну, задабрівалі его. Возле печкі всегда канфеткі ляжалі, а ночью клалі пакушаць. Очень любіт пяченье.

***Запісана ў в. Чыяне Лельчыцкага р-на***
***ад Зоі Міхайлаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Грынько М.***
***(2003 г.)***

Дамавік – эта такі нячысцік, які жыве ў хаце. Я ведаю, што ён жывёт у маём доме. Эта такі старычок, у якога ёсць длінная і сівая барада. Па росту такі невысокі. Часта, калі я лажуся спаць, то чуствую, як нада мною хто-та дыша, вот так прама над маім вухам. Первы раз я вельмі спугалася, адкрыла вочы, гляджу: нікога няма. Я поняла, што гэта дамавы. Сразу прачытала малітву і перакрысцілася. І цяпер кажды раз, як кладуся спаць, крышчуся і крышчу дзверы. Патом, на этай жа краваці спала мая дочка, а бацька п'яны спаў за сцяной у другой комнаце. Яна прачнулася ад таго, шо за двярамі хто-та хадзіў, громка дышаў і хадзіла нейкая цень. Яна сказала: "Што табе, алкаголік, нада?". После гэтага цень зразу знікла. Яна сільна спугалася, паглядзела, што бацька як спаў, так і спіць. Яна поняла, што гэта дамавік.

Вабшчэ к дамавым нада адносіцца добра. Калі будзеш крычаць, не любіць іх, то яны могуць атамсціць, прычыніць врэд, дажа спаліць хату. Калі ў доме прападаюць вешчы, то эта іх забірае дамавы. Нада ласкава папрасіць, штоб ён вярнуў, і на ўтра ўжэ эта вешч будзе. Вот, помню, прапалі ў мяне туфлі, якія стаялі ў карыдоры. Я іскала, але ж не нашла, а потым поняла, што эта забраў іх дамавы. І

вечарам, калі я лажылася спаць, ласкава гавару яму: “Дамавічок, харошанькі, міленькі, вярні мне мае туфелькі”. І шо вы думаеце, утрам я прасынаюся, выхожу на калідор, а мае туфлі стаяць там, дзе і раней стаялі. Я паблагадарыла дамавога і ніколі пасля таго яму не грубіла.

Можна праверыць, ё дома дамавы ці не. Нужно для гэтага палажыць на стол кусочак хлеба. Еслі ўтрам устанеш і ўвідзеш, што на стале хлеба нет, значыць, яго забраў дамавы.

А яшчэ мне расказвалі, што адна малая дзевачка яго не любіла, і ён вазненавідзіў яе і дзелаў ёй розныя шкоды: паднімаў ззадзі і падпаліў ёй плацце – чуць не згарэла ўся хата.

А то наабарот было: дамавік так любіў сваю хазяйку, што кожны раз дапамагаў ёй. Ну, вось было так: нада было ёй устаць раней на работу, а яе ніхто ні разбудзіў. Муж пашол на работу, і яна асталася дома адна – спала. І тут чуе такое: “Танюша, уставай, а то на работу праспіш”. Яна адкрыла вочы, падскочыла, глядзіць, а нікога няма, і ўжо на рабоце нада быці. А яшчэ забыла сказаць, што гаварылася ўсё гэта голасам мужа. Так шо нада дамавіка любіць, шоб ён ніякай шкоды не надзелаў. Так вот, такія дамавікі.

***Запісана ў г.п. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Смяглікавай Ніны Пиліпаўны, 1943 г.н.,***
***студэнткамі Ярохавай С., Псырковай І., Лапінай В.***
***(2003 г.)***

Дамавы – ета дзядок такі. Ён у хаце жыве. Але я яго не бачыла, сколькі пражыла. Расказвалі, што дамавы жыве пад печчу. Летам там не жарка, а зімой – цёпла. Вот ён там і сядзіць. З дамавым етым няльзя лаяцца, а то ён будзе ўсё на зло рабіць, можа і пасуду пабіць. А то раз было. Стаяла ваза на паліцы з цвятамі. Днём было. Сяжу я на канапе, шыла штосьці. Ну, вот сяжу, шыю, а тут тая ваза ні з таго ні з сяго ўзяла і звалілася. Ніхто яе не чапаў, а яна пабілася. Вот як. Ета, наверна, дамавы лазіў там і зацапіў. А то бывае, што ўночы масніцы на падлозе скрыпяць. То, значыць, дамавы ходзіць. Яны, дамавыя, у кожнай хаце ё.

***Запісана ў п. Арол Лоеўскага р-на***
***ад Святочнай Ганны Фёдараўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Зыбко В.***
***(2003 г.)***

Дамавік – старычок з бародкай, які жыве ў любом хазяйстве. Многія людзі чулі, як ён крактаў. Ён любіць дзелаць дабро людзям, прэдупрэждае аб няшчасці. Но можа і наказваць неакуратных хазяеваў. Ён любіць чыстаплотных, но не церпіць гультаёў. З дамавіком нада абрашчацца ласкава і з уважэніем.

Калі прыводзіш у двор якую новую скаціну, нада прасіць дамавіка, штоб яны прыжыліся. Гавораць так: “Дзедушка-дамавішка, прымі маю скацінушку, паі, кармі, у целе дзяржы”. На Новы год лажылі ў сараі высока кусочак хлеба і гаварылі: “Вот цебе кусочак хлеба, штоб глядзеў мой двор”.

Калі пераязджалі ў новы дом, дык ставілі сапог пад печ і прыглашалі дамавіка: “Дзедушка, пашлі з намі ў новы дом жыць”. І ён будзе спрыяць.

Дамавік не любіць крыкаў у доме і матаў.

***Запісана ў в. Салтанова Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Марыі Канстанцінаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Васілюк А.***
***(2003 г.)***

Дамавік – хатняя істота. Гэта старык з барадой. У кожнай хаце ёсць свой дамавік, ахоўвае хату. Каб нічога благога не рабіў, да яго трэба хораша адносіцца. Баіцца кошкі, чаму – не ведаем.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Вараб’ёвай Паліны Ігнацьеўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***
***(2003 г.)***

Маці мая гаварыла, што дамавік – гэта маленькі чалавечак з белай барадой. Дзядок жыве пад печчу. Каб убачыць дамавіка, нада налажыць на талерку цукерак або пячэння, наліць малака і схавацца. Он точна прыдзе. Дамавік любіць парадак у хаце, хутка прывыкае да хазяеў, а яго трэба задобрыць. Дамавік не любіць хатніх жывёл. Калі пасварыцца з хазяінам (за гразь або цукерак яму не пакінулі), дык пасуду б’е, смецце раскідвае, шуміць пад печкай.

А ў мяне ў хаце другі дамавік быў. То зусім не было яго. Але потым з’явіўся. Гэту ж хату мы куплялі пасля жанчыны, якая павесілася. Дык мне спачатку снілася, как яна ка мне прыходзіць і расказвае, как хату нада даглядаць. Усё так падробна расказвае, што

гатовіць, расказвае. А я не паслушалась, дык к вечару ўся пасуда грымець начала. А ноччу зноўку яна прышла. Усё паўтарыла. Ну, я так і зрабіла. І доўга яна патом не прыходзіла. І ў ва сне не сніцца больш. Толькі так калі-нікалі пасуда грыміць, калі што не нравіцца. Дык я тут жа мяняю. Думаю, гэта яна ўсё мне тут робіць. Больш некаму. А я не спору. Мала ці чаго яна зробіць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Масквіной Неанілы Аляксандраўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Грабаўка Гомельскага р-на)***
***студэнткамі Вальчанка В., Чарпухінай Я., Канавалавай В.***
***(2003 г.)***

У кожнага ў селішчы жыве дамавік. Дык ён жа глядзіць, каб у хаце було ўсё добра. У нас гаворація шчэ, што дамавіковы дух усяляецца ў ката, а каторыя бабы ў нас казалі, што самі ўгледзелі свайго дамавіка. Дык ён, як казалі, як тэй пень: стары, малы, сівы, ледзь варушыцца, сядзіць у запечку ды й годзе.

Шчэ трэ, каб дамавік добры буў, яму трэ есці даваць, дзякаваць яму, каб усё добра, у парадку ў селішчы було. А як хто не дагледае свайго дамавіка, дык ён нядобры робіцца. Усё шурудзіць, шуміць ды грыміць дзень і ноч у хаце ды на печы, спаць не дае.

Як дамавік харошы, дык яго завуць у новую хату ды й кажуць тады: “Хадзяін мой, хадзі са мной”. Пускаюць свайго ката сначала ў хату, трэ каб абжыўса, а пасля й самі пераяжджалі.

Бабы ў нас шчэ казалі, што дамавы мог прадказаць якіясь змены ў сям’і. Ён тады гудзеў у комін: “К дабру -у-у-у!”, як усё будзе добра і “К худу-у-у-у!”, калі будзе што худое ці нядобрае.

Дамавы ў хаце мае сваё месца, а калі хто займе яго, дык дамавы можа й скінуць чалавека зтуль.

Калі якія госці сталі начаваць у яго хаце, дык ён не дасць ім спаць, калі не паспыталі ў яго.

***Запісана ў в. Жахавічы Мазырскага р-на***
***ад Турбал Марыі Рыгораўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Есман А.***
***(2003 г.)***

Дамавік ахоўваў сямейны ачаг. У нас яго называлі хатнікам. Ён жыў пад печчу. Гэта старэнькі, сівенькі дзядочак. Усё яго цела па-

крыта валасамі. Ён дапамагаў людзям. Часта, калі калышыцца штора, то гаварылі, што гэта дамавік забаўляецца, гушкаецца.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Юліі Сцяпанаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбасавай Ю.***

Яго рэдка хто бачыў, але можна было пачуць яго шагі. Абычна ён хадзіў уночы. Раз ноччу, я ўжо лягла спаць, віджу: да мяне ідзе нехта. Сначала пахадзіў па вуглах, паглядзеў што, дзе, куды, а потым ідзе да мяне. "Добры вечар", – кажа. А я ляжу, не магу не пашавяліцца, не ўздыхнуць, хачу спрасіць, хто ён, і не магу. Толькі думаю, каб хто з дзяцей праснуўся. А ён жа худы, нізенькі, з сівымі валасамі, доўгім носам і ў белай рубашцы, і рукі ў яго доўгія, і да мяне цяне. А сам ідзе, нібы боты падкованы. А я рук не чую, а ў галаве – трэба перахрысціцца. Кой-как руку падняла, перахрысцілася і ўжо гляжу – і няма яго.

А яшчэ раз вось што бачыла. У нас у хаце, каля кута з іконай, вакно адкрыта было. Бачу – гадзюка ў вакно лезе. Напалову залезла, галавой пашавяліла, памахала, але ўся не вылезла, пайшла назад.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Марашкоўскай Клаўдзіі Іванаўны, 1926 г.н.***
***(перасяленка з в. Малянік Кармянскага р-на)***
***студэнткай Кандаковай Н.***
***(2003 г.)***

Дамавік жыве ў кожнай хаце. Калі гэта дом у дзярэўне, дык за печкай ён селіцца, а калі хата, кватэра ў горадзе, дык жыве пад кроваццю ў цёмным вугле. Ён забірае ў гаспадароў вешчы, што яму патрэбны, і цягне сабе ў норку. Але забірае нямнога, толькі дробязь. Як ён выглядзіць, ня ведаю, бо яго ніколі ніхто не бачыў, яго толькі пачуць можна. Калі дамавік злуецца, дык б'е пасуду па начах, можа абоі парваць, паскідваць рэчы са стала. Разазліш дамавіка, дык ён будзет ва всём мяшаць. Маці мая расказвала, што ў іх аднажды прапала міска, у каторай яна пірагі хацела пекці. Яна так падумала, што эта дамавік злуецца і міску схаваў, дык яна ціхонька яму паабяцала, што кусочак пірага дась. Потым міска і знайшлася. Казалі мне, што калі дамавік жыў-жыў, а потым хутка з хаты ўцёк – гэта значыць, што ў хаце гэтай пажар будзе. І наогул, у добрых, акуратных гаспадароў добрыя дамавікі былі, а ў дрэнных – злыя дамавікі.

Злаваліся дамавікі, калі іх з сабой за стол не звалі, або не астаўлялі ім чаго-небудзь паесці. Не любілі, калі была неакуратная хазяйка і ў хаце было гразна.

А калі ў доме зусім дамавіка не было, дык лічылі, што там гаспадары – ведзьмакі. Дамавік не любіў чорта. Не любіў яшчэ, калі гаспадарыругаліся, ён тады біў пасуду і па начах шкрабаў у засценку.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Прыбышэня Эмы Ігнацьеўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Марусенька Жлобінскага р-на)***
***студэнткай Прыбышэня Ж.***
***(2003 г.)***

Гэта такі невялічкі чалавечак, які жыў у хаце. Выглядаў ён, як стары дзядок з доўгай сівой барадой і хітрымі вачыма. Калі гаспадары былі ў добрых адносінах з дамавіком, то і той добра да іх ставіўся, дапамагаў у гаспадарцы, наглядаў за малымі дзецьмі (работы ж у нас было раней многа, некалі дзяцей было калыхаць у люльцы). Але некаторыя людзі не верылі ў дамавіка. Вось, напрыклад, мой – колькі яму яны шкоды зрабілі. Але ў дамавіка былі і свае ворагі, якія маглі яго выжыць з хаты. Кошка заўсёды добра ведала аб прысутнасці дамавіка ў хаце, нюх у яе такі. Калі кошка шыпіць і стаіць на задніх лапах – гэта яна з дамавіком ваюе.

Дамавік звычайна жыў ці на печы, ці пад печчу, таму нельга было пад печ мусар несці.

Калі людзі пераязджалі ў новы дом, яны, калі ў іх быў ладны дамавік, ставілі лапаць пасярод хаты і казалі: “Дамавік, дамавік, садзіся ў лапаць ды едзь з намі ў новае месца і зноў нам там дапамагай”.

Пасля гэтага лапаць пераносіўся на новую печ, і ён стаяў там нядзелю, пакуль дамавік не збярэ свае рэчы і не пераселіцца.

А калі не жадалі, каб у хаце жыў дамавік, дык першай у хату запускалі кошку і верылі, што яна яго выжыве.

***Запісана ў в. Маладуша Рэчыцкага р-на***
***ад Васілец Еўдакіі Паўлаўны, 1920 г.н.,***
***студэнткамі Дзяйкун М., Толкач М.***
***(2003 г.)***

А дамавыя, дзетачкі, не толькі былі, а і зараз ёсць. Ваабшчэ, яго толькі папробуй дражніць, бо ён ёсць у кожнай хаце. Во ў нас было нядаўна так, што і поп, і міліцыя, і етыя, як іх, рэспандэнты

прыходзілі. У адной хаце дзевачка пагуляла, прыйшла дадому, падзелала ўрокі і глядзела целявізар. Патом адкрывае дневнік, а там – словы: “Аддайце мне ету дзевачку, ана всё равно мая будзет”. Радзіцелі спугаліся. Утрам у зале стулы папераварачаваныя былі, букетніца была перавернута, а цветы з яе былі абкладзены вакол Кацькі. З етава дня случалася так: нідзе нікога няма, а целявізар выключыцца, часы ўпадуць, пераварочваліся крэслы. І дзевачку етую ён закалебаў. Пазвалі бацюшку. Бацюшка адзеў шнурочак з крэсцікам, дык калі ён чытаў малітву, дык крэсцік застаўся на грудзях, а шнурочак упаў. Хто яго знае, як той крэсцік дзяржаўся. Завязалі новую веровачку. Ноччу, калі б маці не дзяржала веровачку, то дамавой бы Кацьку задушыў, а утрам вместа веровачкі бацюшка павесіў закладку з Евангелля. Другі раз вазілі яе ў Рэчыцу да бацюшкі, а пасля етава дзевачка начала відзець яго. Яна крычала, што маленькі чалавек раздваіўся і вунь ужо пераляцеў за вакно. Патом яе павезлі да святых мошчаў у Гомель, і там сначала малады бацюшка пачытаў малітвачку, а патом – стары. І вродзе ён большэ яе не трогаў і нічога не гаварыў, але яна яго бачыла яшчэ некалькі разоў. Яны пераехалі жыць у Ліскі, і як яно зараз там – не ведаю.

***Запісана ў в. Заспа Рэчыцкага р-на***
***ад Цітавец Варвары Нікіфараўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Кацярыніч А., Стрэльчанка Д., Азёма А.***

Дамавы жыве ў кожным доме, толькі не ўсім даводзілася з ім сустракацца. Калісьці чула, што гэта дзядуля з барадой, ён вельмі маленькі, і таму яго можна не заўважыць нават тады, калі стаіш побач з ім. Але ж, нягледзячы на яго маленькі рост, ён робіць у доме шмат спраў. Ён сочыць за гаспадаркай, за хатняй жывёлай, дапамагае гаспадару. Але ж ён добры толькі да тых людзей, якія клапоцяцца аб сваім жыллі, сочаць за ім. Ну, а калі гэта дрэнныя гаспадары, то дамавы ім проста не дасць жыцця. У доме хазяйнічае ён толькі ноччу. Грыміць талеркамі, лыжкамі, шарпае нагамі, грыміць, скрыпіць дзвярыма. Бывае, што падыходзіць да гаспадароў, якія спяць, глядзіць на іх, нават некага гладзіць, а дзе ён бывае днём – невядома.

Быў у мяне яшчэ ў маладосці такі выпадак. Мы жылі тады ў другой хаце, якая стаяла над рэчкай. Зараз ужо і не ведаю, хто гэта быў, і дагэтуль каму вельмі рэдка расказвала пра гэта. Дык вось што адбывалася. Роўна ў 12 гадзін ночы (не магла заснуць да гэтага часу – усю калаціла, знабіла, здавалася, што памру) прыходзіў у мой па-

кой нехта. Вось адчувала я гэта, а вочы раскрыць баялася. А аднойчы ўвогуле адчуваю на сабе чый-та погляд, а страшна як! Ну, я адзеяла і насунула на галаву, а ногі раскрыліся, голымі засталіся. Чую – нехта на іх дыхае. Ну, не вытрымала я і ціхенька паглядзела. Бачу, што нада мной нахіліўся нейкі старык, сам як з дыму, увесь белы, сяды. А потым неяк сон найшоў. Прачнулася ўжо ўтрам і думаю: "Нешта са мной учора здарылася". Пачала ўспамінаць.

Хутка мы пераехалі ў другі дом, і больш са мной такога не здаралася. Толькі бывае, знікне якая-небудзь рэч, ну, усю хату пераверанеш – нічога не знойдзеш, тады ўжо і гавару, што дамавога гэта рук справа.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на ад Шаўчэнка Зоі Іванаўны, 1928 г.н., студэнткай Шырокай В. (2003 г.)***

Вадзіўся ў мяне дамавік. У вочы не бачыла яго, але на працяжэнні многіх гадоў, колькі жыву ў гэтай хаце, заўважаю яго прысутнасць і выхадкі. Лягу спаць, а па хаце на гары грыміць штосьці, як нехта ходзіць. Надаела гэта ўжо, да і страшна было спаць. І палез мой стары на гору, злез і гаворыць, што нікога не было. Калі злез – нейкі час было ціха, а пасля зноў загрымела. Зразу вельмі пужалася гэтага, а патом прывыкла. Адзін раз сплю ноччу і сніцца мне сон, як ка мне прыйшоў маленькі дзед з доўгай барадой, у вялікай шапцы і кажа мне: "Бяжы хутчэй у хлеў, у цябе карова целіцца". Я падхапілася, пабегла ў хлеў, гляджу – і праўда, цяля стаіць. З таго часу я веру пра хатняга зашчытніка і разы два ў нядзелю стаўлю ў куточак малачка, як падаю карову. І кот у мяне быў. Адзін раз сядзіць пад сталом, а тады як мяўкне, закрычыць і з хаты пабег уцякаць. Гэта яго спужаў дамавы, бо кот выпіў яго малако, мабыць.

Дзецям маім, калі хварэлі, усягда памагаў дамавік. Нават майму сыну прысніўся стары дзядок і сказаў, што ён дапаможа яму – і ён выздаравя. Калі сын расказаў, я адразу здагадалася, што, як і мне, сніўся дамавік. І сын мой праснуўся ўжо здаровым, нічога не балела. Часта не магла знайсці якую рэч, а яна потым знаходзілася на другім месцы. Добра помню, што клалі на другое месца і ніхто не браў, а за ноч знаходзілася не там, дзе было. Гэта дамавік браў пазабаўляцца, а на месца не лажыў. Вось ставіла раней венік у адзін куток, а то раніцай устала і не магла знайсці – не было веніка, і ніхто не браў. А

потым убачыла венік у другой хаце, хоць я яго туды не ставіла. Я падмяла хату і паставіла венік зноў у той жа куток. І так некалькі разоў венік быў у другой хаце, каля печы. Тады я ўжо паставіла венік каля печы, і ўжо ён нікуды не знікаў. Гэта дамавы перастаўляў. Мабыць, там месца не спадабалася і ён наводзіў па-свойму, па-гаспадарску парадак. А то бывала, стары аставіць на стале гразную міску на ноч, а раніцай яна стаяла чыстая. Ніхто яе не браў і не мыў, а гэта дамавы памыў, бо не любіць, каб беспарадак быў.

Нам дамавы шкоды не прыносіў, а заўсёды дапамагаў. Жылі мы з ім у ладзе, а вось зараз ужо не чутно яго і не бачна. Але добра жылі.

***Запісана ў в. Хуснае Петрыкаўскага р-на***
***ад Пракапенка Вольгі Пятроўны,***
***студэнткай Дыба Г.***
***(2003 г.)***

Дамавік, ці яго яшчэ называюць хатнік, жыве ў кожным доме, звычайна пад печчу. Дамавік вельмі маленькі, такі лахмаценькі. Ён разам з чалавекам займаецца хатнімі дзяламі, дапамагае яму. Дамавік – яшчэ адзін гаспадар у хаце. Але каб быць у добрых адносінах з дамавіком, яго трэба задабрываць: лажыць яму на талерку нешта смачнае. Тады і лад будзе ў хаце. Но дамавік не ка ўсім добра адносіцца. Каб задобрыць яго, яшчэ трэба ласкава разгаварываць з ім, прасіць, што трэба. Калі дамавіку нешта не нравіцца, то ён можа і пасуду пабіць, і сем'янінаў паругаць, там мужа з жонкай, маці з сынам, ці што другое зрабіць.

Калі сям'я пераязжае са старога дома ў новы, то клікаюць дамавіка, як члена сям'і. Гавораць: "Дамавік, дамавік, мы пераязжаем у новы дом, паедзем і ты з намі". Яшчэ, калі маці маладая пакідае сваё дзіця аднаго дома, просіць у дамавіка: "Дамавік, я пакідаю дом, а ты паглядзі за маім дзіцём, штоб яно гуляла, весялілася". Увогуле дамавік нясе палажыцельную эмоцыю, ён і дапаможа, і дзяцей даглядзіць. Як да яго адносяцца людзі, так і ён да іх. Калі добра, дык адказвае ўзаімнасцю, калі наадварот, дык не.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Тарун Вольгі Аляксееўны, 1950 г.н.,***
***студэнткай Шамонінай В.***
***(2003 г.)***

Дамавік – гэта еты мужчына. І етага мужчыну-та ты і я не бачым. Ён-та такі абросшы, валасаты. Ён жывець у хатах. Можа, у мяне, а можа, і ў вас. Каго еты дамавік любіць, каго і не. Але маленькіх дамавік пужае-та. Калі людзі едуць у іншую хату, то бяруць кусок хлебца, ложаць за пазуху і прыглашаюць дамавіка з сабой да новай хаты.

Можа дамавік і шкоду зрабіць. Можа пасварыць мужыка і жонку або суседзяў.

***Запісана ў в. Востраў Рагачоўскага р-на***
***студэнтамі Чагінай Н., Дзенісенка У.,***
***(2003 г.)***

Дамавік пахож на невялічкага і смешнага чалавека, які мог быць сярдзітым і злым. Як толькі цямнела, яны пачыналі стукаць па лесвіцах, біць у сцяну і дзвярама, сцягвалі ў сонных людзей адзіяла. Маглі таксама тушыць агонь і перакуліць вядро з толькі што выдаеным малаком. Пасля ўсяго гэтага здалек можна было пачуць яго злы смех.

Яшчэ я чула пра тое, што дамавік становіцца злым тады, калі мяняе сваю скуру ці сердзіцца на людзей, якія не маглі выканаць ягоных загадаў. Дамавік вельмі баіцца пеўня. Звычайна дамавік жыў у печы і адтуль вылазіў затым, каб паглядзець, што робіцца навокал, зрабіць што-небудзь шкоднае. Калі сям'я пераязджала на новае месца жыхарства, то перад гэтым гаспадыня гэтага дома тапіла печ у старым доме і пасля таго, як дровы згаралі, выграбала ўвесь жар у гаршок і пераносіла яго ў новую хату, пры гэтым нагаворваючы словы замовы ці малітвы, у якіх дамавіка запрашалі жыць у новым доме. Яму абавязкова давалі есці. Звычайна на прыпечку ставілі гаршок з кашай і пакідалі яго на ноч, каб той не сароміўся людзей і паеў. І не дай, Божа, гаспадыня забудзецца зрабіць гэта. Тада ж дамавік раззлуецца і адпомсціць: паламае мэблю, растаскае па хаце салому, а можа зусім вярнуцца ў тую хату, дзе раней жыла сям'я.

Яшчэ мне расказвалі аб тым, што дамавік нават пачаў дапамагаць добрым людзям і жыць не толькі ў печы, а і ў хаце, склепе, лазні.

Мне ж яшчэ расказвала мая матка, што дамавіка нецяжка ўбачыць. Для гэтага патрэбна было ў час вячэрняй службы ў царкве ўзяць запаленую свечку, прынесці яе, не тушыўшы, да хаты і падняцца з ёй на гарышча. Там абавязкова доўжан ляжаць дамавік, які пахож на сабаку ці голага чалавека. Яго трэба прыкрыць, а калі ён

спытае, што хоча гаспадар, то трэба пералічыць патрабуемае. Дамавік будзе імкнуцца ўсё гэта выканаць.

Яшчэ ведаю пра тое, што дамавік мог дапамагаць і ў штодзённых справах. Міма яго вачэй і вушэй нічога не праходзіць. Ён назірае за працай сваіх гаспадароў, і калі тыя што-небудзь робяць не так, то ён іх жорстка карае. Напрыклад, мог падпаліць хату.

***Запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на***
***ад Грудавенка Тацяны Іванаўны, 1927 г.н.,***
***Бабраўнічай Вольгі Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Мартынавай Н., Луцэнка Ю.***
***(2003 г.)***

Што тычыцца дамавіка, то гавораць рознае. З аднаго боку ў кожнай хаце, у кожнай гаспадыні жывеці дамавік. Яго ніхто не бачыць, але ў залежнасці ад таго, як да яго адносяцца, такія ўчынкі ён і будзе рабіць. Большасць лічыць, што дамавік – вельмі дрэнная істота, але гавораць, што ён дапамагае хазяйкам. Ён можа за домам паглядзець і за жывёлай. Але дзеля гэтага трэба яму ўгадзіць.

Вось мая бабуля. Нехта пужае яе па начам, быццам бы нехта разбудзе, падзёргае адзяяла і быццам бы глядзіць. Тады яна пачала ставіць тарэлачку з ежай і прасіць: “Дамавік, не пужай мяне”. Тады ён разбудзіў яе ўжо не так рэзка. Яна паднялася і ўбачыла, што дзвер расчынена. Тады яна зачыніла яе і пайшла спаць. З тых пор яна вельмі часта давала дамавіку ежу, а ён прыдупраждал яе, калі што-небудзь было не так.

Але ж калі не паважаць дамавіка, ён можа шкодзіць. Напрыклад, ён можа біць посуд, разбрасваць рэчы. Акрамя таго, ён па начам можа даіць жывёлу, так, каб яна не давала малака. Яшчэ ён можа пужаць нават саміх хазяеў. Ён можа шумець, стучаць у сцены, вокны, порціць ежу. Яшчэ гавараць, што дамавік – гэта маленькі, барадаты старычок. Але ж мая бабуля казала, што ён зусім не злобны і выглядае маладым. Я чула, што дамавік – гэта нават і не дамавік. Некаторыя казалі, што гэта духі людзей, якія памерлі ў гэтым месцы ці ў хаце, але ж нешта не адпускае іх. Таму яны зляцца і пужаюць новых хазяеў хаты ці зляцца таму, што на іх не звяртаюць увагу. Ці, мабыць, яны хочуць, каб свяшчэннік асвабадзіў іх душу. Таму я нават і не ведаю, ці то дамавікі, ці то не; ці яны дрэнныя, ці добрыя.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Байцовай Людмілы, 1938 г.н.,***
***студэнткай Казловай К.***
***(2003 г.)***

Кожны чалавек верыць, што ў доме ёсць такая істота, як дамавік. І калі яго задабрываць, дык ён будзе спрыяць гэтай сям'і, у якой ён жыве, гэтаму дому. Лічылася, што дамавік жыве на гарышчы (крыша драўлянай хаты) і з'яўляецца ў хату толькі тады, калі ўсе адпачываць ляглі. Знешне яго прадстаўлялі як маленькага дзядка з кашлатай галавой, ніколі не прычэсанай, з маленькай бародкай, у даматканай сарочцы, якія-небудзь залапленыя панчохі на нагах.

Для таго, каб задобрыць дамавіка, у некаторых сем'ях клалі на чысты абрус кавалачкі хлеба ці налівалі ў талерачку мёда або яшчэ якойсьці стравы. А калі дамавіку нічога не клалі, то ён мог паскардзіцца, тады здараліся розныя няшчасці ў гэтай сям'і і ў гэтай хаце. Яшчэ лічылі, што дамавік, чорт, ведзьма, кікімара – гэтыя істоты ад нячыстага (д'ябла). Было шмат сямей, якія кожны вечар станавіліся ў кут ля ікон і маліліся Богу аб тым, каб не было ў хаце ніякай істоты.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бедрыч Клаўдзіі Аляксандраўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Лапаціным А.***
***(2003 г.)***

Лажусь я спаць. У міне ж дзве хаты. У пярэдняй хаце, як бутылачка сцяклянная, штосьці аб трубу аб металічаскую стукае. Думаю, што йта такое. Я свет уключыла, паглядзела – нічога німа. Лягла ў пасцель. Зноў стукае, ну і стукай, што ж мне болей табе дзелаць, ужэ ж нічога не здзелаю. Пахадзіла зноў, нічога німа, а бутылачка стукае, колаецца, як аб металічаскую трубу. А ў міне ж прайшла адна ноч. Сама спужалась, пашла к саседкі, стала расказваць. Тая кажа: "Дай я ў цібе паначую хоць ноч". Прыйшла яна ка мне начаваць. Паначавала – нічога, цішына і ўсё.

На следуюшчую ноч звоня званочак, як з веласіпеду. Вот кажыцца, як хто на веласіпедзі едзе і звоне ў званочак. Паглядзела, зноў німа нідзе нічога, а званіць – звоня, а што такое, я ж не знаю. Звоня, а сама ж жыву ў хаце, страшэнна мне так. Пазваніла мне дачка з Гомеля. Яна кажа: "Мамка, я стала бабкам лі пад'езда расказваць, ды яны і кажуць: "Гэта ў хаце жыве які-та дамавы". Ты, мамка, не грубі, не гавары нічога плахога, а проста, калі такое шчо стане, ты скажы: "Слухай, дамавы, мы з табой далжны па-харошаму жыць. Я цібе не трогаю, і ты міне не трогай, дай ты мне аддыхаць, і будам з табой мірна жыць удваіх у хаце".

Ляжу на следуюшчую ноч на пасцелі, а кругом падушкі. Як мышка, кругом пабегла, я спужалася, яно зноў бегае. Я кажу: "Слухай, ну я ж не мяшаю табе аддыхаць і не чапаю цібе, не трогай і ты міне. Давай мы з табой мірна ў маёй хаце ўдваіх жыць". Всё. З тых пор цішына.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на***
***ад Бандарэнка Лідзіі Міхайлаўны, 1940 г.н.,***
***студэнткамі Бандзюк А., Макеевай С., Хатэнка С.***

Тады якась больш унімання ўдзялялі дамавіку, а цяпер даже і ніхто не ўспамінае. Сама я ні разу не бачыла яго, але мая маці мне трохі расказвала пра яго. Вот як гэта було: яксьці раз вечарам яны з мужам сядзелі на куханьке, дзе яду варадь, ля печы. Яна ткала нешта і гаварыла з мужам. І тут перад імі паўстае ніадкуль такі старэнькі, сівы дзядок з бальшой барадой чуць лі не па калена, высокага росту. Адзеты ва ўсё белае. Вот так ён стаіць і моўчкі паглядае на іх. Яны ж вельмі спугнуліся. Маці перастала прасці і ўмесце з мужам сваім пачалі чытаць малітву і крысціцца. І ён зразу жо і прапаў, хаця ніводнае акно не адкрывалася, а такжо ж ніводная дзвер не адкрывалася. Шчо мая маці расказвала, што пасля гетага ёны начали ўшаноўваць дамавіка: пад печ ставілі сподачак з ядой і запрашалі яго пажывіцца, кеб мог паспрыяць добрай гаспадарцы й добраму ўраджаю. І после гетага яны больш яго не відзілі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міхадзюк Зінаіды Сямёнаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Сухой Ю.***

Дамавік – ета такое сушчаство, якое жыве ў хаце разам з хазяевамі. Дамавой жыве пад печкай ці на печкі. Дамавога ніхто ні бачыў, таму што ён не паказваўся нікому. Дамавік етат мог шкодзіць над хазяевамі, а також мог псаваць ім.

Адна жэншчына мне расказавала, што ў яе памерлі бацька і маці, і ў іх доме ніхто не жыў. Ета жэншчына толькі садзіла там агарод, ну і наведвала дом, прыбірала там, мыла. І гавора: "Кажды раз прыходжу, пасуда гразная, як хто-та жыве там, кравадь рассцелена, стулы пастаўлены па-другому". Яна ўсё ета прыбярэ, памые ды і пойдзе. А за домам стала сматрэць очэнь унімацельна, наблюдала месяц: ніхто туды не прыходзіў, нікога ў доме не было. Заходзіць у

хату, там зноў усё параскідана. Рашыла ета жэншчына там пажыць трохі, і ў первую ж ноч чуе, што хтосьці там, у сенцах хадзіў, усё чым-та стукаў, грымеў. Пражыла яна там толькі некалькі днёў, потым пайшла дамоў.

Ёй адна старэнькая бабулька сказала, што яе маці яшчэ даўно гаварыла, што ў іх жывець дамавой.

Тая жэншчына патом расказвала, што ў скорасці дамавік супакоіўся.

Ешчо мне многа расказвалі і ў нашай дзерэўні, што не могуць знайсці што-небудзь. Абходзюць і двор, і хату, і сенцы, а таго, што яны шукаюць, няма. Аббегаюць усё, што можна, а потым на тым месце, дзе яны глядзелі – ляжыць тая вешч. Дык гаварацъ, што ета дамавой з імі так шуціць.

Ешчо я чула, што трэба астаўляць на стале нанач што-небудзь з яды для дамавога.

У нас у вёсцы, калі хазяева не падабаюцца, то тады дамавы шкодзіць ім, а калі яны яму падабаюцца, то дамавы дапамагае ім і ў гаспадарцы, і на агародзе, і ў хаце хазяйцы.

Ёсць адна жэншчына ў нас у дзерэўні, дык яна расказала, што ноччу к ёй нехта прыходзіць, садзіцца на грудзі і не сходзіць. Яна, гавора, ужэ задыхаецца, дыхаць не можа і сказаць нічога не можа, і прачнуцца тожа ніяк не можа, а мужык радам спіць.

Уранні трохі адпусціла, потым злез, яна праснулася і расказала ўсё мужу, той не паверыў. Ноччу зноў прыйшоў і стаў яе зноў душыць. І так доўга прадаўжалась. Тая жэншчына без свету спаць не лажылася. А потым рашыла яна выключыць свет, но спаць не лажыцца, а ждаць, пакуль тое нешта прыйдзе. Ужэ пашці засыпала, як прыйшоў той мужычок. Ён быў у шэрсці, казала, чым-та паходзіў на яе мужыка. Яна стала з ім гаварыць, спрашала ў яго, чаму ён прыходзіць к ёй і душыць, а ён ёй сказаў, што ён тут жыве і што яна плахая хазяйка, есці яму не астаўляе. На світанні ён знік. Етая жэншчына пашла ў цэркву, хату папырскала святой вадой і стала ўжо астаўляць на стале для дамавога еду. І кажа: “Перастаў начамі мяне данімаць. Сплю спакойна”.

А другая жэншчына мне расказала, што бачыла дамавога, і апісала яго не так.

Яна была на двары і што-та ёй нада было ў хаце. Яна зайшла ўзяць ета і павернулась. Бачыць – нейкае сушчаство, як звер нейкі, но не пахож ён ні на ката, ні на сабаку, хаця дзе-та такога размеру і

быў. І той, кажа, звер так быстра з адно кутка ў другі прабег і прапаў недзе. Но тая жэншчына кажа, што ета быў дамавой.

***Запісана ў в. Убалаць Калінкавіцкага р-на***
***ад Прышчэп Антаніны Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Нямковіч А.***
***(2003 г.)***

Дамавы – ета дзядок старэнькі з сівой барадой. Ён хату сцеражэ ад хапуг разных, ад нечысці. Калі яго разазліш, дак ён шкоду дзелая. Шоб не зліць, дак нада ў хаці ўсягда прыбіраць. Дамавы чыстату любіць. Жыве ён у прыпячку. Во то сядзіш бувала, а дзверы самі расчыняюцца, то ён ходзіць. Я, як кату есці кладу каля печы, дак і дамавіку шо-нібудзь пакладу ўжэ.

Як у новую хату перасяляешся, дак нада дамавога з сабой зваць. Для етага нада ў прыпячак кусок хлеба пакласці. У той хаці, дзе іе нячыстая сіла, дамавы не жыве.

***Запісана ў в. Чамярысы Брагінскага р-на***
***ад Сніцарэнка Ганны Ільінічны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***
***(2003 г.)***

Мы яшчэ жылі ў Старым Млыне, і каждую ноч вот мы слышым: адчыняюцца дзверы ў сараі. І точна, едзе ён на кані. Слышу я, як ён праехаў, а ўжо патом прыязжаў жа назад і закрываў дзверы. А каня ж у нас не было.

Па дому нічога не дзелаў. А інагда стукаў па калодцы, пакуль заснём. Вот кажды раз так. І саседкі тожа гаварылі, і мы как будта і бачылі яго, када ён едзя.

Мы ішлі на танцы. Ета была перад Івана Купала. Уперадзе з аднаго боку і з другога бальшэнныя кусты, два. Ну, мы ідзём, трохі ж пяём. І тут з куста выязжае на кані белым бальшым бальшы мужчына ў белым, жырны такі. Конь як нада ідзе. А мужчына эты сядзеў ліцом к нам, а к каню спіной. У яго была бальшая белая барада, а сам ён малады. Ета быў дамавы, а такі красівы. Мы ж, дзеўкі, перапугаліся і началі хрысціцца. І як началі хрысціцца, дык ён зразу ж паскакаў у саседнія кусты. Мы пабеглі. А назаўтры пашлі і паглядзелі, а там трапінка, добрая такая, шырокая.

Як-та ноччу прышла сястра мая позна і есці села ля акна. Есці і глядзіць. А ў вакне нешта падходзіць. І морда такая бальшая, красная морда. Яна спугалася. А ета быў дамавік, точна дамавік. Нельзя есці ноччу.

***Запісана ў в. Кароцькі Кармянскага р-на***
***ад Маскаленка Іны Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смірновай І.***

Жыў у суседняй вёсцы мужык. Вельмі скупы ён быў на грошы. Усё яму мала было. І казалі, што ён з дамавіком знаўся. Мо, думаў, што дамавік яму грошай дасць. Яму многія ж людзі казалі, што дамавік не любіць такіх, як ён. І можа забіць яго. Але ж гэты чалавек не маў веры. І аднойчы яго доўга не было бачна на вуліцы. А жыў ён адзін. І вось калі людзі ўсё ж такі рашыліся да яго пайсці, то ўзялі з сабой знахарку, бо вельмі баяліся дамавіка. Дамавік, калі злы, можа і чалавека забіць. Дык калі яны зайшлі ў хату, то ўбачылі, што ён ляжыць на падлозе, а вакол яго грошы валяюцца. Знахарка сказала, што гэта яго дамавік забіў. Мабыць, ён не ў згодзе з дамавіком жыў. Калі да дамавіка адносіцца дрэнна, то і ён табе тым жа адпомсціць. Трэба ж у згодзе жыць. Дамавік любіць тых гаспадароў, якія вядуць добрую гаспадарку, ды і самі добра жывуць. Дамавік і ў гаспадарцы вам паспрыяе, калі гаспадары добрыя.

Дамавік у нас жыў за печчу. Добры ён быў. Мы ніколі з ім не сварыліся і не бачылі. Толькі ноччу палавіцы скрыпелі. Гэта ўжо ён па хаце ходзіць, правярая, сцеражэ нас. Паходзіць па хаце, абгледзіць усё, а потым ідзе на сваё месца. У нас былі такія, што есці яму ставілі на ноч у тарэлцы. Я не ставіла. Казалі, што калі пераязжаеш у іншае месца, то трэба з сабой дамавіка паклікаць: “Дамавы мой, пашлі разам з намі”. І ён заўсёды разам з табой пойдзе. А калі не паклічаш, то ён застанецца на старым месцы, а з табой іншы які-небудзь жыць будзе. І амаль заўсёды злы, нядобры.

Ішоў адзін чалавек, ішоў ён з гульні праз могілкі. І калі ішоў міма могілак, то ўбачыў, што з могілак выязжае белая каляска. Ён спужаўся. А ў калясцы той сядзелі дамавікі. Яны спецыяльна ездзілі, каб людзей пужаць. Дык той чалавек так спужаўся, што знахарка ў яго зляк вылечвала.

Яшчэ было такое. Гэта расказвала мая матка. Калі яна была маладая, то сустракалася з хлопцам, з маім бацькам. І вось яны стаяць і бачаць, што ідзе чалавек увесь у чорным, ды без галавы. А за ім яго

галава каціцца. Яны сільна спужаліся, перахрысціліся, і адразу ўсё прапала. У тым чалавеку яны пазналі знахара, які валодаў нядобрай сілай, і зараз стаў дамавым. То адразу пазвалі знахара. Ён пайшоў на магілу, дзе пахавалі гэтага чалавека. І забілі яму ў магілу асінавы калок. І пасля гэтага чалавека без галавы не бачылі. І ўсегда так рабілі, забівалі асінавы калок, калі бачылі дамавога.

Мяне жэншчына адна папрасіла, каб ёй я валасы абрэзала. Я абрэзала. І пасля таго сталі па мне дамавыя хадзіць. Адзін раз легла я спаць, а да мяне падышлі да краваці дзве жанчыны роўныя, пахожыя. Сталі і стаяць нада мною. Я ўспомніла, што калі ўбачыш дамавых, трэба ад іх адмахнуцца рукой, нельзя было нічога пры іх гаварыць. І адразу яны зніклі. А потым па начах сталі да мяне прыходзіць, стукалі, грукалі, свісцелі. І так кожную ноч была. Хату прадала, бо баялася адна жыць там. І тыя хазяевы новыя тожа казалі, што і ў іх ноччу свісцяць, грукацяць, крычаць. Яны з’ездзілі ў царкву, пасвяцілі ваду, мак. А потым свяцоным усю хату абсыпалі. І тады толькі ноччу ўжо спаць ніхто не мешаў.

***Запісана ў в. Кашара Рагачоўскага р-на***
***ад Смяян Марыі Рыгораўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Сувіды Брагінскага р-на)***
***студэнткай Смяян С.***

Дамавы – гэта маленькі чалавечык, які дзелае і дабро, і зло. Ёсць такое павер’е: каб дамавы не дзелаў зла, трэба яго задобрыць. Пасля вячэры, прыбраўшы са стала пасуду, пакінуць на стале трохі таго, што было на стале.

Яшчэ лічылі, калі чалавек добры, тады і дамавы будзя добры, а калі чалавек злы, тады і дамавы такі.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Берлінай Таццяны Кузьмінічны, 1927 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Залессе Чачэрскага р-на)***
***студэнткай Шахрай В.***
***(2001 г.)***

Дамавік быў у кожнай хаце. Ён жыў у хляве. Кароў у ім ганяе, устане рана, выганіць з сарая карову, а яна ўпацела-ўпацела. Кажуць – эта дамавік ганяе.

Грыву ў лошадзі расчэша і косы заплецёць. Эта калі яму наравіцца ў хазяіна, тада ён і як бы дабро прыносіць чалавеку ў еты двор.

Нада весці сябе спакойна, не ругацца ў хаце, а свяціць хату.

Канешне, звалі ў новую хату, а як жа без няго. Старыя людзі казалі, што как-та звалі, а как, ня помню ўжо. Кошка ж – гэта сімвал этава дамавога. Кошку сначала брасалі ў хату, прэждзе чым зайсці.

***Запісана ў в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на***
***ад Пятрова Івана Рыгоравіча, 1920 г.н.,***
***студэнткамі Юрчанка Н., Радзькінай Т.***

Кагда строілі новы дом, без божыскага храста не заходзілі ў дом. Ката кідалі, штоб багатства было і жылі харашо. Все эта зналі ад ніці да ніці.

Мы малыя былі. Бацьку з работы ждалі. Затраслася лампачка. Он стал открываць двері. Он, эта, наверна, дамавы. А, матка стала дзержать двер, мне сказала, штоб я рушнік прынясла, завязалі на ручку і сталі дзержать,

Бацька пастучал у акно, пазвал матку, і всё сціхла. Матка гавора, што дамавы зліўся за што-та.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Анісімавай Антаніны Майсееўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на)***
***студэнткай Царковай В.***
***(2001 г.)***

Дамавы эты ва ўсіх быў. Нада чыста, штоб уборачка ў хаце была. Штоб чыста пасуда. Дамавы, еслі не залюбіць, ён расшвыргвае пасуду, ходзіць, топае па хаце.

Ну, узлюбіць, дык і каровы харошыя ў ва дварэ, і ўся худоба. І конь, еслі імее чалавек, дак тожэ для каня очань прыятна, еслі дамавы ўзлюбіць хазяіна. А еслі не ўзлюбіць, усё будзе жэстокае, усё будзе суровае. Карова будзе біцца прама з хазяйкай, конь тожа. Гэта ано і ёсць так, што еслі ўзлюбіць, то ўсё ў ва дварэ дзелае ён харашэ, дажэ і дзецям прыятна. І дзеці растуць харошыя, када дамавой узлюбіць хазяевоў, а не ўзлюбіць, усё наабарот бывае.

Ну і дамавы, дамавы ж ён, яго відзя так, шоб з ім... разгаварваць будзеш, а ты яго бачыць не будзеш. Еслі дажэ ён і абзавецца, дак от дамавы... От яшчэ дамавы еслі не ўзлюбіць, дак можа здзелаць непрыятнасць для дзіцей. От дзевачка была, усе разойдуцца, а дамавы к ёй прыходзіць. Яна пужалася сільна, і вельмі ён яе мучаў і

што хацеў, то над ёй і дзелаў. Пака яе ўжо там манахі не адшапталі ці свяцілі яны, не памятаю, што ўжо і рабілі.

***Запісана ў в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на***
***ад Клімавай Ніны,***
***студэнткамі Юрчанка Н., Радзькінай Т.***

От купляе чалавек карову ці свая расце, і дамавік еты не залюбіць етыя скаціны. І ён яе ганяе па сараю. І выпусціш, яна выйдзе мокрая, мокрая. Таксама і лошадзі самыя, еслі дамавік палюбіць ету лошадзь, ён касічкі пазаплятае і грыву расчосуе, а не залюбіць, тожа ганяе. І чалавек ужэ рашаецца збыць скацінку, таму што дамавік не любіць. О, ета я такое знаю. А што памагае сям'і, такога не знаю.

Ну, еслі ж ужэ не ка двару пашла скаціна, то чалавек прадае... Масць не любіць дамавік, масці можа і не любіць, дак ён проста прадае, так як і нада.

***Запісана ў в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на***
***ад Васільевай Соф'і Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Юрчанка Н., Радзькінай Т.***
***(2002 г.)***

У кожнай хаце есць дамавік. Без дамавіка нічога не робіцца. Вы можа, у горадзе жывеце, і ў вас есць дамавік? Ну, ён жа не бачушны, не відаюшчы. Есць дамавік, які і прыяе для хазяіна ў доме. А есць дамавік, што ён дажа прадказвае, ну калі нехарашо што-небудзь.

Ну, ета ж яму па прыродзе так Бог наказаў.

Да, эта ж нам усё Бог пасылае. І ў мяне ёсць дамавік.

Ён дапамагае. Ну, чувствуеш, што ў мяне ў сябе добра.

Ё і такі. Ён жа такі невідзяшчы, ён жыве, а ты яго не бачыш. У доме дзелае ён такое і для здароўя, для нас. То я, напрымер, я жыву смела ў хаце.

***Запісана ў в. Заліп'е Гомельскага р-на***
***ад Фарпоставай Іны Ісакаўны,***
***студэнткамі Юрчанка Н., Радзькінай Т.***
***(2000 г.)***

Дамавік – чалавечык невялікага росту, з сядой барадой, які жыве ў кожнай хаце на пячы або ў веніку. Дамавік бывае злы і харошы.

Калі ў хаце знікаюць якія-небудзь рэчы, то, кажуць, гэта дамавік узяў, але потым ён можа пакласці гэту рэч на месца.

Калі дамавік добры, яго запрашаюць з сабой у іншую хату, калі гаспадары пераязджаюць. Або, каб засяліцца ў новую хату, трэба было ўлагодзіць дамавіка. Перад тым, як засяліцца ў хату, у яе ў першую чаргу пускалі ката і пеўня. Каб улагодзіць дамавіка, гаспадыня пекла тры булачкі і клала іх на печку. На утра глядзелі, ці з'ета хоць адна булачка або кусочак з'едзены. Калі не, то гаспадыня пякла яшчэ раз тры булачкі і зноў клала іх на печку. Лічылася, што дамавіку не спадабаліся булачкі, то ён іх не кранаў. Назаўтра, калі ўсё паўтаралася тое, што было, гаспадыня павінна трэці раз спекці булачкі. Лічылася, што ў трэці раз абавязкова дамавік паесць булачкі. Толькі пасля гэтага можна ўсяляцца ў хату, бо дамавік абавязкова пасля стараннняў хазяйкі новай хаты будзе старанна ёй служыць.

***Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на***
***ад Тукуновай Наталлі Прохараўны, 1957 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Тукуновай Н.***
***(2003 г.)***

Дамавік у кожнай хаце ё. Ты яго не ўбачыш, а ва сне ён можа сасніцца. Ён сніцца, у яком хочаш образе, болей кашлаты, образ чалавека і падобіе абез'яны.

Еслі яго ўсердзіш, ён можа дзелоў наварочаць, можа ўдарыць. Еслі яго не сердзіш, не абіжаеш, то ў хаце спакойна і цябе ён не трогае. Можа хадзіць па хаце і стукаць. Калі воздухам адкрываюцца дзверы – гэта он.

Баіцца ладуну, калі хату свецяць. Нада хату свяціць, каб ён жыў на чардаке.

Мяне аднойчы трогаў – у пасцель лёг, адкрываў адзіяла і лажыўся са мной радам. Я вочы вылупіла і цягну руку, каб перакрысціцца, а рука цяжолая. Всегда надо перакрысціцца, і ён ісчэзнет. Бывает з трудом можна перекрысціцца, но надо к этому стреміцца, тады ён хатай – стук – і пайшоў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Панкраценка Ніны Восіпаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Сарасека А.***
***(2003 г.)***

Ета мне сістра расказвала. Палучыла мая плімянніца ў горадзі кварціру. Харошая, усё там было. Да тока ні магла іе сям'я там спакойна жыць. Па начах грохат і стук сільны быў, ад ікога прасыналіся. Дзе-та год нікаму ні казалі. У Вікові сістра мая жыве, Валіна маці. Паехала Валя з сім'ёй у грыбы ў дзірэўню, ну і да Моці заехалі. Пажалілісь, і ена ім падказала, што нада рабіць. Так вот, нада паабсыпаць усе закуткі макам, ікі на Макавея ў царкве пасвіцілі. Тока здзелаць ета нада, када ўсе сваі дома. А перад снеданнем прачытаць «Отча наш». Так як чісы ідуць, у тую старану, ад двірэй абысці ўсе хаты ў кварціры і пасыпаць макам. Так Валя і здзелала, як казала Моця. І ўжо ні жаліцца.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Адамавай Кацярыны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Жыў у нас хатнік, мо і шчас ё, но ні чую паследняе врэмя. З падпечча ноччу вылізе і бегае па хаці. Зразу, думала, мышы – паскуды, аж не. Цераз іго, хатніка етава, чісцяком начамі ні магла заснуць. Раз устала, уключыла свет, нічаво нету. Маня, сістра, і гавора, што іму што-та ні нравіцца, паетаму і ні дае спаць. Дак я на Дзяды канхвет, пічэння купіла, стол сабрала багаты. Як і нада, увечары наліла стопачку віна, салца, хлеба палажыла, ну і пічэння з канхветамі. Шчэ ж малака паставіла. Ну, етава і даўся ён мяне за ету ноч: ужэ так бегаў і чмухаў што-та, да так громка, міне аж страх узяў. Рана гліжу: усіго папробуваў, токі пічэння ні ўзяў. І малачка выпіў, і канхветку адкусіў, сала трохі. І пасля етава ні бегае ужэ, я харашо сплю.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Данілавай Галіны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

У міне ўнучка ў горадзі жыве, дык у яе кватэры нейкія дзівы творуцца. То тоя, то сёя прападзе і канцы ў ваду, ды і ніхто ж чужы не ходзя. Унучкіны часы былі прапалі, і ніхто ж з сямейных ні браў, а яны як у ваду канулі. Шукалі мо з нідзелю. А міне зяць к ім прывёз. Унучка мне расказала, што і гардзіны на вокнах шатаюцца часта, як хто на іх калышацца. А праўнучка гавора: "”Баб, а баб, ета ж у нас дамавічок нейкі смешны завёўся”. Плюнула я разы са тры ды й

перахрысцілася. Наказала дзецям, каб хрысціліся кожны дзень і малітвы чыталі, ды й раз ён злога не дзелая, а толькі шуця, дык і з ім гаварыця з ласкай, ды прасіця, чаго хочаце. Папрасілі ж яны часоў, адкуль узяліся, як з неба зваліліся, ляжаць колам, дзе й клалі. А йшчэ ні з таго, ні з сяго самі па сабе часы пашлі з кукушкай. Ета я ім іх аддала даўно йшчэ. Дык яны ў іх шэсць гадочкаў правіселі і ні йшлі. А тут на табе. Прарвала. А я, яй Богу веру, што яны ё, етыя дамавыя.

Даўней хатнікам называлі. Я то ні бачыла і ні чула іго, а вот мама мая знала іго і міне на ўсякі случай навучыла, як выганяць з хаты, када спаць ні будзя даваць. Хатнік сільна прысмакі любіць, паетаму нада ўгасціць іго ўкусненькім і сказаць: “Хатнічак-дзідок, вот цібе ўгашчэнія ад нас, кушай, пажалуста, угашчайся”. Паставіць угашчэнія на ноч на самая высокая места ў хаці. Рана выкінуць угашчэнія ў вакно ці хвортачку з тога боку хаты, ідзе мала людзей ходзіць. І большэ іго ні будзя ў хаці.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Восіпавай Марыі Пятроўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Быў дамавы ў выглядзе нізенькага дзядка ў белым, сагнуты і сівенькі. Аднойчы праснулася я ад стука, як бы бутылачкай аб трубу. Уключыла свет, паглядзела – нічога няма, лягла, зноў стукае. Ну, стукай, што ж мне зрабіць. Другую ноч тожа стукае, я ўжо і сама спужалася. Пайшла к саседкі, расказала. Тая паначавала ў мяне ноч, нічога не чутна, цішыня. На следуюшчую ноч звоня званочык, як з веласіпеду, у хаце. Паглядзела, зноў няма нічога, а званіць – звоня. Яшчэ адну ноч ляжу, а кругом падушкі мышка пабегла. Я спужалася, а яна зноў бегае. Я кажу: “Слухай, я цябе не трогаю, не чапай і ты мяне. Давай мы з табой мірна ў маёй хаце ўдваіх будзем жыць”. З тых пор цішыня.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Батура Ганны Раманаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Цімахоўцавай А., Ткачовай А.***
***(2003 г.)***

У старых хатах жыве мноства розных духаў. Некія – гэта душы памерлых гаспадароў, іншыя – проста прыблудныя, яны абычна безабідныя. У овіне жыве авіннік, на гумне – агуменнік, у сараі – сарайнік, у бані – баннік, у куратніку – курый бог, у клеці – клетнік, у закуце – заклятнік, за печчу – кікімара запечная, з ядой пораз –

жыравік-лізун, а ў хаце – сам гаспадар усіх дамавічкоў – дамавік. Дамавік – добры дух, ён дапамагае сям'і. Раз-пораз шаліць, урэднічае, калі нешта яму не падабаецца. Заплятае палюбімым коням грывы, а нелюбімых нізводзіць. Усе дамавічкі ўслугоўваюць яму, і калі не паладзіць з дамавіком – не будзе жыцця. Па ночы будуць калабродзіць шымкуны, чорныя кошкі будуць лезць пад ногі, жыравік сажрэ ўсю ежу ў хаце. Асабліва бяда, калі ў хаце завідуцца навіі – духі злых мерцвякоў, а то і ўпырышчы, прыпалзаючыя з кладзьбішча. Але ворагі кідаюць хату, дзе жывуць "дзяды" – добрыя духі прэдкоў, якія пакрываюць патомкаў. Таму дамавіку кідаюць у вуглу, на загнётцы, у куратніку вешаюць урошны камень з дзіркай і прыгаворваюць: "Гаспадарок, мандрок, вазьмі нашую кашку і ясі пірагі, нашу хатку зберажы".

***Запісана ў в. Вецвіца Чачэрскага р-на***
***ад Новікавай Варвары Герасімаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Бельскай К.***
***(2003 г.)***

Дамавы – гэта невялікі барадаты дзядок, які жыве ў хаце разам з чалавекам. Але ён есць не ў кожным доме, а жыве толькі там, дзе яму падабаецца. Кажуць, што дамавы падобны на свайго гаспадара. Калі дамавому падабаецца жыць у хаце, то ён памагае гаспадару, смотрыць за коньмі, каровамі, але не любіць свіней. Але ж калі гаспадар не дагодзіць дамавому, то ён зліцца, і можа коней заездзіць да смерці, і ў гаспадарцы нічога не клеіцца. Гэта ўсё дзела рук дамавіка. Тады яго трэба задобрыць, даць яму розных пачастункаў, асабліва ён любіць малако. Пасля гэтага ён дабрэе і зноў усё ідзе на лад.

Калі сям'я надумала пераехаць у новы дом, то абязацельна далжны прыгласіць і дамавога, гэта значыць, перш чым самім засяліцца, гаспадар должэн быў прынесці у новую хату сподачак з малаком, каб першым у хату засяліўся дамавы і аблюбаваў яе.

Шчэ я чула, што нельзя, штоб у доме былі два венікі, бо дамавыя будуць біцца імі і пры гэтым могуць біць пасуду, ламаць рэчы. Тожэ можа ён ноччу душыць гаспадара, але гэта бывае рэдка. У асноўным жа яны дапамагаюць. Паэтаму кожны хоча, каб у яго доме жыў дамавы.

***Запісана ў Чачэрскім р-не***
***ад Ярэня Станіславы Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Клічка А., Руковіч В., Чараднічэнка В.***
***(2003 г.)***

Жыве дамавік у хаце, у разных мясцінах, в угле, под печкою, бывае, пад краваццю, любіць, каб у хаце было прыбрана. Трэба было паважаць яго. Калі клаліся спаць, то трэба было абавязкова пажадаць добрай ночы. Вельмі рэўнасны, калі яму не надаюць должного вніманія. Тады можа разбіць талеркі, нашкодзіць гаспадару ў хаце, дабрабыце. Трэба было дружыць з ім, бо лічыўся ахоўнікам хаты ад нечыстот.

Аднойчы прыснілся мне сон, ці што – не ведаю. Прыходзіць чалавек, ці гэта дамавік, не знаю. Сказаў мне: “Добры вечар”. А я ляжу і ў паталок гляджу, не маго чаго і сказаць. Запомніла, што пугаўкі ў яго на руках былі ў два рады. Падышоў к краваці, стаў. Пастаяў нямнога і сказаў: “Пакуль што няма”. Зачыніў вакно, дзверы. Ідзець, а бацінкі, як на падковах. Звярнуўся і пайшоў. Усе яго бачылі.

Быў такі случай, калі муж аднойчы праснуўся ноччу, а жонцы няма нідзе, паляжаў, глядзеў, думаў, а яе ўсё няма. Потым слыша нешта ў комін уляцела, а гэта яна была, выпрыгнула і абернулася ў чалавечы выгляд.

Было яшчэ такое, што памерлыя маці або бацька прыходзілі некалькі раз да сваіх жывых дзяцей і звалі іх з сабой пайсці. Некалькі раз прыйдуць і забіраюць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Уласавай Людмілы Фёдараўны, 1932 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Калініна (раней Сямёнаўка) Буда-Кашалёўскага р-на)***
***студэнткай Хадаровіч К.***
***(2003 г.)***

Жыў, канешне, нехта ў хаце, істота нейкая. Але яго ніхто нікагда не бачыў, з ім не размаўлялі. Думалі, што жыве ў куце, а можа і пад печкай. Каб шкодзіў – не, плахога не было. Людзі казалі, што можна пачуць, як ён ходзіць ноччу. Праўда ці не – не ведаю. Толькі вось аднойчы, уначы, калі ўжо ўсе спалі, пачула я, як дзверы адчыніліся, і крокі пачула. Хацела ўстаць, паглядзець і не змагла. Не тое, каб спужалася, але ні нагой, ні рукой павярнуць не магла. І вось падыходзіць нехта, мужчына. Валасы ў яго былі ўскудлачаныя, у штанах, рубашцы, маленькі, з доўгімі рукамі. Падышоў да маёй краваці і кажа: “Добры вечар”. Я пахаладзела. Адказаць нічога не

магу. Паглядзеў ён на мяне, я ўжо не памятаю як, можа перахрысцілася, але ён медленна павярнуўся і пайшоў да дзвярэй, выйшаў. Я потым устала, паглядзела, дзверы зачыненые былі, будта свой нехта зачыніў. Чалавек гэты, здаецца, несапраўдны быў, але чутна было, як ідзе – будта на туфлі бляшкі набітыя – стучаць, калі ідзе. Шкоды ніякай не зрабіў, усё добра раніцай было.

А яшчэ раз случай быў. У нас у хаце – кут з іконай, а каля яго – вакно. Вось гляджу, гадзюка ў вакно паўзе. Залезла напалову, астанавілася, галавой памахала, павадзіла і назад упоўзла.

Мы ўсё рабілі самі, ніхто нам не дапамагаў.

***Запісана***
***ад Марашкоўскай Клаўдзіі Іванаўны, 1926 г.н.***
***(перасяленка з в. Малянік Кармянскага р-на)***
***студэнткай Андрэевай А.***
***(2003 г.)***

Ета такі маленькі чалавек, як гном, у яго дужа вялікая сівая барада і такія ж валасы. Жыве ён у хаце, найчасцей пад печчу ці ў іншым месцы, якое яму найбольш спадабалася. Дамавік рэдка каму паказваецца, бо не хоча, каб яго хто бачыў.

Дамавік сам па сабе добры, але можа рабіць і шкоду ў хаце. А робіць ён шкоду тады, калі гаспадары ў доме яго не паважаюць.

***Запісана ў п. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Дамавік – гэта такі чалавечак, што жыве ў кожнай хаце. Паказваецца ён толькі па начах і толькі тым, каго любіць і паважае. У іншых жа выпадках убачыць яго цяжка.

Дамавік заўжды жыве ў хаце ў тым вуглу, дзе стаіць венік. Венік у хаце нужан толькі адзін, аб етым кожная добрая гаспадыня ведае. Калі ж у хаце будзе два венікі, то паявіцца шчэ адзін хатнік. Але ета да дабра не давядзе. Паміж двума дамавікамі такая бойка пойдзе, што гаспадары за голавы схопяцца.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Дамавік – гэта невялікі дзядок, які ходзіць у белай кашулі. Яго мы павінны любіць і паважаць. Гэта рабілі і нашы дзяды, і бабулі. Так, яны ў святочныя дні клікалі дамавіка да стала, частавалі. А таксама дзе-небудзь ставілі чарку з гарэлкай. З часам яна знікала. Лічылі, што ёй пачаставаўся дамавік.

А мая бабуля казала, што на нейкае вялікае свята бачыла хатніка. Яна казала, што ён толькі ўсміхнуўся ёй, а потым схаваўся. Болей бабуля яго ніколі не бачыла, але ўспамінала аб гэтым выпадку ўсё сваё жыццё.

***Запісана ў в. Бярозкі Гомельскага р-на***
***ад Макеевай Алены Мікалаеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

У нашай сям'і заўсёды ўсе ведалі, што дамавік – гэта дух хаты. Гэты дух з'яўляецца тады, калі пабудавана новая хата.

Дамавікі хутка прыжываюцца на новым месцы. Трэба ведаць, што калі дамавіка не задобрываць, то ён можа выжыць гаспадароў з хаты. Мы заўсёды яго задобрывалі.

Калі наступае зіма, трэба пакласці кажух на якое-небудзь нябачнае месца ў хаце, каб дамавік не змерз, бо ён голы. Пасля гэтага, калі падарунак хатніку спадабаўся, ён можа паказацца гаспадарам.

***Запісана ў в. Дуброва Жыткавіцкага р-на***
***ад Купрацэвіч Ганны Міхайлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Дамавік доўжан быць у кожнай хаце. Трэба запрашаць яго, калі пераязджаюць у другі будынак, а для гэтага пускаюць ката, а калі ката не пусцяць, то, кажуць, дамавіка ў гэтай хаце не будзе.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кавалёвай Вольгі Сцяпанаўны, 1913 г.н.***
***(перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

Дамавік жыве ў шкафу. Часта там барабаніць, усё воськаецца. Бывае, што прападаюць нейкія прадметы, потым вяртаюцца на месца. Каб дамавік вярнуў украдзенае, трэба сказаць: "Чорт, чорт, паіграй і мне аддай".

Дамавік баіцца хрэсціка, святой вады. Ён не можа пераносіць солі, перца на стале, пагэтаму на ноч трэба ўсё гэта ўбіраць.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Сідаракінай Зоі Мікалаеўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Вераб'ёўка Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

Я жыла ў Гомелі ў інтэрнаце. У пакоі нас жыло 4 чалавекі. І вось амаль кожную ноч я пачала назіраць, што дзяўчына, якая спала на койцы каля вакна, прачыналася сярод ночы і сядзела з іспуганым тварам, потым праз некаторы час яна выйшла замуж, а я перабралася на тую койку. Вось прыйшла я з работы, лягла спаць. Ноччу чую, што мяне як бы хтосьці давіць, скідае адзіяла і душыць усё цела. Я моцна крычу, але мяне ніхто не чуе. Гэта ўсё працягвалася кожную ноч. Ускорасці я выйшла замуж. І трэба сказаць, што ўсе дзяўчаты, якія спалі на гэтай койцы, выйшлі замуж. Напэўна, гэта было места дамавога, і ён выправоджваў усіх замуж, каб вызвалілі яго месца.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Сідаракінай Вольгі Мікалаеўны, 1970 г.н.***
***(перасяленка з в. Вераб'ёўка Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

У хаце павінен быць адзін дамавік. Пад кожным венікам заводзіцца дамавы, і калі ў хаце многа венікаў, то і дамавых многа, якія вядуць паміж сабой бойню, дастаўляюць гаспадарам шмат непрыемнасцей, пагэтаму лепш мець у хаце адзін венік.

Яны, як людзі. Дамавік не любіць, калі мебель перастаўляюць. Калі я пераставіла – ноч чула грукат. "Ха-ха!"– смяецца, ноччу душа, наваліваецца на міне, калі адна. Была ў полудрэме, яго адпіхнула, ён зноў лезе. Дамавы абарзеў: я з мужыком сплю, ён начаў шчыкатаць пад левую мышку. Я, цап, за руку. Рука гладкая. І гавару яму: "Астаў міне, я паміраю". Усё прайшло.

***Запісана ў в. Наспа Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Астапавай Ніны Барысаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А.***

А дамавік – ета той, хто жыве ў хаце, калісь памёр нехта ў той жа хаце, дзе ён жыве. Таму і ў кожным доме новым хтосьці памрэ абавяз-

кова, бо дом без дамавіка не можа. Вот і старыя нанава не будуюцца, бо як пастроіш дом новы, то і памрэ хутка, а сам дамавіком станеш.

Дамавік у хаце за печкай жыве ці ў падполлі, а паказваецца рэдка, а ўсё ж пабачыць яго можна. Вот мне маці гаварыла, як яго бачылі, што ён такі, як дзядок стары, толькі маленькі, але ж з барадой доўгай, вусамі і сівы сам увесь. Адзеты ў кажух, лапцейкі нейкія. А ета добра, калі ён у хаце жыве, бо сам гаспадарам памагае. Вось і яго не трэба забываць: малачка астаў яму, кашы, паесці каб мог, чарку паднясі. А не любіць ён, каб кошка ў хаце бегла, не хоча! І вот як у хаце яму да ладу, то ўсё добра ён зробіць. А як ужо што не панравіцца, то ўжо ж жыцця ўсім не будзе. Вот ужо дамавік як пачне ўсё порціць, біць, а то і душыць гаспадароў у сне пачынае, пазбавіцца ад яго трудна вельмі.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пузан Алы Піліпаўны, 1928 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

А ў хаце жыве дух такі, дамавік яго называюць. Пасяліўся раз да Апанаса і шкодзіў яму. Шкодзіў так: прыгаў па ложку, мэблю двігаў, тарэлкі біў, гукі выдаваў, дзверы адчыняў, на шыю навальваўся. А каб пазбавіцца ад яго, нада ноччу пайсці на скрыжаванні дарог у поўнач, набраць там зямлі, прачытаць над ёй запаветныя словы, прынесці ў хату і пасыпаць у кожным вуглу.

А бывае дух еты і добры. Тады і ў доме ўсё добра, і скаціне добра вядзецца, і парадак ёсць.

***Запісана ў в. Галоўкі Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Валянціны Іванаўны,***
***студэнтам Сераком А.***

# Кікімара

Кікімара – міфалагічная істота, паходжанне якой звязана з душамі дзяўчынак або праклятых бацькамі, або памёршых да хрышчэння, або якіх забілі маці. “Кікімары збіраюцца пераважна ў дамах, дзе адбылося забойства дзяцей, праклящце і дзе паблізу быў схаваны трупік” [1, с. 245]. Звернемся непасрэдна да характарыстыкі гэтай істоты інфарматарамі: “Кікімары – ета дзеўкі, якія былі праклятыя маткаю яшчэ ў чрэве ілі якія памерлі да хрышчэння” (в. Бывалькі Лоеўскага р-на), “ета маленькая жанчына, якая памерла, калі была маленькай дзяўчынкай” (в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на), “кікімара – гэта дзяўчынка, якая памерла маленькай дзевачкай” (в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на), “кікімара – гэта дзіця, якое не нарадзілася... Найчасцей яны прыходзяць у хаты тых, у каго былі ўбітыя дзеці” (в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на), “кікімары – гэта памерлыя нехрышчоныя дзеці ці дзеці, якіх праклялі шчэ нават да раждзенія” (Чачэрскі р-н), “кікімары – гэта дзеўкі, якія шчэ не паявіліс на свет, а ўжо былі пракляты сваімі бацькамі” (в. Бабоўка Жлобінскага р-на), “кикиморами становятся умершие некрещеными или дети, которых прокляли родные” (г. Гомель). Павер’і пра кікімару распаўсюджанны ў большай ступені ў міфалогіі рускіх і ўкраінцаў. Што датычыць беларусаў, то зафіксаваны нешматлікія звесткі пра гэты міфалагічны персанаж. На думку А. Леўкіеўскай, “многія рысы гэтага міфалагічнага вобраза ўказваюць на тое, што ён склаўся ў глыбокай старажытнасці, і хутчэй за ўсё, пад уплывам ушанавання Мокашы” [2, с. 259].

Жыхары в. Палессе на Чачэршчыне перакананы, што “кікімарамі становяцца дзяўчынкі, якія былі нехрышчонымі або былі пракляты бацькамі”. Л.Ф. Болсун з в. Палессе перакананa ў рэальнасці існавання гэтай істоты: “Адзін раз я бачыла кікімару. Зусім нечакана гэта было ўсё. Палажыла дзіця спаць, а потым рашыла паглядзець, як яно там. Аж бачу, каля майго дзіцяці стаіць нешта невялічкае, яна на мяне паглядзела вялікімі вачыма і знікла”.

Як адзначыла Лідзія Яфімаўна Плавіна з в. Стрэшын Жлобінскага р-на, кікімары – гэта “дзяўчыны, якія былі згублены да хрэшчэння, дочкі – яшчэ ў чэраве”. Пра гэтых істот у гэтай мясцовай традыцыі вядома, што “яны дрэннага нічога не робяць, толькі гуляюць. Але хазяйцы могуць спутаць пражу, хаця пытаюцца дапамагчы, але выходзіць усё наадварот”.

У некаторых мясцовых традыцыях гэты персанаж ідэнтыфікуецца з русалкамі, хоць непасрэдна і не называецца, аднак звесткі пра яго паходжанне даюць падставы для падобных разважанняў (“кікімары – гэта нехрышчоныя ці дзеці, якіх праклялі бацькі” – запісана ад Дзянісавай Веры Максімаўны, 1930 г.н., в. Дзербічы Буда-Кашалёўскага р-на;, “кікімара – маленькая дзевачка, што памерла нехрышчонай” – запісана ад Каленчыкавай Сафіі Аўрамаўны, 1934 г.н., в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на). Заўважым, што гэтыя народныя ўяўленні найбольш пашыраны на тэрыторыі Гомельшчыны.

Кікімара – міфалагічны персанаж, уяўленні пра які звязаны найперш з антрапаморфным воблікам: “кікімара – ето дзеўка, ена некрасівая” (запісана ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н., в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на), “злой дух у выглядзе карліка або маленькай жанчыны” (запісана ад Маханавай Паліны Пятроўны, 1908 г.н., г. Гомель), “очэнь некрасівы чалавек” (запісана ад Пацёмкінай Галіны Нікіфараўны, 1936 г.н., в. Сярэднія Малынічы Чачэрскага р-на), “кікімары – гэта дзевачкі, якія яшчэ не паявіліся на свет, а ўжо былі пракляты сваімі бацькамі” (запісана ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н., г. Жлобін), “кікімары – гэта касматыя бабы” (запісана ад Храпуцкай Марыі Данілаўны, 1929 г.н., г. Добруш) і інш. Сустракаюцца і тэксты міфалагічных аповедаў, у якіх у апісанні знешняга выгляду кікімары ёсць зааморфныя рысы, напрыклад, наяўнасць хваста (“у кікімары доўгі хвост, странныя валасы” – запісана ад Мільта Валянціны Мікалаеўны, 1950 г.н., г. Борань Аршанскага р-на Віцебскай вобл.). Амбівалентнасць міфалагічных уяўленняў выяўляецца ў характарыстыцы гэтага персанажа то як “маленькай жанчыны”, то як вялікага росту, плячыстых, тоўстых, “касматых баб”. Калі жыхары в. Неглюбка Веткаўскага р-на ўпэўнены, што кікімара – гэта сяброўка лесуна (“кікімара жыве ў лясу, ета падруга лешага, запаведуе лесам, звярамі, пціцамі” – запісана ад Герасіменка Ганны Іванаўны, 1934 г.н.), то паводле іншых уяўленняў, кікімара – жонка дамавіка (запісана ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н., в. Залессе Чачэрскага р-на, ад Каленчыкавай Сафіі Аўрамаўны, 1934 г.н., в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на), а таксама “дружыць з балотнікам” (запісана ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н., в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на) або “балотная ведзьма” (запісана ад Мільта Валянціны Мікалаеўны, 1950 г.н., г. Борань Аршанскага р-на Віцебскай вобл.).

Знешні выгляд кікімары ў рускай міфалагічнай традыцыі мае некалькі відаў партрэтных апісанняў. Па-першае, уяўлялі яе ў выглядзе "маленькай, пачварнай, скручанай бабулькі, смешнай, выродлівай, неахайнай, апранутай у рвань, лахманы" [2, с. 260], па-другое, захаваліся нешматлікія матэрыялы, паводле якіх, гэта "дзяўчына з доўгай касой, голая або апранутая ў белую, чорную або чырвоную сарочку..." [2, с. 260], па-трэцяе, вельмі рэдкія сведчанні аб тым, што кікімара магла набываць мужчынскую іпастась.

Амаль ва ўсіх запісаных тэкстах міфалагічных аповедаў кікімару называюць "злым духам", а таксама ўяўляюць у выглядзе непрыгожай жанчыны, знешні выгляд якой вар'іруецца ў розных лакальных традыцыях: "кікімара – злы дух у выглядзе карліка або маленькай жанчыны, галава ў яе з напёрстак і цела маленькае, як тая саломінка" (запісана ад Маханавай Паўліны Пятроўны, 1908 г.н., г. Гомель (перасяленка з в. Струмень Кармянскага р-на)),"чула толькі, што эта очэнь некрасівы чалавек. Ён такі, як і ўсе людзі, толькі ліцо очэнь страшнае" (запісана ад Пацёмкінай Галіны Нікіфараўны, 1936 г.н., в. Сярэднія Малынічы Чачэрскага р-на), "кікімара мае від маленькай жанчыны з доўгімі чорнымі валасамі і белым тварам. Рукі ў яе вялікія, а ногі кароткія, перакідваецца з адной нагі на другую" (запісана ад Буханкінай Марыі Адамаўны, 1912 г.н., г. Добруш).

Беларусы ўяўлялі кікімару ў выглядзе "маленькай жанчыны" (вв. Кашалёў, Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на, в. Палянаўка Веткаўскага р-на), "страшэннай жанчыны, вельмі лахматай, з вялікімі рукамі, ногі ў яе кароткія, не як чалавек ходзіць, а перакідваецца з адной нагі на другую" (в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобл.), "маленькай дзяўчынкі" (в. Мормаль Жлобінскага р-на), у выглядзе лесавіка жаночага роду ("кікімара – той жа лесавік, толькі жэншчына" – г. Гомель), дзіцяці (в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на).

Факт месцазнаходжання кікімары ў балоце пацвярджаецца запісамі, зробленымі ў г.п. Акцябрскі ("Ёсць яшчэ і кікімара, якая жыве ў балоце"), у в. Фамінка Чачэрскага р-на ("Жывуць кікімары ў асноўным на балоце"), "яна жыве ў балоце, дзе шмат чароту" (в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобл.). Паводле ўспамінаў Валянціны Дзмітрыеўны Шчарбаковай, 1944 г.н. з в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на, "кікімары жывуць на балотах".

Месцам жыхарства кікімары ў беларускіх міфалагічных аповедах з'яўляецца хата (печ, падпечак), а таксама балота. На карысць першага сведчаць наступныя прыклады: "Абычна кікімары ў хаці жывуць на вярху на печы і ў падпечку" (в. Бывалькі Лоеўскага р-на), "кажуць, што кікімары тожа ў хаце жывуць" (в. Мормаль Жлобінскага р-на), "кікімары – ета злы дух хаты, які жыве на печы" (в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на), "кікімара – злая асобіна, якая жыве ў хаце, яе месца на печы ці ў подпечку" (в. Ведрыч Рэчыцкага р-на), "кікімары жывуць у доме на печы" (г. Добруш).

Паводле асобных мясцовых уяўленняў кікімара з'яўлялася ў той хаце, дзе "памерла маленькая дзяўчынка" (запісана ад Лапаценка Зінаіды Паўлаўны, 1938 г.н., в. Леніна Добрушскага р-на), прычым у некаторых мясцовых традыцыях удакладняецца, што менавіта дзяўчынка, якую праклялі бацькі, становіцца кікімарай (запісана ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н., в. Залессе Чачэрскага р-на). Заўважым, што ў пераважнай большасці запісаных тэкстаў менавіта забойства дзіцяці з'яўляецца ўмовай з'яўлення ў хаце кікімары: "яны з'яўляюцца ў сем'ях, дзе адбылося дзетазабойства ці іншы цяжкі грэх" (запісана ад Фраловай Г.І., 1916 г.н., г. Рэчыца), "пасяляюцца кікімары ў тым доме, дзе маці забіла сваё дзіця" (запісана ад Куцэвіч Ніны Сцяпанаўны, 1924 г.н., г. Добруш).

Амаль ва ўсіх мясцовасцях Гомельшчыны, паводле народных вераванняў, кікімары пасяляюцца ў тых хатах, дзе "адбылося забойства дзяцей" (в. Вадовічы Калінкавіцкага р-на), "дзе было какое праклящце" (в. Пірэвічы Жлобінскага р-на), "сабіраюцца ў тыя дамы, дзе загублены дзеці" (г. Гомель) і інш.

Функцыянальнасць гэтага персанажа звязваюць у народзе найперш са шкоднымі дзеяннямі, як не канкрэтызуючы з якімі менавіта ("робяць кікімары людзям разную шкоду" – запісана ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н., в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на), так і падрабязна называючы іх, напрыклад, "кікімара можа дрэнь зрабіць жывёле, кідае і б'е посуд, спаць мяшае, грахаціць уночы" (запісана ад Маханавай Паўліны Пятроўны, 1908 г.н., г. Гомель (перасяленка з в. Струмень Кармянскага р-на), "кікімары па начах стукаюць па сценам, пужаюць дзетак, хаваюць і раскідваюць рэчы" (запісана ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н., г. Жлобін), "кікімара, бывала, што дажа людзей тапіла ў балоце" (запісана ад Каленчыкавай Сафіі Аўрамаўны, 1934 г.н., в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на), "насмяхаецца над людзьмі, магла закружываць у балота"

(запісана ад Мільта Валянціны Мікалаеўны, 1950 г.н., г. Борань Аршанскага р-на Віцебскай вобл.), “кікімара на печы стукае ў сцены, палохае малых дзетак, раскідвае па хаце вялікія прадметы” (запісана ад Буханкінай Марыі Адамаўны, 1912 г.н., г. Добруш), “Кікімара па начах стукае ў сцены, можа раскідаць розныя рэчы або паламаць мэблю” (запісана ад Прахарэнік Любові Уласаўны, 1926 г.н., в. Дзяражычы Лоеўскага р-на), “еслі прыходзіць чалавек у лес, то кікімара можа яго заблудзіць у лясу, … навядзе на чалавека цьму, і ён можа хадзіць па лесе очэнь доўга” (запісана ад Герасіменка Ганны Іванаўны, 1934 г.н., в. Неглюбка Веткаўскага р-на). У некаторых міфалагічных аповедах утрымліваюцца звесткі, паводле якіх кікімара мела добрыя намеры, асабліва у дачыненні да дзіцяці: “Калі кікімара бачыць малое дзіцятка, то яна робіць усё, каб яму было добра, а таксама дапамагае маці” (запісана ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н., в. Залессе Чачэрскага р-на).

Дамінуючым у паводзінах і функцыянальнасці кікімары быў злосны пачатак. Паводле запісаў, кікімару параўноўвалі з нячыстай сілай, якая “прыносіла ўрэд людзям, у хаці магла нашкодзіць, пабіць талерку або другі посуд, пужала, у хляве ці куратніку наводзіла хваробу на курэй” (в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на); “ноччу кікімара можа будзіць дзяцей, раскідваць па хаце розныя рэчы, палохаць людзей, стукаць ці грукаць у хаце” (в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на); “хихиканье в темном углу, бьющаяся посуда, плач и страхи детей, ссоры в доме – все это дело рук кикиморы” (г. Гомель); “у ноч перад Калядамі паліць кудзелю” (в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на); “кікімары па начах стукаюць па сценах, непакояць малых дзяцей, па хаце раскідваюць рэчы, ламаюць мебель, хочуць выжыць чалавека” (г. Добруш); “зацягвае кікімара чалавека ў балота” (в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобл.); “завлекаюць у чашчу і там астаўляюць” (в. Стараселле Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.); “яна стукае, грыміць, разбівае пасуду, ніткі путае” (в. Салтанова Рэчыцкага р-на); “пугалі грыбнікоў” (г. Гомель).

Бясшкоднасць кікімары, запраграмаваная на генетычным узроўні, іншы раз замяняецца на яе не зусім нязначныя дзеянні: “Кікімары забываюцца пра мэты знаходжання ў доме, загульваюцца і перашкаджаюць жыхарам” (в. Вадовічы Калінкавіцкага р-на), “Тут (у доме) кікімары мешаюць хазяевам, порцяць іх работу” (в. Пірэвічы Жлобінскага р-на), “Яны (кікімары) дрэннага нічога не робяць, толькі гуляюць. Але хазяйцы могуць спутаць пражу, хаця

пытаюцца дапамагчы, але выходзіць усё наадварот” (г. Гомель).; “Порцяць жаночую работу: ніткі запутаюць, смецце раскідаюць па хаце” (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на); “кікімары малым спаць не даюць, жывёлу змучваюць, у чалавека спакой аднімаюць”) в. Глыбаўка Веткаўскага р-на).

У в. Барсукі Кармянскага р-на кікімару называлі чушкай, лічылі яе прычынай пажару: “У маёй саседкі ета ў хаце была... У іх маленькая дзяўчынка была. Хазяйка пайшла даглядацца, а дзяўчынка засталася каля грубкі гуляць. Яна вучалькі, відаць, выграбала – усё загарэлася на ёй, кухня згарэла. Маці прыбегла, дзверы адчыніла – яе агнём. Яна папасці туда не магла. Дачка і згарэла. І вось гаварылі: эта там чушка бегала”. Сустракаюцца і сведчанні інфарматараў аб тым, што кікімара не толькі шкодзіла, але магла і дапамагаць, асабліва, калі яна не адчувала пагрозы з боку чалавека ў адносінах да сябе: “Яшчэ кажуць, што кікімара можа папярэдзіць чалавека аб блізкай бядзе...” (в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на), “кікімара, калі бачыць маленькае дзіцятка, то яна таксама пачынае плакаць, бо хоча быць ім. Тады яна ахраняе гэта дзіця, каб усё ў гэтага дзіця было добра, каб не плакала ноччу, не балела” (в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на).

З мэтай засцярогі ад кікімары, меркавалі, варта абавязкова наведаць царкву, “взять там пасвяцонай воды и окропить ею все углы в доме и порог” (г. Гомель), прычым абавязкова прамовіць замоўныя радкі: “Ізоди ты, кикимора домовая, из моего дома скорее, а не то задерут тебя прутьями, сожгут красным полымем, зальют смолою черною. Аминь” (г. Гомель). Іншы раз, каб больш надзейна засцерагчыся ад кікімары, пасыпалі соллю дарожку, “чтобы кикиморы потеряли свой след” (г. Гомель).

## Літаратура

1. Беларуская міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.

2. Левкиевская, Е. Мифы русского народа / Е. Левкиевская. – М.: Астрель; АСТ, 2005. – 526 с.

## *Кікімара*



Кікімара – таксама нячыстая сіла. Яна прыносіла ўрэд людзям. У хаці магла нашкодзіць, пабіць талерку або другі посуд, пужала. У хляве ці ў куратніку наводзіла хваробу на курэй, тады ведалі, што нада вешаць камень, які меў у сярэдзіне дзірку. Людзі лічылі, што ён абярагаў. Так жа насыпалі мак.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н., Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н., студэнткай Мельнічэнка Н.***



Кікімара – эта вредная і злая істота, якая зло насміхаецца над чалавекам. У доме яна дзелает бардак. Чалавек вродзе бы нечаянна разбівае пасуду, што-та пралівае.

***Запісана ў в. Тарасаўка Веткаўскага р-на ад Саўчанка Любові Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Жарносенка І. (2003 г.)***

“Ой, кікімара ты!” – вочань часта ўжываецца. Такі вот неабыкнавенны чалавек. Ён на ўсіх не пахож. Нехарошы. Дзелае абы-што.

Маленькая жанчынка, смешная. Нос у яе, як пятачок, длінны, валасы гразныя, аж дыбам стаяць. І гаворыць яна смешна, пішчыць.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н., Валасянкінай А.І., 1921 г.н., студэнткай Валасянкінай Ю.***

Чула, што ёсць яны. Але не бачыла. Кажуць, што кікімары тожа жывуць у хаце, але хто іх ведае. Я ніяк іх не ўяўляю. Казалі, што гэта маленькая дзяўчынка, якая ўсігда шуміць, а калі чуе бяду, плача.

***Запісана ў в. Мормаль Жлобінскага р-на ад Гладкай Елізаветы Ільінічны, 1915 г.н., студэнткай Аўсянікавай С.***

Кікімара – ета злы дух хаты, які жыве на печы. Ета маленькая жанчына, якая памерла, калі была маленькай дзяўчынкай.

Кікімара – ета тая дзяўчынка, якую праклялі родзічы і бацькі. Кікімара вельмі любіць гарэзнічаць. Яна назірае за маленькімі дзеткамі. Ноччу кікімара можа будзіць дзяцей, раскідваць па хаце розныя рэчы, палохаць людзей, стукаць ці грукаць у хаце. Адны ка-

жуць, што кікімара – ета жонка дамавога, а другія кажуць, што кікімара – ета вораг дамавога. Яшчэ кажуць, што кікімара можа папярэдзіць чалавека аб блізкай бядзе, калі тая жаласна плача ноччу. Нічога дрэннага кікімара не зробіць чалавеку, калі ён ёй нічога не зробіць.

***Запісана ў в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Кікімара – гэта злы дух дома, які жывець на печы. Кікімара – гэта маленькая жанчына. У яе чорныя космы і вочы. Кажуць, што яна жонкай дамавіка з'яўляецца. Другія кажуць, што кікімара з'яўляецца сястрою дамавіка. Людзі казалі, што кікімара – гэта дзяўчынка, якая памерла маленечкай дзевачкай. Кікімара любіць назіраць за маленькімі дзецьмі, якія гуляюць у розныя гульні. Потым яна сама пачынае гарэзнічаць.

У адной хаце можа быць некалькі кікімар. Кажуць, што кікімар столькі, сколькі дзяцей у хаце. Кікімара па начах стукае па сценах, непакоіць малых дзетак, ламае мэблю і г.д. Кікімара з'яўляецца ў той сям'і, дзе адбылося забойства дзяцей.

У ноч перад Калядамі кікімара паліць кудзелю, якую гаспадыня можа пакінуць неперахрэшчанай нанач. Кікімара шкодзіць хатняй птушцы. Кікімара робіць шмат бед у хаце.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Паляшчук Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Кікімара – гэта дзіця, якое не нарадзілася. Яны, кікімары, гэтыя дзеткі, заўсёды застаюцца малымі, і яны добрынькія, дзеці ведзь яны. І найчасцей яны прыходзяць у хаты тых, у каго былі ўбітыя дзеці. Яны па начах могуць плакаць, клікаць маці, але ім ужо нічога не можа дапамагчы. Кікімара, калі бачыць маленькае дзіцятка, то яна таксама пачынае плакаць, бо хоча быць ім. Тады яна ахраняе гэтага дзіця, каб усё ў гэтага дзіця было добра, каб не плакала ноччу, не балела. Кікімара ёсць дапамога маці, бо дапамагае ёй ва ўсім, што трэба. А жывуць кікімары на печцы, там іхная хованка.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Велічкевіч Ю.***
***(2004 г.)***

Кікімара – эта злы дух. Як яна ў каго ў хаце паселіцца, дак таму жыцця няма. Яна стукае, грыміць, разбівае пасуду, ніткі путае. Яе могуць бачыць толькі кошкі і сабакі. Ад кікімары очэнь трудна ізбавіцца.

***Запісана ў в. Салтанова Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Марыі Канстанцінаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Васілюк А.***
***(2003 г.)***

Кікімара – злая асобіна, якая жыве ў хаце. Яе месца на печы ці ў подпечку. Гэта дзяўчонка з чорнымі валасамі. Гаварылі, што яна – жонка дамавіка. Кікімарамі станавіліся дзяўчынкі маленькія, якія загінулі. Ноччу яны прыносілі шкоду, непакоілі малых.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Юліі Сцяпанаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбасавай Ю.***

Ёсць яшчэ і кікімара, якая жыве ў балоце. Кікімара – гэта нікуды нягоднае, малое сушчаство. Яна вельмі малая, худая і дажа, можна сказаць, гідкая. Звычайна ўяўляецца як старая жанчына з цёмнымі чорнымі валасамі, можа трохі з седзіною. Часцей за ўсё вельмі непрыгожая: у яе вялікі нос, чорныя вочы, насупленыя бровы, можа быць бяззубая, твар у барадаўках і часта кікімара з гарбом. Звычайна шкодзіць людзям. Кікімарамі ў наш час таксама называюць людзей, якія робяць нешта дрэннае.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Тарун Вольгі Аляксееўны, 1950 г.н.,***
***студэнткай Шамонінай В.***
***(2003 г.)***

Кікімара – ета злы дух дома. Я яе неяк адзін раз нават бачыла. Сяжу я неяк у суседкі ў гасцях, а тут аж раптам нешта прабегла: малое такое, скручанае, страшнае. Я так спужалася. А саседка сказала, што ета кікімара злыднічае.

***Запісана ў п. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Пiліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***



Кікімары – гэта памерлыя нехрышчаныя дзеці ці дзеці, якіх праклялі шчэ нават да раждзенія. Жывуць кікімары ў асноўным на балоце. Шкоды людзям яны не чыняць. Але быў у нас такі выпадак. Сабралася адна жанчына ісці па журавіны. Узяла карзіну і пайшла. А балота було далёка ад дзярэўні. І во сабірае яна ягады, ходзіць з кочкі на кочку, ужо набрала амаль поўную карзіну, стамілаca. І ажно бачыць, што кочка, на якую яна ступіла, падобна на галаву. Не паспела жанчына яе добра разгледзець, як гэтая кочка стала правальвацца ў балота і цягнуць за сабой жанчыну, а тая ніяк не магла вырвацца і стала крычаць. Гэтыя крыкі пачуў мужчына, які быў недалёка ў лесе. Прыбег, але було ўжо позна. Ён найшоў толькі карзіну з журавінамі, а жанчына знікла ў балоце. Як потым даведаліся, гэта кікімара жанчыну забрала да сябе за тое, што калісьці ў моладасці яна загубіла сваё дзіця. У яе без мужа радзілася дочка, а гэта быў вялікі грэх. І яна вырашыла ад яго пазбавіцца, кінуўшы навароджанае дзіця ў рэчку. Кажуць, што за гэта яна зараз і паплацілася. Кікімара за загубленую дачку ёй адпомсціла.

***Запісана ў Чачэрскім р-не***
***ад Ярэня Станіславы Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткамі Клічка А., Руковіч В., Чараднічэнка В.***
***(2003 г.)***

Блізка я ету кікімару не відзеў, але раз бачыў, што штосьці шуснула міма мяне. Яно было пахожа на нейкі туман. Ета мне ўжо патом сказалі, што то была кікімара.

А то мне расказалі цікавую гісторыю пра етых злыдняў. Адна дзяўчына сабралася замуж, назаўтра далжна была быць свадзьба. І вось ноччы яна праснулася ад таго, што нехта плакаў. Раніцай яна ва ўсіх папытала, хто ж плакаў, але ўсе родныя сказалі, што ўсе спалі. А гэта кікімары так плакалі. Старыя людзі кажуць, што калі па начах выюць кікімары, то ета к бядзе. І праўда, выйшла тая дзеўка замуж, аднак шчасця ў яе не было.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

# Лазнік (баннік)

Лазнік (“баннік”) – гэта гаспадар лазні, міфалагічны персанаж, які адносіцца да асаблівай пароды дамашніх духаў. Павер’і, звязаныя з лазнікам, адлюстроўваюць уяўленні, якія адносяцца найперш да такога сакральнага месца, як лазня, і звязаны з яе ўшанаваннем. “Жыве ў лазні, звычайна нябачны, іншы раз прымае выгляд голага старога чалавека, пакрытага граззю і лісцем ад веніка, або чалавека з доўгімі валасамі...” [1, с. 137-138].

Адзначым, што ў беларускай міфалагічнай традыцыі “баннік” сустракаецца рэдка ў мясцовых сведчаннях, у параўнанні з рускімі крыніцамі. Напрыклад, у “Беларускім зборніку” (вып. 8) Е. Раманава змешчаныя пра “банніка” звесткі даносяць да нас больш даўнія ўяўленні пра гэту міфалагічную істоту, якую інфарматары адносілі да ліку “злых духаў”: “Лазеннік жыве ў лазні пад палком... Гэта злы дух, які выглядам нагадвае Вадзяніка” [2, с. 44]. Паводле сучасных запісаў, гэта “стары голы дзед з зялёнай барадой” (в. Печышчы Светлагорскага р-на), “ніхто ні відзеў яго, толька рукі, кагда гадалі, махнатые, кашлатые сваі даваў нам мацаць. Страшны такі. Хто кажа – баба, хто – дзед” (в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на), “маленькі дзядок з дліннай барадой” (в. Мормаль Жлобінскага р-на), “сустракалі людзі банніка ў выглядзе маленькага дзядка. Ён з вялікай барадою. Сам жа баннік зялёнага цвету, бо людзі кажуць, ад венікавага лісця” (в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на), “ён з’яўляецца ноччу ў выглядзе старэнькага і маленькага старычка з сядой і доўгай барадой. У ёй знаходзіліся лісточкі з веніка” (в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на), “эта маленькі чалавечак” (в. Целяшы Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.).

Канкрэтнымі месцамі знаходжання лазніка з’яўляліся печ-каменка або палок. Функцыянальнасць лазніка ў асноўным не вызначаецца выразнай амбівалентнасцю: ва ўсходнеславянскіх павер’ях гэтая істота пераважна адрозніваецца ад іншых міфалагічных персанажаў тым, што з’яўляецца па сваёй генетычнай прыродзе злосным духам, не робіць людзям нічога добрага. Праўда, у некаторых лакальных міфалагічных аповедах усё ж гаворыцца аб тым, што “баннік бывае добрым і злым” (в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на), што ён сочыць за парадкам у лазні (в. Печышчы Светлагорскага р-на). Шкаданоснасць лазніка выяўляецца асабліва тады, калі маюць

месца парушэнні пэўных бытавых і маральна-этычных норм паводзін людзей: “баннік” не любіць, калі “людзі позна мыюцца, бо яны мяшаюць яму адпачываць, а яшчэ не любіць п’яных” (в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобл.; в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на), “не любіць, калі ў бані спяваюць і громка гаворaць” (в. Целяшы Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.). Лазнік можа “пужаць людзей, грукаць, стукаць” (в. Печышчы Светлагорскага р-на), калі хто мыецца ў лазні “после поўначы, то баннік кідае ў яго мусар ілі камні” (в. Бывалькі Лоеўскага р-на), “строіць козні: то ўдарыць венікам, то вельмі многа пару нагоніць, то зробіць так, каб яны пакаўзнуліся” (в. Забалатнікі Клецкага р-на Мінскай вобл.), можа “ўтапіць у бані, і вокам не клыпнеш” (в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на), можа “раззлавацца і задушыць” (в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на). Зыходзячы з народных уяўленняў, “банніца” (жонка “банніка”) “магла падмяніць дзіця” (в. Мормаль Жлобінскага р-на).

Асноўныя спосабы засцярогі ад шкоднага ўздзеяння лазніка – не парушаць замацаваных традыцыяй уяўленняў наконт часу знаходжання і пэўных дзён наведвання лазні (можна мыцца да 12 гадзін, у святочныя дні нельга хадзіць у лазню), колькасці чалавек (аднаму знаходзіцца там непажадана). Жыхары в. Мормаль Жлобінскага р-на выказалі меркаванне, што “ад банніка і яго жонкі” ратаваліся толькі крастом”. Наведванне лазні ў святочны дзень без выканання малітоўных рытуалаў, а таксама ў адзіночку – галоўныя прычыны калецтваў ці смерці людзей. У вышэйпрыведзеных выпадках лазнік “можа запарыць да смерці” (в. Мормаль Жлобінскага р-на). У сувязі з гэтым невыпадковай была і традыцыя прасіць дазволу наведаць лазню (в. Мормаль Жлобінскага р-на). Што ж датычыць ахвярапрынашэння, то ў якасці яго атрыбутаў звычайна вяскоўцы называлі “гарачую і халодную ваду, а яшчэ кусок мыла, каб ён (лазнік) мог памыцца” (в. Мормаль Жлобінскага р-на), “яму астаўлялі ў бані венік і воду” (в. Бывалькі Лоеўскага р-на), “каб баннік нічога не рабіў дрэннага людзям, то людзі павінны ўгадзіць банніку. Паентаму людзі астаўляюць яму мыла, ваду і венік” (в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на). “Каб залагодзіць лазніка, у новую лазню прыносілі ахвяру – хлеб ды соль – ці закопвалі пад ганкам чорную курыцу, а таксама пакідалі яму ваду і венік, каб лазнік змог памыцца” [3, с. 277].

Калі сям'я мяняла месца жыхарства, то лазніка, у адрозненне ад дамавіка, хатніка, не запрашалі ў новую сялібу: "калі дамавіка і хлеўніка прыглашае хазяін, то баннік селіцца сам" (в. Бывалькі Лоеўскага р-на).

Як устойлівым з'яўляецца вераванне аб тым, што калі лазніку "надаядала жыць у бані, то ён кідае яе" (в. Бывалькі Лоеўскага р-на), то такім жа традыцыйным было і ўяўленне аб выніках знікнення "банніка" (после етого баня ці згарыць, ці разбурыцца" (в. Бывалькі Лоеўскага р-на). Лазнік меў непасрэднае дачыненне да ажыццяўлення рытуалаў, звязаных з варажбой, бо лазня – гэта звычайнае для іх месца, якое асэнсоўваецца як аб'ект, што знаходзіцца "на мяжы свету Культуры (прасторы, засвоенай чалавекам) і Прыроды" [3, с. 277]. "Іншы раз у лазні пакідалі на ноч грэбень і прасілі: "Суженый-ряженый, скажи мне сущую правду, какие волосы у моего жениха". Калі назаўтра на грэбні аказваліся мяккія русыя валасы, то лічылі, што і жаніх будзе русы, з добрым характарам. Некаторыя смелыя дзяўчаты ставілі ў лазні люстэрка і настойліва прасілі: "Суженый-ряженый, приходи, приходи, в зеркало погляди". Калі з'явілася чыё-небудзь адлюстраванне, не аглядвайся, а то задушыць" [4, с. 34].

Паводле беларускіх матэрыялаў, "незамужнія дзяўчаты падыходзілі да вусця печы-каменкі, задраўшы спадніцы, або засоўвалі руку ў дымнік: калі лазнік дакранецца калматай рукой – будзе багаты жаніх, калі голай – бедны" [3, с. 277].

## Літаратура

1. Славянские древности: этнолигвистический словарь в 5-ти томах/ Под. ред. Н.И. Толстого. – Т-1: А-Г. М.: Междунар. отношения, 1995. – 584 с.

2. Цыт. па кн. Беларуская міфалогія: Дапаможнік / Уклад. У.А. Васілевіч. – Мінск: Універсітэцкае, 2001. – 208 с.

3. Беларуская міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.

4. Власова, М.. Русские суеверия. / М. Власова. Энциклопедический словарь. – Санкт-Петербург: Азбука, 1998. – 672 с.

## *Лазнік (баннік)*



Лазнік – ета банны дух. Людзі кажуць, што ён вельмі злы. Я сама яго не бачыла, і не дай Бог убачыць. Казалі, што яго многа хто бачыў.

Лазнік – ета маленькі і сівенькі дзядочак, які пакрыты бярозавымі лістамі. Ён жывець за печкай. Калі людзі не давалі яму мыцца, то ён мог ашпарыць кіпятком, паддаць духу, каб чалавек задыхнуўся. Адлупіць банным венікам да смерці. Каб лазнік етага не рабіў, то людзі астаўлялі ўсё неабходнае лазніку, каб ён мог памыцца.

Казалі, што ён мыецца не адзін, а можа мыцца з многімі злымі духамі, русалкамі і іншымі.

***Запісана ў в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Он жыве ў бані, бо любіць вельмі мыцца і любіць тых людзей, какія прыходзяць у баню, дружыць з імі.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Стала Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на)***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Лазнік, ён жывець у бані. Любіць мыцца. Трэба яму венік класці і вадзіцу астаўляць заўсёды.

Маленечкі дзядок, заўсёды чысты. Вельмі любіць мыцца. Мы ў нашай бані заўсёды пакідаем ваду, мыла кусок і мачалку. Яму тожа памыцца нада.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н.,***
***Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Гэтая істота жыве ў лазні. Ён хаваўся ў камянах, а калі падлівалі ваду на каменні, лазнік вылазіў. Лазнік выглядае старым дзядком, які распарвае венік, дае дух і цяпло. Лазнік не любіць, калі ў лазню прыходзяць п'яныя, тады ён хуценька іх выганяе моцным духам. Яшчэ мая матка казала, што лазнік – хазяін лазні, бо без яго па лазні пойдзе сырасць. Яго нужна задобрываць: класці мыла, мачалку і ставіць ваду з венікам на палок. Калі ўбачыш пар і кроплі вады на столі ці сценах – дык гэта наш лазнік.

***Запісана ў в. Крыўка Рагачоўскага р-на***
***ад Грамыка Н.В., 1925 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***

Лазнік жыве ў бані і пужае людзей, якія прыходзяць мыцца, стукам або гукам. Ён хацеў быць адзіным гаспадаром у бані. Ён параўноўваўся з дзядком з доўгімі рукамі. Вельмі не любіў, калі

мылася многа людзей, па некалькі заходаў. Калі людзі адчувалі лазніка, пакідалі яму тазік з вадой, венік і мыла, і хутчэй выходзілі з бані задам наперад. Ад яго, як ад другіх нечысцей, не было малітвы.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н., Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н., студэнткай Мельнічэнка Н.***



Лазнік – гэта баннік, той, хто жыве ў баньцы. Ён там любіць мыцца. Калі яму чымсьці не падабаецца гэтая баня, то ён яе пакідае. Заўсёды, калі памыешся, трэба астаўляць у бані ўсе рэчы: і мыла, і венік, і ваду. Гавораць, што баннік злы. Аднак трэба рабіць усё тое, каб ён меней злаваўся, нават зусім не злаваўся. Для гэтага трэба не мыцца пасля дванаццаці ночы, а той, хто будзе мыцца, на яго баннік пашле праклён.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага раёна ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н. студэнткай Велічкевіч Ю., (2004 г.)***

А лазнік у мяне свой быў. У нас лазня метраў за восем ад хаты. Яна нядаўна пастроена, но лазнік там сразу быў. Пад палком. Там месца цёмнае. Ево так не відна, але я чула, і твой бацька чуў. Вечарам позна шалясцеў венікамі. Гаворацъ, он злой павінен быць, а ў мяне ні добры, ні злы. Так проста сядзіць, мыецца калі-нікалі. Бывае вада расплёскана. І ўсё.

***Запісана ў г. Гомель ад Масквіной Неанілы Аляксандраўны, 1933 г.н. (раней пражывала ў в. Грабаўка Гомельскага р-на) студэнткамі Вальчанка В., Чарпухінай Я., Канавалавай В. (2003 г.)***

Лазнік – гэта невялічкая асобіна, якая жыве ў бані (лазні). Лазнік – гэта голы стары дзед, невялікі, у яго ёсць барада, у яго таксама вялікія рукі.

Калі ў лазні мыліся маці з малымі дзяцьмі, то калі дзеці плакалі, то іх пугалі моцным стукам і гаварылі, што гэта злуецца лазнік.

Лазнік можа пугаць людзей сваім храпам, абліваннем кіпятком. Ён злаваўся часам на людзей і яго задабрывалі, пакідалі яму ў лазні венік, мыла і ваду ў тазе.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Юліі Сцяпанаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбасавай Ю.***

Лазнік – гэта чалавечак, які жыве ў лазні. Лазнік можа быць добры і злы. Ён вельмі хутка крыўдзіцца на чалавека і можа нарабіць яму шмат гора.

Раней у лазні жанчыны ражалі сваіх дзяцей, і людзі заўсёды баяліся астаўляць у лазні адных жанчыну, якая ражае, і павітуху. Калі адбываліся роды, запрашалі лазніка ў гэты час, бо калі гэтага не зрабіць, то ён раз’юшыцца і заб’е народжанае дзіця. У час родаў муж парадзіхі мог нават забаўляць лазніка. Рабіў ён гэта так: плясаў каля парадзіхі, прыгаў, мог паказваць розных жывёл. Рабілася гэта, каб яму спадабалася на родах і ён не прычыніў зла дзіцяці.

***Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на***
***ад Тукуновай Наталлі Прохараўны, 1957 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Тукуновай Н.***
***(2003 г.)***

Лазнік жыве ў лазні. Выглядае ён як стары дзед з вялікай сівай барадой. Ён любіць мыцца і парыцца. Тых людзей, якія мыюцца ў бані пасля апоўначы, ён пужае храпам, крыкамі, шорахамі рознымі. Не любіць, када ў бані п’юць і ругаюцца. Нельга астаўляць жанчыну, якая ражае дзіця, адну, бо лазнік можа загубіць іх. Не баіцца ён і крыжоў, і ікон. Калі лазніка не запрасілі ў новую баню, дак старую ён можа спаліць ці разбурыць. Асцерагацца гэтых нечысцей трэба.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міцкевіч Марыі Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Трыпуць І.***
***(2004 г.)***

Ёсць свой гаспадар і ў лазні. Завуць яго хто як: хто баннікам, хто лазнікам. Яго заўжды нябачна. Ён носіць шапку, якая скрывае ад вачэй яго аблічча. Але ж людзі кажуць, што калі ноччу ціхенька зайсці ў лазню, то можна пачуць, як ён шалушыць лісцем веніка.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскагн р-на***
***ад Шаўчэнка Зоі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шырокай В.***
***(2003 г.)***

Аднаго разу мой дзед пайшоў у лазні парыцца п'яным, потым сам гэтаму быў не рад. Расказваў, што як толькі пачаў мыцца, то з'явілася нейкая жанчына з крыху зеленаватымі косамі. Яна схапіла дзеда і выкінула яго ў прыдбаннік. У дзеда аж валасы дыбам сталі. Пасля таго ён у лазню нават баяўся хадзіць.



***Запісана ў в. Шэйка***
***Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны***
***Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

У лазні жыве не дзед, а жанчына. Яна вельмі вялікага росту, грозная ўся. У нашай сям'і яе вельмі баяліся, таму і стараліся нічым не крыўдзіць, бо тады б наклікалі на сваю галаву вялікую бяду. Вось як. Мы павінны былі яе задобрыць, дзяржалі лазню ў чыстаце і парадку.

***Запісана ў в. Людзвін Хойніцкага р-на***
***ад Лобана Ю.А., 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

У бані свой чорт. Мы звалі яго баннікам. Ніхто ні відзеў яго, толька рукі, кагда гадалі, махнатые, кашлатые, сваі даваў нам мацаць. Страшны такі. Хто кажа – баба, а хто – дзед. Я чула, што баба злая, людей не любіць, асобенна п'яных. І ўтопіць у бані, і вокам не клыпнеш.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Свірыдзенка Таццяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай А.***

Лазнік – ета такі невысокі дзядок, скура ў яго чырванаватая, мабыць таму, што ён любіць парыцца. Мыецца ён после двянаццаці гадзін, штоб яго ніхто не бачыў, а калі хто ўбача, то ён тады злуецца сільна.

Нашы суседзі ніколі за сваёй лазняй не даглядалі. Нават мыліся на брудных полках. Мабыць, таму лазнік і пакінуў іх, а лазня, можа, праз год разбурылася.

***Запісана ў в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Баннік жыве ў бані. Ён слядзіць за парадкам у ёй. Ён таксама шкодзіць людзям. Калі мыцца вельмі позна ці аднаму, то баннік можа і забіць. Также ён ня любіць п'яных. У баню зусім ня трэба хадзіць аднаму, хоць дажа і днём. Баннік можа пужаць людзей, грукаць, стукаць. Ён – стары голы дзед з зялёнаю барадой.

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на***
***ад Дайнека Дар'і Фядосаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Камандзірчык Н.***

Баннік – гэта маленькі дзядок з дліннай барадой. Старыя людзі казалі, што ён можа запарыць да смерці, калі ў святочны дзень пойдзеш у яе без малітвы і паадзіночку.

Перад тым як пайці ў баню, мы прасілі дазвалення ў банніка. Пасля таго, як памыліся, астаўлялі гарачую і халодную воду, а яшчэ кусок мыла, каб ён мог памыцца.

У банніка есць яшчэ і жонка – банніца. Калі ў старыну жанчыны ражалі ў бані, то яна магла падмяніць дзіцяця. Ад банніка і яго жонкі ратаваліся толькі крастом.

***Запісана ў в. Мормаль Жлобінскага р-на***
***ад Гладкай Елізаветы Ільінічны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Аўсянікавай С.***

Баннік – ента дух бані. Лічыцца, што баннік жывець у бані. Яго ніхто не бачыць, бо ён нябачны. Баннік жывець каля печкі. Там, дзе цяпло. Сустракалі людзі банніка ў выглядзе маленькага дзядка. Ён з вялікай барадою. Сам жа баннік зялёнага цвету, бо людзі кажуць, ад венікавага лісця. Баннік мыецца самым апаследнім.

Кажуць, што баннік бывае добрым і злым. Калі затрымацца ў бані пасля дванаццаці гадзін, то баннік можа забіць. Потым людзі кажуць, што забілі злыя духі. Паентаму людзі мыюцца да дванаццаці гадзін, бо кажуць, што пасля дванаццаці гадзін мыюцца злыя духі. Каб баннік нічога не рабіў дрэннага людзям, то людзі павінны ўгадзіць банніку. Паентаму людзі астаўляюць яму мыла, ваду і венік. Тады баннік нічога дрэннага не зробіць.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мяшковай Лісы Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Баннік – гэта злы дух бані. Ён з’яўляецца ноччу ў выглядзе старэнькага і маленькага старычка з сядой і доўгай барадой. У ёй знаходзіліся лісточкі з веніка.

Маёй маці і бацьку даводзілася бачыць банніка. Яны казалі, што ён быў у мыльнай пене. Людзі казалі, што баннік жывець у каменкі. Гавораць, што ў бані трэба мыцца да поўначы, а то прыйдзе злы дух і ўб’ець. Назіраць за баннікам нельга, бо можа раззлавацца, задушыць.

Баннік мыецца не адзін, а з другімі злымі духамі, пагэтаму ўсе людзі мыюцца да поўначы. Некаторыя кажуць, што якім будзе гаспадар, такім будзе і баннік. Гаспадар добры, а значыць, і баннік добры. Ён можа мыцца і з гаспадаром, бо баннік можа быць і нябачным. І нічога дурнога ён не зробіць.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Паляшчук Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Ёсць свой гаспадар і ў лазні. Завуць яго хто як: хто баннікам, хто лазнікам. Яго заўжды нябачна. Ён носіць шапку, якая скрывае ад вачэй яго аблічча. Але ж, людзі кажуць, што калі ноччу ціхенька зайсці ў лазню, то можна пачуць, як ён шалушыць лісцем веніка.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Шаўчэнка Зоі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шыракай В.***
***(2003 г.)***

# *Лесавік*

Пра гэту міфалагічную істоту не захаваліся дакладныя звесткі, звязаныя з яе паходжаннем. "Аднак даволі часта павер'і сведчаць, што лешымі становяцца людзі, якіх праклялі, памёршыя нехрышчонымі або дзеці, якія былі абменены нячыстай сілай – іншымі словамі "заложныя" нябожчыкі" [1, 320]. А. Ненадавец, прааналізаваўшы вядомыя з розных крыніц звесткі пра лесавіка, падкрэсліў, што ён не толькі "з'яўляўся валадаром лесу і апекуном лясных птушак і звяроў, але ж былі яшчэ многія, больш абстрактныя характарыстыкі гэтага дэманалагічнага персанажа" [3, с. 268].

Паводле апісанняў А. Кіркора, М. Нікіфароўскага, Е. Раманава, А. Багдановіча, Я. Ляцкага, лясун у пераважнай большасці нагадвае як фітаморфную істоту: "Лешы ростам роўны з самымы высокімі дубамі і іншымі дрэвамі, але калі з'явіцца на паляне, ён роўны з травою" (Киркор, 271), так і мае антрапаморфны выгляд: "...найчасцей ён паўстае ў вобразе старога з белым, як бяроста ці як воск, ніколі не загарэлым тварам, з вялізнымі цьмянымі вачыма свінцова-сіняга колеру, якія нерухомыя і ніколі не закрываюцца" (Неч., с. 68-72), "лесавіка ўяўляюць чалавекам вялізнага росту – "з дрэва", у лапцях і з доўгаю пугаю ў руках" (Романов, 8, с. 289) [4, с. 532-543]. Сведчанні Я. Ляцкага: "Лесавік такі ж вялікі, як самыя высокія дрэвы, ён падобны да чалавека, але можа крычаць, як птушка, выць, як звяры, і плакаць, як дзіця" [4, с. 541] дазваляюць выказаць меркаванне пра факт кантамінаванага вобліку гэтага міфалагічнага персанажа беларусаў, які спалучае асаблівасці і людзей, і жывёл, і птушак. Ва ўсходнеславянскай міфалогіі лясун – гэта "гаспадар лесу і звяроў, яго ўяўляюць апранутым у звярыную скуру, іншы раз са звярынымі атрыбутамі – рагамі, капытамі" [5, с. 243].

Паэтычнае ўвасабленне фантастычных уяўленняў беларусаў надзвычай добра адлюстраваў А. Багдановіч, характарызуючы асаблівасці іх светаўспрымання: "Над лясамі і ўсім, што ў іх, валадарыць Лешы. Гэта, здаецца, найбольш велічавы вобраз, створаны фантазіяй беларуса. Яно і зразумела: у прыродзе яго краіны, за выключэннем навальнічных з'яў, дрымучыя лясы былі найбольш велічавымі, таямнічымі, больш за ўсё ўражвалі сваім "заунывным" шумам, пры лёгкім ветры і трэскам дрэў, што ламаюцца, стогнам "пронзительными" "воплями", дзікім рогатам і іншымі дзіўнымі гукамі, якія напаўняюць лес у час навальніцы або ўрагану. Пад уп-

лывам уражанняў з жыцця магутных лясоў сваёй радзімы беларус і стварыў вобраз свайго лесавіка або лешага” [6, с. 77-78].

Знешні выгляд лесуна як ва ўяўленнях жыхароў Гомельшчыны (“лясун – велізарны, агромны, стары ўжо чалавек з барадой і вусаты, з бальшымі вачамі” (в. Убалаць Калінкавіцкага р-на), так і паводле павер’яў беларусаў іншых рэгіёнаў, асацыіруецца са старым чалавекам, у якога “белая барада і вельмі густыя сівыя бровы” (в. Здудзічы Светлагорскага р-на).

Пераважная большасць мясцовых павер’яў сведчыць аб тым, што лясун меў антрапаморфны воблік: “Пахожы ён (“лешы”) на старога гарбатага дзеда з дліннай барадой” (в. Міхалькі Гомельскага р-на), “лясун ахоўвае лес, бо сам жыве ў ім. Ён падобны на чалавека маленькага росту: мае вопратку з лісцеў. Мае доўгія валасы і бараду” (в. Сяменча Жыткавіцкага р-на), “гэта такі маленькі, вельмі стары дзядок, з барадой” (в. Лясец Калінкавіцкага р-на), “гэта такі невялікі дзядок з доўгай барадой, увесь у лісцях і шышках” (г. Гомель), “лясун – лесавы чалавек. Замечалі іх у бліскучай адзеждзе з бліскучымі пугавіцамі” (г.п. Акцябрскі, в. Калюды Кармянскага р-на). Паводле некаторых лакальных вераванняў, у знешнім вобліку лесуна былі з’яднаны як антрапаморфныя, так і зааморфныя рысы: “Леший – это наполову звер, наполову чалавек. У него длинные волосатые руки, и сам он с ног до головы покрыт длинной густой шерстью” (г. Гомель).

Жыхары в. Карма Добрушскага р-на ўяўлялі лесуна ў выглядзе змяі або вужа: “Вось мне казала яшчэ мая матуля, калі зойдзеш у лес і яна цябе ўкусіць, тады ты вельмі сільна захварэеш. Яшчэ лесавіком завуць вужа. Ён дапамагае чалавеку. Вось калі ён згубіць сваю шкуру, яна гадзіцца на раны” (в. Карма Добрушскага р-на).

Факты народных вераванняў, звязаных з ператварэннямі лесуна ў звяроў і птушак, былі зафіксаваны ў в. Паравалока Рэчыцкага р-на (“Ой, пра лесавіка я чула такое, што ён можа абарачацца ў звярэй і пціц, старога дзядка”), а таксама ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на (“Настаяшчага лешага ніхто не бачыў такім, які ён на самым дзеле. Но ён можа паяўляцца перад людзьмі ў разных обліках. Інагда валком бывае, інагда чалавекам, інагда мухаморам прытвараецца. Вот када па лесу сава ляціт, ілі белка прыгае. Можа, эта і есць сам лешы”). Аб фітаморфнай іпастасі лесавіка сведчаць уяўленні жыхароў в. Дронькі Хойніцкага р-на: “Гавораць, што лясун – гэта самае высокае дрэва ў лесе”. У в. Заліп’е Гомельскага р-на вераць,

што “лешы жыве ў лесе. Можа ператварацца ў розныя расліны і розных жывотных, якія жывуць у лесе”.

Паводле ўяўленняў Вольгі Міронаўны Карпоўскай з в. Бабічы Чачэрскага р-на, лясун – “ета вешчаство невідзяшчае, калі чалавек сустракае яго ў лесе, яму становіцца плоха”. На Брэстчыне ў в. Тышкавічы Іванаўскага р-на былі запісаны звесткі аб тым, што лясун мог прымаць аморфны выгляд – пераўтварацца ў пянёк (“кажуць, шо він гойдаецца на гулынах, а можэ колы зробытыса пыньком, то его нэ можна отлічыты”). У в. Бацвінава Чачэрскага р-на была зафіксавана былічка, надзвычай паэтычны змест якой адлюстраваў народныя ўяўленні пра яго здольнасць прымаць прадметны воблік: “Раней у маладосці мы часта з дзеўкамі бегалі ў лес, чуць не кажды дзень. Жыла ў нас у дзярэўні дзеўка адна. Усё бяжыць і бяжыць у лес. Скора людзі сталі гаварыць, што дзеўка гэта стала паўнець. Праз некаторы час радзіла яна сына. Сын рос здаровым, вумным. А дзяўчына кожную свабодную мінутку бяжыць у лес. Людзі сталі казаць, што, навернае, бегае яна к лесуну. Сын вырас, паехаў у горад, вывучыўся і застаўся жыць там. А гэта жанчына так і жыла адна. К ёй сваталіся хлопцы, а яна не хацела ні за кога іці. – “Чым за каго ісці замуж, лепш ужо са старым пнём жыць, – яна так казала. І вось прапала гэта жанчына. Шукалі яе ўсей дзярэўняй і знайшлі мёртвую яе ў лесе. Яна ляжала і абнімала стары пень”.

Як слушна адзначыў В. Казначэеў, “даныя аб паходжанні персанажаў, у прынцыпе, часта з’яўляюцца цёмным месцам у міфалагічнай сінхраніі, і, акрамя в. Крукі (Брагінскага р-на – В.Н.), дзе адзначана, што лесавіком становіцца “чэловек (у значэнні “мужчына” – В.К.) ілі баба, каторая вешаецца ў лесе”, у іншых вёсках паходжанне лесавіка не высветлена” [2, с. 170-171]. Зафіксаваныя апошнім часам звесткі пра міфалагічных персанажаў дазваляюць пагадзіцца з вышэйакрэсленым меркаваннем наконт адсутнасці інфармацыі па пытанні паходжання лесавіка. Толькі ў в. Матнявічы Чачэрскага р-на давялося сустрэцца з вераваннямі, паводле якіх “лесавік – гэта хазяін леса, але гэта не Бог, гэта тыя парні, якія вешаюцца ілі топяцца, якія пагібаюць ад любві”.

Лясун, як сведчаць запісы, у пэўнай ступені амбівалентны персанаж. З аднаго боку, яго шкаданоснасць заключалася ў наступным: “чалавека заплутаць можа ў лесе” (в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на), “таксама ён збівае з дарогі, каб чалавек папахадзіў па лесі” (в. Пера-

валока Рэчыцкага р-на), “кажуць, што калі хто-небудзь у лесе зробіць што-та не так, дык ён так раззлуецца, што ад яго і адбіцца мужыкі не могуць” (в. Лясец Калінкавіцкага р-на), “еслі чалавек яму (лесуну – В.Н.) не панравіўся, ён можа ўдарыць яго, і тада чалавек цярае сазнанне і дажа знаходзіцца без сазнання ў лясу” (в. Матнявічы Чачэрскага р-на), “жыве ў лесе такі дзед, шчо, як увідзя ён чалавека якога ў лесе, так яго заблытвае, загукувае, шчо той ужо не може знайсці дарогу дадому” (п. Лядцы Гомельскага р-на), “можа напужаць чалавека і ваўкамі затравіць” (г. Добруш), “лешии также могут красти детей, ежели те пришли в лес одни, без бацьков. Такие дети, если их потом находили, почти забывали человеческую речь и становилися дикими, боялись людей” (г. Гомель).

Зыходзячы з народных уяўленняў жыхароў в. Цярэнічы Гомельскага р-на, у лесуна ёсць памочнікі – чэрці (“е ў лесавіка і памашнікі – чэрці. Ета ж у лесе не рэха чуюць людзі, а галасы гэтых чарцей” (в. Цярэнічы Гомельскага р-на). Як і прыведзены прыклад камунікацый лесуна з чортам, сустракаюцца таксама адзінкавыя прыклады ўяўленняў наконт стасункаў лесуна з русалкай: “... зноў жа адзінае паведамленне: у лесавіка, і русалкі вмесьце в лесу ходзілі – і це, і це з таго света” (в. Крукі Брагінскага р-на) [2, с. 171].

Функцыянальнасць лесуна ў народнай міфалагічнай традыцыі асэнсоўвалася і з пазітыўнага боку. Напрыклад, “ён глядзіць лясных птушак, раслін ды звяроў” (в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на), “глядзіць, каб у лесе ўсё было добра, было чыста, каб ніхто не нарушаў спакойствіе, не пужаў звярэй” (в. Міхалькі Гомельскага р-на), “еслі зблудзішся ў лесе, то лесавік можа вывесці, яго не відзіш, а ён усядно можа памоч” (в. Хутар Светлагорскага р-на), “лясун вартуе лес і аберагае звераў і пціц” (в. Бабоўка Жлобінскага р-на, в. Дронькі Хойніцкага р-на), “лясун – харошы чарадзей, ён прыносіць дабро. Калі чалавек панравіцца, то памагае ў лесе яму...” (в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на).

Каб засцерагчыся ад шкоднага ўздзеяння лесуна, трэба было, паводле мясцовых уяўленняў, “перабуцца з нагі на нагу і тры разы сказаць: “Шоў, нашоў, пацяраў” (в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на; в. Старое Сяло Веткаўскага р-на; г. Гомель), вывернуць адзенне навыварат (в. Бабоўка Жлобінскага р-на, в. Дронькі Хойніцкага р-на), пакінуць што-небудзь з ежы: “... людзі стараліся не сярдзіць яго і астаўлялі яму лакамы кусочак” (в. Малая Людзвінаўка Светлагорскага р-на), “меней з ім разгаварываць” (г.п. Акцябрскі, в. Калюды Кар-

мянскага р-на), мецць пры сабе “кавалачак дрэва, ачышчаны ад кары” (р.п. Бальшавік Гомельскага р-на), “вытрусіць пясок з абутку” (в. Дабрынь Ельскага р-на) [2, с. 172].

Іншы раз рытуал ахвярапрынашэння суправаджаўся славесным прыгаворам: “Лешы, лешы, з’еш піражок, а дай ты мне грыбок, на табе аладку, а дай мне ягад цэлую ахапку, на табе вадзіцы, каб не заблудзіцца!”

На Міншчыне верылі, што, калі пчаляры не пакінуць для лесуна ў якасці ахвяры мёд, ён будзе горкім на ўсёй пасецы або “наогул, пчолы не вяліся, дохлі”. Як адзначылі інфарматары, каб супакоіць лесуна, “у лес адпраўлялі пчаляра, каб той пагаварыў з ім. Ды адпраўлялі ж не з пустымі рукамі, а давалі пеўня ці курыцу-нясушку” (в. Здудзічы Светлагорскага р-на).

**Літаратура:**

1. Левкиевская, Е. Мифы русского народа / . – М.: Астрель, АСТ, 2005. – 526 с.

2. Казначэеў В.В. Сучасны стан усходнепалескай міфалагічнай традыцыі // Гавораць чарнобыльцы / В.В. Казначэеў. – Мінск: Інст-т моваз-ва імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі, 1994. – С. 164 – 221.

3. Ненадавец, А.М. Ніжэйшая міфалогія беларусаў // Міфалогія. Духоўныя вершы / А.М. Ненадавец. – Мінск: Беларуская навука, 2003. – С. 225 – 318.

4. Зямная дарога ў вырай. Беларускія народныя прыкметы і павер’і. Кн.3/ Уклад.,прадм., пер.і паказ. У. Васілевіча. – Мінск: Маст. літ-ра, 1999. – 654 с.

5. Славянская мифология. Энциклопедический словарь. – М.: Эллис Лак, 1995. – 416 с.

6. Богданович, А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов / А.Е. Богданович. – Гродно: Губернская типография, 1895. – 186 с.

* Выкарыстаны матэрыялы з фальклорнага архіва кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі ГДУ імя Ф.Скарыны.

## *Лесавік*



Лясун – гэта цар лесу. Ён як чалавек-ляснік хазяйнічае па лесе. Пахожы ён на старэнькага дзядка з кіём. Ходзіць увесь аброшшы, у парванай адзежы. Прымае ў лес толькі добрых людзей, якія не шкодзяць: звярэй не пужаюць, цвяты не зрываюць, грыбы з коранем не забіраюць. Калі ты па-добраму прышоў, то назад пойдзеш з поўным кошам. А калі, як бывала, па дровы прыедзіш, дак ён збівае з дарогі, пужае, а ў лесе цёмна становіцца і вароны як здурнелыя крычаць. Тады ходзіш па лесе, гукаеш, гукаеш, толькі рэха чуеш. Можэш так зайсці, што і не выйдзеш.

***Запісана ў Кармянскім р-не***
***ад Рога Івана Васільевіча, 1944 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***

Мне казалі, што лесавік ходзя ў белым па лясу, метры два высатой. Яго баялісь, ён як крыкне на весь лес. Ён ноччы ходзя, а днём скрываецца ці спіць. У гадах ён, у 60-ці гадах. Баяліся. Як убачаць, дык уцякалі.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Казаннікавай Вольгі Акімаўны,***
***студэнткамі Бандзюк А., Макеевай С., Хатэнка С.***

Казалі, што ў лесе ёсць лесавік – ахоўнік лесу. Гэта такі невялікі дзядок з доўгай барадой, увесь у лісцях і шышках. Ён можа дапамагаць чалавеку і, наадварот, так заблытаць сляды, што і не знойдзеш назад дарогі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міцкевіч Марыі Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Трыпуць І.***
***(2004 г.)***



Эта такі нячысцік, каторы жыве ў лесе. Он тожа небальшэнькі такі, увесь у мху. І часта можна прайці радам з ім і не замеціць. Он ахраняе свой лес. І всегда знае, што чалавек зашоў у лес. Каторы еслі ему не панравіўся, таго он заманьвае ў самы лес. Чалавек ходзіт, ходзіт, а найці дарогу назад не можа.

Паэтаму мая баба гаварыла мне, што очэнь даўно, як яна яшчэ малая была, людзі, перад цем, как в лес зайці, замову лясуну гаварылі, штоб ево ўміліць.

І вабшчэ, в лесу шумець, балавацца сільна нільзя. Лясуну эта можа не панравіцца.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Брухавецкай Ніны Андрэеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Чаушнік Н.***

Лясун – эта маленькі лесной чалавечык, можна дажа сказаць, дух леса. Он знает, што в лесе расцёт, какіе жывотные жывут. Эта

ево царства. У нас я такова не слышала, но гаварат, што раньшей жыл в лесі народ. Ані ўмелі лячыць, знали траў многа. Но как-та непонятна, пачэму ані ісчэзлі. І нікто не знает, куда. А це, хто астался – эта лесуны. У ніх есць ешчо і жэншчыны. Ані всегда маладыя і очэнь красівыя. Жывут ані в глубокам лесу. І рэдка такое можэт случыцца, што чэлавек к нім забрэдзёт. А еслі ўжэ зашол, то он прапал. Жэншчына эта ево акалдует, абварожыт.

Ана даёт ему ўйці. Толька душу ево забірает з сабой. І гдзе б чалавек ні был, што б ні дзелал, всё а ней думаць будзет. Паэтаму рана ілі позна он в лес вазврашчаецца. Толька найці её ўжэ не можэт. Паэтаму чалавек долга не жывёт, бо душа ево ў этай маладзіцы лясной навсегда астаецца.

***Запісана ў в. Чырвоны Берах Жлобінскага р-на***
***ад Козыравай Ульяны Фёдараўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чаушнік Н.***

Лясун – лясны дух. Ён можа быць ваўком, зайцам, кошкай, сабакай, свіннёй, але больш – чалавекам. Эта бальшы чалавек з вялікімі вачамі, у звяровай скуры. Ён вельмі вялікі і стары. Ён ахраняе лес, дзе жыве; ён камандуе птушкамі і звярыма. Лясун жыве далёка ў лесе, і ў яго іё дзеці і жонка. Ён ніколі не сядзіць дома, а ходзіць па лесу і начуе на дрэвах. Калі лясун бачыць людзей, што жывуць у лесе, то есць леснікі, што работаюць там, ён іх заблутвае і рабіць так, каб яны доўга хадзілі ў лесе. Лясун пры гэтым задаволены, веселіцца. Тыя, хто быў з лесуном нейкі час, вазврашчаюцца дадому, але ўжо валодаюць нячыстай сілай і звязваюцца з чартамі, вядзьмаркамі. Тые, хто не любіць сваіх матак, лясун забірая да сябе ў лес.

***Запісана ў в. Асінаўка Чачэрскага р-на***
***ад Пугачовай Антаніны Андрэеўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Купрацэвіч Т.***

Дзеўка ішла ў дальняе село, кілометраў тры. Ана ішла до родзіцелей. Ад маткі бегла да цёткі. Яна ішла вечарам, позна. І тут два мужыкі коцяцца з дзерава. Гэта было ў лесе. Яна глянула і спужалася – і яна не знае, дзе яны дзеліся. Яна так перапалохалася. Прыбягае, плача, гаворыць: "Не знаю, што гэта?" Яна доўга расказывала. Я помню, была малая, мая сястра з ёй дружыла. Яна всё врэмя гэта расказывала і гаварыла, што гэта былі вялікія мужчыны настаяшчыя. Ну, калісь казалі, што здаецца, пужае. А яшчэ от там у

нас былі ўбітыя два мужыкі, а проста яны памерлі ў голад. Ішлі – і там гара тая. Калі позна вечарам задзержышся, ідзеш лесам і штó-та паказывалася, пужала. Ну, цепер гэтага німа, патаму што цепер усе связаны з электрыкай.

***Запісана ў в. Карані Светлагорскага р-на***
***ад Малец Вольгі Якаўлеўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кіраў Нараўлянскага р-на)***
***студэнткай Лагута Ю.***

Лесавіком з'яўляўся маленькі, худы чалавечак. На галаве ён носіць вялізную старую шапку, глаза ў яго чорныя, позірк інагда нядобры. У нас гаварылі, што лесавіку, калі заходзіш у лес, трэба было пакланіцца, паздаровацца з ім, каб не раззлаваць яго, бо лесавік валодае ўсім багаццем леса. І калі людзі адносіліся з непавагай да яго, то ён злаваўся і мог заблытаць людзей у лесе, не даць знайсці ім дарогі дадому. А калі сабярэш ягад ці грыбоў, то трэба было абавязкова падзякаваць яму.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Уласавай Людмілы Фёдараўны, 1932 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Калініна***
***(раней Сямёнаўка) Буда-Кашалёўскага р-на)***
***студэнткай Хадаровіч К.***
***(2003 г.)***

Лясавік жывець у чашчобе лесу. Он можа з'явіцца ў выглядзе драхлага старыка ці дрэва, мядзведзя. Інагда ён крычыць у лесе і пужае людзей. Лясавік – пастух ваўкоў і мядзведзей, яму падпарадкоўваюцца ўсе зверы ў лясу. Ён ахоўвае лес і лясных звяроў, таму яго баяцца лесарубы і ахотнікі. Пазнаўшы, што ў нейкай чашчобе жыве лясавік, людзі абыходзяць яе старонкай. Яна лічыцца запаветнай, свяшчэннай рошчай. Блізкая сяброўка лесавіка – кікімара балотная. Яна жыве ў балоце. Любіць апранацца ў мяха з мхоў і ўплётываець у валасы лясныя і балотныя расліны. Але людзям паказоўвываецца рэдка, таму што любіць быць нябачнай і толькі арэць з балота гучным голасам. У лясавіка і кікімары ёсць дзеці – лясаўкі, яны збіваюць з шляху падарожнікаў, сыплюць ім на галаву труху і абматоўваюць павуціннем.

***Запісана ў в. Вецвіца Чачэрскага р-на***
***ад Новікавай Варвары Герасімаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Бельскай К.***
***(2003 г.)***



Лясун – чалавечык, які жыве ў лясу. Там ён гаспадарыць. У лесе ён адурманьвае людзей. Заводзіць людзей у глухія месты, і чалавек блукае па лесу і не можа выйсце дадому знайсці. Выгляд ён мае старэнькага зараслага дзядка. Лесавік можа так завесці чалавека, што той не зможа выйсці і памрэ. Мая матка казала, што ішоў чалавек па лесе, збірае грыбы, а іх усё болей і болей (гэта лесавік так маніць за сабой). Ён збіраў, збіраў тыя грыбы, раптам бачыць, што апынуўся у нейкай глушы і прасвету няма. Тады зняў гэты чалавек ў сябе адзежду і надзеў яе навыварат, перахрысціўся і толькі тады змог выйсці ў лесу.

***Запісана ў в. Тарасаўка Веткаўскага р-на***
***ад Саўчанка Любові Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Жарносенка І.***
***(2003 г.)***

Лесавікі жывуць у лесе. Калі ўваходзіць у лес, трэба памаліцца, тады будзе ўсё добра. А калі не памолішся, будзеш блукаць па лесе. Эта лесавік цябе водзя.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Сафонавай Таццяны Захараўны, 1927 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Мядзвежжа Чачэрскага р-на)***
***студэнткай Малашанка В.***

Лесавік, мабыць, той, хто ў лесі жыве. Аднак яго ў нас інакш называлі. Казалі, што жыве ён ў лесі ўнутры дзерава. Ён, гэтая пачварына, можа і воўкам выць, і птушкай пеці, і дзіцём плакаці, і жахліва крычаці. Можа з’явіцца раптам і раптам знікнуць. Можа

стацца так, што зробіцца ён дрэвам ці птушкай і ніхто яго не пазнае. У лесі ён гаспадар і не любіць, калі хтосьці западае да яго царства. Сам ён, як казалі, лясавік-та гэты, вельмі кашлатым быў, маленькім і па-чалавечы казаці не мог. А калі хто ў лесі прыблудзіцца, таго заводзіць у самую чашчу, адкуль ніколі не выйсці прастому чалавеку. Заманьвае ён гукамі рознымі, агукае, галосіць. Чалавек можа хадзіць на тыя гукі дзён колькі, але ж з лесу не выйдзе.

Дарога раней да суседняй вёскі праз лес ійшла. Як туды ехаць, людзі баяліся, а ўночы – яшчэ больш. А колі-ніколі ехалі і ўночку. Дык вось аднаго дзядзьку так выпужаў той лесавік, што той у лесі больш, чым да заходу сонца не паказваўся. А быў той лясун, як казаў Піліп, у выглядзе дзерава. Рукі доўгія, як голлі. Стаіць, кажа, то з аднаго боку дарогі, потым гопс – і няма: ужо з другога боку дарогі. А выў нейк – і ні як воўк, і ні як чалавек, але ж жудасна для слыху чалавечага. Конь таго Піліпа тады ад спуду, мабыць, думаў, што ваўкі, кінуўся з дарогі і імчаў яго ўсю ноч. А перад вачыма таго Піліпа ўсё мільгацеў той лесавік, чапляў яго косы сваім галлём, доўгімі кіпцямі царапаў яго і хацеў асляпіць яго. Конь тады ўсё ж прымчаў у вёску, аднак Піліп ляжаў на тым возі ні жывы ні мёртвы. Усе думалі, што забілі яго, аднак, калі той ачуняў, ён казаў усім, што было ў лесі. Мала хто верыў, аднак лясуна таго абыходзілі думкамі.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***

Ён жыве ў лесе. Бывае добры і злы. Добры памагае людзям, калі заблудзяцца ў лесе, а злы – наадварот.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Сталы Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на)***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Ён жыве ў лесе і лічыцца яго гаспадаром. Таму не нада рабіць шкоды ў лесе, бо калі лясун убачыць, то раззлуецца і зробіць табе плоха. Тады можаш заблудзіцца ў лесе. Трэба з ім дружыць.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Бачура Валянціны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Мазоўка Г.***

А лесавік, той саўсім страшны. Была ў дзеўках. За ягадамі як пайшла, дак думала і замужам не пабуду, бо як пайшла блудзіць па таму лесу, дак і ўсіх чарцей відзела. Ён ета любіць. І тада іму ўжэ так смешна, як тое малое, аж захліпаецца.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Свірыдзенка Тацяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай А.***

У лес пойдзеш і водзіць па лесу кругамі. То, наверна ж, лесавік. Многа каго заблудзіў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Дудзянавай Вольгі Сямёнаўны, 1928 г.н.***
***(перасяленка з в. Ачэса-Рудня Добрушскага р-на)***
***студэнткай Тупіцкай А.***

Лясун – ета лясны хазяін, які жывець у лесе. Ён вялізарны такі, агромны, стары ўжо чалавек з барадой і вусаты, з бальшымі вачамі. Ён быў добрым, аберагаў лес, каб людзі, калі хадзілі па дровы, па грыбы і ягады, не ламалі лесу, не сарылі там.

Ахотнікі ўсягда прыгаворы ўсякія гаварылі, ета каб лясун не разазліўся на іх.

Я яшчэ чула, што лясун можа паказваць месца, дзе болей ягад і грыбоў.

А адзін мужчына, етую історыю мне расказвала мая пра-бабка, гаварыў, што адзін раз ён пайшоў у лес па дровы. Ета было зімой. Эты мужчына очэнь харашо знаў дарогу і лес еты тожа знаў. І той мужчына заблудзіўся ў лясу і не мог выйсці з яго да самай ночы. Ён точна відзеў высокага дзеда старога. Еты дзед то з’яўляўся, то знікаў. Ета і быў, наверна, лесавік. Ён замятаў яго сляды на снягу, і той мужчына паетаму і заблудзіўся. Но патом еты лесавік і вывеў яго.

***Запісана ў в. Убалаць Калінкавіцкага р-на***
***ад Прышчэп Антаніны Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Нямковіч А.***
***(2003 г.)***

Ляснік у лесі жыве. Ахраняя лес, шоб яго людзі не расцягалі.

Кажуць, шо ён на чалавека пахожы, толькі меншы трохі і з барадой белай.

Няльзя ў лес на Пятра хадзіць, бо лясавікі вулазяць з лесу на бальшыя празнікі. Пужаюць людзей. Як дзе каля лесу стада пасуць, дак яны яго разганяюць.

Як ідзеш у лес на бальшы празнік, дак нада малітву перад лесам прачытаць. Тады нічога не будзе.



***Запісана ў в. Чамярысы Брагінскага р-на ад Сніцарэнка Ганны Ільінічны, 1919 г.н., студэнткай Краўчанка Н. (2003 г.)***

У лесі жыве лясун. Як за грыбамі хто ідзе, то вот ён ужо пугае. Можа вочы завязаць і дзень па лесу вадзіць, што вот і к вечару дамоў не прыйдзеш.

***Запісана ў в. Ягаднае Веткаўскага р-на ад Адзіночка Сафіі Паўлаўны, студэнткай Касцюковай М.***

Когда я была маленькая, мы ходили в лес за земляникой. Там была гора. На этой горе стоял очень высокий, белый человек. Мы очень испугались. А Миша, мой брат, сказал, что это лесовик. Мы побежали в деревню. А мать нас ругала, если мы не собирали ведро ягод. Было страшно.

***Запісана ў г. Гомель ад Міралюбавай Раісы Майсееўны, 1935 г.н. (раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на) студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Лесавік – гэта гаспадар лесу. На выгляд гэта маленькі чалавечак з целам, як ствол у дрэва. На галаве ў яго не валасы, а зялёныя лісцікі, замест носа – дзеравянны сук, а замест рук і ног – веткі. Ён любіць свой лес. Любіць тых людзей, якія яго лес не засараюць. Тады ён такім людзям памагае з лесу выйці, калі тыя заблукаюць. А тых людзей, хто ў лясу ўсё гразніць, ён сільна не любіць. І калі такія заблукаюць, то лесавік, наадварот, блытае ўсе дарогі яшчэ больш. Добра будзе, калі гэты чалавек выйдзе з лесу, а то можа быць і такое, што лесавік іх не адпускае. А калі ён у добрым настроі, то паможа добрым людзям грыбоў найці ды ягадак у добрых мястах лесу. А болей за ўсіх лесавік любіць сірат, жалее іх, больш як каму дапамагае знаходзіць ежу ў лесе.

А ноччу лесавік любіць папугаць тых, хто ходзіць па лесу і не дае яму спаць.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на ад Сімановіча Іллі Ніканавіча, студэнткамі Завадской В., Шышкінай С. (2003 г.)***

Мой ацец работал на элеватаре. 4 кілометры хадзіл лесам дамой. Вдруг што-та прыгнула яму на плечы – он упал. Бацька думал, што ён яго з'есць. Он пацярал сазнаніе сярод ночы. Праснулся, нічога нет. І пашол дамой.



***Запісана ў г. Гомель ад Анісімавай Антаніны Майсееўны, 1930 г.н. (раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на) студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Лесуна шчэ лешым называюць. Эта самая страшная нечысць у лесе. У няго яшчэ такія вочы чорныя, лупатыя, бальшыя значыць, і ніколі ж яны не закрываюцца. Было кагда-та, расказвалі, вот многа людзей блудзілі ў лясу. Гэта значыць, на такія мяста находзілі, на закалдованыя, і чалавек заблудзіў. Ну, тагда ж людзей апавяшчалі, што кагда заблудзіш, асоба

не растраівайся і не бягі бягом, і пераабуй обуў і з нагі на нагу. Ты адразу ўзнаеш, дзе ты находзішся.

Ішчэ так была са мной. Калі я была малая. Пашлі мы з маёй падругай у лес, а яна была старэй меня. Хадзілі мы, хадзілі і заблудзіліся. Давай шукаць дарогу – і зноў прыходзім да адной і той жа мясціны. А чуем жа, шо сяло радам: і петухі пяюць, і сабакі брэшуць, а мы не можам выйсці. Ну, а мая падруга старэй за мяня, вышэйшая, ну і палезла яна ж на дзераўца, а дзераўца ж тое было такое невысокае, ну, і давай жа яна стукаць лапцем па вярхушцы таго дзерава. І што ж вы думаеце, мы сразу найшлі дарогу.

Але ж злы ж ён, нядобры. Ён жа мог і ваўком выць, ну, і такімі рознымі галасамі звяроў. Ну, так во, пойдзе там які-небудзь ахотнік у лес, а там яго лешы і с толку звядзе. Ну, там мядзведзем зараве. Ахотнік ужэ і ідзе за ім па голасу, а тады з ім што-небудзь случаецца, так это ўсё ж лешы дзелае.

***Запісана ў г.п. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Смяглікавай Ніны Піліпаўны, 1943 г.н.,***
***студэнткамі Ярохавай С., Псырковай І., Лапінай В.***
***(2003 г.)***

Лясуны – гэта людзі, якія жылі далёка ў лясу і к людзям не наведваліся. І казалі, як пойдзеш на ахоту і раззлуеш лясуна, то нічога не зловіш, а нават можна заблудзіцца.

***Запісана ў в. Лазараўка Рэчыцкага р-на***
***ад Стрэльчанка Фаіны Несцераўны, 1925 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Велін Рэчыцкага р-на)***
***студэнткамі Сарокінай І., Сілко С., Навуменка Н.***
***(2003 г.)***

Лясун жыве ў лесе ў самым гушчары. Не любіць, як у лесе громка крычаць. Тады ён можа так здзелаць, што чалавек заблудзіцца і не зможа выйсці з лесу. Тады нада ўзяць і перадзець наскі ці обуў з левай нагі на правую, а яшчэ лепш усю адзежу вывернуць наізнанку.

***Запісана ў в. Салтанова Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Марыі Канстанцінаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Васілюк А.***
***(2003 г.)***

Калі хто начне клясці якога чалавека, дый скажа: “Каб цябе лешы пабраў”, дык таго ж лешы й забярэ сабе ў лес.

Як пойдзе той чалавек у лес па грыбы, ці за дровамі, дык тады лешы яго ўжо не выпусціць з лесу, замарудзіць яму голаў, пакуль той будзе па лесе блудзіць.

У лешага ё сям’я (жонка і малыя дзетачкі). За жонку ў яго тая маладзіца, якую калісь хто пракляў. Ён забраў яе сабе, таму яна калі-калі, дай паможа якой дзяўчынцы ўбегці ад лешага, калі яна заблудзіць у лесе.

Жонка лешага дапамагала толькі той дзеўцы, якая выняньчыць ёй дзяцей, бо ўсе людзі, якія заблукалі ў лесе, робяць у лешага рознае дзела.

Як хто стрэне лешага ў лесе, дак таму нядобрае робіцца, то як начне загаворвацца ці зусім не можа й слова сказаць, усё зайкаецца. Так робіцца з ім таму, што лешы пугае людзей, блудзіць, кружыць іх па лесе. Лешы як прыкінецца пнём замшэлым, а хто стане на вялікія яго карані, дак яны тады начнуць крумкаць, шапацець і шавяліцца яны, бу змеі. А шчэ стане вялізным дзеравам да й накінецца веццем на чалавека, бы хоча яго ўхапіць. Так пужае лешы людзей у лесе. Шчэ ці рагоча, ці стоне на ўвесь лес.

А калі лешы можа зрабіць што добрае. Як загубяць якія людзі сваё дзіця, дык лешы можа паняньчыць яго ці пакачаць.

Калі хто дапаможыць дзеткам лешага, дак ён (лешы) адплаціць за ета, паможа найсці якое дабро.

Калі хто сільненька ўжо крычыць у лесе, ругаецца, рубіць яго любімыя дзераўцы, дык тых лешы карае ці губіць.

***Запісана ў в. Жахавічы Мазырскага р-на***
***ад Турбал Марыі Рыгораўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Есман А.***

Лясун, пэўна, той, хто гаспадарыць у лесе. І той, хто блудзіць людзей у лесе. Вось, хто такі лясун.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Вараб’ёвай Паліны Ігнацьеўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***
***(2003 г.)***

Лешы цебя можэт так запутаць, што ты будзеш хадзіць можэт і недзелю па лесу, а кагда апомнішся, так ты на ўскраіне леса ўжэ, паўз тваяго дома. Я блудзіла в лесу как-та цэлы дзень.

Лешы пахож на пень у моху, мохам аброшшы, на сучок, на дзерава похож. Есць у него дзевушка – лешыха. Ана сестра вадзяніка і жывёт з нім в балоце. Гаварят, што раньшэ ана была чалавекам, но лешы прывёл её к балоту, і ана ўтанула і парасла мхом.

***Запісана ў в. Чыяне Лельчыцкага р-на***
***ад Зоі Міхайлаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Грынько М.***
***(2003 г.)***

Ідзеш па лесе адна, або з кім-небудзь, а пад нагамі ветачкі гэтыя хрусцяць, а недзе недалёка быццам іхняе рэха. Агледжваюся – нікога. Думаю, дай пойду, пагляджу, можа нехта з дзярэўні па грыбы ці па ягады. Іду, іду, чую – яшчэ хрусціць, падыходжу, раздвігаю гэтыя кусцікі, а там цэлая паляна ягад. Не ведаю, можа гэта так і ёсць лясун нейкі, але ж не бачыла, ну, а калі гэта ён, то дзякуй за добрыя мясціны.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Марашкоўскай Клаўдзіі Іванаўны, 1926 г.н.,***
***(перасяленка з в. Малянік Кармянскага р-на)***
***студэнткай Кандаковай Н.***
***(2003 г.)***

Когда ў лес ідзеш, нужно кусок хлеба кінуць на зямлю, ці на пень палажыць. Аддаеш дань лесавіку. Тады ні змяя не ўкусіт, нікто другой.

***Запісана ў р.п. Бальшавік***
***(раней пасёлкі №№ 1, 2, 3, 4 торфазавода “Бальшавік”)***
***Гомельскага р-на***
***ад Шкода Г.Д., 1949 г.н.***
***студэнткай Петрачковай К.***
***(2001 г.)***

У адной сям’і было многа дзяцей – дзяўчынак. Нарадзіўся мальчык, радзіцелі былі рады. Купілі яму сапагі, шапку, рукавічкі. Было ему 5 гадоў, як ён забалеў. Павезлі яго ў бальніцу. У бальніцы он памёр. Мы з бацькам (ездзіла мая бабуля – Шабулдаева К.Ф., 1912 г.н. з сваім бацькам) паехалі на кані за імі. Калі ехалі назад з ім

через лес, то перад самым лесам конь спыніўся. Гэта была ноч і была слышна, как у лясу яго хто-та клікаў: "Іван! Іван! (так яго звалі)". Потым людзі гаварылі, што эта былі лесавікі. Яны сказалі, што нада была не ў бальніцу везці, а шукаць бабку, штоб палечыла.

***Запісана ў р.п. Бальшавік***
***(раней пасёлкі №№ 1, 2, 3, 4 торфазавода "Бальшавік")***
***Гомельскага р-на***
***ад Петрачковай Л.І., 1951 г.н.***
***(чула ад Шабулдаевай К.Ф., 1912 г.н.)***
***(раней пражывала ў в. Валосавічы Чачэрскага р-на)***
***студэнткай Петрачковай К.***
***(2001 г.)***



Лешага тожа, як дамавіка, ніхто ніколі не бачыў. Жыве ён у лесе на дрэве. Там, дзе ёсць наросты на дрэвах, гэта, кажуць, жытло лешага. Ён для чалавека нічога добрага не робіць, толькі нашкодзіць можа: заблудзіць у лесе, і тады не можна дарогі дадому знайсці. У лесе ён даглядае за дрэвамі, раслінамі. Пугает ён цех, хто хоча што-небудзь дрэннае зрабіць. Напрыклад, дрэва зрубіць. Дазваляў ён толькі грыбы сабіраць і траву палезную.

Яшчэ гаварылі, калі дзіцёнак у лесе пацяраецца, то гэта яго лешы ўкраў. Краў за тое, што нешта нядобрае зрабіў. Паслухмяных дзяцей ён не чапаў. Так мы дзіцям сваім і казалі: "Вось не будзеш слухацца, дык лешы забярэ".

Казалі яшчэ, што лешы можа ў балота завесці чалавека спецыяльна, каб памёр.

Зімой лешыя спяць, а прачынаюцца вясной, і летам, і восенню, пужаюць людзей у лесе.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Прыбышэня Эмы Ігнацьеўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Марусенька Жлобінскага р-на)***
***студэнткай Прыбышэня Ж.***
***(2003 г.)***

У нас на іго кажуць лешы. Пра іго мала хто зная, хіба толькі леснікі. Яны кажуць, што етыя лешыя сільна высокія, як дзірэўя. А када ён возля травы, то ростам з іе. У нас ляснік Іван гавора, што сільна етыя лешыя пужаюць людзей. Іны свішчуць, рагочуць, могуць іржаць як коні, у далоні хлопаюць. І я раз чула лешага. Када маладая была, бегала ў ягады, грыбы. Пачці ўсігда з дружкамі бегалі, а раз сама пайшла. Шукаю грыбы, а то чую, што кот мяўкае. Я палічыла, што можа чый заблудзіў, і кіскаю. Глуш кругом. Гліжу – нікога німа і не мяўкае ўжо. Патом апяць, дзе-та за спіной. Аглінулась – німа нікога. Я так спужалася і бігом дамоў. Гаворацць, што на Агафона етая нечысць з леса вылазіць і бегае па дзірэўням, стагі сена раскідвае. Ішчэ агня і солі баяцца, а рабіну цярпець ні могуць. І калі ўжо заманюць далёка ў лес, нада што-нібудзь адзець навыварат і шапку тожа і прачытаць тры разы нядзельную малітву. І адпусціць.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Восіпавай Марыі Пятроўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Лесавік – цар лясоў. Ён у лесе можа быць любой жывёлінай ці птушкай. Я сама раз бачыла лесавіка.

Шла вечарам, шчэ не цёмна было, то ўслышала, што мяўкае нешта, ну вот как кот саўсем. Іду дальшэ і бачу – дрэва стаіць сухое, а ў ім – дупло, і кот сядзіць там. Красівенькі такі, пухнаценькі, а вочы, ну вот как чалавечыя. Я поняла, што гэта саўсім не кот, а лесавік.

А шчэ вельмі ўжо любіў лесавік заблытваць жанчын. На Каляды было так, што ідзем, ідзем і такая мяцель падымаецца, што нямножна нічога бачыць. А тут рэзка вецер уціхне, а ты ўжэ ў другой старане ад той, куда ішоў.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Нікіценка Ніны Ільінічны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

У любым лесе заўжды жыве лесавік, бо лес – ета ягоны дом ужэ. Сам ён (лесавік) росту маленькага, але можа быць і высокім. А перад людзьмі ён з’яўляецца часцей у выглядзе жывёл. Але аднойчы я бачыла сваімі вачамі гэтага лесавіка.

Іду па лесу… І тут я пачула: “Гей! Гей!”

Калі павярнулася ў другі бок, то замеціла старога дзеда, які быў у белым адзенні. У яго была сівая, белая-белая барада, а ў руках у яго быў белы коўш.

Лесавіка трэба паважаць, а калі прыходзіш да яго ў лес, то патрэбна пытаць дазволу назбіраць ягад ці грыбоў. Лесавік у такім выпадку лагоднее і нічога дрэннага табе не зробіць.

***Запісана ў в. Сведскае Рэчыцкага р-на***
***ад Мяхонька Уліты Васільеўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***



Лесавік – ета гаспадар, галоўны ў лесе. Етага дзеда рэдка ўбачыш у лесе, бо той не хоча паказвацца. Але зрэдку ўсё ж і ён паказваецца.

Дзед маткі маёй паехаў з хлопцамі ў ноч коней пасціць і адстаў ад іх. Прыехаў на паляну, атагнаў сваіх каней у кусты, расклаў касцёр і пазваў хлопцаў. Чуя ў адказ: “О-о-о!” Тады ён надумаў ехаць да хлопцаў. Тут чуе зноў: “О-о-о!” Праз некаторы час гэтыя гукі сталі бліжэй. Ён спужаўся, быстрэй запрыгнуў на каня і ўцікаць. А гэты “О-о-о” за ім бліжэй і бліжэй. Ён абярнуўся – а галавешкі лятали да нябес.

***Запісана ў в. Наспа Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Астапавай Ніны Барысаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Лесавік – дух такі ёсць, у лесе ён жыве, глядзіць, каб у ім парадак быў, жывёл пасе, глядзіць за дрэвамі. Да людзей ён нядобры: і пужае, і з дарогі збівае, а то ж можа і ў балота завесці. А каб ад яго абараніцца, трэба пераапрануцца: што-небудзь з адзежы навыварат надзець, разуцца і левае на правую, а правую на левае чобаты над-

зець. Ды шапку выверці, або паверні яе назад казырком. А так жа памагае і малітва нядзельная. Прачытай яе і ідзі смела, а яшчэ добра ў дарогу памаліцца, каб Бог благаславіў.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пузан Алы Піліпаўны, 1928 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

Лясун – гэта нячысцік, мы яго завём лешы. Паяўляецца ў лесе, калі нельга ў яго хадзіць людзям, калі свята якое, на Уздзвіжанне. Лешы людзей у такі дзень пугае, збівае з дарогі, а сам не паказваецца. Нельга яго ўбачыць нікаму, заводзіць у балоты. Жывёлу сваю беражэ, таму і паляўнічых не любіць, асабліва летам. Яны ходзяць не ў срок, дзетак жывёл, значыць, яго губяць.

***Запісана ў в. Галоўкі Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Валянціны Іванаўны,***
***студэнтам Сераком А.***

## Мара



Мара, ну тое ж можна сказаць, што і кікімара, нячыстая сіла. Крывосіла людзям, рабіла розныя шкоды, ноччу магла душыць спячага чалавека. У хляве ганяла (пужала) худобу, наводзіла балезні. У сенях лажылі ад яе тапор, у хляве на некаторае ўрэмя вешалі дохлую сароку.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н., Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н., студэнткай Мельнічэнка Н.***

Мара душыць людзей у сне. Штоб яна прапала, трэба падумаць, што ўсё сніцца. Калі чалавек прасынаецца, то мара счазае.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на***
***ад Пікас Ганны Яфімаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Кілаш А.***

Мара – гэта страшэнная баба. Вой-вой-вой. З чорнымі валасамі, чорнымі вачамі і лапы ў яе кароткія, махнатыя. Яна душыць дзетак малых, калі тыя спяць. Дзеці вельмі яе баяцца.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н.,***
***Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Мара – гэта злы дух, які нагадвае смерць. Людзі ўяўлялі мару чалавекападобнай істотай ростам з дзіця. Яна пакрытая пер’ем. Мара можа мяняць свой выгляд.

Мара любіць здзеквацца над людзьмі, якія спяць, па-гэтаму людзям сніўся неспакойны сон. Мара можа задушыць чалавека, калі той спіць. Мара любіць шкодзіць у хаце. Шмат няшчасцяў прыносіць мара людзям.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Паляшчук Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

## *Палявік*



Адзін мужчына, яго Васілём звалі, раз у полі сказаў, што ён палевіка не баіцца. Сказаў і забыўся. А праз некаторы час затрымаўся ён на полі, бо трэба было нешта дарабіць. І так ён стаміўся, што рашыў крыху паляжаць на полі. Лёг ды заснуў. А праз некаторы час прачнуўся Васіль ад болю. Адразу нічога не мог зразумець, а потым убачыў, што сам палявік кідае ў яго камяні. Усхапіўся Васіль ды пабег дадому. Пасля таго выпадку мужчына той болей нічога дрэннага наконт палевіка не казаў.

***Запісана ў в. Старыя Грамыкі Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Г.І., 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Хлопец шоў полем дамой. У полі была только адна канава, якую нада была перапрыгнуць. А ему встрецілось канаў сто. Гаварыў, што пака шоў, дык перапрыгваў адну за другой. Так палявік хацеў замучыць хлопца.

***Запісана ў р.п. Бальшавік Гомельскага р-на***
***(раней пасёлки №№ 1, 2, 3, 4 торфазавода “Бальшавик”)***
***ад Шкода Г.Д., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петрачковай К.***
***(2001 г.)***

Яшчэ мая бабуля казала, што палявік маленькага росту, з валасамі спелай пшаніцы і такой жа барадой. Таму яго вельмі рэдка бачуць людзі. Яго нільзя зліць, каб не наклікаць бяды і на палях быў ураджай. Так што яго людзі стараліся задобрыць на сваю карысць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Ростам гэта істота можа быць з маленькую травінку ці самы высокі каласок. Твар у яго заўсёды задуменны, як у сапраўднага гаспадара. Ён глядзеў за палямі, каб усё было добра і злаваўся, калі што не па-іхняму.

***Запісана ў в. Людзвін Хойніцкага р-на***
***ад Лобана Юліяна Антонавіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

# Русалка

На пытанне: “Хто станавіўся русалкай?” – жыхары Гомельшчыны выказвалі некалькі тыпаў версій. Паводле адной з іх, найбольш распаўсюджанай, русалкамі маглі стаць прыгожыя дзяўчаты, якія ўтапіліся: “русалкі – ета дзеўкі такія, што ўтапіліся” (в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на), “русалкі – то патануўшыя дзеўкі, але якіх патапіў вадзянік“ (г. Гомель), “эта вутопленіцы, маладыя дзяўчыны” (в. Лядцы Гомельскага р-на), “дзяўчаты, якія памерлі або патанулі, звычайна ператварыліся ў русалку” (в. Сяменча Жыткавіцкага р-на), “русалками становились молодые девушки, которые утопились” (г. Гомель), “русалкі – тыя жэншчыны, якія ўтапіліся” (в. Прудок Мазырскага р-на), “русалкамі становяцца маладыя дзеўкі, якія ўтапіліся” (в. Чырвоная Буда Добрушскага р-на), “гэта ўтопленыя маладыя дзяўчаты” (в. Сівенка Веткаўскага р-на), “русалкамі маглі стаць незамужнія дзяўчыны, ці, можа, тыя дзевачкі, якія ўтапіліся і іх не знайшлі” (в. Кавалёў Рог Чачэрскага р-на), “русалкай можа быць незамужняя дзеўка, каторая ўтопіцца” (в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на).

Заўважым, што апошнія звесткі дазваляюць вылучыць нават асобна версію паходжання русалкі ад дзяўчат-нявест. Можна пагадзіцца з высновай Л.М. Вінаградавай, што большая частка такіх адказаў “сканцэнтравана ў зоне Заходняга Палесся” [1, с. 146].

Згодна з другой версіяй, русалкамі станавіліся дзеці, памёршыя нехрышчонымі: “русалкі – маладыя дзяўчынкі, якія памерлі нехрышчонымі” (в. Хутар Светлагорскага р-на), “станавіліся русалкамі…дзеткі, памерлыя да храшчэння” (в. Бабоўка Жлобінскага р-на), “русалкі…узніклі ў выніку ператварэння…утопленых немаўлят, дзяцей, што нарадзіліся мёртвымі ці былі задушаны” (в. Роза Люксембург Ельскага р-на), “русалкі, уродзі бы, тыя народжаныя мёртвыя дзеці, нехрышчоныя дзевачкі”, гэта “дзіця, якое памірае да хрышчэння” (г. Гомель), “нехрышчоныя дзеці после смерці станавіліся русалкамі” (в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на).

Вылучаецца асобная група павер’яў, паводле якіх паходжанне русалак звязваецца з дзяўчатамі, якіх яшчэ ва ўлонні праклялі маці: “русалкі – гэта дзяўчаты, што ўтапіліся ў рэчцы, якіх праклялі маткі” (в. Шылавічы Чачэрскага р-на), “дзяўчаты, якія былі праклятыя маці” (в. Бабоўка Жлобінскага р-на), “дзяўчыны, якіх праклялі маці” (г. Гомель), “дочкі, якіх праклялі бацькі” (в. Ванюжычы

Петрыкаўскага р-на), “то дочкі, праклятыя бацькамі, каторыя патапіліся” (в. Баец Калінкавіцкага р-на).

У пераважнай большасці сведчанняў інфарматараў можна ўбачыць суіснаванне розных версій паходжання гэтай дэманічнай істоты жаночага роду.

Па сутнасці і ранейшы палескі матэрыял, які прааналізавала Л.М. Вінаградава, і пазнейшыя экспедыцыйныя запісы, зробленыя на тэрыторыі Гомельшчыны, пацвярджаюць высновы Л.М. Салавей, што русалкі “ўзнікаюць у выніку ператварэнняў маладых тапельніц-самазабойцаў, дзяцей, праклятых яшчэ ў мацярынскім улонні, немаўлят, што нарадзіліся мёртвымі, ці загубленых (задушаных, утопленых) адразу пасля нараджэння” [2, с. 434].

Даследчыца І. Багдзевіч падкрэсліла, што русалка – гэта вобраз светлай, чыстай нябожчыцы. Згодна з паданнямі, гэта дзяўчына, якая не дажыла да свайго шчаслівага дня, вяселля. Часцей за ўсё скончыла жыццё з-за няшчаснага кахання. “Яна не памерла такой смерцю, каб заслужыць рай. Але зведала столькі пакутаў, што не павінна быць і ў пекле. І вось, можа, ад шкадавання, ёй дадзены празрыстыя прахалодныя хвалі, як адпачынак ад агню таго болю, які перанесла на зямлі” [3, с. 120].

Вобраз русалкі з’яўляецца агульнаславянскім (а магчыма, і агульнаіндаеўрапейскім), бо вобразы-аналагі гэтых дэманічных істот сустракаюцца ў культурах іншых народаў. Яднае іх ідэя аграрна-магічных уяўленняў, звязаных з ураджайнасцю нівы.

Паводле даследавання Л.М. Вінаградавай можна вылучыць чатыры тыпы апісанняў знешнасці русалак:

а) “страшныя, немаладыя, выродлівыя”;

б) “прыгожыя маладыя дзяўчаты”;

в) “паўжанчына-паўрыба”;

г) нейтральны тып (у вобліку дзіцяці або жанчыны з распушчанымі валасамі) [1, с. 149].

Звернемся да больш шырокай геаграфіі запісаў беларускіх матэрыялаў, каб падкрэсліць, наколькі шматпланавы вобраз гэтай дэманічнай істоты, звязанай не толькі з вадой, але і з лесам, і з полем. “Так, русалка магла адначасова выступаць як вадзяны, лясны і палявы, дух урадлівасці і дух лесу; яна магла ўспрымацца і як заложны нябожчык (пракляты або заўчасна памёршы чалавек), і як паўбагіня” [4, с. 454].

На карысць версіі аб тым, што русалкі – гэта прыгожыя маладыя дзяўчаты, сведчаць шматлікія наступныя звесткі: “Эта такія красівыя дзеўкі. У іх длінныя светлыя валасы” (в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на), “русалкі – то прыгожыя дзяўчыны, каторыя ўтоплі” (г. Гомель), “яны ў вадзе жывуць, прыгожыя такія дзяўчыны, очэнь прыгожыя” (в. Макрэц Брагінскага р-на), “яны прыгожыя, з доўгімі валасамі” (в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на), “гэта вельмі прыгожыя дзяўчыны, яны жывуць у вадзе, у іх вельмі доўгія валасы” (г. Гомель), “русалка – гэта красівая дзеўка з бальшой касой…” (в. Калюды Кармянскага р-на), “русалкі – гэта прыгожыя дзяўчаты з доўгім, як у рыбы, хвастом” (в. Карма Добрушскага р-на), “русалки – это красивые девчата с долгими волосами и хвастом замест ног" (г. Гомель), “русалка – істота жаночага полу, красуня з доўгімі валасамі і хвастом” (в. Азершчына Рэчыцкага р-на), “Гэтыя дзеўкі – русалкі – былі сільна красівыя, з бальшымі касамі” (в. Выішча Чачэрскага р-на) і інш.

У большасці прыведзеных прыкладаў знешні воблік русалкі звязаны з паўжанчынай-паўрыбай.

На пытанне, як выглядаюць русалкі і дзе іх можна было сустрэць, былі атрыманы яшчэ і наступныя адказы. “У лесе жылі русалкі. Яны былі голыя. Вылезуць з вады, схопяцца за дзерава, як скалыхнуцца і ў ваду. Патом вылазяць і ляжаць на берагу. У русалак былі длінныя валасы, красівыя яны жэншчыны з нагамі” (запісана ў в. Папоўка Рагачоўскага р-на ад Рудкоўскай Надзеі Мікалаеўны, 1946 г.н.), “на лузе бачылі ў белым плацці дзяўчыну, якая з ракі выйшла, і хадзіла па жыце” (запісана ў в. Гурыны Мазырскага р-на ад Аляксеевай Галіны Людзвінаўны, 1932 г.н.), “Калі я была маладая, я работала на кані. Адзін раз перавозіла сена з адной дзярэўні ў другую, а ехаць трэба было чэраз поле, дзе расло добрае жыта. Быў сонечны, цёплы дзень. І вось я еду чэраз гэта поле, а лошадзь узяла ды астанавілася. Як я яе не калаціла, ўсё роўна стаіць як укопаная. Тут я вырашыла павярнуцца і паглядзець, а можа хто едзе. Тут я паварочваю галаву, а па полю бяжыць русалка. Яна была адзета ў белае плацце і з длінным чорнымі валасамі. Бегла яна ў старану могілак. Пасля гэтай сустрэчы я хварэла” (Запісана ў в. Прыстараны Гомельскага р-на ад Краўчанка Алы Ігараўны, 1923 г.н.).

Як бачым, уяўленні аб знешнім выглядзе русалкі неаднародныя. У адных месцах (зах. Палессе, Украіна) лічылі, што русалкі выглядаюць як маладыя прыгожыя дзяўчыны без адзення

або ў белым адзенні; іншы раз яны з'яўляюцца ў тым самым выглядзе, які мелі падчас іх пахавання – у святочным убранстве, з распушчанымі валасамі і з вянком на галаве (так, паводле мясцовых звычаяў, апраналі памерлых дзяўчат, што сімвалізавала для іх вяселле ў час пахавання).

Калі прааналізаваць прыведзеныя і іншыя былічкі пра русалку ў адносінах да яе знешняга выгляду, то можна вылучыць некалькі тыпаў яе знешняй характарыстыкі. Па-першае, ва ўяўленнях жыхароў Беларусі, гэта прыгожыя дзяўчаты: "эта такія красівыя дзеўкі, у іх длінныя светлыя валасы" (Буда-Кашалёўскі р-н, в. Рагінь), "русалкі – прыгожыя дзяўчыны, каторыя ўтоплі" (г. Гомель), "відзелі русалак – дзевачкі такія" (г. Жлобін). Другі тып – гэта русалкі – паўлюдзі-паўрыбы "русалка – получалавек, полурыба, у яе толькі хвост рыбі, а ўсё астальное чалавечае: і рукі, і ліцо" (Буда-Кашалёўскі р-н, в. Шырокае). Да трэцяга тыпу павер'яў адносяцца ўяўленні пра русалак як пра "нехрышчоных дзевачак" (Гомельскі р-н, в. Брылёва). Чацвёрты тып павер'яў (адзінкавы паводле запісаў) звязвае русалку з "вадзянымі жэншчынамі, вадзянымі прыведзенкамі" (Гомельскі р-н, в. Целяшы). Пяты тып павер'яў суадносіць русалку з нячыстай сілай: "гэта нечысць, сіла нячыстая: во етыя во лесуны, русалкі, чэрці, або начніцы – тыя, што абычна толькі ноччу" (Рагачоўскі р-н, в. Ціхінічы).

У цэлым у міфалагічных апавяданнях русалка – гэта маладая жанчына; часам падкрэсліваецца яе прывабнасць. Найбольш характэрная рыса русалак – іх доўгія распушчаныя (часта "калматыя") валасы.

Канкрэтныя матэрыялы дазваляюць зрабіць вывад пра амбівалентнасць гэтага міфалагічнага персанажа: "русалкі бываюць добрыя і злыя" (Буда-Кашалёўскі р-н, в. Рагінь). Асабліва яскрава гэта асаблівасць выяўляецца на ўзроўні функцыянальнасці гэтага персанажа ў розных лакальных традыцыях. З аднаго боку, гэтых істот баяліся, бо яны маглі нашкодзіць чалавеку: "утапіць могуць, распугваюць рыб ад берага, калышуць лодкі людзей, зацягваюць пад ваду плаўцоў" (Буда-Кашалёўскі р-н, в. Рагінь), "яны могуць чалавека зашлакатаць" (Светлагорскі р-н, в. Хутар), "русалкі не любяць людзей, могуць пагубіць іх" (Чачэрскі р-н, в. Будзішча), "Русалка к сабе бярэ. Выйдзе з мора да кажа: "Месца е, а душы няма." Это дзе людзі топяцца. Ну от хлопец утапіўся, дак казалі, ну от мелка саўсім, дак выходзіць русалка ды: "Месца е, а душы няма". А

ён пакупаўся, памыўся, ну от і нежывы – ўтапіўся. Мала хто яе чуе. Трэба апасацца месц, ну купацца блізко, ці аднаму і ні лезці к таму месцу. Трэбо, каб кампанія то была. Месца, а русалка ці не, а вада возьме. Кажуць, беражонага Бог беражэ. Мол, ні ідзі купацца, дак і ня ўтонеш. Адзін ня ідзі ў воду і агонь тушыць ня ідзі. Расказвалі, адзін мужчына, так у дванаццаць часоў ночы, за сталом сядзелі, а патом пашоў купацца. Абыкнавенна выкапанае іскуствянна возера. Эта было ў Мялешкавічах. Пайшоў, толькі нырнуў, ну толькі ўвайшоў у воду – гоп, а выйшаў нежывы. І жонка яго на беразе стаіць, а ён нежывы. І ніхто не спасаў яго" (Запісана ў в. Асавец Мазырскага р-на ад Міхневіч Ганны Маісееўны, 1940 г.н.). У асноўным месца знаходжання русалак – вада, але і на дрэвах яны таксама могуць сядзець. І яны вельмі любяць людзям шкодзіць: то ў ваду каго-небудзь з мужчын зацягнуць, а то і дзяўчыну іншы раз забяруць, але вельмі рэдка, толькі тады, калі пазайздросцяць прыгажосці.

Паводле ўяўленняў жыхароў Гомельскага р-на, "русалкі – гэта тыя людзі, каторыя тапіліся, утопленікі. Душа іхняя выходзіць з вады ў дванаццаць ночы ў белым, у асноўным жанчыны. Яны маглі прывлеч хлопца, завесць у балота. Потым хлопцы казалі, што русалкі з імі піравалі і гулялі цэлую ноч, а ўтрам нічога не было". Лічылася ў народзе, што русалкі прадчуваюць бяду і прыходзяць папярэдзіць сваіх родных. Паводле ўспамінаў некаторых інфарматараў, русалкі не шкодзяць, а могуць толькі напалохаць чалавека або пажартаваць з яго.

Хаця па свайму паходжанню русалкі – гэта душы дзяўчат, памершых да вяселля, аднак шырока вядомы павер'і аб іх мацярынстве (русалка з'яўляецца з дзіцём на руках, пагражае таму, хто не клапаціўся пра яе дзіця), а таксама аб здольнасці русалкі карміць грудзямі чалавечых дзяцей, апекаваць нованароджаных, пакінутых жанчынамі ў полі і г.д. У народзе кажуць, што русалкі ў абмен на завіты вянок могуць паслаць жаніха. Знаходжанне русалак у ржаным або канапляным полі матывуецца ў народных павер'ях тым, што русалкі ахоўваюць пасевы і садзейнічаюць ураджаю.

У першапачатковых народных уяўленнях дэманічны вобраз русалкі абагаўляўся і звязваўся з клопатамі пра пладаноснасць зямлі, пра яе ўраджайнасць. Але з цягам часу, як сведчаць вучоныя, у выніку ўзаемадзеяння язычніцкіх і хрысціянскіх вераванняў многія старажытныя боствы захавалі ў сабе амбівалентныя рысы: выступалі то як памочнікі чалавека, то як яго ворагі. Паводле меркавання Г.А.Барташэвіч, русалкі – загадкавыя істоты, якія выклікаюць да ся-

бе дваякае стаўленне: “пачцівае, як да бостваў (пра што сведчыць прысвячэнне ім абрадаў і песень), і пагрозліва-засцерагальнае (выгнанне і рытуалы ахоўнай магіі)” [5, с. 64].

Маючы на ўвазе апошні момант адносін да русалак, спашлемся на цікавыя віды засцярог, якія існавалі ў свой час на Смаленшчыне. Фалькларыст-збіральнік У.М. Дабравольскі паведамляе: “Каб выратавацца ад русалак у час іх нападу, трэба было абвесці вакол сябе рысаю, у гэтым крузе і стаць. Русалкі тады не падступяцца, паходзяць, паходзяць каля рысы і схаваюцца” [5, с. 64]. Далей фальклярыст прыводзіць канкрэтныя прыклады духаўскіх песень, у якіх дзяўчаты просяць бабулю абвесці іх чарадзейным кругам і абсыпаць аўсом і хмелем:

А ты, бабушка Купріяноўна,
Ты ж абчарці нас залатым нажом,
Ты ж абсей нас ярым аўсом,

У адказ бабуля абвяла рысаю дзяўчат у крузе, гаворачы:

Хто ў чарце – то нашы,
За чартою – то не нашы! [5, с. 64]

Зыходзячы са сведчанняў У.М. Дабравольскага, на Духаўскім тыдні, згодна з народнымі павер’ямі, ходзяць па лесе голыя жанчыны і дзеці, пры сустрэчы з якімі трэба абавязкова накінуць на іх хустку ці якую-небудзь анучку. Калі ж нічога з сабой няма, то трэба адарваць рукаў ад сукенкі і кінуць на русалак, бо ў адваротным выпадку пагражае непазбежная смерць. Павер’е адносна дзяцей русалкі, якія стогнуць, было надзвычай распаўсюджаным. Напрыклад, сялянка з в. Данькова Фёкла Маркаўна расказала У.М. Дабравольскаму наступнае: “Я ехала праз лес са сваім бацькам, праязджаючы каля адной вялікай ёлкі, мы пачулі жалобны стогн, быццам маленькія дзеці плакалі. Бацька шапнуў мне на вуха: “Гэта дзеці русалкі плачуць!” Мы прыкрылі месца каля ёлкі хусткай, і іх плач сціх” [5, с. 65].

Іншы раз вінавацілі русалак і тады, калі згубіцца скаціна. У такім выпадку старыя людзі казалі, што трэба пакласці “аднос” русалкам, каб згубленую жывёліну знайсці. “Аднос” раілі рабіць так: “Спляці лапці, седзячы ў лесе на пні, разарві новую жаночую сароч-

ку і зрабі з яе анучы, і разам з хлебам і соллю ўсё гэта закруці ў чыстую анучку, перавяжы чырвонай лентай і аднясі на перакрыжаванне ў лес. Там, паклаўшы ўсё гэта на якое-небудзь дрэва, нахіліся да зямлі, не хрысцячыся, на ўсе чатыры бакі і гавары: “Прашу вас, русалкі, мой дар прыміце, а скаціну вярніце!” [5, с. 65].

Каб засцерагчыся ад згубнага ўздзеяння русалкі, прамаўлялі замовы: “Вадзяніца, лесавіца, шалёная дзявіца! Адвяжысь, адкацісь, у маём дварэ не кажысь; табе тут ня век жыць, а нядзелю быць. Ступай у рэчку глыбокую, на бярозу высокую. Бяроза, трасісь, вадзяніца ўймісь. Амінь” (Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на ад Адамавай Кацярыны Іванаўны, 1936 г.н.), або “Вадзяніца, лесавіца, шальная дзявіца! Адвяжыся, адчапіся, у мой двор не кажыся і табе тут не век жыць, а нядзелю быць. Ступай у раку глыбокую, на асіну высокую. Асіна, трасіся, уйміся. Я закон прынімаю, златы крыж цалаваў; мне з табой не вадзіцца, не куміцца. Ступай у бор к лесному хозяіну, ён цябе ждаў, на імху пасцель слаў, муравой усцілаў, у ізгалоўе калоду клаў; з ім табе спаць, а мне, хрышчонаму, цябе не відаць. Амінь” (Запісана ў в. Гарадзец Рагачоўскага р-на ад Тамашовай Ганны Дзянісаўны, 1948 г.н.).

Такім чынам, аналіз павер’яў, звязаных з русалкай, пераконвае, наколькі яны шырока лакалізаваны, багатыя і шматстайныя, калі мець на ўвазе сюжэты міфалагічных аповедаў, і яскрава дэманструюць амбівалентнасць.

Як адзначае Л.М. Вінаградава: “Не цалкам зразумелым заставалася і пытанне аб суадносінах павер’яў аб русалках і дадзеных абраду “праводзін русалкі”: па матэрыялах павер’яў гэты персанаж уяўляўся ў большай ступені звязаным з “нечысцю”, небяспечнай і шкаданоснай сілай, па дадзеных русальнай абраднасці – больш відавочнай станавілася сувязь русалак з вегетатыўным культам, з расліннасцю, жытам, бярозай, з ідэяй плоднасці і ураджайнасці” [6, с. 88].

## Літаратура:

1. Виноградова, Л.Н. Народная демонология и мифо-ритуальная традиция славян / Л.Н. Виноградова. – М. 2000. – 432 с.

2. Беларуская міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік. – Мінск: “Беларусь”, 2004. – 592 с.

3. Багдзевіч, І. Трылер над вірам // Маладосць / І. Багдзевіч. – 2006 – № 9. – С. 119 – 122.

4. Шапарова, Н.С. Краткая энциклопедия славянской мифологии / Н.С. Шапарова. – М.: Астрель Русские словари. 2004. – 624 с.

5. Коваль, У.І., Новак, В.С. Беларускія народныя святы і звычаі / У.І. Коваль, В.С. Новак. – Гомель, 1993. – 88 с.

6 Виноградова, Л.Н. Мифологический аспект полесской "русальной" традиции // Славянский и балканский фольклор / Л.Н. Виноградова. – М.: Наука, 1986. – С. 88 – 130.

## Русалка



Русалка – ето напалавіну дзеўка, напалавіну рыба. Сама я іх не бачыла, а чула, як у вёсцы людзі казалі. Быццам русалкамі становяцца дзеўкі, якія да замужаства грэху нарабілі. Жывуць яны ў рачным чароце. Ды так красіва пяюць ноччу, што людзі ўснуць не могуць. Не любяць русалкі свята Купалле, бо як маладыя дзеўкі наплятуць вянкоў, ды пусцяць па вадзе, то русалкі шкодзяць ім, бо самі яны не могуць зведаць шчасця кахання. А так яны добрыя.

***Запісана ў в. Крыўка Рагачоўскага р-на***
***ад Грамыка Н.В., 1925 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***

Пра русалак разнае гаварат. Но чашчэ всево гаварат, што эта маладыя, незамужнія дзевушкі, каторыя ўтапіліся.



Ані жывут у рэчках. Інагда выходзяць на бераг. І тады це людзі, што паблізу, песні іх слышат. Можна паткрасца, паглядець на ніх. А ані все красівыя, как адна. Патаму еслі какой мужык к нім пападзёт – пішы прапала. Ані ево сваей красатой, славамі заманівают пад ваду. Он тоне. Паэтаму к цем местам, дзе русалкі водзяцца, хадзіць вабшэ апасна.

А ёсць русалкі, каторыя в жыце водзяцца. Ані тожа очэнь красівыя, но в жыце жывут. Русалкі эці заваражывают хлопцэв, мужчын. І нет ужэ сілы вырвацца ат ніх. А еслі какой чалавек вырвецца, ані ево всё равно словят і зашчакочуць да смерці. А большэ нічэво не знаю пра ніх.

***Запісана ў в.Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Брухавецкай Ніны Андрэеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Чаушнік Н.***

Русалкі ёсць. Яны сушчыствуюць у свеце. Я іх ні разу не бачыла, але гавораць:

На граной нядзелі русалкі сядзелі.
Русалкі сядзелі, на дзевак глядзелі.
Дзевачкі-сястрычкі, падайце вадзічкі
З халоднай крынічкі.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Ісатчанка Лукер'і Харытонаўны, 1920 г.н.,***
***студэнткай Малашанка В.***

Русалка – маладая дзеўка, якая жыве ў вадзе. У яе длінныя косы зялёнага цвету.

Гавораць, што русалкі – гэта дзяўчаты, што ўтапіліся ў рэчцы, якіх праклялі маткі, а такжэ тыя, хто памерлі да хрышчэння. Сваёй

красатой яны заварожвалі маладых хлопцаў. Яны могуць утапіць людзей, якія купаюцца ў поўнач. Ад іх можна спасціся па-рознаму: чытаннем малітваў, а такжэ з дапамогай часнаку, цыбулі, бо яны не любяць гэты запах. Ёсць нядзеля русалкі: пасля Троіцы. Таму людзі баяліся ісці ў лес і ў поле. А таксама купацца. На гэтай нядзеле нічога не рабілі. Калі ж хтосьці гэта рабіў, іх чакала бяда: магло нарадзіцца цяля з трыма нагамі, без вачэй, сківіцы і г.д. З-за гэтага людзі маглі хварэць.

***Запісана ў в. Шылавічы Чачэрскага р-на***
***ад Герасечкінай Марыі Паўлаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Купрацэвіч Т.***



Колісь боялісь русалок. Я помню была дзеўкай малодою после войны, дык мы проводзілі ў недзелю. Так я не знаю, адкуль яно выйшло і што, но ў нас быў обычай. Е русальны тыдзень улетку. І мы проводзілі ўсегда русалку. Ето после Троіцы. Проводзілі і спявалі:

Русалочку до броду,
А сома пойду до дому,
Провяду русалочку до начы,
А сама пойду до дзяжы.

А потом:

Ты спусці меня, Боже,
Із сосны до долу,
А з долу додому
К пуховой подушке.

Нас собіралось богато дзевок. Убіралі одну дзеўку русалку, у которой длінные былі волосы. Ёй шчэ вянок надзявалі з мошніка. Это растуць такія широкія лісты, на которых вяжуцца кочеружкі. І

богато-богато собіралі цветоў, і венкоў богато русалцы на голову ложыш, і по обое стороны под рукі яе ведом по вуліцы, каждая по своей вуліцы. У нас было село вялікое. І дзеўкі своіх подруг со своей обіцелі прыгонялі так, штоб улетку не поймала русалка і не слакатала, калі поймае. Ну, это было колісь.

Тады хлопцы ідуць упярод у конец сяла. Там дуб стоіць, іменно ў концы вуліцы. І хлопцы тады бяруць, наложуюць косцёр, і мы тода ідом к етаму дубу, мы обходзім тры разы дуб. Усе дзевачкі дзержаць ету русалку, і берем етыя венкі з головы і спяваем. А тады нам нада додому бегці і нада перапрыгнуць черэз эты косцёр первой русалцы, а потом остольным, а хлопцы по ногам крапівой білі. Такі обычай быў. Потом прыбягаеш додому, ужэ осінку ломалі, у капусту засажувалі. Казалі, вельмі добра будзе капуста расці.

***Запісана ў в. Карані Светлагорскага р-на***
***ад Малец Вольгі Якаўлеўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кіраў (раней Махаеды, Мухаеды)***
***Нараўлянскага р-на)***
***студэнткай Лагута Ю.***

Аднойчы ідом па раўчаку, а там хтосьці плачацца-плачацца. Мількаюць дзеці, а гэта былі русалкі. Яны не пугалі нас.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Панамарэнка Ніны Міхайлаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Малашанка В.***

У нас яшчэ ў лесе русалка жыла. Косы длінныя. За косы зачэпіцца і крычыць: “Гу-шы, гу-шы!”

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Сталяровай Феафаніі Іванаўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Смелы Лоеўскага р-на)***
***студэнткай Журо А.***

Маці заўсёды пужала русалкамі. Збяромся калі на возера, то адразу пужала, заказычуць, глядзі, зацягнуць у возера. Асабліва, калі гадалі ўноччы. Казалі, што русалкі больш заманьвалі хлопцаў маладых, бо з-за іх жа і зрабіліся яны такія.

Бабка мая яшчэ казала. Дзеўка маладая была ў іх, батрачыла ў пана. А ў таго быў сын малады, палюбіліся яны. А што яму тая любоў, у таго такіх дзевак, як мух. Дык шчэ гэтая з прастога люду.

Ну, ён папорціў-та дзеўку, ды й кінуў. А тая ад яго дзіцём займелася, а нікому казаці не магла, акрамя яго. А пан малады той ій чуці нічога ні чуў, як і чужая яна яму сталася. Бедная дзеўка з гора таго і пайшла на возера, ды й утопла ў ім цяжарная. Казалі, што слёзы яна лье ў тое возера кожну ночку, та і возера тое ад яе горкіх слёз за ноч папаўняецца, а зраніцы падсыхае. Ніяк не выплача яна таго гора та. А пан той, казалі, так і не паймеў шчасця ў жыцці. Была ў яго жонка маладая, прыгожая, а дзіцё-та яму не падарыла.

Русалкі тыя бялёсыя такія, з валасамі раскудлачанымі, доўгімі. Казалі, што ў ноч на Купалле выходзяць яны на бераг, у круг становяцца, карагодзяць, песні жалобныя пяюць. А каго пабачуць, уцягваюць у свой карагод – ды ў возера... Чалавек у той час нічога не чуе і не бачыць, акрамя іхніх слоў.

У адну святочную ноч русалкі рабілі свой карагод, а іх спевы пачуў хлапец. Гэта мне казала цётка мая, бо ў іхняй вёсцы жыў хлапец адзін – Васіль. Ён, казалі, бачыў тых патопленых дзевак. Дык жа ж пасля таго ён сам збялеў, як тыя русалкі. Бялізны на галаве набавілася. Казаў ён, што ўратавала яго дзеўка-русалка, якая там і карагодзіла. Пры жыцці шчэ жыла яна ў той жа ж вёсачцы, дзе і ён, добра яго ведала, шчэ як малечамі былі. Дык вось яна і не дала заказытаць і зацягнуць-та ў возера хлапца таго-та.

Возера ў нас нейк вялікшае было. Гэта зараз пераплюнуць можна. Дзядзькі, ой, як рыбачыць любілі. Ад іх многа ўсялякіх гісторый народ чуў. Бацька, бывала, прыйдзе і кажа, што стогнуць яны тамака ў возеры, а калі і недзе на берагу. Упоцемках на возеры страшна ім было. Казалі, што яксьці нават іхнюю лодку вывернулі, дзядзькоў выпужалі, а самі сакочуць. Некаторыя дзядзькі казалі, што русалкі пейсамі сваімі даўгімі ў ветках заматаюцца, павіснуць на вербах над самай вадою і ллюць слёзы горкія якразачкі ў возера. На каго тыя слёзы капнуць з жывога люду, абжыгаецца той. Яны-то самі халодныя, як лёд, а слёзы іхнія гарачыя, як смала, бо накіпела гора іхняе, вось і лле душа слёзы горкія ды гарачыя аб лёсе сваім гаротным.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***

Русалкі жывуць у вадзе. Калі мой дзядзька служыў у арміі ля мора, то ён не раз бачыў, як русалка гуляла па моры. Ён захацеў яе сфатаграфіраваць. Схаваўся за камень, колькі ён там праляжаў – не

ведаю. Бачыць: выходзя з вады такая красівейшая жэншчына. Дзядзька і сфатаграфіраваў яе. І мне паказваў гэту фотакартачку. Грудзі ў русалкі, як у жэншчыны, а толькі быў у яе рыб'і хвост.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на***
***ад Сафонавай Тацяны Захараўны, 1927 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Мядзвежжа Чачэрскага р-на)***
***студэнткай Малашанка В.***

Русалка – дзяўчына з дліннымі валасамі, якая шкодзіла людзям. На палях закручвала лапекамі каласы, тады людзі з гэтых лапек ірвалі каласы, звязвалі ў сноп, неслі дамоў і спальвалі. Спаляныя (попел) ставілі каля кута, каб яно ачысцілася ад нячыстай сілы і ўзяла святую сілу. Попелам пасевалі на полі, па лапекам, каб ізгнаць русалку. Так ужэ людзі абараняліся ад яе шкоды. Была русалка і вадзяная, якая тапіла людзей, калі яны купаліся. Гэта былі ў асноўным людзі, якія не насілі хрэшчыка, не маліліся перад тым, які зайсці ў ваду.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.,***
***Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Мельнічэнка Н.***

Як у вадзе жывуць вадзянікі, так у возеры ці ў рэчцы жывуць і русалкі. Гэта дзеўкі-ўтопленіцы, якія ці самі ўтанулі, ці іх нехта ўтапіў, а можа і сам вадзяны зацягнуў у возера. Русалкі ўсе маладыя, прыгожыя, з длiннымі валасамі, але справы ў іх нядобрыя, патаму шта яны дапамагаюць вадзяніку людзей губіць. Ведзь калісь іх таксама ж пагубілі, вось яны зараз і мсцяць усім, усім тым, хто жыве на зямлі. Яны не толькі топяць людзей, яны не даюць рыбакам ў русальную нядзелю рыбку лавіць, лодкі пераварочваць. Гэта яны так злуюцца. Аднак яны могуць нават выходзіць з ракі і хадзіць. Ходзяць яны на лузе, на агародзе. Могуць стаптаць увесь ураджай, але могуць і не нашкодзіць, проста пaглядзяць і ўйдуць, бо без вады доўга не могуць жыць, быць. У русальную нядзелю русалкі ўжо надоўга выходзяць з вады, паюць, рагочуць, і гора таму, хто сустрэне іх, а той, хто сустрэне, павінен бегчы ад іх, а то памрэ.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Велічкевіч Ю.***
***(2004 г.)***

Русалкі жывуць у вадзе. Гэта дзяўчыны з белымі валасамі і зялёнымі вачамі. Калі іх сустрэць, то яны зашчакочуць да смерці. А яшчэ русалкі бываюць у жыце.

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на***
***ад Дайнека Дар'і Фядосаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Камандзірчык Н.***

У вадзе жывуць і русалкі. Русалкі – ета ў топленіцы, дзеці, якія раждаюцца нежывымі, якія памерлі нехрышчонымі. Усе яны кажуцца адзінакавымі, пахожымі і не атлічаюцца па гадах. Русалкі без вады доўга не могуць. Яны рэдка з яе выходзяць. Толькі для таго, штоб заманіць жэртву.

У русалак е царыца, якую яны слухаюць. Царыцу прыводзіць вадзяны. У Русальную нядзелю русалкі выходзяць з вады надаўжэй. Яны ідуць на поле, на луг. Там яны весяляцца, пяюць песні, танцуюць. Калі нячаяна ўбачыш русалку, то трэба ўцякаць, а сначала ўкалоць сябе іголкай. Тады русалкі ўцякуць назад у ваду. Калі так не зробіш, то яны начынаюць злакатаць чалавека, пака той не памрэ. Нельзя ў Русальную нядзелю быць блізка окала вады, лавіць рыбу. Еслі дажа здалёку пабачыш русалак ілі пачуяш іх голас, то чалавека жджэ бяда. Ён можа пацяраць слух, можа рагатаць без перарыва.

Русалкі могуць абмануваць рыбакоў: выпускаць з сетак рыбу, цягаць за вудачкі. Русалкі забіраюць вёслы і раскачуюць лодкі так, што яны перавярнаюцца. Русалкі ўсягда таскуюць, яны завідуюць людзям, што жывуць на зямле.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на***
***ад Пікас Ганны Яфімаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Кілаш А.***

Расказвала маці, вадзіліся раней у возеры русалкі. Прыгожыя, красуні, з блакітнымі вачыма, яны імі прыманьваюць. А як хто зловіцца, дык вочы нібы мярцвеюць, як у памёршага. Валасы ў іх доўгія, амаль да каленаў, зялёныя.

Лічылася, што жылі русалкі сярод людзей. Любяць яны сярод жыта знаходзіцца.

Аднойчы вяртаўся мужык дамоў. Позна было ўжо. Ды ішоў паўз жыта. Так яго і не дачакаліся. Адшукалі праз дзень на полі, у жыце, а жыта патаптана кругом. Ну і вырашылі, што то русалкі былі.

На Русалчын тыдзень мы ніколі не купаліся. Русалкі палыну баяцца, таму бралі яго з сабой.

Русалка была памочніца вадзяніка. Любілі яны і мсціць за сваё неўдалае жыццё.

Калі выходзілі з вады, то чапляліся валасамі за сукі. Паляўнічы расказваў, што недалёка ад балота сеў адпачыць. І тут убачыў зялёныя водарaслі, накручаныя на суках. То, напэўна, уначы русалкі гулялі, зусім як маладыя дзеўкі, вадзілі русалкі карагоды, плялі вянкі.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на ад Батура Ганны Раманаўны, 1935 г.н., студэнткамі Цімахоўцавай А., Ткачовай А. (2003 г.)***



Русалкі выглядзяць як жэншчына, толькі заместа ног у яе хвост. Яны заўсёды вельмі красівыя, з доўгімі валасамі. Калі чалавек бачыў русалак, яны манілі яго да сябе. Чалавек, не думаўшы, ішоў да іх. Потым яго ніхто не бачыў ці ён тапіўся. Каб не папасць пад іх вліяніе, не нада глядзець русалкі ў вочы. Русалак часта бачылі пастухі, якія пасцілі кароў уначы. Губілі русалкі ў асноўным маладых хлопцаў і з’яўляліся там, дзе былі яны. Хлопцам яны падабаліся, а русалкі іх тапілі.

***Запісана ў в. Тарасаўка Веткаўскага р-на ад Саўчанка Любові Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Жарносенка І.***

Не ведаю, як у другіх дзярэўнях, але ў нашай лічыліся русалкамі тыя дзеці, якія памерлі да хрышчэння, гэта былі дзевачкі.

Жывуць русалкі на дне рэк. А шчэ русалкі жывуць у густым жыце і гаросе, і таму імі пужаюць дзяцей, каб не хадзілі туды. Каб ізбавіцца ад русалкі, трэба імець нужнае зелле, убачыўшы якое, русалкі ўцякаюць, пакідаючы падарожніка ў спакоі.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Шчэрбін Праскоўі Яўфрэмаўны,. 1928 г.н.,***
***студэнткай Сузько Л.***
***(2003 г.)***

Пра русалку знаю токі, што ана жыве ў вадзе. Ета становяцца імі маладыя незамужнія дзеўкі, якія ўтапіліся. У іх няма ног, а хвост і длінныя валасы.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Сталы Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на)***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Як у народзе кажуць, у жыце, у полі русалка сядзіць. Дзяцей пужалі, каб яны ў поле не хадзілі, жыта не таптали. Казалі, што там русалка. Яе прастаўлялі ў цвятах, не страшнай, з прыгожымі доўгімі валасамі. Сядзе ў жыце і чэша сваі валасы, а яны даўгія, дык пакуль расчэша, ой, доўга.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н.,***
***Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Вісёлыя, сьмяюцца, ходзяць русалкі як маці радзіла, на галавах вянкі з цвятоў лугавых. Ета дзеўкі, каторыя дзеўкамі і патапіліся, а мо каторую другую матка пракляла. Жыве тая нечысць у вадзе, а па вісьне па роснай траве бягуць у жыта, там дажываюць. Раньшэ празнік дзелалі: дзеўкі вянкі з цвятоў у жыта кідалі, а самі дзёру адтуль – праганялі.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Свірыдзенка Таццяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай А.***

Хто-та мне расказваў, не помню хто, што летам, пасля Троіцы, у які-та дзень усе жанчыны з сяла дзелалі куклу з саломы, пахожую на

русалку, і неслі ў поле, дзе расло жыта. Патом тапілі яе ў рэчцы, каб быў удалы ўраджай.

***Запісана ў в. Мормаль Жлобінскага р-на***
***ад Гладкай Елізаветы Ільінічны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Аўсянікавай С.***

Русалка – ента прыгожая дзяўчына. Яна – дачка вадзяніка. Кажуць, што ента абычная дзяўчына, якая трапіла ў сеці вадзяніка. У яе сінія валасы, доўгія вейкі і маленькія губачкі.

Русалкі заманьваюць маладых хлопцаў у свае сеці. Так яны загубліваюць жыццё хлопцаў. Русалкі зачароўваюць іх, паентаму хлопцы губляюць свае галовы. Русалкі заманьваюць іх у возера, дзе яны і становяцца жэртвамі вадзяніка. Потым ентыя хлопцы становяцца вадзянікамі. Яны заманьваюць у свае сеці маладых дзевак, якія становяцца русалкамі. Яны становяцца дачкамі вадзяніка. Потым яны пачынаюць заманьваць другіх хлопцаў і г.д.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мяшковай Лісы Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

В русальчіну недзелю русалкі занімаюцца разбоем: крадуць ручнікі, рубахі, мешают рыбакам. Рыбачіць нужно осторожно, только с берега, а то окружат лодку і ўтопят (особенно молодых і красівых). У русалак нема ног, а ў берагінь есць. Берагіні оберегают, предупреждают рыбаков. І русалкі, і берагіні с лентамі, украшеніямі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Казачэнкавай Таісіі Паўлаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Тупіцкай А.***

Русалкі жывуць у вадзе, у балоце. На дзерава яны залазяць, каб заманіць чалавека. Яны распускаюць свае длінныя косы і качаюцца на ветках дрэва. Скачуць, танцуюць, заманьваюць да сябе, а тады губяць людзей. Етых русалак очэнь баяліся, стараліся абысці старaной.

Русалка як маладая дзяўчына, толькі з рыбіным хвастом, а тулава і галава, як у маладой дзяўчыны. Яны очэнь красівые. Людзі счытаюць, што ў русалак душа маладой дзяўчынкі, якая рана памерла, ці ўтопла.

На Сёмуху русалкі выходзяць з рэчак і блытаюцца па палях, лясах, залазяць на дзерава, там качаюцца, смяюцца. Калі да іх папа-

дае чалавек, яны яго шчыкоцяць да смерці. Но также русалкі, калі ў вадзе ўбачаць хлопца ці мужчыну, то яны топяць.

***Запісана ў в. Убалаць Калінкавічцкага р-на***
***ад Прышчэп Антаніны Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Нямковіч А.***
***(2003 г.)***

Русалкі – ета дзеўкі, шо ўтапіліся. Яны ў вадзе жывуць. У іх цела чалавечаская, толькі ног няма. А хвост рыбечы вісіць. Косы ў іх доўгія, распушчаныя пастаянна.

Як хто адзін купаяцца, дак яны яго за ногу і пад воду цягнуць. А то яшчэ, калі послі Іллі купацца будзяш, дак тожа ўтопяць.

На Івана Купала яны ў жыта ідуць. Як хто з людзей ідзе, дак яны яго ў жыта ўцягнуць і слакочуць, пакуль той не памрэ. Шоб вугнаць іх з жыта, дак людзі вянкі плятуць і носяць ім туды.

Шкодзяць русалкі багата. Як за дзень нікога не заслакочуць, дак тады ноччу на дзярэўню выходзяць і ламаюць усё: і лаўкі, і заборы, гладышкі б’юць.

Казалі, калісь адзін дзед пайшоў паўз жыта, да з сабой тапор узяў. Накінуліся русалкі на яго і давай слакатаць. Дак ён адну зарубаў. Яны тога дзеда кінулі, схвацілі яе і пацеглі кудысь. Кажуць, шо з тых пор іх боляй не бачылі.

***Запісана ў в. Чамярысы Брагінскага р-на***
***ад Краўчанка Марыі Яўхімаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***
***(2003 г.)***

Ой, урэдныя гэта сушчаства русалкі. А гігочуць як, калі ноччу да нашага возера падыйдзеш. Гэта точна яны. Плешчуцца там, спяваюць і хлопцаў маладых зазываюць. Ды і непатрэбна хадзіць ноччу там. І мужыкоў любяць шчакатаць.

От адзін мужык дурнаваты ў нас быў, бабылем жыў, дык любіў хадзіць на возера ўвечары позна. Казалі, што яго русалка заваражыла, улюбіла ў сябе, дык ён кожны вечар да яе хадзіў, а потым вяртаўся не ў сабе: вочы блішчалі, мармытаў пад нос. Людзі яго баяліся, бо тады ён памешаны быў.

Я баюся хадзіць увечары на возера. Не хаджу. А русалкі – то дзеўкі маладыя, прыгожыя, а вочы ў іх сцяклянныя і халодныя. Як паглядзяць на чалавека, так прыцягнуць назаўсёды хлапцоў. А вала-

сы ў іх доўгія, зялёныя, а тыя, што кагосьці згубілі, забралі да сябе, у сваё царства, у тых галубыя валасы, а вочы чырвоныя. А дзевак могуць дык загіпнацізіраваць, акруціць валасамі і пацягнуць на дно. Колькі так ужо дзевак зацягнулі маладых. Яны потым самі становяцца русалкамі. Ой, страшныя сушчаства. Хлопцы нашы як убачылі, дык бегма адтуль. Дык добра, што ўсё абышлося. Мамкі потым у царкву схадзілі, свечкі паставілі, дык Божа зашчыціў. А так штонебудзь бы ім зрабіла гэтая зладзюга. Да і вабшчэ ніхто не стараецца яе зачапіць, неяк вытурыць – усе баяцца, дык ніхто і не чапае. Яна ж усё ведае, усё, што падумаеш пра яе дурное, то яна будзе ведаць. Дык ніхто пра яе там у вёсцы асабліва не гаворыць. А вот за вёскай, на другіх яна не можа ніяк уздзейнічаць, не робіць нічога дурнога. Кажуць, што людзі зрабілі нешта, і вось Бог іх за гэта пакараў, і ніколі не будуць жыць яны добра, бо гэта зладзюга там жыве.

***Запісана ў в. Якімава Слабада Светлагорскага р-на***
***ад Новік Валянціны Ціханаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Новік В.***
***(2003 г.)***

Русалкі да Русальнай нядзелі жылі ў вадзе, а ўжо послека выходзілі і жылі хто на дзеравах, а хто ў жыце. Русалкамі счыталісь дзяўчыны памерлыя або ўтопленіцы, або каго пракляла маці. Унешне яны былі красівымі дзеўкамі, толькі голыя. Мелі доўгія да кален валасы. У нашай дзярэўні было многа ўстрэч з русалкамі раньша. Вот адна з іх.

Вот аднажды позна вечарам, калі ўжо сцямнела, адзін мужчына з нашай дзярэўні вазрашчаўся дамой ад свайго брата і, праходзячы небальшы лясочак, увідзеў на дзераве вельмі красівых дзевак. І яны сталі зваць яго: “Челавек! Челавек! Хадзі з намі калыхацца!” Але яго абуяў страх, і ён бегам пусціўся ў дзярэўню, а ўслед яму нёсся іх смех. Ен потымка ўспамінаў, што яны былі голыя і з доўжазнымі валасамі, якія чуць лі не да долу звісалі.

Ешо быў такі случай, калі нашы маладыя хлопцы пайшліса гуляць у лес і возрашчаліся ўжо позна вечарам. Тагды ж і ўбачылі красівых дзевак на дзераве, якія сталіса іх зваць, але ж яны не саблазніліся і ўцёкам пайшлі дадому. Але ж усё ж адзін хлопец спакусіўся. Ён быў нямесны. Яго русалкі зашчыкаталі, і назаўтра яго знайшліса мёртвым.

Ешо быў адзін случай. На геты раз ён случыўся з маладой дзеўкай з нашае дзярэўні. У нас ваабшчэ моладзь любіла раньша ездзіць верхам на лашадзях. 1 вот тожа ж паехалі нашы дзеўкі катацца на лашадзях. Доўга каталіся, запазніліся. Вазрашчаюцца ўжо пад вечар і відзяць, шо на дзераве сядзіць нескалькі красівых дзевак і завуць іх пакатацца ўмесце з імі на галінках дзерава. Нашы ж дзеўкі струханулі і пусціліся на ўцёкі. Пусцілі лашадзей сваіх ускач. Але ж адна дзеўка засталася і бліжэй пад'ехала да таго дзерава. Як у нас гаварылі, гетыя русалкі схапілі яе і зашчыкаталі. Назаўтра яе знайшлі мёртвай.

Ешо ў нас у дзярэўні русалак звязвалі з жытам. 3 вады яны выходзілі пасляка русальнай нядзелі і жыліса ў жыце. Буў жо такі случай, што буў адзін чалавеча ў полі і ўбачыў таку красіву з длінными зялёнымі валасамі дзеўку, яка ўлыбалася яму і звала. Тагды ён кінуў работу і пайшоў дадому, бо ёсць тако павер'е, шо калі ўвідзеш у жыце русалку, то трэба абязацельна кідаць работу, бо абязацельно парэжашся, а кроў людская русалкам на здароўе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міхадзюк Зінаіды Сямёнауны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Сухой Ю.***

Русалкі – гэта такія дзеўчыны, якія жывуць у вадзе. У іх да пояса цела, як у чалавека, а замест ног у іх хвост. І валасы ў іх, гаворыць, длінныя такія, да самага хваста і заўсёды распушчаныя.

Бывае такое, што русалкі з вады выходзяць на сушу і пачынаюць хадзіць. Любяць сядзець на бярозах. А калі хто-небудзь з мужыкоў будзе ісці міма, дык русалкі, гэтыя дзявіцы хітрыя, пачынаюць прыгожым голасам пець песні і зваць таго мужыка да сябе. І грэх будзе таму мужыку, які да іх пойдзе. Яны тады адразу яго зашчыкочуць да смерці.

А яшчэ я знаю, што тыя ж русалкі любяць у жыце бегаць. Яны тады весяляцца і громка смяюцца. Смех гэты можа і чалавек пачуць, калі міма праходзіць будзе.

А русалкі гэтыя весяляцца таму, што гэта дзеўчыны, якім пры жыцці плоха жылося. Тады яны на раку тапіцца хадзілі, а цяпер вот русалкамі сталі і ўсё весяляцца.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Архіпавай Дар'і Іванаўны,***
***студэнткамі Завадской В., Шышкінай С.***
***(2003 г.)***



Оні очень пают красіво, і потом оні ешчо выходзят і танцуют, і пают. А потом время пріходзіло, і оні апяць уходзілі в воду. А еслі ім хто-нібудзь, кто ілі понравіцца, то оні обязацельно пеніем цянулі ў ваду, но хорошые былі дзевушкі. Оні жылі в водзе, а кагда она замерзала ілі становілось очень холодной, то оні залазілі на вярбу. У іх былі большые, длінные, красівые воласы і рыбі хвост.

***Запісана ў в. Чыяне Лельчыцкага р-на***
***ад Зоі Міхайлаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Грынько М.***
***(2003 г.)***

А русалкі, хто іх знае, можа, эта дочкі вадзяніка, а можа, і ўтопленыя дзеўкі, я ж не знаю. Русалкі водзяцца, дзе мара якія, вада. Нашы бабушкі гаварылі, што із мора выходзяць этыя русалкі. Ну, русалка такая, уж такая, як жэншчына. І такія песні пяюць красівыя, распраслухацца. І хвост, як у рыбы быў.

Адзін чалавек падкрадаўся, усё падкрадаўся некалькі раз, штоб яе ўхваціць, і эта на другі раз спаймаў. Яна на беразе да палавіны, другая палавіна ў вадзе. І ён падкраўся і за косы яе схваціў. А косы длінныя, раскрасавіцы, і пяе, распраслухацца. Схваціў, выцягнуў на бераг, а там рыбячы хвост. Да палавіны чалавек. Яна так прасіла яго,

рукі-ногі цалавала. Сказала: “Не знаю, што ўжо табе адблагадару, пусці толькі мяне”. Ну і абратна ў мора ён яе пусціў.

А яшчэ было і такое. Во маракі праплывалі на караблях праз якісьці там праліў, а ў тым месце жыла русалка, ды не адна, а многа іх там была. Як абычна яны там пелі красівенна, што распраслухацца можна была. І этыя маракі так заслухоўваліся іх, шо і работу кідалі, так яны ўсе і тапіліся. І тада капітан сказаў ім, шоб яны пазатыкалі вушы. І тада, кады яны ўжэ плылі, аны так і здзелалі. І шо ж ты думаеш, яны ўжо праплылі. А ўсё таго ж, шо не чулі яны раскрасівенных песень.

А яшчэ нам нашы бабы гаварылі так, што раней адна дзеўка такая, ну красівая такая, пашла ўночы на рэчку. Ноч – эта ж врэмя ўсіх нячысцікаў. Глядзіць, а там дзевак у вадзе гуляець многа. Яны так добра гуляюцца, забаўляюцца, смяюцца. Ну, во, а тыя ж і пазвалі яе к сабе. А тая ўжо ўзяла ды і пашла. Зашла в ваду, а дзевкі тыя ж русалкамі былі, і адна з іх узяла ды і за руку яе. І так гаварылі тады ўсе, што гэта дзеўка русалкаю стала, прапала яна.

***Запісана ў г.п. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Мануілавай Соф’і Лявонаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кругоўка Добрушскага р-на)***
***Мануілава Анатолія Міхайлавіча, 1938 г.н.***
***студэнткамі Ярохавай С., Псырковай І., Лапінай В.***
***(2003 г.)***

Мужык ішоў па лесу і ўслышал пеніе. Оно пріближалось, і появілісь русалкі. Оні окружылі его. Русалкі так кружылі, што мужік сам з імі танцевал і плясал. Только под утро ачомаўся. Прыйшоў дамой, і карманы былі напіханы конскім навозам.

Парень пашоў купацца, нікого не было. Была туманнасць на вадзе, паказалась красівая обнажонная жэншчіна з дліннымі волосамі. Русалка раздвігала ваду і шла. Шла і зазывала.

***Запісана ў р.п. Бальшавік Гомельскага р-на***
***(раней пасёлкі №№ 1, 2, 3, 4 торфазавода “Бальшавік”)***
***ад Шкода Г.Д., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петрачковай К.***
***(2001 г.)***

Русалкі – ета дзеўкі, якія патапіліся. А ішчэ, гаворащь, што русалкамі пасталі малыя нехрышчоныя дзеці, якія памерлі. Вот етыя русалкі жывуць абычна ў рэках, дзе цячэнне не быстрае, і ў возерах, там, дзе паглыбей. Яны вельмі красівыя. У русалак, што-што, а косы красівыя: доўгія такія, праўда, цветам трохі зеленаватыя. Яны ніколі іх не заплятаюць, а толькі рашчэсваюць усягда. Рашчэсваюць косы яны на бярозах абычна. Сядуць на галіну, пяюць такім ласкавым голасам і чэшуць грэбнем свае косы. У еты час русалкі так і путнікаў з дарогі зводзяць. Ідзе хто-небудзь па дарозе, а яны давай зазываць пакатацца з імі разам на бярозе. А калі чалавек падыдзе, то русалкі давай шчакатаць яго. Шчакочуць да тых пор, пакуль чалавек не памрэ. Ішчэ яны ў жыце любяць гуляць. Асобенна ў тую пору, калі жыта каласіцца начынае. Раней жыта высокае было, і калі дарога ідзе праз жыта, то па аднаму баяліся хадзіць, а то русалкі зашчыкочуць.

У русалак замест ног быў рыбіны хвост, да пояса лускою серабрыстай пакрыты. Казалі, што калі ўбачыш у вадзе ў врэмя купання што-небудзь бліскучае, то трэба скарэй выходзіць з вады. Бо то русалка там была, і хвост яе блішчэў. А яна можа пашуткаваць і ў воду ўцягнуць, утапіць.



***Запісана ў п. Арол Лоеўскага р-на ад Святочнай Ганны Фёдараўны, 1931 г.н., студэнткай Зыбко В. (2003 г.)***

У полі ў жыце русалкі сідзяць, калі жара. Яны сідзяць, ды й путаюць калоссе з гарохаўкай, што пасля й не разблытаеш. Яны папусцяць косы ды й гуляюць, а як пабачаць чалавека, да й путаюць ў яго: “Палын ці пятрушка?” А калі хто гуляе ў

полі ў забароненае ўрэмя і выбярэ палын, а яна як закрычыць: “Сам ты загінь!” – і ўбяжыць, а калі выбраць пятрушку, яна як заверашчыць: “Ах ты, мая душка”, да й кінецца яго шлыкатаць. Можа так зашлыкатаць да смерці.

***Запісана ў в. Жахавічы Мазырскага р-на***
***ад Турбал Марыі Рыгораўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Есман А.***
***(2003 г.)***

Русалкі – прыгожыя дзяўчыны з рыбым хвастом. Яны жывуць у вадзе і топяць людзей. Асабліва на іх заглядаюцца маладыя хлопцы. Яны часцей і тонуць.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Вараб’ёвай Паліны Ігнацьеўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***
***(2003 г.)***

Русалка, яна падобная на жанчыну. Але з рыбім хвастом, а таксама яна мела зялёныя воласы. Гаварылі, што русалкамі становяцца маладыя дзяўчынкі, якія ўтапіліся, дзяўчынкі, якія памерлі, і да гэтага іх не пахрысцілі. Гэтыя русалкі жывуць у рацэ, але і маглі жыць у полі, у вадзе. Яны былі шкодныя, яны прыносілі людзям шкоду.

Русалкі могуць патапіць чалавека, калі той купаецца ноччу і калі заходзіць у воду без крэсціка.

Але і можна было аберагчыся ад русалак: гэта калі пачытаць малітву, а таксама, калі есць з сабою часнок, лук.

Русалка магла часцяком бываць у жыце.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Юліі Сцяпанаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбасавай Ю.***

Русалкі – гэта жанчыны або дзяўчыны такія, якія ў вадзе жылі. У іх дліныя валасы, і яны самі вельмі прыгожыя. Яны любілі качацца на галінках дрэў. У іх таксама не было ног, як у людзей, а быў бальшы хвост, як у рыбы. У іх вельмі прыгожыя вочы, і яны могуць прывабліваць людзей, але блізка к ім падыходзіць нельга, бо яны за-

маняць з сабою ў ваду, і чалавек патоне. Казалі, што ў русалакператвараліся дзяўчыны, якія патанулі. Яны маглі ўстрайваць гулянкі на рацэ. Іх многа тады сабіралася, яны гулялі, пелі, танцавалі.

Маглі яны мяшаць рыбакам лавіць рыбу, кідалі ім у сеткі ўсякі бруд. І рыбакоў таксама заманьвалі да сябе.

Каб пазбавіцца ад русалак, можна была іх укалоць булаўкай, і тады яны адставалі. Русалкі часта заманьвалі маладых хлопцаў, каб былі ім жаніхі.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Прыбышэня Эмы Ігнацьеўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Марусенька Жлобінскага р-на)***
***студэнткай Прыбышэня Ж.***
***(2003 г.)***

Я сама русалак ня бачыла, ну, знаю, што яны жылі ў жыці. Косы паразматукаюць і бегаюць па сялу. Каго спаймаюць, дак зацягнуць у жыта і ўсю кроў высмактаюць. Чалавек тады памірая.

Ё нядзеля такая послі Паскі, Русальная нядзеля называяцца. Дак у етую нядзелю ноччу спаць нязьзя. Нам калісь матка тожа спаць ня давала. Яна казала, што хто засне, дак будуць русалкі на ём дровы вазіць. Дак той чалавек сільна хварэя. От як.

І мы па валошкі ў жыта хадзілі, дак баяліся русалак. Ета ўсё послі вайны было. А шчас русалак няма.

***Запісана ў в. Малажын Брагінскага р-на***
***ад Чарнянок Еўдакіі Андрэеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Радкевіч А.***

У нас в деревне один мужик мылся в бане. Вышел к реке окунуться. Увидел женщину с распущенными волосами. Она его звала к себе. Он пошёл и чуть не утонул. А она спряталась. Все мужчины в деревне над ним потом смеялись.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міралюбавай Раісы Майсееўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на)***
***студэнткай Царковай В.***
***(2001 г.)***



Русалкі – істоты выключна жаночага полу. Яны заўсёды прыгожыя і маладыя. Былі ці дочкамі марскіх цароў, ці нехрышчонымі альбо самагубкамі. У якім узросце яны не памерлі б, яны заўсёды выглядаюць як дзяўчаты 18-20 год з прыгожымі доўгімі валасамі, блакітнымі альбо ярка-зялёнымі вачыма, з хвастом замест ног. Вочы і твар у іх заўсёды сумныя, але прыгожыя і ласкавыя, таму яны гэтым і прыманьваюць ахвяру. Валасы ў яе прыгожыя і доўгія і плывуць, як у возеры. Чалавек паглядзіць на яе валасы і зачарована за ёй ідзе, нібы пад гіпнозам.

Русалка нібы з жалеза: цыцкі ў яе жалезныя і зубы жалезныя, і таўкач у яе жалезны. Вочы лупатыя, зловіць цябе і гаворыць: “На цыцку!” А ты не хочаш, а яна цябе – таўкачом. Як прыйдзецца ісці праз жыта, то бяжым хутчэй, бо там русалка з таўкачам. А маткі і кажуць: “Не хадзі ў жыта, бо там русалкі”. А ты ўсё роўна ідзеш, бо цягне паглядзець прывабную русалку.

Гавораць, што русалкамі становяцца тыя, каго прыпадобіць вадзянік. Пабачыць яе прыгажосць і цягне ў ваду, а яна затым сумная ходзіць. Вынікам гэтай сувязі становяцца ўсялякія нячысцікі.

Жывуць русалкі на дне рэк. Вельмі сумуюць зімою, калі не могуць выйсці, каб паказаць сваю прыгажосць. А ў маі выходзяць цікавыя і зманьваюць хлопцаў, каб не было нудна.

У маёй дзярэўні баяліся браць за сабой дзяцей на працу ў поле, бо русалкі, якія былі раней цяжарнымі і страцілі сваіх дзяцей, кралі чужых дачок і сыноў і цянулі іх за сабой у ваду, дзе тыя гадаваліся.

Асабліва русалак баяліся на Вялікдзень, не хадзілі таму купацца, а бралі з сабою палын і крапіву, якіх баяцца русалкі, і кідалі ў ваду, каб тыя не так цянулі людзей да сябе.

*Запісана ў в. Маладуша Рэчыцкага р-на*
*ад Васілец Еўдакіі Паўлаўны, 1920 г.н.,*
*студэнткамі Дзяйкун М., Толкач М.*
*(2003 г.)*

Русалкі – галоўныя жыхары рэк, азёраў. Яны вельмі бледныя, але і вельмі прыгожыя дзяўчаты. У іх вельмі доўгія валасы, аж да пят. Імі становяцца маладыя ўтопленіцы. Але ж таксама гавораць, што гэта дочкі вадзянога. Калі свеціць луна, яны выходзяць з вады на бераг рэчкі, водзяць карагоды, спяваюць песні. Катаюцца на ветках дрэваў, а таксама расчэсваюць сваі вельмі прыгожыя валасы, якія, дарэчы, зялёныя. І, напэўна, як барада вадзянога, гэтыя валасы з ціны або нейкай рачной травы. Русалкі ў такую ноч любяць заманьваць да сябе рыбакоў, якім ужо не выйсці ад русалкіных рук.

Гавораць, што русалкі могуць зашлакатаць да смерці ці патапіць.

Летам, пачынаючы з Троецкага дня, русалкі выходзяць на сушу. Дзяўчаты ў гэты час плятуць вянкі, звязваюць бярозы рознакаляровымі лентамі, каб задобрыць русалак. Таму што лічыцца, што бяроза – любімае дрэва русалак.

Там, дзе прабегла русалка, трава зялёная больш, чым у іншым месцы, і вельмі густая, там хлеб лепш родзіць. Але ж русалкі могуць і насылаць буру, шкодзіць рыбакам.

Самае надзейнае срэдства, каб спужаць русалку, перастаяць яе чары – гэта палын. Кажуць так, што пры сустрэчы русалка абавязкова спытае: “Што ў цябе ў руцэ: палын ці пятрушка?” У гэтым выпадку трэба адказаць: “Палын”. “А ну-ка згінь!” – крыкне русалка і пабяжыць уцякаць. А калі хто паспее кінуць гэту траву русалке ў вочы, то яна больш ніколі не троне людзей. А калі ж на яе пытанне адкажаш:“Пятрушка”, то русалка з крыкам: “Ах ты, мая душка!” – накінецца на чалавека і пачне яго шлакатаць да тых пор, пакуль ён не памрэ.



Вось песні, якія звычайна спяваюць на Русальны тыдзень:

Паслала мяне мачыха
У поле жыта жаці,
І сказала, каб я жыта жала,
Не дажала,
Ды русалкаю ў полі стала,
Ды русалкаю ў полі стала,
Ды дадому не прыйшла.
А я жыта не дажала
І русалкаю ў полі стала,
У жыце начавала,
У жыце начавала.
Васільком на ўсё жыццё я стала.

* * *

Павяду русалку да броду,
Сама я вярнуся ў воду.
Завяду русалку ў цёмны лес,
Няхай русалку воўк з’есь.
Завяду русалку да лесу,
Сама вярнуся к бесу.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на ад Шаўчэнка Зоі Іванаўны, 1928 г.н., студэнткай Шырокай В. (2003 г.)***

Русалкі жывуць у вадзе, або ў полі – розныя русалкі ёсць. Яны заманьваюць у ваду і тады зашчакотваюць да смерці. Русалкі – гэта ўтопленіцы, іх душы. Яны могуць і на дрэвах пасядзець. Яны часцей робяць якую-небудзь шкоду. То ў полі паламаюць каласкі, асабліва, калі пачынаюцьналівацца зернем. Тады трэба выгнаць русалку з

вёскі. Бяруць, апранаюць дзяўчыну ў русалку і вядуць яе з аднаго канца вёскі ў другую, выводзяць яе на раздарожжа, і там спяваюць песні, водзяць карагоды.

Могуць русалкі і ў вадзе шкодзіць, людзям дрэнна робяць, асабліва хлопцам, якія паглядаюць на яе, а яна заманьвае яго тым часам у ваду. Адзін хлапец чуць не патануў з-за яе. Гаворыць, што нібы дзяўчына купалася, але незвычайная нейкая была. Вочы нібы нежывыя, і такая прыгожая была і ўсміхалася ўсё, і звала яго. А потым пачала тануць. Хлопец кінуўся яе выратоўваць, а яна нібы знікла, а хлопец пачаў тануць, нібы хто ўніз у ваду цягне. Ледзь не патануў, добра, што моцны хлопец быў і добра плаваў, бо ўсё дзяцінства ў рацэ праплёскаўся. А дзяўчыны той і след прастыў, і ніхто не ўтануў, ніякая дзяўчына. Гэта русалка забаўлялася з хлопцам, а ён і павёўся на яе забавы. Вось так бывае.

А то адна дзяўчына ўтапілася, вельмі прыгожая дзяўчына была, якіх свет не бачыў. І так добра плавала, з самага дзяцінства ў вадзе жыла, як тая рыбка. Яшчэ зусім маладая была, у расцвеце сіл, на выданні дзеўка. І хлопец яе прыгожы быў. І патанула дзеўка якраз, як сваты былі.

Пайшлі з хлопцам і з моладдзю на рэку і ў гэты час, як усе разам плавалі, патанула. Яе нібы забаўлялі, заманьвалі ў ваду дзяўчыны і манілі яе далей ад берага. Паплыла ў свет, чаго толькі туды палезла. І раптам тануць пачала, ні з таго ні з сяго. Хлопец кінуўся ратаваць, але як даплыў, яна пад воду знікла – і не знайсці. І другія хлопцы кінуліся ратаваць, але не паспелі яе выратаваць і не знайшлі. Пасля ўжо выплыла на другім беразе, а пад нагцямі луска рыб'я была.

Той яе хлопец за ёй услед кінуўся, добра што затрымалі, а то патануў бы і ён. Людзі гаварылі, што гэта русалкі яе пагубілі, звялі на той свет. Гавораць, што пазайздросцілі яе прыгажосці і яе шчасцю. А такая дзеўка была добрая.

***Запісана ў в. Бабрэчча Петрыкаўскага р-на***
***ад Цярэшчанка Зоі Мікалаеўны,***
***студэнткай Дыба Г.***
***(2003 г.)***

Русалкі – гэта жанчыны-ўтопленіцы, якія пакончылі жыццё самагубствам. Эта могуць быць і дзеўкі маладыя. Русалкі всегда прыгожыя. Іх уяўляюць з рыбіным хвастом, і ў ніх вельмі длінныя валасы, якія прыкрываюць іх нагату. Русалкі могуць шкодзіць чалавеку,

асабліва любяць яны абманваць мужчын. Могуць заіграць з ім, паўсміхацца , нешта паабяцаць, а ён возьме і паверыць, але ж русалка яго і ўташчыць з сабою ў ваду. Русалку можна ўбачыць ноччу, калі яны вылазяць з вады пасядзець на беразе ракі ці на камні якім. Русалкі служаць Нептуну, яны яго паважаюць вельмі і любяць.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Тарун Вольгі Аляксееўны, 1950 г.н.,***
***студэнткай Шамонінай В.***
***(2003 г.)***

Яшчэ магу паведаміць пра русалак. Я ведаю няшмат. Але ж паведамлю. Ведаю, што заўсёды іх бачылі голымі, з доўгімі чорнымі валасамі і вачыма таго ж колеру. Жывуць яны ў гаях, гойдаліся на галінах дрэў, і як толькі заўважаць каго – клічуць. А клічуць яны яго такімі словамі: “Га! Га! Хадзіце к нам на арэлі калыхацца”. Але ж той, хто да іх наблізіцца, былі бедныя. Русалкі рабілі жудасныя позіркі і таго, хто іх бачыў, скручывала назаўсёды. Таксама русалкі могуць выходзіць на бераг, заплятаюць валасы, плятуць вянкі і ўпрыгожваюць імі галовы. Той, хто аказваецца на беразе ў гэты час і будзе бачыць рухомыя агенчыкі і жалобную песню, будзе завлячон русалкамі і згіне назаўсёды ў глыбіні цёмных водаў.

Увогуле, русалкі – гэта душы дзяўчат і дзяцей, якія былі непакрэшчаны.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Байцовай Людмілы, 1938 г.н.,***
***студэнткай Казловай К.***
***(2003 г.)***

Людзі казалі, што русалкі – гэта дзяўчыны, якія закончылі сваё жыццё самагубствам, утапіўшыся ў рацэ, возеры або яшчэ ў якім-небудзь вадаёме. Гэтыя дзяўчыны ператвараліся ў русалак, як бы ў выглядзе вадзяных дзеў. Па знешнем выглядзе казалі, што яны да пояса дзявочы мелі выгляд, а далей як рыбы з хвастамі. Яны жылі ў глыбокіх омутах, выходзілі яны ноччу, прымалі свой былы стан, якімі яны былі пры жыцці і вадзілі карагоды, пелі песні, гулялі ў гульні.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бедрыч Клаўдзіі Аляксандраўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Лапаціным А.***
***(2003 г.)***

Русалкі – ёсць етыя шкодныя жабы. Кажуць, етыя жабы жывуць у вадзе або на дрэвах. Ой, яны так людзям робяць што-небудзь дрэннае. Шмат аб гэтым ведаюць. Яны ад зайздросці прыгожую жанчыну або дзяўчыну могуць заташчыць. А ёсць еткія жытнія русалкі. Етыя гадзіны скручваюць жыта і пакідаюць на полі. А калі які-небудзь чалавеча дакранецца, то будзе етаму чалавечу так дрэнна або нават і памрэ. Ой, якія етыя гадзіны макрэнныя.

З русалкамі была звязана адна добрая прыкмета. Мы апраналі якую-небудзь дзяўчыну ў русалку етаю і пускалі яе ў жыта, і ўсе лічылі, што будзе добры ўраджай і цёплае лета.

А яшчэ, калі сустрэнеш етую русалку – гэта вельмі добра.

***Запісана ў в. Востраў Рагачоўскага р-на***
***студэнтамі Чагінай Н., Дзенісенка У.,***
***(2003 г.)***

Вось яшчэ казалі так, што ў нас у возеры жывуць русалкі, што нельга купацца на купалаўскую ноч. А адзін парынь у тэй час ды не паслухаўся сваіх сяброў, што былі з ім, ды й вырашыў нырнуць, а назад ужо і не вынырнуў. Казалі, што русалка забрала і зашлакаціла яго ў вадзе да смерці. Можа, гэта і так было, хто яго ведае. А русалку прадстаўлялі як дзяўчыну з дліннымі белыміваласамі і казалі, што ўместа ног у яе бальшы прыгожы хвост, як пры луне ўвесь блісціць, нібы золата.

***Запісана ў в. Мікалаеўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мацюшэнка Марыі Васільеўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Макаравай Н.***
***(2003 г.)***

Была у нашай дзірэўні, када я малада была, красівенная дзеўка, Марыйка. А так ужо выплясывала на вічорках. Да мала пажыла. Бабы казалі, палюбіла жанатава, Колям звалі, і паетаму ўтапілася. Патом маці Марыйкі плакала і казала, што дачка прыдзя з гулянкі і плача паўночы, трудна была. Ну так вот. Як утапілася, так мала хто туды хадзіў купацца, баяліся. Пужала іна людзей. Казалі, што таго, хто купаіцца і асобінна ўвечары, када цімнея, шлыкатала і цігнула ў ваду, на дно. Іванка ў нас такі быў, сторож на фермі. Пераказваў, як ішоў дамоў і чуў, як стогня і плача Марыйка. На Купалу ўсе купаліся, асобінна маладыя. У тым месці і Мікалай з жаной купаўся. І плаваў

харашо, а патануў. Людзі казалі, што ета Марыйка іго к сабе забрала. Ціжало ёй была. Ні знаю, ці праўда ета, ну, так казалі.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Адамавай Кацярыны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Русалак нада баяцца, бо яны ні на што не глядзяць, а топяць людзей. І выратавацца ад іх вельмі цяжка, але ўсё ж магчыма.

Аднойчы пайшлі два хлопцы купацца. Хадзілі ўсе, рагаталі на беразе, а потым пайшлі ў ваду. А адтуль раз і дзеўка такая прыгожая выплывае. Адзін з іх пачаў маліцца, і тая русалка адразу знікла, а калі б не пamaліліся, то б тожа патапіла яна іх.

***Запісана ў в. Матнявічы Чачэрскага р-на***
***ад Кірэевай Галіны Міхайлаўны, 1960 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Была ў нас хатка старэнькая, а ў ёй ужо ніхто даўно ні жыў, яна была пустая. Дык там жыла русалка. Яна ўлюбілася ў суседа. Яе ніхто не бачыў і не чуў, а Пятро бачыў яе, разгаварываў. Яна яго на гулянку праважала і з гульні страчае. Яна шла, потым лажыцца з ім спаць. Ён так і не ажаніўся, бо жыў з той русалкай.

А то ішчэ казалі, што русалкі заманьваюць хлопцаў ці маладых мужчын у ваду, топяць іх, а тыя потым робяцца ўжо на дне вадзянымі.

Русалак трэба баяцца і заўсёды мець з сабою крыж з цэрквы, бо яна гэтага баіцца як агню.

***Запісана ў г. Чачэрск***
***ад Дамасканавай Любові Цітаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Русалка – ета маладая дзеўка з зялёнымі касамі і белым-белым целам, якая скончыла жыццё самагубствам.

Я сама аднойчы бачыла русалку. Іду раз праз рэчку і бачу, што на бярозе, якая навісла над ракой, сядзіць нейкая дзеўка. Я спачатку хацела паклікаць яе, але потым убачыла яе хвост і ўсё зразумела. Яна таксама мяне заўважыла, а потым адразу ж нырнула ў ваду. Болей я ніколі не бачыла русалак.

Русалак трэба асцерагацца, бо етыя дзеўкі любяць людзей пад ваду зацягваць.

***Запісана ў п. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Пілipaўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Русалка – эта рачная дзеўка, якая некалі жыла на зямлі, а потым пайшла і ўтапілася. Русалкі могуць жыць у возеры, рэчцы, лесе, полі.

Недалёка ад нашай вёскі рос дуб, якому было гадоў 200, і ў гэтым дзераве, кажуць, жыла русалка. І калі наступала 12 гадзін, яна выходзіла з гэтага дрэва і купалася ў рацэ. Заўлекала маладых хлапцоў у раку, і яны там знікалі.

Таму заўсёды з сабой трэба насіць святы крыж, палын-траву, свяцоную ваду. Тады русалка да вас ужо не прыстане.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Кала возера Сяброўка ў нас рос дуб, вялікі такі. Яму ўжо было больш 200 гадоў, і ў гэтым дзераве было дупло ростам з чалавека. Старыя людзі кажуць, што ў гэтым дупле раней жыла русалка. Вельмі прыгожая яна была: косы длінныя, ярка-залатыя, замест ног у яе быў хвост. І вось калі наступала 12 гадзін, яна выходзіла з гэтага дупла і купалася ў возеры. Заўлекала мужчын, маладых хлопцаў у возера, і яны потым знікалі. Мы з дзяўчатамі лазілі ў гэта дупло, а я не лазіла, я баялася, думала, што яна і зараз там сядзіць.

У тым возеры дно і зараз глыбокае, там шмат затанула чалавек.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кавалёвай Раісы Мікалаеўны, 1953 г.н.***
***(перасяленка з в. Вераб'ёўка Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

# Хлеўнік

Гэты міфалагічны персанаж з''яўляецца духам-апекуном хлява і тых істот, што там жывуць. “Будучы звязаны з каровамі і коньмі, хлеўнік рэдка займаецца авечкамі і ніколі – свіннямі і козамі, якіх ледзьве трывае ў хляве” [1, с. 533]. “Часцей за ўсё хлеўнік – гэта дух двара, дамавік, “дваравік”, ад якога залежыць дабрабыт жывёлы; аднак гэтая назва ў велікарускіх павер''ях сустракаецца нячаста” [2, с. 514]. Пра падабенства двух персанажаў – хлеўніка і дамавіка гаворыцца ў працы М. Нікіфароўскага: “Праўда, дамавік і хлеўнік вельмі падобныя адзін да аднаго характарам, дзівоцтвамі, звычкамі, абодва імкнуцца спрыяць дабрабыту ў гаспадарцы; але ў выяўленні дабратворнай дзейнасці таго і другога зараз бачна розніца гэтых чалавекападобнікаў, якія сышліся так блізка, але, дарэчы, нават не ведаючы адзін аднаго: дамавік не пойдзе ў хлеў, хлеўнік – у дом” [3, с. 40]. Такая логіка ўспрымання, замацаваная ў часе, у шматлікіх пакаленнях, захоўваецца і ў сучасных запісах міфалагічных звестак: “Хлеўнік – гэта той самы дамавік, толькі заўсёды жыве ў хляве” (в. Юравічы Калінкавіцкага р-на); “Хлеўнік і дамавік пахожыя, толькі дамавік жыве ў хаці, а хлеўнік – у хляве” (в. Бывалькі Лоеўскага р-на); “Хлеўнік? Ета ж называюць яго братам дамавічка. Толькі еты жыве ў хляве, сараі” (г. Светлагорск) і інш.

Як бачым, ва ўспрыманні сённяшніх інфарматараў, хлеўнік і дамавік іншы раз амаль не адрозніваюцца. Ва ўсіх міфалагічных аповедах месца жыхарства хлеўніка – хлеў. Амбівалентнасць функцый хлеўніка з’явілася асновай узнікнення супрацьлеглых народных вераванняў, звязаных як з імкненнем гаспадароў дагадзіць хлеўніку (“Хлеўніка задобрывалі: убіралі ў хляве, падсцілалі свежай саломкі, на свята лажылі кусочак каравая” – в. Якімава Слабада Светлагорскага р-на; “Калі хазяін адносіцца з павагаю да хлеўніка, то і той спрыяе яму” – в. Ведрыч Рэчыцкага р-на), так і з імкненнем пазбавіцца ад яго (“Людзі, калі западозраць, што ён у іх хляве сядзіць і шкодзіць іх свінням, карове, то як-та тады выганялі адтуль

хлеўніка етага” – в. Убалаць Калінкавіцкага р-на). Амбівалентнасць у паводзінах хлеўніка пацвярджаецца наступнымі прыкладамі: па-першае, яго лічылі злым духам, бо ён “заезджвае коней, ганяе кароў, ад гэтага скацінка худнее, можа прапасці” (в. Якімава Слабада Светлагорскага р-на), па-другое, паводле народных уяўленняў, гэтая істота можа быць і добрай (“асцерагае скаціну, падкормлівае, поіць” – в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на).

Мясцовыя запісы міфалагічных звестак даюць падставы сцвярджаць, што хлеўнік у павер’ях часцей за ўсё набывае антрапаморфны выгляд, але ёсць сведчанні і на карысць зааморфнай іпастасі: “Хлеўнікі жывуць у сараі. Яны белыя, ножкі белавастыя, спінка ў сівых плямках. Самі яны беленькія і маленькія, поўзаюць на чатырох ножках” (г. Рэчыца), “Хлеўнік - звярок такі маленькі” (в. Лазараўка Рэчыцкага р-на).

Зааморфны выгляд хлеўніка ў некаторых аповедах з’яўляецца іншы раз прычынай неадрознення ў павер’ях гэтай істоты ад ласкі (ласіца, ластка, дамавік, яздун). Тым больш, што яна прыносіла найбольшую шкоду “каровам і коням, якіх, прабраўшыся ўначы ў хлеў, заязджала і мучыла, як хлеўнік, злізваючы салёны пот жывёлы” [1, с. 280].

Каб засцерагчыся ад шкоднага ўздзеяння хлеўніка, чыталі адпаведную замову, апырсквалі хлеў пасвечанай вадой, абыходзілі вакол жывёлы са “стрэчаньскай свечкай” (в. Якімава Слабада Светлагорскага р-на), “жыве ён (хлеўнік) покуль ельнымі лапкамі і свяцонай вадой усе сцены не перакрысціш” (в. Лебедзева Рагачоўскага р-на). Паводле народных уяўленняў, хлеўнік баіцца забітай сарокі, уторкнутага ў дзверы нажа, пасвечанай свечкі, коней living rознай масці (в. Пакалюбічы Гомельскага р-на). “Сродкам выгнання хлеўніка служыла таксама канапляная пуга з адпаведнаю колькасцю вузельчыкаў, адмыслова сплеценая і навязаная на асінавае пугаўё. Пасцёбваючы такою пугаю кожную свойскую жывёліну, пераганялі цераз жароўню (агонь) са словамі: “Пайшла, хіра (немач, хвароба, погань), на ўзвей вецер” [1, с. 534].

**Літаратура:**

1. Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік / С.Санько, Т.Валодзіна, У.Васілевіч і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.

2. Власова, М. Русские суеверия: Энциклопедический словарь / М. Власова. – СПб.: Азбука, 1998. – 383 с.

3. Никифоровский, М.Я. Нечистики, свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / М.Я. Никифоровский. – Витебск: Издатель Н.А.Паньков, 1995. – 88 с.

## *Хлеўнік*



Хлеўнік – гэта нячысцік, які жыве ў хлеве і пужае жывёл. Помню, бацька казаў, што калі хлеўнік завёўся, то плечы ў жывёл будуць мокрымі, бо ён бегае па іх, ганяе і шчакоціць. А вось карова ўсяго малака не аддае. Маці, як ідзе ў хлеў, то пасцілкі бярэ і ўсіх накры-

вае. Жыве ён, покуль ельнымі лапкамі і свяцонай вадой усе сцены не перакрысціш. А ельныя лапкі ў покуце не кінеш.

***Запісана ў в. Лебедзева Рагачоўскага р-на***
***ад Кужаль Н.В., 1935 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***



Хлеўнік – ета такоя сушчаство, якое жыве ў хляве. Я знаю пра яго очэнь мала. Як-та ў нашай дзерэўні не гаварылі пра хлеўніка.

Хлеўнік очэнь плахі. Людзі калі западозрацць, што ён у іх у хлеве сядзіць і шкодзіць іх свінням, карове, то як та тады выганялі адтуль хлеўніка етага.

Кагда ў хазяіна ў хляве былі конь, карова, то як та не баяліся гэтага хлеўніка, таму што ён спрыяў карове і каню. Гавораць, што і чысціў іх ноччу. А калі ў хазяіна ў хляве былі козы, свінні ці куры, гусі, то тагда стараліся выгнаць хлеўніка. І што-та такое рабілі спецыяльнае, но я ўжо і не ведаю, што і як.

У нас яго, етага хлеўніка, ніхто ні бачыў, і пра тое, які ён унешне, не ведаем, но ўродзе ета такі зморшчаны чалавечак.

***Запісана ў в. Убалаць Калінкавіцкага р-на***
***ад Прышчэп Антаніны Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Нямковіч А.***
***(2003 г.)***

Хлеўнік – гэта той самы дамавік, толькі заўсёды жыве ў хляве. Ён заўсёды псуе коней. Пагэтаму хацелі пазбавіцца ад яго.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Шчэрбін Праскоўі Яўфрэмаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Сузько Л.***

Хлеўнік – эта тое самае, што і дамавік. Толькі жывуць яны каля ската, а гуменнік аберагае зернавые ўраджаі. Баня счыталась местам нечыстым пасля 12 ночы. Там збіраюцца чэрці і гуляюць на камянке ў карты.

***Запісана ў в. Тарасаўка Веткаўскага р-на***
***ад Саўчанка Любові Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Жарносенка І.***
***(2003 г.)***

Хлеўнік – чалавечак невялікага росту, які жыве ў хляве. Хлеўнік можа даглядаць жывёлу, а можа і наадварот, шкодзіць ёй. Нярэдка мне маці казала, што ў іх у вёсцы людзі скардзіліся, што ноччу іхніх коней нехта ганяе. Зайдуць у хлеў, а там нікога няма, але заўсёды коні стаяць і цяжка дыхаюць, ажно хрыпяць. Казалі, што гэта хлеўнік балуецца.

Тады ад такога хлеўніка гаспадары хацелі ізбавіцца. Для гэтага кожны гаспадар рабіў па-свойму: адны ўтыкалі нож у дзверы, іншыя клалі ў хлеў або забітую сароку, або пасвяцоную свечку. Кажуць, што хлеўнік не любіць, каб у хляве былі разнамасныя коні, дык некаторыя хазяева, наадварот, каб ізбавіцца ад хлеўніка, такіх коней і ставілі ў хлеў.

Некаторыя людзі кажуць, што хлеўнік даглядае за іх жывёлай: расчэсвае шэрсць ім, падмятае хлеў.

***Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на***
***ад Тукуновай Наталлі Прохараўны, 1957 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Тукуновай Н.***
***(2003 г.)***

Пра хлеўніка ў нашай дзярэўні пашці нічогуткі невядома. Мала каму ён буў з’яўляўся і мала ў каго ён пасяляўся. Але ж ўсё ж ужо былі такія случаі. Самой мне не даводзілася яго бачыць, але адзін чалавеча, які жыў раньш на сяле і якога звалі Валенцій, расказваў, што ў хляве ў яго, дзе абычна стаялі коні і іной раз і каровы, жыў адзін такі нячысцік. Ад яго було трудно ізбавіцца. Вось што ён расказваў. Адразу ён не звяртаў увагу, што ўтрам яго лошадзі булі ўспенены. Але ж, калі пала первая лошадзь, тады забеспакоіўся і пачаў больша ўнімання ўдзяляць сваім лошадзям. І вот каторую ноч

прачынаўся ад шуму, які буў зыходзіў з хлява, гдзе стаялі лошадзі: чую адно, што мае лашадкі ржуць, бегаюць па хляву, а калі заходжу ў хлеў, то ўсё ціха і лошадзі стаяць на сваім месце, але адна або две лошадзі ўспеняныя, нібы вельмі многа прабяжалі і іх быстра гналі.



Вот усё гета я расказаў свайму суседу Пятровічу, і ён мне пасаветаў здзелаць так: ешчэ звечара прынесці ў хлеў, узяць з сабой свечку, запаліць яе і закрыць гаршком, а калі лошадзі пачнуць бегаць і ржаць, вот тады і адкрываць, і еслі ўбачу чалавечка на адной якойсьці лошадзі, то гета і будзе хлеўнік. Аднаму ісці і гетае рабіць було страшнавата, і я ўзяў Пятровіча з сабою. І вот мы ўмесце пайшлі ў хлеў і залеглі на вышках на сене. Узялі свечку, запалілі яе і накрылі гаршком. Не знаю, сколькі мы так праляжалі, але штоб не заснуць, мы ціха разгаварывалі, розныя байкі расказвалі. І вот праз некаторы час чуем, што пачалі лошадзі неспакойна стаяць. Послека пачалі бегаць па хляву, как будта нехта іх паганяў. Пачалі лошадзі громка ржаць. Тады Пятровіч талкае мяне ў бок, кеб я адкрываў гаршок. Я гетак і здзелаў. І шо ж мы ўвідзілі? Я гляджу і не магу паверыць сваім вачам. На маёй сама маладой гнядой кабылцы сядзіць нейкі чалавечак. Нейкі ён скручаны. На маладога хлопца не пахож, бо вельмі малога росту, худы, сівы. Да і на дзядка тожа ж не пахож. Ён жо, кагда ўвідзеў нас, то закрычаў і знік. Тагды Пятровіч мне пасаветаў, кеб я перад уваходам павесіў за нагу сароку, перад уваходам у хлеў, і геты хлеўнік тагды больша не вернецца. Я гетак і зрабіў. І сапраўды, больша геты хлеўнік не ездзіў на маіх лошадях. І лошадзі мае па начам больша не трывожыліся.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міхадзюк Зінаіды Сямёнаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Сухой Ю.***

Хлеўнік лічыўся нядобрай істотай, маленькім худым старычком, які жыў у дальнім вугле. Калі гаспадар адчуваў, што ў яго завёўся хлеўнік, стараліся яго выжыць. Лічылася, што ад яго балее і гіне худоба, не плодзіцца ў гаспадарцы, ноччу ён ганяў карову, катаўся на ёй, і ад гэтага яна худзела і магла захварэць. У такіх выпадках бралі свяцоны мак, рвалі крапіву і раскідвалі па хлеве, разладжвалі вакол хлява, па вуглах з вуліцы. Казалі: “Нячысты, ухадзі, нашай жывёлы не губі”. Пасля такога, лічылі, што ён пакіне іхні хлеў.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.,***
***Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Мельнічэнка Н.***

У хляве жыве хлеўнік. Найчасцей ён таксама добры. Ён аднак можа і раззлавацца, калі што не па яму. Ён асцерагае скаціну, падкармлівае, поіць. Калі ён злы, то скаціне не здабраваць. Любіць хлеўнік чысціню ў хляве, гэта абавязкова трэба. Калі хазяін дабрэнны, то і ў хляве яго таксама ўсё добра, тады хлеўнік добры дапаможнік для таго, каб скаціна не балела. Таму і гавораць, калі хазяін добры, то і хлеўнік будзе ў яго харошы. А калі наадварот, у хаце будзе бяда, скаціна нават можа памерці.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага раёна***
***ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.,***
***студэнткнй Велічкевіч Ю.***
***(2004 г.)***

Хлеўнік жыве ў хляве ўмесці з жывёламі і глядзіць за імі. Ён вельмі не любіць казла, таму, каб ізбавіцца ад хлеўніка, ставяць разам з іншымі жывёламі казла. Калі хазяін добра адносіцца да хлеўніка, то і хлеўнік з ім добры, а таксама і з жывёлай: чысціць каждую з іх, прыносіць сена, ваду, заплятае коням грывы і хвасты. Кагда людзі плахія з хлеўнікам, тагда ў хазяінаў можа памерці скаціна. Штоб вывесці хлеўніка з хлява, падвешвалі тожэ на варотах хлява ці ў самім хляве забітую сароку.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага-р-на***
***ад Кірыленка Аксінні Мітрафанаўны, 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Цешкаў Нараўлянскага р-на)***
***студэнткай Купрацэвіч Т.***

Бывала, устанеш уранні, зайдзеш у хлеў і ўбачыш там жывёлу ўсё мокрую. Асабліва кароў змучваў хлеўнік. Тады гаспадар хадзіў вакол хлява і прыгаворваў нейкія словы, каб адпужаць хлеўніка. На жаль, я іх не памятаю. Гэта можна было назіраць у нядбайных гаспадароў, які дрэнна даглядалі сваю жывёлу. А ў дбанных гаспадароў было ўсё наадварот. Хлеўнік карміў і песціў, раздаваў сена жывёле, заплятаў коням грывы, ласкава гладзіў іх. Дзейнічаў ён звычайна ўночы, і каб яму падабаліся каровы і коні, то трэба было выбіраць іх, калі куплялі, пэўнага колеру, пад колер барады гаспадара. А ўжо раніцою ён палохаў пеўня, штурхаў яго ў бокі, каб той разбуджваў сваіх гаспадароў.

***Запісана ў в. Старая Дуброва Акцябрскага р-на***
***ад Шуляга Ганны Васільеўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Сінкевіч С.***

Хлеўнік, хлеўнік – гэта звычанны хлеў, дзе скаціна стаіць. Бабка мая, маці ды ўсе ў нашай вёсцы яго так называлі, дык і я яго мяную так. Казалі, што ў хлеві можа нечысць усялякая завесціся, дык мамка, каб яе адтуль выгнаць, звычайна на свята святога Юр'я выганяла яе адтуль на ўвесь год. Яна запальвала нейкія зелкі, удымлівала яго. А перад тым, як вывесці скаціну раніцою, абмотвала хлебную краюшку ў трапку, абыходзіла карову тры разы і нейшта там шаптала, не помню я ўжо. Тады, лічылася, што ніякая нечысць на цэлы год да скаціны не прыстане ды й не паселіцца ў гэтым хлеўніку. Не будзе шкодзіць здароўю жывёлы. І йшчэ дамавік, які жыў у хлеве, называўся хлеўнікам.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***

Хлеўнік – гэта халера ў хляве. Гаворуць, што калі хлеў добры, чысты, то хлеўнік ні шкодзіць жывёліне. Кароўкі тады даюць добра малака. А конікам у грыве хлеўнік касічкі плёў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міцкевіч Марыі Іванаўны, 1925 г.н.***
***(раней пражывала ў Чачэрскім р-не)***
***студэнткай Трыпуць І.***
***(2004 г.)***

У хляве таксама жыве дамавой. Але ён не дапамагае, а шкодзіць скаціне, асабліва коням і каровам. Калі яму не падабаецца скаціна якая-небудзь, то ён яе замучае да смерці. І не будзе ніякага паратунку.

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на***
***ад Дайнека Дар'і Фядосаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Камандзірчык Н.***

Хлеўнік і дамавік пахожыя, толькі дамавік жыве ў хаці, а хлеўнік у хляве. Калі хлеўніку наравіцца хазяін і масць скаціны, каровы ілі каня, то ён чысціць іх, коням заплятае грывы і хвасты, носіць ім воду ўночы, корміць. А еслі наабарот, не любіць хлеўнік скаціну, то ён кудлаціць ім грывы і хвасты. Ездзіць на скаціне ўночы, не дае есці, паетаму конь ці карова худзея і можа памерці.

Хлеўнік не любіць казла, і штоб вывесці хлеўніка, усю скаціну селяць умесці з казлом. Хлеўнік шчэ сільна не любіць сароку, асобенна, калі яна садзіцца на хлеў і крычыць. Так сарока выдае хлеўніка. Паетаму, штоб ізбавіцца ад хлеўніка, у хляве вешалі ўбітую сароку.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на***
***ад Пікас Ганны Яфімаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Кілаш А.***

Хлеўнікі жывуць у сараі. Яны белыя, ножкі белавастыя, спінка ў сівых плямках. Самі яны беленькія і маленькія, поўзаюць на 4 ножках. Яны жывуць гуртом.

Я сама іх бачыла, калі была маленькай. Мама паслала ў хлеў, штосьці зрабіць. Я ўгледзіла хлеўнікаў, іх было тры. Я спужалася і пабегла ў хату і крычу: "Мама, што за мышы бегаюць?" А яна пасмяялася і гаворыць: "Гэта хлеўнік".

Хлеўнікі бываюць рознай масці. І любяць скаціну такой масці, якой і самі. А калі хлеўнік не злюбіць скаціну – гэта гора. Ох, і заганяе ўжо яе, змучыць.

Бывала купіш скаціну ды прывядзеш дамой, дык калі карова мокрая, так значыць, хлеўнік яе ўсю ноч ганяў і не злюбіў. Значыць, трэба купіць новую скаціну другой масці, каб была па хлеўніку.

Так было і ў нас. Мама купіла карову краснай масці. Уранку, як зайшла ў хлеў, а карова ўся мокрая. Тады яна сказала, што трэба

купіць новую карову і другой масці. Купілі карову чорнай масці, тады хлеўнік не ганяў яе, і карова ўсягда была сухая.

Для таго каб знаць скаціну якой масці купіць, то трэба зрабіць так: калі строіш сарай, то каля сарая, або там, дзе будзе пол, выкапаць яму. Калі ў яме бегалі чорныя жучкі, то дзяржалі скаціну чорнай масці, а калі красныя – то краснай масці. Рабілася гэта для таго, каб угадзіць хлеўніку.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Радчанка Соф'і Мацвееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Барысевіч А.***

Хлеўнік? Ета ж называюць яго братам дамавічка. Толькі еты жыве ў хляве, сараі. Гаворапь людзі, што аны пахожыя, но яго тожа не бачылі. Бываюць добрыя, а бываюць і злыя, но больш злыя хлеўнікі і скаціну мучаюць.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Сталы Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на)***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Як у доме дамавік, так у хляве – хляўнік. З людзьмі – дамавік, з жывотнымі – хляўнік. Дрэнны вельмі, злы. Заязжае каровак, конікаў, калі мы іх дрэнна даглядаем. Ён любіць, каб жывотныя былі чысцінькія, прыгожыя. А калі яны гразныя, ён злуецца. Хляўнік баіцца сарокі, і людзі вешаюць на сарай дохлую сароку.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н.,***
***Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Если в хлеву заводился зверек, отбирал молоко от худобы. Садится на вымя или на спину, и утром корова остается без молока.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міралюбавай Раісы Майсееўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на)***
***студэнткай Царковай В.***
***(2001 г.)***

Хлеўны чорт, ішшо мая матка гаварыла, што паказаўся ён ёй, завуць хто-как: хлеўнік, хлеўны. Злейшы за дамавіка. Можна, каб уцёк, калі казла паставіць к каровам і коням. Плоха, еслі есць у хляву гэтая зараза, бо спорціць усіх. Ён жа ж катаецца па начах і на кані, і на карове.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на ад Свірыдзенка Таццяны Дзянісаўны, 1923 г.н., студэнткай Кузьмянковай А.***

Хлеўнік – ента такі маленькі чалавечык, які жывець у хляве. Кажуць, што ён вельмі маленечкі. У яго доўгая барада, маленькая галоўка, лупатыя вочкі і маленькія ручкі ды ножкі. Жывець ён разам з жывёлаю. Ноччу сцеліць сена ім, чэша і заплятае коням грывы.

Мая сяброўка бачыла хлеўніка. Гаварыла, што ён вельмі маленькі і жывець у куточку. Ён такога цвету, як у яе конь. Нічога дрэннага ён чалавеку не зробіць, калі тый яму нічога не зробіць. Гаворацць, што хлеўнік добрая істота, бо нічога дрэннага не робіць скаціне.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на ад Мяшковай Лісы Іванаўны, 1931 г.н., студэнткай Курачкінай І.***

Хлеўнік – гэта маленькая істота. Ён жывець у хляве. У хляве ёсць маленькі куточак, дзе ён і жывець. Хлеўнік – гэта маленечкі і лысы дзядочак. Сам ён нізенькі і кругленькі. Яго параўноўваюць з капеечкай. У хлеўніка вельмі доўгая барада. Жывець хлеўнік з жывёлаю. Ноччу ён заплятае грыву коням. Ноччу ён даглядае жывёлу, а днём спіць. Вечарам праказнічае, але нічога дурнога не робіць.

Хлеўнікі вельмі добрыя, таму нічога дурнога і дрэннага не зробяць чалавеку і жывёле. Яны вельмі шануюць жывёлу і даглядаюць яе.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на ад Паляшчук Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н., студэнткай Курачкінай І.***

Хлеўнік – чалавечак невялікага росту, які жыве ў хляве. Хлеўнік можа даглядаць жывёлу, а можа і наадварот, шкодзіць ёй. Нярэдка мне маці казала, што ў іх у вёсцы людзі скардзіліся, што ноччу іхніх коней нехта ганяе. Зайдуць у хлеў, а там нікога няма, але

заўсёды коні стаяць і цяжка дыхаюць, ажно хрыпяць. Казалі, што гэта хлеўнік балуецца.

Тады ад такога хлеўніка гаспадары хацелі ізбавіцца. Для гэтага кожны гаспадар рабіў па-свойму: адны ўтыкалі нож у дзверы, іншыя клалі ў хлеў або забітую сароку, або пасвяцоную свечку. Кажуць, што хлеўнік не любіць, каб у хляве былі разнамасныя коні, дык некаторыя хазяева, наадварот, каб ізбавіцца ад хлеўніка, такіх коней і ставілі ў хлеў.

Некаторыя людзі кажуць, што хлеўнік даглядае за іх жывёлай: расчэсвае шэрсць ім, падмятае хлеў.

***Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на***
***ад Тукуновай Наталлі Прохараўны, 1957 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Тукуновай Н.***
***(2003 г.)***

Хлеўнік пахожы на дамавога. Ён скот не любіць. Ганяе ноччу кароў у хляве. Раніцай прыходзіш, карова стаіць мокрая.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В.***
***(2001 г.)***

Мне расказвалі старыя людзі, шо ў каждам хлеве жыве такі звер, каторый наглядае за дамашней скацінай. Называюць яго хлеўнікам. А па-другому – ласка. Ва врэмя ночы он заплетае каням грывы і хвасты, а каровам – хвасты проста. Некатарым жывотным, каторым не нравіцца эта, ані начынают гарцэваць па хлеву. І ўтрам, када заходзіш у хлеў, тыя жывотныя, каторыя этага не любяць, стаяць у мыле, мокрыя, у пене. А тые, каторым эта нравіцца, – грыва і хвост у каней заплецены ў касічкі, а ў каровы – хвост. Старыя гаворацб, шо этыя касічкі не абразаць, не расплетаць нельзя, таму шта эта пагана сказваецца на худобе. Яна доўга хварае, а потым можа прапасці.

***Запісана ў в. Дзяржынск (раней Святоцк) Нараўлянскага р-на***
***ад Пінчука Аляксандра Іванавіча, 1976 г.н.,***
***студэнтам Каравякіным Ю.***

Дело было позней осенью, но снега шчэ ні было. Ноччу вышел я на двор у туалет. Возле забора на сенавале я ўвідзеў што-та бальшое з бальшымі зялёнымі вачамі. Сразу стала страшна. Я пабяжаў у хату, узяў ружжо, зарадзіўся, узяў патронаў у кішэню і выбег на двор. Пачці што я падышоў да таго места, дзе бачыў ету заразу. Стрэліў у воздух. Сразу после выстрела раздаўся дзікі рык. Ета нечасць прыгнула з сенавалу і пабегла ўцякаць да саседскага забору. Удагонку я шчэ выстраліў разочак – раздаўся візг. Ета сушчаство з аднаго маху перапрыгнула еты забор і пашуршала па саседскаму гароду. А забор быў больш двух метраў. Я пастаяў, пабачыў, паслухаў, залез на сарай, на палаткі, адкрыў шыбку – сядзеў і ждаў, калі шонібудзь паявіцца. Дасядзеў да ўтра, ну нічэво не паявілась. Утрам, на следуюшчы дзень, я пашоў к этаму забору. На заборы я ўбачыў з другой стараны сляды бальшых кагцей і маленькія кропелькі крові. І патом аказалась, што чэрэз два дня на саседняй вуліцы памёр дзядзька. Гаварылі, шо ў яго была стрэляная рана рукі. І шчэ быў слух, шо еты дзядзька звязаны з якім-та нічысцікам.

***Запісана ў в. Дворышча Хойніцкага р-на***
***ад Бурака Дзмітрыя Сяргеевіча, 1981 г.н.,***
***студэнтам Каравякіным Ю.***

Як у доме жыве дамавік, так у хляве жыве хлеўнік. Еслі ён не будзе любіць хазяеваў, то можа так заганяць скаціну па хляву, шо тая і памрэ, можа зашчыкатаць да смерці. А яшчэ было такое, шо хлеўнік заблытаў хвост каня, што і здзелаць нічога не маглі, ня зналі, куды іці і каго прасіць. Так і такое ёсць на свеце.

***Запісана ў г.п. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Смяглікавай Ніны Піліпаўны, 1943 г.н.,***
***студэнткамі Ярохавай С., Псырковай І., Лапінай В.***
***(2003 г.)***

Хлеўнік – звярок такі маленькі. Жыве ў хлеве. Еслі каня злюбіць, то коску яму заплятае, а калі не, то конь уранні выходзіць мокры ад поту, бо хлеўнік яго ўсю ноч ганяе.

***Запісана ў в. Лазараўка Рэчыцкага р-на***
***ад Стрэльчанка Фаіны Несцераўны, 1925 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Велін Рэчыцкага р-на)***
***студэнткамі Сарокінай І., Сілко С., Навуменка Н.***
***(2003 г.)***

Хлеўнік жыве ў хляве. Ён скручаны, худы чалавек. Ён назірае за жывёламі.

Калі хазяін адносіцца з павагаю да хлеўніка, то і той спрыяе яму. Але, бывала, гаварылі, што хлеўнік прыносіць шкоду гаспадару.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Юліі Сцяпанаўны, 1930 г.н.***
***студэнткай Курбасавай Ю.***

Быў знешне хлеўнік падобны на дамавіка, але дамавік з выгляду, як сам гаспадар, а хлеўнік менш галоўны.

З хлеўнікам, як і з дамавіком, трэба жыць у згодзе, таму што ён можа дапамагаць і шкодзіць. Калі з хлеўнікам гаспадар добра паразмовіць, яны прыйдуць да спадобы адзін другому, то хлеўнік будзе кабылу і карову даглядаць, валасы расчосваць. А калі не спадобіцца, то будзе блытаць і хваробы прыносіць.

Вось быў такі ў нас случай. Мой мужык жыў у згодзе з хлеўнікам. Але аднойчы надумаў прадаць карову. Вось, а хлеўнік з ёй сябраваў. Таму гвалт ноччу ў нас быў: усе хатнія жывёлы як пачнуць гарлапаніць. І так тры дні, пакуль мой мужык не пайшоў у хлеўніка прабачэння прасіць, паддобрываць.

***Запісана ў в. Маладуша Рэчыцкага р-на***
***ад Васілец Еўдакіі Паўлаўны, 1920 г.н.,***
***студэнткамі Дзяйкун М., Толкач М.***

Ніколі мы хлеўніка не любілі, бо ён вельмі ўжо злы, чэрствы. Думаеце, ён калі-небудзь нам дапамагаў? Такога ні разу не было на маёй памяці. А шкоды ўжо ён рабіў, усяго і не пералічыш.

Аднойчы раніцай прыходзім у хлеў, а конь увесь як у мыле. Тады бацька сказаў, што ето так хлеўнік ноччу на нашым кані скакаў.

А то было і яшчэ адно здарэнне. Прыбягае раз мая суседка і кліча да сябе. Прыбеглі мы, глядзім і бачым, што конь увесь у касічках, быццам нехта яго ўсю ноч заплятаў. Усе тады здагадаліся, хто гэта быў.

***Запісана ў п. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Пілiпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Чула, што ё такі нячысцік. Муж пакойны расказваў, што асобінна на празднікі замучваў каня і карову. Хвост і грыву ў каня так пазаплітае, што Грыша на другі дзень еты каўтун нажніцамі выразаў. Так ён ні тока блутаў косы. Раз гліжу – у каровы вушы пагрызаныя. Спірва думала, што авадні на пашы пакусалі, так назаўтра ні выганяла, вушы мазяй памазала. Пад вечар гліжу, ішчэ хужай. Так я і паніла, што ета за такое. Ішчэ ж катаіцца на худобе, так заезьдзіць, аж запенены конік ці кароўка худзеюць. Но мы іго выжылі. Ішчэ мама мая гаварыла, што іны сарокі баяцца. Так Грыша мой і павесіў чучала сарокі ў сараі. А ішчэ ўзялі і падкову прыбілі ўверсі, людзі гавораць, што іна шчасця прыносіць. І после етава ён нас болей ні трывожыў. Грыша гаварыў, што ета іму наша худоба ні панравілась, так ён іе і мучаў. Ну, шчас, слава Богу, ні чапае.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Восіпавай Марыі Пятроўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Хлеўнік і шчас жыве ў нас у хляве. Тока харошы. Іны ж і харошыя, і плахія бываюць. Калі панравіцца іму скацінка, ён любіць і шкадуе іе, чысціць. А калі ні панравіцца, так заганяе, што коні дохнуць. Унь у саседкі дзе-та год назад карова ні запушчаная была, а малака ні давала, так напугаў іе. Хлеўнік сільна ні любіць, када гразка ў хляве, а саседка сама жыве, біз хазяіна, на фермі работая, дак, бывая, ні пачысціць. Маіх каровак хлеўнік любіць, чысцяком напоя вадою, сена падкладзе. Я рана іду даіць, гліжу сена ў кармушцы ліжыць. Упірвой перапужалася, думала захварэлі кароўкі, раз сена ні ядуць. Прынесла вады, а ены ні ўзялі. А ўвечары ўжо харашо паелі. Я после етава дзе-та цераз месяц сістрэ расказала, а ена смііецца і гавора, што ета хлеўнічак у міне жыве. А я ж тада ні чула пра іго, так ена мне расказала.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Адамавай Кацярыны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Жыў у мяне хлеўнік. Добры вельмі буў. Я яго любіла, і ён мяне. У другіх дак па начах так скоціну згоня, а ў мене – не. Наабарот,

доглядаў мойго коня і корову. Але я ўжо старая була, сіл не було – і я продола коня і корову, і ён одзін остался. Не любіў жыць одзін, без скоціны. Я дажэ чула по ночах, як ён плакаў, так жалобна. Цэлы месяц так було. А потом я ўжо перастала чуць і рашыла сходзіць у хлеў. Зохожу і бачу на зямле адзежу маленькую. Я не спугалася. Я знала, што ето ён пойшоў од мяне ў другі хлеў, а гэта оставіў, каб я знала і поклала ў клець. А на следуюшчэе ўтро прыхажу, а одзежы нету. А і не знала, што думаць. Прайшло доўга часу пасля гэтага. І я болей яго не чула і не бачыла, але веру, што ён ёсць.

***Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Палуянавай Варвары Аляксееўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Данілевічы Лельчыцкага р-на)***
***студэнтамі Беразняцкай Н., Карпенка М., Асадчай Х.***

Хлеўнік – ета не дамавік, які заўсёды дапамагае, ета істота ўсё робіць так, каб толькі не прынесць нам дабро. Эта ў іх нутро ўжо такое.

Хлеўнікі ганяюць па начах коней, кароў, адбіраюць у свіней сала, запутваюць косы скаціны.

Збаўлення ад яго амаль няма. Але нашы бацькі ўсё ж пакінулі адзін спосаб. Каб выжыць гэтага нячысціка, забітую сароку вешалі на дзвярах у сараі. Пасля гэтага хатнік абавязкова пакіне ваш хлеў.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Да, была ў нас такая беда. Ласка заплетала лошадям косы. Шчекотала лошадзей до пота. Если ласка привяжется, то утром лошадь не могла работать. Выпивала куриные яйца. Её видели. Зверёк, как белочка, выпивала у коров молоко. Сосала вымя, ну не всё, а сколько надо ей было.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Парцянкова Яўгена Дзмітрыевіча, 1941 г.н.***
***(раней пражываў ў в. Турск Рагачоўскага р-на)***
***студэнткай Царковай В.***
***(2001 г.)***

Хлеўнік – злы дзед, які робіць людзям і скаціне зло. Нада сказаць, што етая нечысць можа прымаць розны воблік. Можа ён быць катом, лісой, вужом і інш.

Раз бачыла такі маленькі, беленькі, пушысты камочак. Чую, карова мычыць не сваім матам, прыйшла, а яна ўся мокрая ад поту, і нешта спрыгнула з яе, шусь – і няма. Ета і быў хлеўнік.

Многа ён у нас крыві папіў, але потым мы ад яго ўсё ж пазбавіліся.

***Запісана ў в. Барталамееўка Веткаўскага р-на ад Кавалёвай Веры Сцяпанаўны, 1946 г.н., студэнткай Шаўко І.***

## Чорт

Міфалагічныя ўяўленні старажытных славян – гэта надзвычай устойлівы, “жывучы” пласт культурнага развіцця, у якім адметнае месца належыць з’явам ніжэйшага міфалагічнага ўзроўню. Вывучэнне пытання лакалізацыі звестак пра персанажы ніжэйшай міфалогіі на тэрыторыі Беларусі, у прыватнасці, Палесся, – задача адказная, але вырашальная. За апошнія гады ў фальклорным архіве кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі назапашаны шматлікі фактычны матэрыял, запісаны ў розных раёнах Гомельшчыны. Даволі распаўсюджанымі на гэтай тэрыторыі з’яўляюцца міфалагічныя ўяўленні пра чорта, якога называюць злосным духам. Яго дахрысціянскае паходжанне не замацавалася ў народных традыцыях; “...хрысціянскія ўяўленні пра д’ябла паўплывалі на яго пазнейшы воблік: у фальклоры і народных карцінках – антрапаморфныя істоты, пакрытыя чорнай шэрсцю, з рагамі, хвастамі і капытамі” [1, с. 391].

Чорт у розных лакальных традыцыях Гомельшчыны мае адметны знешні воблік. Напрыклад, жыхары в. Ягаднае Веткаўскага раёна ўяўляюць яго з “рагамі і хвастом”, у народным усведамленні вяскоўцаў Жлобіншчыны, “он такой шэрэнькій, а рукі его, ці капыты, эта, як хто гавора, заўсёды грязныя, рожкі ў яго ёсць, маленькія такія, каля вушак, і хвост, доўгі такі, як вяроўка, і на канцы яго мяцёлка, каб грязь раскідваць, а глаза ў него малыя такія і злыя-злыя” (в. Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна).

Паводле звестак, атрыманых ад інфарматараў з п. Арол Лоеўскага раёна, чорт – “чорны, як смоль, ростам такі мо дзе з метра паўтара. Хвост у яго доўгі з мяцёлкай, ён етай мяцёлкай сляды свае замятае. Рогі, як у казла. Ды і сам ён на морду казла напамінае. Зато вочы страшныя, жоўтыя такія, лупатыя. Ногі ў яго – капыты, а рукі – нашыя напамінаюць, толькі ўсе валасамі аброслыя, і кіпцi, як то ў сабакі, толькі чорныя”. Паводле ўяўленняў мясцовых жыхароў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага раёна, чорт – “такая істота, якая робіць усім гора, ён страшэнны, чорны, з капытамі, рагамі і хвастом”, в. Хутар Светлагорскага раёна – “у чорта длінная барада і рогі іе на кашлатай галаве, а ззадзі – хвост, як пуга”; в. Сямёнаўка Рэчыцкага раёна – “чорненькі столб і два вочкі”; в. Бабічы Рэчыцкага раёна – “гэта д’ябал, які падобны на чалавека, але на галаве ў яго растуць рогі, а замест рук і ног – капыты”, в. Бялёў Жыткавіцкага раёна, “чорт па-

добны на чалавека. Усё цела яго пакрыта шэрсцю. Ён мае хвост, рогі, казліныя ногі, кіпцюры”. Як пацвердзілі інфарматары гэтай вёскі, чорт мог мець і антрапаморфны, і зааморфны выгляд: “Чорт вельмі часта з’яўляецца ў вобразе старца або маладога хлопца, але і таксама можа быць і жывёлай, і птушкай” (в. Бялёў Жыткавіцкага раёна), “чорт можа ператварацца ў чалавека і розных жывёл” (в. Бабоўка Жлобінскага раёна). У вёсцы Карма Добрушскага раёна, паводле мясцовых уяўленняў, чорт у сваім абліччы спалучаў і зааморфныя, і антрапаморфныя рысы: “Сам чорт быў як козлік, а ліцо напамінала чалавека”. Часцей за ўсё зааморфны выгляд чорта асацыіраваўся з “казлом” (в. Васільеўка Добрушскага раёна), “сабакаю”, “авечкаю” (в. Ляхавічы Жыткавіцкага раёна), “ён мог з’явіцца чорным сабакам, казлом” (г. Добруш), чорт мог з’явіцца і ў выглядзе чорнага ката (в. Карма Добрушскі раён). Некаторыя інфарматары прыгадвалі, што ў чорта мог быць ператвораны і анёл, які “правініўся перад Богам” (г. Гомель). У іншых мясцовых традыцыях Добрушчыны і Жлобіншчыны чорт ў народным паэтычным асэнсаванні падаваўся персанажам, які з’ядноўваў у адной іпастасі асаблівасці розных істот: “Чорт – састаўное ад людзей, свінняў, капытных жывёл” (г. Добруш), “чорт з свінячым носам, бычымі вушамі, каровячымі рагамі, чалавечымі рукамі, конскімі нагамі і ўвесь пакрыты чорнай шэрсцю” (в. Сівенка Веткаўскага раёна).

Паводле іншых народных крыніц, чорт як міфалагічны персанаж мог “мець знешнасць маладога хлопца, дзеда, старца, але ніколі не прымае жаночай знешнасці” (р.п. Бальшавік Гомельскага раёна); “чорт з хвастом, рагамі, а хто ён такі, ніхто не ведае” (г. Гомель); “на галаве ў чорта рогі, казліная барада, двухкапытныя ці аднакапытныя ногі, каровій хвост, на руках длінныя когці, цела пакрыта шэрсцю” (г. Добруш); “чорта ад людзей адлічае хвост, паганыя рогі, яшчэ яго валасы па ўсім целе” (п. Лядцы Гомельскага раёна); “абычна чэрці чорнага цвета” (п. Грушаўка Добрушскага раёна); “чорт мог з’явіцца сабакаю, авечкай” (в. Ляхавічы Жыткавіцкага раёна); “чорт можа з’явіцца ў абліччы жывотнага, у абліччы старога чалавека, што грошы просіць; у абліччы знаёмага, аднак з нядобрым намерам” (в. Матнявічы Чачэрскага раёна); “адна казала, што ноччы яна ўстала ад таго, што ў яе на грудзях сядзеў чорны кот і як бы душыў яе” (в. Карма Добрушскага раёна); “чорт мог прыйсці ў любым выглядзе, ён прэўрашчаўся і ў чалавека, і ў сабаку” (в. Дзімамеркі Лоеўскага раёна); “мог з’явіцца чорным сабакам, казлом”

(г. Добруш); “ён быў пахожы на чалавека, але ж увесь чарненны і з рагамі, чорт пераўтвараўся у сабаку і пугаў людзей” (в. Карма Добрушскага раёна).

Адносна месцазнаходжання чорта ў народзе гавораць: “водзіцца чорт у балоце” (в. Хутар Светлагорскага раёна), “чорт можа пасяліцца ў хаце” (в. Целяшы Гомельскага раёна), “у пеклі хто там, дак ето ж іх (чарцей) работа” (в. Рудакоў Хойніцкага раёна), “чэрці жывуць у балоце, у пекле” (в. Бялёў Жыткавіцкага раёна). Іншы раз месцам яго знаходжання з’яўляецца дрэва: “любяць чэрці сядзець на дзераве і пужаць людзей” (Чачэрскі раён).

Функцыянальнасць чорта мае, як правіла, адмоўную скіраванасць. З гэтай істотай звязваюць зло, бяду, хваробы: “Нельга памінаць чорта, бо гэта прыводзіць да бяды. Можа захварэць дзіця” (в. Целяшы Гомельскага раёна), “чорт можа абы-што ў комін накідаць, ва двары напакасціць” (в. Хутар Светлагорскага раёна), “людзям ані шкодзілі, маглі ў багну зацягнуць” (г.п. Капаткевічы Петрыкаўскага раёна), “неадступна сочыць за чалавекам і імкнецца напакасціць, увясці ў грэх” (в. Бялёў Жыткавіцкага раёна), “я знаю, што тыя людзі, што на сябе рукі хацелі накласці, то ён ўсё роўна давядзе да смерці” (в. Бацвінава Чачэрскага раёна), “падказвае п’яніцам, гдзе бутэлька” (р.п. Бальшавік Гомельскага раёна), “можа паяўляцца на зямлі, каб спакусіць людзей” (в. Бабоўка Жлобінскага раёна) і інш.

У асобных гомельскіх павер’ях чорт асэнсоўваецца як істота, якая служыць самому д’яблу: “Чорт дапамагае д’яблу рабіць шкоду людзям” (Чачэрскі раён). Напрыклад, у адной з былічак распавядаецца пра тое, як чорт душыў людзей: “У адной жэншчыны расла ля дому груша. А жэншчына та, гаварылі, умела трошку варажыць – калдунья, значыць, була. І вот ішлі раз хлопец з дзеўкай міма той грушы, і раз – нехта напрыгнуў на хлопца і стаў яго душыць” (Чачэрскі раён). Спрэчкі і сваркі ў хаце ў некаторых мясцовасцях таксама звязваюць з функцыянальнасцю чорта, які мог “праз комін апынуцца ў хаце і зрабіць многа зла” (п. Стаўпішча Буда-Кашалёўскага раёна).

У розных лакальных традыцыях Гомельшчыны былі запісаны таксама і наступныя звесткі пра шкодныя дзеянні чорта: то ён заманьвае чалавека ў балота (в. Ванюжычы Петрыкаўскага раёна), то імкнецца пагубіць душу, “зрабіць чалавеку шкоду” (р.п. Бальшавік Гомельскага раёна), то з’яўляецца прычынай разладу ў сям’і (“муж з

жонкай жылі харашо, а сталі ругацца. А чорт пад сталом сядзеў і хвастом круціў. Дык чорт падпекваў хазяіна” (в. Балотня Рагачоўскага раёна), то жартуе, “любіць збіваць путнікаў з дарогі, збрасываць калёса з восей у час язды, заводзіць п’яных у балота ці ў прорубі” (г. Добруш).

Адзначым, што беларускі міфалагічны персанаж “чорт” выяўляе свой негатыўны пачатак у залежнасці ад маральна-этычных паводзін чалавека: “Як толькі нешта дзелае чалавек дрэннае, то зараз і цапляецца за яго душу і ўжо да самай смерці” (в. Пракісель Рэчыцкага раёна), “хто дзелае калдаўство чалавеку, той аддае сваю душу чорту” (г.п. Акцябрскі). Доказам таго, што чорт – не такая ўжо і страшная істота, сведчыць выказванне жыхаркі в. Карма Добрушскага раёна: “Я вераю, што яны (чэрці) шкоду робяць: свараць з суседзямі, могуць украсці штосьці. Але ён не такі страшны, як ведзьма”.

Большасць беларускіх матэрыялаў сведчыць, што толькі калі справакаваць чорта, то ён можа зрабіць штосьці дрэннае: “Калі чорту што-нібудзь здзелаеш плахое, дык можа і хату спаліць. Раней жыў у аднаго чалавека чорцік, а хазяін узяў і пабіў яго, дык чорцік таму чалавеку гумно спаліў” (в. Карма Добрушскага раёна).

У сістэме народных міфалагічных вераванняў важнае месца займаюць магічныя прыёмы засцярогі ад нячыстай сілы, у прыватнасці, ад чарцей. Вядомы розныя версіі іх, спецыфіка якіх абумоўлена канкрэтнай мясцовасцю. Напрыклад, калі “бачыш чорта, трэба абязацельна хрысціцца – баяцца яны, калі ўбачаць крэсцік ці калі хрысцяцца” (в. Ванюжычы Петрыкаўскага раёна); “у празднікі нельга чорта памінаць” (в. Балотня Рагачоўскага раёна); “Чэрці не паміраюць, а іх можа забіць толькі гром, грома яны баяцца” (г. Добруш); “Баяцца ж чэрці яшчэ і петушынага крыку на світанні, царквы вельмі баяцца, папоў і больш усяго крыжоў” (п. Лядцы Гомельскага раёна); калі нейкае месца было праклята, трэба пабудаваць тэрмінова царкву..., бо “нечысць усякая і чэрці баяцца святога духа” (п. Грушаўка Добрушскага раёна); “калі едзеш на жалезных калёсах, смела едзь у лес” (в. Ляхавічы Жыткавіцкага раёна); “чорт баіцца праклёнаў, калі чалавек моліцца, то чорт уцякае” (в. Матнявічы Чачэрскага раёна); “чорт баіцца краста” (в. Дзімамеркі Лоеўскага раёна) і інш.

Самыя разнастайныя спосабы засцярогі ад чорта знайшлі адлюстраванне і ў іншых мясцовых міфалагічных традыцыях Го-

мельшчыны. Напрыклад, у п. Кавалёў Рог Чачэрскага раёна лічылі, што трэба "кайстру ад лёна, калі яго мнуць, пасыпаць перад уваходам ва двор, у хлеў, усюды, дзе ёсць парог, ілі крапіву-жгунку", "чорт баіцца часнаку" (п. Баец Калінкавіцкага раёна), "чорт ладану баіцца і малітвы" (г.п. Акцябрскі), "ладана і жалеза чорт баіцца" (в. Ляхавічы Жыткавіцкага раёна), "чорт баіцца краста" (в. Дзімамеркі Лоеўскага раёна). Каб вызваліцца ад шкоднага ўздзеяння чорта, ажыццяўлялі і рытуал асвячэння небяспечнага, па народных уяўленнях, месца: "А на другі дзень прывялі да тае грушы папа і асвяцілі тое месца. Калі свяцілі, то нехта вельмі сільна плакаў і пішчаў. Пасля ўжо ніхто на людзей з тое грушы не кідаўся. Груша ж расце і па сённяшні дзень, толькі на ёй зусім не бывае груш, і цвіце яна вельмі мала" (Чачэрскі раён).

**Літаратура:**

1. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мн.: Беларусь, 2004. – 592 с.

## *Чорт*



Чорт – гэта нячыстая сіла, зло. Кагда ў хаце праісходзят ругань, сваркі, бойка, то чорт яшчэ больш падлівае масла ў агонь. Ён любуецца, весяліцца, песні пяе. Чорт можа быць з рагамі, острамі вушамі і длінным хвастом. Але перад людзьмі ён паяўляецца толькі ў абліччы чалавека. Ніколі не нада ўспамінаць чорта (ідзі к чорту, чорт з табой), ілі калыхаць за сталом нагамі, як кажуць, чорта не калышы, а то наклічэш бяду. Калі спаць лажышся, то трэба перакрысцiцца, каб ноччу ён не сніўся. А калі ў дарогу збіраешся, то трэба сказаць: “З Богам у дарозе, з чортам у парозе”.

***Запісана ў в. Хатоўня Рагачоўскага р-на***
***ад Шумавай В.І., 1939 г.н.,***
***студэнткай Прохаравай Н.***
***(2003 г.)***

Мне рассказывала бабушка очень старенькая. Вселилась она в маленький дом. В нём раньше жил зажиточный человек, он был колдуном. Лечил животных, зверей. В 30-е годы его выселили. Дом стоял пустой. После войны она вселилась. По ночам из-за подпола лился неяркий свет, как-будто свеча горела., и шум стоял. Однажды на неё что-то навалилось тяжёлое, покрытое шерстью и начало душить. Она была комсомолкой и не верила в это, но начала читать "Отче наш". То, что душило, отпустило. Она зажгла керосинку, увидела открытый погреб. На полу стоял гроб. Она увидела хвост. И это что-то затянуло гроб в подпол. Больше оно не приходило.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Балдачова Аляксандра Анатольевіча, 1972 г.н.,***
***студэнткай Царковай В.***
***(2001 г.)***

Чорт – нячысцік, як і вадзянік, русалка, інш. Падобны штосьці і з чалавекам, е такія рысы, нос, як у парасяці (рыла), з капытамі, з хвастом, у шэрсці. Усюды шкодзілі людзям. І жыве пабліжай к людзям у глухім месцы, у закінутым гумне або балоце. Калі сабіралісь у дарогу, перакрышчваліся, выходзячы з хаты. Чорт баіцца крыжа, калі хрысцяцца, свяцонай вады. Уцякае ён, калі пеўні запяюць. Калі прыходзіць у хату нежаданы чалавек, якога не любяць, яшчэ кажуць: "Вот, чорт цябе прынёс".

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.,***
***Мельнічэнка Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Мельнічэнка Н.***

У нас гаварылі: чорт з хвастом, чэрці злізалі, чорт яе знае. Я яго не відела. Не знаю пра нево случаяв.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Анісімавай Антаніны Майсееўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на)***
***студэнткай Царковай В.***
***(2001 г.)***

А то яшчэ чорт заводзіць ў балота. І з вялікага лесу дзядзька ішоў п'яны. Чорт: "Хадзем, брат, у мяне паначуем".

Падарожнік: “Да не, мне ўжо блізка дамоў”.

Чорт: “Пайдзём, музыка ў нас іграе такая харошая, стол харошы, ідзём паначуем”.

Ну эты дзядзька звярнуў з дарогі і зайшоў туды. Музыка, сталы стаяць, п’юць, гуляюць.

А тады назаўтра праспаўся, падняўся, а ён у балоце, толькі галава на сухом.

На вячорках ужо збіраюцца. Ну, і музыка, танцы і ўсё. Ну, ужэ моладзь ідзе дамоў.

От адна дзеўка ўзяла венік, стала месць хату, глядзіць – аж хвасты. Калісь скамеек не было, а лавы. А пад етымі лаўкамі... Самі так як мужчыны, а пад етымі лаўкамі – хвасты. Яна як спужалася. Я ўжэ не знаю, што яны дзелалі.

***Запісана ў в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на.***
***ад Васільевай Соф’і Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Юрчанка Н., Радзькінай Т.***
***(2002 г.)***

Чорт – ета нячыстая сіла. Ён як чалавек, толькі ўвесь валасаты, з рагамі, а на нагах капыты, як у свінні. І лыч у яго, як у свінні. Ён жыве ў балоці і можа скінуцца кім захоча. Можа кабаном, сабакам, змяёю і дажа чалавекам.

Калісь расказувалі старыя людзі, шо жыў хлопяц у бацькі і маткі. І ён кажды вечар хадзіў у гумно. Бацька замеціў, шо сын яго ўжэ ўвесь аж засох, да начаў валнавацца. От ён узяў да й пайшоў следам за сынам. Бачыць, аж апаўночы прыйшла дзеўка, да красівая такая. І яны жылі ўжэ з яго сынам, як паложана. Як пракукарэкаў пятух, дак яна прапала. Бацька быстрэй і к бацюшку. Ну, дак бацюшка пamаліўся і даў яму чорны пояс і сказаў: “Дай еты пояс сыну, і няхай ён надзеня яго на тую дзеўку, шо явіцца і к яму”. Бацька так і зрабіў. От, явілася значыцца, тая дзеўка. А сын узяў да й надзеў на яе той пояс. Аўх, дак яна зрабілася гадзюкай, і кім толькі яна ні рабілася, а той яе ўсё раўно дзяржаў тым поясам. Ну, дак яна зрабілася тады дзеўкай і асталася ёю. Да й кажа таму хлопцу: “Я буду з табой жыці, толькі ніколі ня кажы мне: “Ідзі к чорту”.

Ну вот, началі яны жыці ўмесці. А раз еты хлопяц гуляў на вяселлі. Сядзіць за сталом, аж бачыць, падляцеў чорцік ік аднаму



чалавеку, да й за косы яго пацягнуў, тады падляцеў к другому, да й тожа за косы. Лятая туды сюды, а яго ніхто ня бачыць. Тыя мужыкі дак аж біцца паміж сабою завялісь. Еты хлопяц і кажа таму чорціку: "Шо ета ты робіш?" Аўх, дак той яму: "Дак і ты мяне бачыш?" Да цоп яго, да й вырваў таму хлопцу вока. Дак той прыбег дадому і за вока дзержыцца. А жонка кажа: "Шо з табой?" Дак ён: "Ідзі к чорту!" Як прыйшла ад чорта, дак туды і пайшла. Ета ж была чортава дачка, нячыстая сіла.

***Запісана ў в. Малажын***
***Брагінскага р-на***
***ад Харко Ганны Іванаўны, 1958 г.н.,***
***студэнткай Радкевіч А.***

Чорт падобны на чалавека. З рагамі ён, чорны ўвесь, ёсць у яго хвост. Ен жыве пад зямлёй, ці глыбока-глыбока ў зямлі. Гэта называецца пеклам. Туды ён забірае душы грэшных людзей. Чорт самы страшэнны, бо ён губіць людзей, асабліва тых, хто п’е. П’яны чалавек служыць самому чорту, робіць ўсё, што той кажа яму. Ні ў коем разе нельга дома казаць слова "чорт", а то ён можа з’явіцца тут жа і забраць з сабою ў пекла. А ад чорта не спратацца нікуды, ён нікога не баіцца. Некаторыя кажуць, што чэрці паміраюць ад грому, але хто ведае, чаго ж баяцца чэрці. Яны прыносяць няшчасці ўсім, каму хочаць. Калі чалавек пабачыць чорта, то трэба памаліцца. Яшчэ чэрці не любяць крэсты. Той, хто носіць крэст, як бы засцерагаецца ад чорта. Такіх чорт можа і не крануць. Таксама чорт можа пасяліцца ў той хаце, дзе хтосьці памёр, але гэта тожа адбываецца не заўсёды, інагда.

***Запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Велічкевіч Ю.***
***(2004 г.)***

Ето такі человек з хвастом, у яго ёсць капыты і рогі, на руках – доўгія ногці і вельмі длінны хвост. Увесь ён чорны. Ён пахожы на маладога хлопца ці на старога дзеда. І яго ніхто не бачыў пахожым на жанчыну. Ён можа абарачвацца любой жывёлай: сабакай, зайцам, казлом, катом, можа быць савой.

Чортаў дом – пекла. І ён прыходзіць на землю, штоб усё ўрэмя зрабіць плоха людзям. Ад чорта можна абараніцца крестом і трэба верыць у Бога. У мяне тожэ іе пасвецоная вада, бо яна тожэ не дапускае, каб чорт быў у хаце. Увогуле чорт – гэта нячыстая сіла.

***Запісана у в. Башыца Чачэрскага р-на***
***ад Таргаўцовай Марыі Іванаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Купрацэвіч Т.***

Да іх жа цяпер і ў кіне паказуюць, у целевізары. Яны чорненькія, з хвосцікамі, прыгаюць, як абезьяна, да чорныя. А жывуць яны, канешне, у лазе, у вялікіх балотах.

***Запісана ў в. Карані Светлагорскага р-на***
***ад Малец Вольгі Якаўлеўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кіраў Нараўлянскага р-на)***
***студэнткай Лагута Ю.***

У нас многа чарцей было. Между Смелым, Церабееўкай і Ліпнякамі ёсць Чорнае балота – там чэрці вадзіліся. Яны таўкліся ў балоце. Прыйдзём вечарком на захадзе, яны гоняцца за намі. Мы не маглі ні карову, ні гусей пасці, ні шчаўя браць. Страшна было.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Сталяровай Феафаніі Іванаўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Смелы Лоеўскага р-на)***
***студэнткай Журо А.***

Чорт – эта працівапаложнасць Богу. Толька он не такі страшны, как дьявал. Он большэ любіць, штоб людей настроіць адін проціў аднаво, такі вот он пакаснік. А так нічога страшнага он ні дзелае. Эта ему так кажацца, ён проста шуціць так. А людям многа патом із-за ніво праблем.

А выглядзіт он, как усе гаварат, весь махнаты, з рожкамі на галаве, на нагах капыта, хвост длінны і рыльца свінячае.

Прычом, он не толькі сам паяўляецца, ево ішчо і вызваць можна. Я праўда, ні знаю, как эта дзелаецца, но знаю, што можна.

Тожа расказвалі, што ў адной хаце завёўся чорт. Он не відны, но слышна, што капытамі цок-цок і ў сараі свінні, карова ніспакойныя. У хаце діцёнак ніяк заснуць не можа, плача ўсё время. Паэтаму этат чалавек, у каторава он завёўся, рашыў, што эта чорт. Он стаў вспамінаць, каму што плахова здзелал. Аказалася, што ў саседа даўно денег адалжыў, а аддаць усё ні мог.

А как атдаў, то ўсё сразу прэкрацілася.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Пацярухінай Антаніны Цімафееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Чаушнік Н.***

Помню, быў красівы дзень, пасцілі мы з маці кароў. У нас было такое настраенне харошае. Жніво было ( а жылі мы тады на Палессі, у вёсцы Ленін Жыткавіцкага р-на). Ага.. Адна палавіна поля была жжатая, і каровы там пасціліся. А я хадзіла па полю ў жыце, сабірала цвецікі. А там былі такія красівыя. А я любіла васілёчкі і яшчэ сіненькія такіе. Яны растуць невысокія, тоненькія лісточкі і цветочкі, пахожы на чабаточкі. Не ведаю, як яны правільна называюцца, але мама мне казала, што гэта “тэн”, што ў ім велікая сіла ад нечыстай сілы. Патом мы селі на траву каля поля, і маці кажа:

– Я тобе зарэ раскажу про гэтыя цветы.

К одной дзеўцы стаў прыхадзіць хлопец, як ена роботае ў полі. Буў ён красавец-пан: чорнявы, вочы гораць, чырвоны коптан на ім дорогі, гузікі блішчаць і цэпка золотая. І панаравіўся той хлопец дзеўцы. Прыйдзе к ёй, гуляць з ёй хоча, за руку ее возьме – ена і про роботу забудзе. Улюбілася ена ў его. Стала сохнуць. Маці бачыць, шчо з дзеўкай нелады. Стала ена і людзі сталі казаць, шчо нешчо творыцца з ёй неладнае. Рэшыла маці ўпотай подгледзець, хто гэта такі. І праўду: стаіць хлопец-красавец, одзеты бутто пан, і ее дочка, але нешчо серцэ ў мацеры сціснулоса.

А людзі кажуць: “Назбірай тэну і ўплеці ёй у косу, як ена будзе спаць. Толькі штоб ена не бачыла”.

Маці так і зробіла. Прышоў ён на другі дзень к ёй (ці ена прыбегла к ему, не помню. Не, сам прыходзіў к ёй, дзе ена жыта жала), але блізка ён к ёй не потходзіць. Ена хоча к ему падыйці, а ён ад ее отходзіць. Ена к ему, а ён от ее. Ена і путае ў его: “Чаму ты отходзіш от мене?” А ён кажэ: “Вуймі, дзеўка, з косы тэн – то прыду к тобе”.

А ена пакруціласа туды-сюды – нічога не бачыць у косе. А маці ўплела цветы так, што ёй не відно, а ему сіла цветоў чуецца. Ён не можа падысці к ёй. Ена зноў к ему, а ён ёй: “Вуймі, дзеўка, тэн з косы – то прыду к тобе”.

Так дзеўка і не нашла тэн. А ён стаяў, тады стаў отходзіць-отходзіць. І тут тэн его пропала на вочах і чырвоны коптан стаў проподаць на вочах. І стаў ён чортам, а не панам. А замест этого пана появіўся чорт з рогамі і з копытамі. Дзеўка спужаласа, а ён задрыжаў, звізгнуў і проваліўса скрозь землю.

Вот так вулечыла маці дзеўку от нечысціка.

А я з той пары адна стала баяцца ходзіць по краю поля, коб не натрапіць на екую русалку ці на пана-нечысціка.

***Запісана ў г.п. Стрэшын Жлобінскага р-на***
***ад Капліч Анастасіі Мікалаеўны, 1948 г.н.,***
***студэнткай Грыцкевіч К.***

Гэту гісторыю мне расказала мая прабабка, як яна яшчэ калісь была маладая, незамужняя. Была вялікая вайна, гражданская вайна, і ўсе мужчыны былі пайшлі на вайну, і асталіся ў вёсцы адны жанчыны. І вось наступіла зіма, і празнік такі буў – Раждзество. І сталі бабы гатовіцца ўжэ к этаму празніку, як шчодрыкі, кажуць. І вот як на шчодрыкі гатовілісь, тады ж не было калбас сваіх, канфет, а тады былі блінцы, пеклі бульбу ў лушпайках, у печы варылі. Такім угашчалі шчадроўнікаў. І завёўся ў гэтым сяле чорт. Ну, жанчыны ж адны, ну, а чорт хадзіў, к каждаму ў печ лазіў ды еў. А бабы пранюхалі, што гэта чорт лазіць ды нічога сталі ў печ не ставіць. Зварацць, зварацць ды пахаваюць. Перад празнікам ставілі ўжэ ў печ чыгуны, блінцы ўжэ ў печы пяклі, вечарам ужэ к празніку гатовілісь. Ну, а чорт рашыў ім атамсціць. Прыбягае к адной маладзіцы, залез цераз камін у печ. Глядзіць: блінцы ляжаць перад прыпечкам, так пякуцца. Ён узяў, паваляў, паваляў у сажу, сам пакачаўся ў блінцах, тады ўзяў, выверннуў кашу на прыпечак і вылез цераз трубу, і пабег к другой жанчыне. А ў яе боршч варыўся з рыбай і грыбамі. Ён узяў і насыпаў туды попел. К трэцяй пабег, а ў яе бабка варылася. Ён узяў і насыпаў туды вуголля, туды натоўк. Ну, і ўжэ рашылі тыя бабы адна к адной у госці схадзіць. Прыйшла адна ўжэ, напрымер, Матрона к Ганне і Аўдоцце. Прыходзіць ды і кажа: “Ну, угашчай мяне ўжо, Аўдоцця, чым-небудзь”. – “Ой, у мяне ж усякай усячыны: і бліны, і каша – усяго”. Як дастала яна тыя бліны і паглядзелі яны на тыя

бліны: яны чорныя і з поўсцью чорнай. Понялі, што гэта чортава работа. Пабеглі да другой сваёй падругі, а звалі яе Маўрачка, Гаўрачка, Шалуння.

Пабеглі да Шалунні, а ў Шалунні – бабка з вуглямі. Раззлаваліся яны, згрудзілі ў адну хату і рашылі чорта падцікаваць. Селі яны, а потым пайшлі к трэцяй на новую вуліцу, к Хаўронні. Прыйшлі к ёй і ждуць, калі ў печ палезе. Усё цэлае, аж чуюць: сажа насыпалася з коміна, і чорт скок на прыпечак. А яны яго цап ды ў мяшок, завязалі крэпка і прыняслі ў хату к Шалунні. Ну, кажуць, чорт, шчас ты ўсё будзеш есці. Шалуння ўзяла яго, Маўрачка за адну руку, Ганначка за другую руку, сталі яго карміць. Спачатку яго пакармілі блінамі, што пакачаў у сажы – смакату іх паеў. Ну, што ж ім дзелаць, назад кінулі ў мяшок і панеслі ў другую дзярэўню. Дзярэўня называецца Новы Любавін. А вочы завязалі, штоб не знайшоў дарогі назад. Так і сталася. Занеслі яго ў Новы Любавін, і там ён у нас цяпер жыве.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лаўрэнавай Жанны Аляксандраўны,***
***студэнткай Каноплiч Т.***

Гэта было на Новы год. Жыў адзін чалавек. Ні з кім не гаварыў, адзін жыў. І вось прапаў. Пашлі чуткі, што чорт яго к сабе забраў людзей пугаць.

***Запісана ў в. Зашчоб'е Рэчыцкага р-на***
***ад Цайко Раісы Нікіфараўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Верамеевай Т.***

Было гэта неяк па зіме. Выйшла я на двор прычыніць цёлку, а луна ж, як блін. Тутака чую: звініць шосьць, як бубенчык. Я глядзь, а па дарозе сані едуць, а на іх куча чортаў сядзіць, на гармоніку граюць, аж мяха рвуць, а рагочуць так, аж вушы трэскаюцца. Я спужалася – у хату! Дзеду кажу, ён не верыць.

Дурная я, кажа. Усё ж пайшоў, паглядзеў, сляды ад палазоў засталіся.

Мамка ж мая замовы нейкія на гэтую нечысць ведала. На святы якія па кутам лазу раскладвала. А калі калядкі былі, у нас так па хатах не хадзілі, як зараз, бо баяліся, што нечысць запусціць маглі. Печку прама мамка тапіла, каб чорт праз трубу не ўскочыў.

Жыў у вёсцы нашай дзед такі, Конанам называлі яго. Усе яго баяліся, бо бацька казаў, што ён напалову – чорт, напалову – чалавек. Казалі, што хтосьці бачыў, што замест ног у яго капыты.

А здарылася гэта таму, што захацеў ён багацця, пайшоў на Чортава балота (там, казалі, стары вядзьмар перад смерцю захаваў сваё золата ў багне). Конан быў не бедны, хазяйства маў добрае, да грошаў чырвоных прагны быў. Ён узяў з сабой багор і ім калупаўся ў той багне, каб падцапіць той клад. Калупаўся, калупаўся, аж пакуль самога ў тую багну не прысмактала па самы пояс. Ледзь вырваўся з той чортавай пашчы. Казалі, што бачыла ўсё гэта баба Параска, якая потым адразу прыслепла на вочы. Ён жа, як з той багны та выпаўз, напалову чортам зрабіўся.

Гэтая нечысць заўсёды людзям толькі гадзіла. Казалі, хто з ім справу мае, той грэх цяжкі нажывае.

Некаторыя, хто бачылі чортаў, казалі, што яны маленькія, худосныя. Некаторыя казалі, што яны тоўстыя, як кабан на калядкі. Казалі, што на хутары такі вось чорт палез у дымаход ды й на пузе не пралез. І зараз стогне ў той трубе.

Чорт валодае тым чалавекам, які забыўся на Бога, які мысліць па-дурному. Да такога чорт і чапляецца, дурыць галаву, капошкаецца ў думках, марах, штурхае на чорныя справы.

Я шчэ дзіцё была, адно помню: поп у нас быў, жонка ягоная памерла, гарэлку піці стаў. Чула я, як маці з цёткамі казалі, што да яго чорт ходзіць і ўсё з гарэлкай, разам п'юць енту гадасць і рагочуць. Усе чуткі пускалі, што чорт гэты хоча звесці папа. І так і было. Праз месяцаў колькі поп аддаў сваю душу Богу. Таму па вёсцы мала хто піў гарэлку, пужаліся, ці мо не тая гарэлка, шо чарцяка насіў.

Сама я яксьці шчэ малодка была, ішла праз лясок да кумы, дзёрнуў жа чорт уночы перціся. Каб знала, ніколі б не пашла. Іду я, значыцца, чую – ззаду хтосьці ўпобежку за мной! Я бягом, і тое бягом. Чую: "Стой, – кажа. – Вывядзі мяне з лесу". Я думаю, які ж то лес, сам выйдзе, а зірнуць на яго баюся. А ён за спіну мне кажа, шо калі я праз гэты лес шчэ пайду, то з яго не выйду. Тады я ўжо павярнулася глянуць, шо гэта за пугач такі, а яго і няма, знік, у зямлю сышоў ці так знік куды. Але ж я да сёння ў лесе адна не хаджу, баюся, шо тая чарцяка зноў адкуль-небудзь вылязе.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***

Ведаю гісторыю пра дуб, што над дваром каласіцца, што цяпер сцягі. Бо, бывала, пагонім жывёлу з надворку, то ўсюдакі можна пасвіць, а пад дуб падагнаць не можна, бо зараз выскачыць некі белы кот, пачне енчыць, зубы скаліць - адганяя жывёлу і што яму ўрадзіш, калі гэта чорт заміж ката.

На пачатку света чарты былі без рагоў, але раз чорт супраціўляўся з панам Богам ды кажа на яго: “Які ж ты дзіўны”. А Бог: “Ето ты дзіўны, бо на табе рогі”. Чорт мац, мац – на галаве ўсё ж ёсць. І гэта застыдаўшысе, пайшоў. Ад гэтай пары ў кожнага чорта рогі.

***Запісана ў в. Кругавец-Калініна Добрушскага р-на***
***ад Анішчанкі А.І., 1928 г.н.,***
***студэнткай Яўцюшкінай Т***
***(2002 г.)***

Чорт вельмі страшны. Ён такога росту, як і чалавек, толькі ён весь у валасах, чорны, з рагамі, капытамі і хвастом. Ён жыве на балоце, але можа пасяліцца і ў хаце. Чорт прыносіць няшчасці людзям, ён ім шкодзіць у гаспадарцы, у доме. Чорт можа забраць душу чалавека. Чорт можа launch ператварыцца ў любую жывёлу ці прадмет. Засцерагчыся ад чорта можна крыжом ці малітваю. Няльзя часта гаварыць слова “чорт”, а то ён пачуе і прыйдзе.

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на***
***ад Дайнека Дар’і Фядосаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Камандзірчык Н.***

Чорт пахожы на чалавека, чорны, з рагамі на галаве, хвост, цела пакрыта поўсцю. Ён можа прэўрашчацца ў каго хоча. Чорт робіць так, штоб чалавек грашыў, рабіў зло другім. Еслі пабачыш чорта, то трэба маліцца ці паказаць крэст.

Чорт жыве ў пекле (глыбока ў зямле). Калі чалавек памагаў чорту, яму было добра, толькі ён жыў. Як толькі чалавек паміраў, то чорт забірае яго душу і пераносіць у пекла. Чорт сяліўся ў сям’е памерлага і мог будзіць у сне, біць пасуду, ламаць мебяль. Чорт прыходзіць у хату чэраз комін і толькі ўночы. Калі запяюць пятухі – чорт уцякая. Чорта няльзя ўбіць, ён памірая ад грому.

Чэрці сільна любяць п'яных. Як толькі чорт пабачыў п'янага, то прычэпіцца к яму і начыная іздзявацца з яго. Водзіць па ўсіх мястах, застаўляя рабіць усё, што хоча.

Слова "чорт" нязьзя казаць у хаці, бо ён можа паявіцца. Нязьзя пасылаць праклятцці, яны могуць і, праўда, збыцца, калі ў хаці будзя чорт.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на***
***ад Пікас Ганны Яфімаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Кілаш А.***

Чорт жыве ў балоце. На галаве ў яго рогі, ззадзі іе хвост, увесь кашлаты такі.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Сталы Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на)***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Чорт – эта нячыстая сіла. У яго быў такі выгляд: на галаве рогі, на нагах капыты, ззадзі хвост і ўвесь чорны. Яны жылі ў балоці і шкодзілі людзям. І яны нічога не баяцца, дажа агню, толькі баяцца крыжа, калі ўбачаць і калі пачуюць малітву.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Бачура Валянціны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Гавораць: "ідзі к чорту", "у ім чэрці водзяцца", "хітрэй чорта". У людскім паняцці яго ніхто не абхітрыць. Ён усё знае, болей як чалавек. Е ў хатах чэрці.

Я яго прастаўляю маленькім, чорным, як зала, маленькія вушкі, рожкі, носік, як у свінні. Заўсёды круціцца, верціцца, непаседлівы.

***Запісана ў п. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н.,***
***Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Чарцей было многа разных. Ета чорт рагаты, чорт з балота, дамавік, чорт з лесу, маленькія чорцікі.

***Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Свірыдзенка Таццяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай А.***

Чорт – ета такая злючая істоціна. Ета слова нельга гаварыць, бо кажуць, што яно вельмі дрэннае. Етае слова супраць Бога. Бо Бог на небе, а чорт пад зямлёю правіць. Бог забірае людзей у рай, а чорт – у ад. Калі людзі праказнічаюць, як чорт, то яны не ідуць да Бога ў рай. Чалавек, які скажа ета слова, то на яго падуць усе напасці.

Чорт чорнага цвету, з доўгім хвастом, з рагамі, з носам, як у свінні, лахматы. Ён можа абарачвацца ў розных істот: змяёй, свіннёй, сабакам і інш.

Чорт робіць людзям шмат пакасцей. Таму людзі называюць яго д'яблам, гадкай істотай.

***Запісана ў в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Чорт – ента злы дух. Ён вельмі маленькага росту. Чорт – ента чорная, валасатая і брыдкая істота. У яго ёсць рогі, хвост і вушы парасячыя. Летае на мятле, як ведзьма. У чорта чатыры лапы. Яны падобныя на лапы казла. Чорт – вялікі праказнік і хітрун. З'яўляецца ў цёмных і дрэнных людзей, якія не веруюць у Бога.

Чорт ставіць людзей на цёмную дарогу, паентаму людзі апыноўваюцца ў яго лапах. Яны пачынаюць служыць чорту і слухацца яго. Кажуць, што стоіць яго толькі ўпамянуць, як ён з'яўляецца. Паентаму людзі стараліся чорта не ўпамянаць, каб той не з'яўляўся.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мяшковай Лісы Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Курачкінай І.***

Чэрці чорныя, пахожы на катоў, худыя. Длінныя лапы і хвасты. Скачуць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Дудзянавай Вольгі Сямёнаўны, 1928 г.н.***
***(перасяленка з в. Ачэса-Рудня Добрушскага р-на)***
***студэнткай Тупіцкай А.***

Чорт – гэта служка самаго д'ябла. Чорт дапамагае д'яблу рабіць шкоду людзям. Сам чорт такі: невялічкага росту – ну, можа з метар, увесь чорны і пакрыты шэрсцю. Замест носу ў яго свінячы лыч, есць

каровій хвост, на галаве есць пара рог, на нагах у яго капыты. Ходзіць ён сам, як чалавек, але трошку згорбіўшыса. Но эта ему не мешает шаліць. Сам он быстры, шустры, лоўкі. У чартоў кроме д'ябла есць шчэ адзін начальнік. Гэта самы галоўнейшы чорт і распазнаць яго можна па тым, што он храмает. У чарцей галоўная задача – эта наўрадзіць чалавеку і здзелаць усё, штоб той прадаў душу д'яблу. Любяць чэрці сядзець на дзераве і пужаць людзей. От быў у нас адзін такой случэй.

У адной жэншчыны расла ля дому груша. А жэншчына та, гаварылі, умела трошку варажыць – калдунья, значыць, була. І вот шлі раз хлопец з дзеўкай міма той грушы, і раз – нехта напрыгнуў на хлопца і стаў яго душыць. Тут дзеўка такі лямант падняла, што ўся вуліца збеглася. Хлопца, праўда, удалося выратаваць. Праз нейкі час міма тае грушы шоў чалавек дадому. І зноў нехта прыгнуў к яму на плечы, учапіўся добра і стаў душыць. Бачыць чалавек, што тут нешта не тое, і давай хрысціцца ды малітву чытаць. Ось так той чорт яго пакінуў. А на другі дзень прывялі да тае грушы папа і асвяцілі тое месца. Калі свяцілі, то нехта вельмі сільна плакаў і пішчаў. Пасля ўжо ніхто на людзей з тае грушы не кідаўся. Груша ж расце і па сёняшні дзень, толькі на ей зусім не бывае груш, і цвіце яна вельмі мала.

***Запісана ў Чачэрскім р-не***
***ад Ярэня Станіславы Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Клічка А., Руковіч В., Чараднічэнка В.***
***(2003 г.)***

Чорт – ета такоя сушчаство з рогамі, з хвастом. Ён сам невысокі такі, усё яго цела ў шэрсці. Ногі – капыты, як у казы. Раньшы, очэнь даўно, людзі гаварылі, што чорт мог прыйці як чалавек. Чорта не маглі распазнаць, таму што ён был очэнь хітрым. Людзей он толькі дурыў, дзелаў ім зло. Очэнь любіў ён, каб людзі ругаліся, ссорыліся між сабой.

Ешчо мая бабушка мне расказала пра то, што чорт любіў ссорыць жаніха з нявестаю. Была ешчо такая історыя, я дажа і не помню, хто мне яе расказаў, но яе ведаю ўжо даўно.

Чорт напаіў мужыка, што той заснуў, ды так крэпка, людзі дажа падумалі, што ён памёр. Эты мужык спаў 3 дні і 3 ночы. Жонка плакала і дзеці. Пахавалі яго ў скорасці. Тут эты мужык праснуўся і стаў крычаць, стукаць, ругацца. Да так громка, што яго пачулі мужыкі, якія ішлі позна вечарам паўз кладбішча. Падышлі яны, раскапалі,

выцягнулі яго адтуль. Ён у іх пытае, чаго мене ў гроб паклалі ды закапалі яшчэ. А тыя яму ўсё расказалі. Вот якая історыя была.

А ешчо адна історыя ўжо ў нашай дзерэўне случылася. Тады я маладой ешчо была.

Жыла на краю дзярэўні жэншчына, удавой яна была, муж у яе помер, балеў очэнь. Сколькі тут прайшло і сына ня стала. Тут яна саўсем стала очэнь бальной, нікуда не хадзіла як-та і ні з кем не разгаварывала. Ніхто к ёй ніколі не прыходзіў. А то адзін раз, увечары, мы, дзяўчаты, тры нас было, ды хлопцы, гулялі, сядзелі на лавачцы якраз там у канцы дзерэўні. Бачым, к той жэншчыне малады чалавек завірнуў, стукае ў акно. Яна яму аткрыла, упусціла яго. А патом яна сама расказала нам пра ета.

– Сяджу каля стала, лампы не палю. Тут чую, хто-та стукае ў акно. Я запаліла лампу, пайшла к дзвярам. Спрашую: “Хто там?” А ён гаворыць: “Мама, аткрой, упусці мяне, ета я, твой сын, прышоў цябе праведаць”. Са мной, я не знаю, што здзелалася. Ну, я і адкрыла. Зайшоў. Гляджу на яго – мой сынок. Начала з ім гаварыць. Тады сматру – хвост у яго ззаду. Кофта якая-та на ім, рукавы длінныя, рук не бачу. Я ў яго пытаю: “Чаго та ў цябе хвост там?” А ён нічога не кажа, толькі стаў скакаць, бачу – капыта ў яго. Тады як дасць мне ў грудзі. Я тады ўпала і не помню нічога. Бацюшка тагда прыходзіў, асвяціў хату. Етай жэншчыне не верылі сначала, тады паглядзелі, а ў яе на грудзях і на спіне сляды былі такія чорныя, як ад капытаў. Патом ета ўсё прайшло, кагда асвяцілі дом, парог.

Многа чула, што чорт не прыходзіць к чалавеку ў выглядзе сваім, а ўсягда як чалавек.

***Запісана ў в. Убалаць Калінкавіцкага р-на***<br>
***ад Прышчэп Антаніны Міхайлаўны, 1928 г.н.,***<br>
***студэнткай Нямковіч А.***<br>
***(2003 г.)***

Чорт – ета сіла нячыстая. Ён сам увесь чорны, са свінячым рылам, касматы ўвесь, і вочы ў яго блішчаць, а на галаве – рогі казліныя. І хвост у яго доўгі, за ім усягда па палу цягаецца. Чорт можа ў свінню ці ў ката прэўрашчацца. Ён выходзіць у 12 часоў і штурхае людзей на грахі.

Калі чорту стыдна перад Богам становіцца, то ён краснея, краснея і месяц плямамі робіцца. І паўз яго на небі плямы красныя паяўляюцца. Ета чортава дарожка. Кажуць, што ён па ёй раз’язджая ноччу, калі апоўня.

Як які празнік, дак чорт падбівая чалавека работу якую-небудзь зрабіць, каб той саграшыў. Калі чалавек забудзецца да зробіць шо-небудзь, дак нада скарэй маліцца і прашчэння ў Бога прасіць. У празнікі шыць няльзя, мыць анучкі, прасці ці так шо рабіць. Так нас вучылі. Ба, казалі, рукі паадсыхаюць. Ета чорт усюды ўмяшуецца. Кажуць, як чалавек рукі на сябе наложыць, дак ета яму чорт розум паблытаў і сам завёў яго куды нада.

Калісь у нас у дзярэўні дзед адзін спіўся пад старасць. Кажуць, ён чорта бачыў. І я ж веру яму. Найшлі раз етага дзеда на могілках зімою. На магілі ляжаў. Чуць ня замерз, да добра, шо агледзілі да адхаялі. Дак ета яго чорт туды завёў. Той дзед сам патом расказуваў. Кажа: “Ляжу ў хаці. Прыходзіць мужык якісь. І вочы ў яго чорныя-чорныя і маленькія, як гузікі. Прыйшоў да й заве мяне па чарцы выпіць. Ну, я і пайшоў з ім. Аж ён мяне на могілкі вядзе. Я ні сказаць нічога не магу і астанавіцца не магу, ногі самі за ім ідуць. І помню толькі, прывёў ён мяне, піхануў на магілу, а сам уцякаць пабег. І бачу я, шапка ў яго ўпала з галавы, а на галаве рогі тырчаць, а ззадзі хвост цягнецца”.

Во які чорт. Кажуць, як яго ўбачыш, дак нада хрысціцца скарэй і Богу маліцца. Дак тады ён сам адцэпіцца. А яшчэ, як спаць лажыцца, дак нада малітву чытаць. Малітва: “Спаць лажуся, плашчанічкай напрануся. Ангелы-храніцялі, храніця маю душачку. З поўначы да поўначы, з свету да свету, як сам Хрыстос да канца веку”.

***Запісана ў в. Чамярысы Брагінскага р-на***
***ад Сніцарэнка Марыі Андрэеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***
***(2003 г.)***

Чорты ж бываюць align розная росту: ад аднаго і некаторыя ж дажа да двух метраў. На галаве ў іх можа быць да пяці рагоў. Чорты маюць шэрсць, хвасты, рогі і капыты. Замест носа ў іх маленькі пятачок, на галаве рожкі, але маленькія, мо санціметраў дзесяць. Праз рогі чорты атрымліваюць адзін ад аднаго нейкія звесткі. Даўжыня хваста такая ж, як даўжыня роста самога чорта.

Бывае так, што дзеці раждаюцца з кароткімі хвосцікамі, ніжэй копчыка. Дык ета раждаюцца будучыя вельмі сільныя калдуны або ведзьмы.

Чорты калдаваць не ўмеюць. Яны толькі могуць ператварацца ў разных жывёл: казу, свінню, сабаку. Калі чорт усяляўся ў чалавека,

то етаму чалавеку трэба было схадзіць у баню. У бані пры жаркай цімпературы чорты гараць у чалавеку. Трэба было таксама “пабіць” сябе дубовымі, бярозавымі і асінавымі венікамі. Тады можна было не сумнявацца, што чорт пакіне етага чалавека.

***Запісана ў в. Навасёлкі Рагачоўскага р-на***
***ад Лашаковай М.А., 1928 г.н.,***
***студэнткай Валодзькінай Н.***
***(2003 г.)***

Саседка мая даіла кароў радам у дзярэўні. Утрам ранечка хадзіла. Ну, ідзе яна і баранчык маленькі, пушысценькі, беленькі за ёй. Яна толькі стане браць яго ў рукі, а ён – назад. Яна яшчэ раз хацела пагладзіць, а ён паднімае галовачку і “бэ-бэ”, і назад. І так вёў яе да самай рэчкі. Тут саседка дагадалася, што эта чорцік. Пабегла (а эта была ў чатыры часы ранечка). Ён на вавароце адстаў. Расказала мужыкам на рабоце. А яны ёй і сказалі, што ў еты час как раз для іх самае врэмя. І што эта быў сам чорцік.

Ехаў як-та Іван наш на кані. І ўжо пазнавата была. А тут на дарозе ляжыць клубочак, махнаты такі. І ён як ускоча на санкі, так конь і не едзе. Зіма тады была. Іван яго скіне, праедзе трохі, а клубочак апяць на санкі прыгае. І так усю дарогу. І інцерэсна ж: як толькі ўскоча на санкі, дык конь не едзе. І Іван перапужаўся, і конь. Пакуль даехалі, конь увесь змакрэў. А дарога была добрая, гладзенькая. Гэта ўсё чорцік.

***Запісана ў в. Кароцькі Кармянскага р-на***
***ад Маскаленка Іны Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смірновай І.***

Чорт з выгляду чорны, калматы, на галаве ў яго двое невялікіх рагоў, ззаду – хвост, на нагах і руках шмат вострых кіпцюроў. Чорт можа з’яўляцца ў вобразе жывёл і нават чалавека.

***Запісана ў в. Загор’е Светлагорскага р-на***
***ад Кулажанка Святланы Ігараўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Савіцкай І.***
***(2003 г.)***

У нас быў такі чалавек, які хацеў быць знахарам. І ён хадзіў да знахара, які расказваў яму ўсё, што ведаў. І аднойчы, калі чалавек ішоў ад знахара, яго на дарозе сустрэлі чэрці і выкачалі, вымазалі ў

гразь. Бо чэрці не любяць тых людзей, якія лечаць па-добраму. Чэрці ж нядобрыя. Тады ён кажа: “Болей не пайду вучыцца знахарству”. І не хадзіў болей, і чэрці яго не чапалі.

А ў аднаго чалавека нядобрыя (чэрці) забралі малое дзіця. І той чалавек с ума сышоў. Бачылі яго, як ён сядзіць ля печы і кідае туды грошы, шмат грошай спаліў. Так ён хацеў нядобрым заплаціць за дзіця. Але яны дзіця яму не аддалі.



Вось, што чэрці могуць зрабіць з чалавекам, калі захочуць. Яны не любілі тых, хто лячыў па-божаму, здзекваліся з іх, а ніколі не чапалі тых, хто лячыў па-нядобраму.

Калі хацелі зрабіць чалавеку дрэнна, то хто-небудзь ішоў у поле і завіваў завіткі. І ў нас так рабілі. Адна жанчына была вельмі злая на адну жанчыну. Дык яна пайшла ў жыта і завіла там завіткі. І сразу тая жанчына, на якую завязалі завіткі, захварэла. І ў сям’і ў яе стала ўсё дрэнна. І пайшла яна да знахара. І той навучыў яе, што трэба пайсці ў жыта і знайсці тыя завіткі, і спаліць іх. Яна пайшла ў жыта, знайшла тыя завіткі і спаліла. Каб яна іх не знайшла, то магла б і памерці. Дык як толькі яна іх спаліла, то перад ёй узнікла тая жанчына ў чым маць радзіла. І стала плакаць, казала, што гэта чэрці заставілі такое зрабіць.

Чэрці ж маглі і скаціну ўсю паесці ці заставіць яе дамоў не ісці. Дык звалі знахара, каб палячыў, тады скаціне добра станавілася.

Было такое, што нядобрыя на чалавека работалі. У нас быў чалавек, які з нядобрымі знаўся. Ён увечары забіваў у ва двары калок і не засыпалі яго. І тады яму нядобрыя ўсю ноч малако ў ва двор насілі. І так ён кожную ноч забіваў калок, і нядобрыя на яго работалі.

***Запісана ў в. Кашара Рагачоўскага р-на***
***ад Смяян Марыі Рыгораўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Сувіды Брагінскага р-на)***
***студэнткай Смяян С.***

Чорт – гэта нячыстая сіла, яка рабіла зло людзям. Усе людзі яго баяліся. Калісьці матуля мне расказвала, што еслі чорт з'явіўся і яго аслухаліся, то ён зробіць так, каб гэтаму чалавеку было дрэнна. Людзі расказвалі, што чорт был чорны, на галаве – небальшые рага, ззаду тырчаў хвост, як у каровы, на нагах і руках былі когці. Яго цела было ўсё ў валасах. Калі чорт быў мужчынскага полу, то гаварылі, што ў яго была барадка, як у казла. Чорт – очэнь страшная істота. Ён могператварацца ў чалавека ці жывёлу. Но выгляд чорта выдаваў яго.

Кагда-та маёй матулі расказвала яе матуля пра тое, што чорт вельмі любіць здзеквацца з людзей. Калі чалавек кудысьці збіраецца, у далёкую дарогу, то чорт скідвае колы з восяў у мамент, калі едзе ці заводзіць п'яных у балоты, ці ў палонкі.

Быў такі случай, калі чорт з'явіўся у выглядзе жэншчыны і ў адной сям'і увёў мужа, і гэта жанчына, жонка мужа зрабіла сабе смерць. Людзі казалі, што кагда ўбачыш чорта, тады нада плюнуць тры разы.

Чорт жыве в разных месцах: хатах, лясах, у вадзе дажэ. Яны часта з'яўляюцца (пераўтвараюцца) у жывёл і нежывыя прадметы, гэта былі: чорны казёл, баран, кол; з птушак: певень, сава і г.д.

Чорт мог знаходзіцца і ў цэркві, і ў касцёле, хаця гэтыя месцы з'яўляюцца святымі. Але ўсё ж чорты баяцца крэста і малітвы. Гэтым толькі можа памагчы сам сабе чалавек.

Всяк чорт стараецца наўрадзіць чалавеку, каб той узяў на сябе какой-небудзь грэх, і ён забярэ яго душу, каб падтрымаць пякельнае вогнішча. У нашай дзярэўні лічылі за чорта чалавека, які быў вельмі злы і рабіў людзям усякія гадасці.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Шчэрбіч Праскоўі Яўфрэмаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Сузько Л.***
***(2003 г.)***

Гэта было ў нашай вёсцы. Адзін мужык (звалі яго Мікола) паехаў на кані ў лес за сенам, якое накасіў на лясной паляне. А лясы ў нас вельмі густыя, цёмныя. Удзень амаль нельга ў іх добра арыентавацца, а пра вечар і гаварыць няма чаго...

І вось пакуль ён ўходжаўся з накошыным сенам, ужо надышлі прыцемкі. Трэба было хутчэй вяртацца дахаты. Ён запрог каня і паволі паехаў.

Праехаў ён амаль палову ад усяго шляху і тут раптам заўважыў, што пачалі вакол шамацець лісты на дрэвах, закукавала зязюля... Яго гэта вельмі здзівіла, што цёмначы яна кукуе... Месяц, які ярка свяціў на небе, схаваўся за хмарку. Нешта ўверсе зашапацела крыламі. “Мабыць, коршун”, – падумаў Мікола. Яму адразу стала вельмі страшна аднаму ў гэтым лесе.

Ён пачаў хуценька панукаць каня, каб той хутчэй вывез яго з лесу. Аднак, конь як бы астаўбянеў. Стаў як укопаны.

Міколе здалося, што яго нехта паклікаў, ён азірнуўся на воз і ўбачыў на яго краю нейкую істоту. Гэта істота нагадвала жывёлу. У яе была чорная густая поўсць, доўгі хвост і невялічкія рожкі на галаве. Мужык адразу здагадаўся, што гэта чорт. Але ён не верыў да гэтага часу ва ўсялякія чорныя сілы, але ж трэба было нешта рабіць. Тады ён пачаў маліцца, як умеў, і паказаў істоце нацельны крэст. У адну хвіліну гэтая істота спалохана глянула на крэст і кудысьці знікла. Але ж на возе раптам пачало гарэць сена. Мікола хуценька пачаў яго тушыць. Слава Богу. Яму гэта ўдалося зрабіць...

А вось яшчэ адзін выпадак расказала мне сяброўка маёй бабулі – Хількевіч Вера Міхайлаўна. Вярталіся два сябра з танцаў позна ноччу. Яны хадзілі ў суседнюю вёску на вяселле.



Адзін вырашыў ісці праз вёску больш далёкім, але спакойным шляхам, а другі не згадзіўся і выбраў карацейшы шлях. Аднак яму трэба было ісці праз гушчар лесу, але гэты шлях быў у два разы карацейшы. Пра гэты лес хадзілі нядобрыя чуткі. Вось яны і разышліся ў розныя бакі.

Той хлапец, што пайшоў цераз лес, прайшоў амаль ужо палову шляху. Глянуўшы на гадзіннік, ён убачыў, што хутка будзе апоўнач. Раптам ён заўважыў, што за ім нібыта

нехта ідзе, шамаціць лісце, і трашчыць галлё. Ён азірнуўся, але нікога не ўбачыў. Тады хлопец вырашыў ісці хутчэй, але той, хто ішоў за ім, таксама не адставаў. Хлопец пабег, бег ён вельмі доўга. Нарэшце выбег на нейкае поле. Там не было, дзе яму схавацца, і раптам ён заўважыў дрэва. Ён хуценька падбёг да яго, бо адчуў, што яго нехта наганяе, амаль наступае на пяты.

Ён вельмі перапалохаўся і нават ускочыў на гэтае дрэва. Хлапец убачыў, што вакол дрэва бегае нейкая махнатая істота з чорнай поўсцю, хвастом і рагамі на галаве. Гэтая істота пачала падскокваць, каб узлезці на дрэва, драпаць кару кіпцюрамі. Узлезці на дрэва ёй не ўдалося, тады яна адбегла ад дрэва, разагналася і з усёй моцы ўдарыла рагамі ў дрэва. Ад гэтага дрэва пачало хістацца, і хлапчына амаль не зваліўся на дол. І тут яму вельмі пашанцавала, бо пачало ўзыходзіць сонца і заспяваў першы певень. Істота неяк незразумела загаманіла. Уся закалацілася і знікла. У полі адразу пасвятлела і юнак убачыў, што ён знаходзіцца недалёка ад сваёй вёскі. А калі ён злез з дрэва, то не на жарт спалохаўся. Дрэва, на якое ён ноччу залез, было старым і гнілым. Пра гэты лес жыхары вёскі расказвалі, што нейкая істота (мабыць, чорт) да смерці пужала ўсіх, хто ноччу ішоў праз лес. І выратоўваў ад яе толькі крэст ды малітвы.

***Запісана ў в. Пракопаўка Гомельскага р-на***
***ад Шкляровай Антаніны Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Фраловай А.***

Чорт – гэта не чалавек і не жывёла, больш падобны да жывёлы. Ён мае хвост, нос, як у парасёнка, капыты, длінныя вушы. Ён вельмі хітры, хітрэй за чалавека. У нашай вёсцы я не чула гісторый пра чорта, але ведаю адну гісторыю, якую мне расказалі на астаноўцы. Ведаю толькі, што гэты чалавек быў з вёскі Калінкавічы, а сам прыехаў да гасцей, да родзічаў. Расказвала яму гэту гісторыю маці, як ён сказаў.

Ёсць людзі, якія вельмі дрэнна могуць спаць ноччу, варочаюцца і варочаюцца. Ім можа і не сніцца дрэнны сон, кашмар, але яму ўсё роўна не спіцца. І вось калі такі чалавек спужаецца ўначы, ад кашмару ці ад чаго-небудзь яшчэ, то яму нельга глядзець у вакно адразу. Кажуць, тады можна ўбачыць чорта ў акне. Калі табе чорт усміхаецца, нічога благога табе не будзе, а калі ён бушуе, крыўдуе, то ты можаш звар'яцець. Чалавек з астаноўкі тады яшчэ сказаў: "Недарам нашы бабушкі ставілі ставні на окна і закрывалі іх на ноч".

У нас у вёскі толькі кажуць, калі ты матляеш нагу ўверх уніз: "Не качай нагой, чорта гушкаеш на арэлях".

***Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на***
***ад Тукуновай Наталлі Прохараўны, 1957 г.н.,***
***(раней пражывала ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на)***
***студэнткай Тукуновай Н.***
***(2003 г.)***

Чорт бывае. Чорт – гэта тая самая сатана. Гавараць: "Чэрці вадзілі". Гэта было ў дзерэўні Чыстыя лужы. Няма грошай. Баба сказала дзеду везці бульбу прадаваць, каб былі грошы. Дзед устаў і запрог коней, і паехаў, каб раней на базар прыехаць. Зімой нада ехаць цераз лес. Уехаў у лес, коні зафыркалі. І ямо прадставіўся горад Гомель. Тут далі яму грошай, а бульбу высыпаў у магазін. Купіў сахара, булак. Прыехаў назад, а ўсе яшчэ спят. Баба спрашывает: "Што ты вярнуўся?". А дзед: "Не ўсе ж спяць, як вы спіце. Я ўжо ў горадзе пабыў. Там на санях пакупку забяры. А во і грошы". І дастае, а там – бераста. Места хлеба – кал конскі, места сахара – трыса із гнілога пня. Дзед спугаўся. Пайшоў у цэркаў, наняў акафіст і прыгласіў бацюшку ў дом, каб пасвяціць. І толькі тады ўспакоілся.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Панкраценка Ніны Восіпаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Сарасека А.***
***(2003 г.)***

Чорт – эта нячыстая сіла. Гаворацць, што вот ён з рагамі і хвастом. Усім врэд дзелае, з ведзьмамі і калдунамі дружыць.

Як шчас помню, была калісь у мяне саседка ведзьма. Я думаю, чаго вот у каровы малака няма, а тады ўспомніла, што прыходзіла ка мне саседка на празнік за шпылькай. Дык вот малако і прапала. Я тагда соллю карову сцерла і вадой пасвяцонай абпырскала. Чараз дзень апяць саседка явілася што-та прасіць, вот. Я ўжо знала і не дала ёй нічога і соллю ўслед пасыпала. І вот сразу ж малако паявілася ў каровы.

***Запісана ў в. Ягаднае Веткаўскага р-на***
***ад Адзіночка Сафіі Паўлаўны***
***студэнткай Касцюковай М.***
***(2003 г.)***

А пра чорціка я знаю многа што. Вот он такой шэрэнькій, а рукі его, ці капыты, эта як хто гавора, заўсёды грязныя. Рожкі ў яго ёсць, маленькія такія, каля вушак. і хвост, доўгі такі, як вяроўка, і на канцы яго мяцёлка, каб гразь раскідваць. А глаза ў него малыя такія і злыя-злыя. Вось калі гляне на чалавека, дык таму так страшна становіцца, аж мурашкі па кожэ ідуць. Таму чалавеку трэба як мага радзей з ім сустракацца, бо так не доўга і на той свет адысці. А ешчо вместа носа ў него, как у свінні, пятачок. І зяпа ў яго такая страшная, замест зубоў такія клыкі тырчаць, яшчэ больш, чым у ваўкоў.

Днём яго ніколі не ўбачыш, бо днём ён ніколі не ходзіць. Убачыць яго можна толькі ноччу. Жывуць яны звычайна там, дзе больш гразі, дзе-небудзь у глыбіні, у вірах, на балоце. Але могуць прыці да чалавека ў хату, а калі прыдуць, пачынаюць пужаць. Пагэтаму людзі баяцца ў цемнаце хадзіць праз лес ці балота, каб не сустрэць чорта і паказаць яму дарогу дадому. А калі ж, не дай Божа, убачыш чорта, трэба сказаць адразу: "Чур мяне!" І тады ён павінен знікнуць, а калі не знікне. то трэба яшчэ перахрысціцца. Яшчэ чорт можа прыці да бальнога чалавека і зваць яго к сабе ў пекла, гаворачы, што там вельмі добра. Тады хворага трэба перакрысціць, а лучшэ даць папіць яму святой вады, каб хвараба лягчэй праходзіла.

Чэрці не жывуць па-аднаму. У іх ёсць сям'я, і ў кожнага сваі абавязкі. Чорцікі-дзеці робяць маленькія пакасці, а большыя, старэйшыя, робяць вялікія шкоды. І ваабшчэ, чэрці такія злыя, што нікагда не пажалеюць ні старога, ні малога. А яшчэ старэйшыя за мяне казалі, што не аднойчы такое было, калі чалавек праз лес, ці балота ідзе, дык чэрці дарогу блытаюць яму, пакуль у багну не заманюць. А як ніхто на дапамогу не прыдзе, дык чалавек і загіне. У нас вот дажэ ў сяле быў случай і не адзін, калі чэрці людзей блыталі, а потым у багну цягнулі. І толькі некаторыя з іх чудам спасліся, ды ўсё расказвалі, якія яны страшныя, як усё смяюцца, пакуль табе плоха. А яшчэ ўспамінаюць, як тыя чэрці іх капытамі тапталі, каб тыя хутчэй у багну правалілiся. Пасля ўжо гавораць, каб ніхто нікуды не хадзіў уначы, ну дык і я пасля гэтага чорцікаў стала баяцца і нікуды па цемнаце не хажу.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Жураўлёвай Матроны Давыдаўны,***
***студэнткамі Завадской В., Шышкінай С.***
***(2003 г.)***

Чорт – гэта такі паўзвярок, паўчалавек. Быў злым вельмі. Ён увесь чорны. У яго яшчэ быў такі хвост вельмі дліны і гнуткі. Служыў сатане. Мог ператварацца ў людзей і тады было шкоды ад яго.

***Запісана ў в. Лазараўка Рэчыцкага р-на***
***ад Стрэльчанка Фаіны Несцераўны, 1925 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Велін Рэчыцкага р-на)***
***студэнткамі Сарокінай І., Сілко С., Навуменка Н.***
***(2003 г.)***

Чорт – гэта істота, якая пакрыта шэрсцю, ногі з конскімі капытамі мае. На галаве ў чорта рогі, а ззаду хвост расце з мяцёлкай на канцы. Нават, калі чорт прымае воблік чалавека, ён не можа пазбавіцца ад рагоў і хваста. Ён хавае іх пад адзеннем.

***Запісана ў в. Салтанова Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Марыі Канстанцінаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Васілюк А.***
***(2003 г.)***

Чорт – гэта прыслужнік змея або сам змей. Абычна чорт рагаты з хвастом і шэрсцю, абяцае шмат, заўсёды патрабуе душу, як цану за багацце. Любіць заключаць дагавор, які звычайна падпісваецца кроўю. Чорт можа з'яўляцца катом, вужакам, самім сабой або маладым мужчынай, каб саблазняць адзінокіх жанчын. Чорт заўсёды падбівае чалавека на грэх.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Масквіной Неанілы Аляксандраўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Грабаўка Гомельскага р-на)***
***студэнткамі Вальчанка В., Чарпухінай Я., Канавалавай В.***

Чорт – ета, не ў хаце сказана, нячыстая сіла. Пра яго і расказваць страшна, а то прыйдзе ішчэ, не дай, Бог. Яны то, чэрці, абычна ў пеклі сядзяць, здзекуюцца з душ грэшнікаў ды і на зямле тожа е. Гісторый многа пра іх знаю. Расказвала і баба, і матка, і людзі.

Гаворач, што ён чорны, як смоль. Ростам такі мо дзе з метра паўтара. Хвост у яго доўгі з мяцёлкай, ён етай мяцёлкай сляды свае замятае. Рогі, як у казла. Ды і сам ён на морду казла напамінае. Зато вочы страшныя, жоўтыя такія, лупатыя. Ногі ў яго – капыты, а рукі – нашыя напамінаюць, толькі ўсе валасамі аброслыя і кіпці, як-то ў сабакі, толькі чорныя. На етым свеце чорт абычна прыходзіць да грэшнікаў вялікіх,

якія некрышчоныя і ў царкве ніколі не былі, Богу не веруюць ды ішчэ да п'яніц часта заходзяць. Случаяў такіх вельмі багата.

Во і з суседам маім было раз. Я тады ішчэ маладая была, толькі хату пастроілі. Тут жа лес кругом і балота за гародам зразу. Было ета вечарам ужэ. Каровы прыйшлі, і падаілі ўжэ. Ну, а тады на лаўкі гуляць хадзілі. З гармонню гулялі. Сасед п'яны быў у той дзень. А ругаўся ён страшна як. Тут толькі па вуліцы хадзіў, а то чуем крык на ўсё горла ўжэ на балоце яго. Крычыць, як яго рэжуць. Ну, хлопцы нашы сабраліся ды і пайшлі яго адтуль выцягваць. Ён тады расказваў, што то яго чэрці ў балота цягнулі. З сабой звалі і з балота не пускалі. Сам не ведаў, чаго там ачуціўся і як. Калі б не мужчыны, так бы і не найшлі ўжо.

Быў шчэ случай. Расказвала адна цётка. Мужык памёр даўно і астаўся сын адзін, і той не жаніўся. Ну, так яны і жылі ўдвух. Сыну ўжэ гадоў каля сарака було. Ну, і спіўся ён. І тут адзін раз такое прыключылася. "Сплю, – гаворыць цётка, – а тут крык на ўсю хату. Сын крычыць: "Ідзіце ад мяне, не пайду я з вамі! Мам, памажы, дай вады, уключы свет быстрэй, а то забяруць!" Ну, яна спужалася, скарэй свет уключыла. Аж бачыць – сын увесь у поце з адкрытымі вачамі ляжыць. Яна спрасіла, што з ім такое, што спаць не дае. А ён і расказаў, што то чэрці за ім ужэ прыходзілі на той свет забраць. Святой вады папрасіў, напіўся яе, перакрысціўся. І з тых пор так сільна ўжэ не п'е.

І яшчэ было, расказвалі. Міне ішчэ баба мая расказвала.

Ішоў адзін чалавек з гулянкі. Ён у другое сяло хадзіў, на гармоні там іграў. Ну, ідзе, а тут даганяюць яго два маладыя хлопцы. Разгаварыліся часам. І тыя яго папрасілі з імі пайсці, каб паіграць на вечарынцы. Сказалі, што заплоцяць добра. Ну, чалавек і сагласіўся. Звярнулі яны па нейкай сцежцы ў лес. І быстра дабраліся да хаты. А хата там багатая была. Стаў ён іграць тут. Усе гуляюць, танцуюць, красівыя такія. Іграў, іграў ды замеціў, што ўсе, хто тут ё, падыходзяць да бочкі нейкай і мажуць з яе чымсьці вочы сабе. Ну і ён, нядоўга думаючы, памазаў сабе вочы. Як толькі памазаў, аж бачыць, што кругом адны чэрці скачуць кругом. Сам ён сядзіць пасярод балота на купіне і іграе. Ну, ён як спугаўся ды як пабег уцякаць. Насілку нарання да дому свайго дабраўся. Вось што бывае на свеце.

***Запісана ў п. Арол Лоеўскага р-на***
***ад Святочнай Ганны Фёдараўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Зыбко В.***
***(2003 г.)***



Калі шчэ му булі малымі, да нас прыязджаў дзед. Ён вельма многа знаў й сам лячыў людзей дужа бальных. Дык ён шчэ казаў нам, што чэрці – нячыстая сіла, яны да людзей падкрадваюцца да й робяць ім усе нядобрыя справы, а то й зусім убіваюць.

Яны робяцца як каханкі ці як нябожчыкі, таму зусім жывыя людзі. І ніхто не разбярэ, што ета чорт. Толькі малое дзіцятко можа пазнаць чорта. Яно як зараве, калі пабачыць яго, што не можна сцішыць, яно шчэ больш пачынае раўці.

А як казалі ў нас, круціць віхор са смеццям на дарозе, дык гэта чорт у той віхор пераўтвараецца. Як хто пабачыць дзе на дарозе той віхор, дык хрысціліса, бо казалі, што чорт тое вяселле з русалкаю гуляе. І будзе таму ў дарозе што нядобрае, калі пабачыў яго.

***Запісана ў в. Жахавічы Мазырскага р-на ад Турбал Марыі Рыгораўны, 1924 г.н., студэнткай Есман А. (2003 г.)***

Чорт – такая істота, якая робіць усім гора. Ён страшэнны, чорны з капытамі, рагамі і хвастом. Заўсёды здзекваецца над чалавекам. Відзіцца з ім ніколі не прыходзілася.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на ад Вараб'ёвай Паліны Ігнацьеўны, 1924 г.н., студэнткай Краўчанка Н. (2003 г.)***

Вообшчэ е багато інцерэсных історый. Одна молода сем’я зоўсім недаўно пожэніліса, але чоловек умер. Жонка вельмі тосковала по ему, і одное ночы до ее вон прышоў. Але ето буў чорт у его облічыі. Кожну ноч вон прыходзіў до ее, воны жылі як чоловек і жонка. Але маці молодзіцы замеціла, шо дочка почала сохнуць. Вона сказала ёй, шоб та посыпала посвяшчоным маком кружка хаты. Етой жэ ночы до жонкі прышоў чоловек, але попасці до ее вон не змог з-за посвяшчоного маку. Вон вельмі зліўса, грозіўса. Усё кругом стукало, грымело, буў велікі вецер.

Не трэба знацца з нечыстой сілой, бо ўсе раўно ўсё перэвернецца процiў цебе.

***Запісана ў в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на***
***ад Бурым Варвары Якаўлеўны, 1930 г.н.,***
***студэнтамі Кашавар В., Сабуравым Дз., Козыравым С.***
***(2003 г.)***

Чорт – гэта страшная такая жывацiна. У нево есць рага на галаве, сам ён чорны, увесь у шэрсцi, як сабака. Есць у яго i хвост, i такiя длiнныя когцi на пальцах, а на нагах капыты. Яшчэ, кажуць, барада ў яго есць. Чорт прыходзiт к цем, кто награшыў, каб душу яго забраць, зрабiць злым. Сам ён жывёт на балоце, но днём яво не вiдно, а тока вечерам. А кагда луна поўная, дык яны танцуюць, чэрцi, iх многа тады сабiраецца. У нашай саседкi быў чорны кот, i ў яго как-то непанятна барада расла, як у чорта точна. I ён аднажды выскачыў з кустоў, кагда я на гародзе палола. Мне дык точна паказалась, што эта чарцяка нейкi. Я яго, этага ката, патом баялася. Патом яго сабака загрыз, i прама тады, калi паўналуння было, дык у нас гаварылi, што ён вобраз свой – чарцякi прыняў, наверна, дык вось яго сабака i загрыз. Я сама-то не сiльна веру, але чула, што чорт i ў жывотных, i дажа ў чалавека перадзелвацца можа.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Прыбышэня Эмы Ігнацьеўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Марусенька Жлобінскага р-на)***
***студэнткай Прыбышэня Ж.***
***(2003 г.)***

Чорт стараўся прынесцi врэд людзям. Ён прадстаўляўся чалавеку, як нейкая незразумелая iстота. У iм сабрана ўсё ад розных жы-

вёл: быў увесь пакрыты шэрсцю чорнаю, з капытамі, на галаве – вушы і рага, нос пятачком, вочы вельмі хітрыя, такія маленькія, зыркаюць насмешліва, і ў яго быў длінны вельмі хвост, на канцы пушысценькі. Гаварыў чорт чалавечым голасам. Жыў у пекле. А да чалавека прыходзіў ноччу і звычайна праз трубу. Чорт можа паабешчаць чалавеку нешта добрае, а зрабіць наадварот. Калі чалавек паверыць яму, то, лічы, прапаў. Заўсёды падманвае людзей. Чорт абладае сілай очэнь бальшой. Ён можа ператварацца ў жывёл розных, напрыклад, у каня можа. Бог вельмі не любіць чорта, таму што ён вельмі пакасны, не дачакаешся аніякага дабра. Але чалавек можа абуздаць чорта, падпарадкаваць сабе, таму што чалавек абладае большай сілай, чым нават сам чорт.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Тарун Вольгі Аляксееўны, 1950 г.н.,***
***студэнткай Шамонінай В.***
***(2003 г.)***

Чорт быў ростам з чалавека. Знешне нагадваў ваўка, але ў гэтага былі рогі і капыты, і хвост. Звычайна жыў у нізе дуба або ў балоце.

Чорт вельмі баяўся Перуна і ўсюды хаваўся ад яго. Напрыклад, пад дрэвамі. І тады Перун накіроўваў стрэлы на дрэва. Таму нельга хавацца ў час маланкі пад дрэвамі. Чорт заўсёды шкодзіць людзям. І яны яго вельмі баяцца.

***Запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на***
***ад Грудавенка Таццяны Іванаўны, 1927 г.н.,***
***Бабраўнічай Вольгі Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Мартынавай Н., Луцэнка Ю.,***
***(2003 г.)***

Чорт – ета чорная махнатая пачвара з крыламі, хвастом, капытамі і рагамі. Ведзьма – яго жонка. У лесі пазбіраюцца чарты з ведзьмамі і пляшуць. На тых містах трава ні расце, як павыпаліваў хто. Чорт можа быць і кульгавым, і крывым. Нельга называць іго па імяні, ета вялікі грэх. Нільзя чартыхацца. А хто чартыхаецца, да таго і прыліпня, і будзя шкодзіць. Барані, Божа, нільзя клясці чалавека, а то чарты да сябе тых забіраюць, каго клялі. Людзі кажуць, што етыя нячысцікі сабіраюцца на чардаках, перакростках. Калі грыміць, нада хрысціцца, таго што ў чалавека можа ўлезці чорт. Чарты ў грымоту хаваюцца ад ангела. Када ясі, нада перахрысціць яду, ці, када чалавек

чхая, нада гаварыць: “Будзь здаровы”, таго што чорт можа ўлезці ў чалавека. Каб ён ні трогаў, нада хрысціцца, насіць на шыі хрэсцік, жыць так, як наказаў Бог, маліцца. Ішчэ гавораць, што чорт сільна не любіць, када хто-та мацярыцца.

***Запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на***
***ад Восіпавай Марыі Пятроўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Трошка Т.***
***(2003 г.)***

Ета яшчэ хужэй жаб, гадзін і паганак. Яго ўсе чалавечы баяцца. Ета сапраўдная сатана. У етага чорта на галаве рожкі, а які ў яго дліненны хвост і капыты ў яго ёсць.

Абараніцца ад яго можна крэстамі, малітвай, ці трэба перахрысціцца. Знаходжанне ката ў доме не дае чорту вадзіцца.

Ёсць такое павер’е. Калі хадзіў чорт к дзеўцы, гуляў з ёй, то ета дзеўчына пачынала сохці, усыхаць. Ета дзеўчына ўцякала да чорта, каб маці не бачыла і бацька. Каб еты чорт перастаў хадзіць да дзеўчыны, ёй упляталі ў касу буркун і тою. І посель гэтага еты чорт больш не прыходзіць. Вось ета сатана!

***Запісана ў в. Востраў Рагачоўскага р-на***
***студэнтамі Чагінай Н., Дзенісенка У.,***
***(2003 г.)***

Чорт з выгляду чорны, калматы, на галаве ў яго двое невялікіх рагоў, ззаду хвост, на нагах і руках шмат вострых кіпцюроў. Чорт можа з’яўляцца ў вобразе жывёл і нават чалавека.

***Запісана ў в. Загор’е Светлагорскага р-на***
***ад Кулажанка Святланы Ігараўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Савіцкай І.***
***(2003 г.)***

Чорт – эта той жа самы сатана. Ён чорны, страшны, з рагамі на галаве і хвастом. Але чорт можа прымаць воблік людзей і ўжэ памерлых.

У адной жанчыны памёр муж. Праз некаторы час з’явіўся яго воблік. Ён хадзіў кожны вечар, дапамагаў па хазяйству, разам вячэралі. Але потым суседкі параілі ёй прыглядзецца да етай істоты. То яна ўбачыла, штэ ён мае і рогі на галаве, і хвост. Дык яна абсыпала свяцоным макам парог і вуглы ў хаце, а чорт і знік адразу.

Шчэ нельзя чортам клясца, а то бяда будзе. Адна жанчына ўкрала казу, а калі ёй прад'явілі абвінавачванне, то яна сказала: "Клянуся, што як казы я не брала, так штоб я дзіцёнка свайго не бачыла". Пасля гэтага яе дзіцё, якое ні разу не хварэла, пачало хварэць і хутка памерла.

Каб пазбавіцца ад чорта, трэба мець агонь. Чорт баіцца агню. Агонь вочы слепе, і калі ён гляне на агонь, стане сляпым.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Чорт – ета такая нечысць, што ходзіць па свеце і людзей у грэх уводзіць. Чорт можа бываць усюды, аднойчы ён і ў царкву трапіў.

Калі бацюшка пяе песню, то людзі павінны стаяць роўна, рукі, ногі трымаць разам, прыжымаць к целу, каб чорт не праскочыў.

А шчэ гавораць, што чорт любіць у лазні мыцца. Пасля дванаццаці гадзін толькі чэрці і мыюцца. Калі чалавек ходзіць у лазню, то там ён выганяе ўсіх чарцей, яны згараюць там, так як не вытрымліваюць такой жары. А таму чэрці ходзяць мыцца пазней, як баня ўжо астыне.

Чорт можа прымаць любы выгляд: ката, вужа, чалавека.

***Запісана ў п. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

Чорт – гэта нячыстая сіла. Кажуць, што ён нападобіе казла: з рагамі, а нос такі нападобіе, як у свінні, лыч. З'яўляцца можа ў любым абліччы. Я маю на ўвазе, у абліччы любога чалавека, а не жывёліны.

Раз знаёмая мне дзяўчына расказвала. Прышла яна са школы. Калі зайшла ў двор, то ўбачыла, што бацька палез на крышу, на хлеў, а калі ўвайшла ў хату – бацька на криваці ляжыць. Казала, увайшла, дык анямела, так злякалася. А чорт, відна, душу бацькі ўзяў, бо той жа алкаголік быў.

А памінаць чорта не нада, каб ён к цябе не вярнуўся. І вот, як сядзім, не нада нагамі калыхаць – ты яго калышаш. Так і калыску пустую нельга калыхаць.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на***
***ад Філімонцавай Ніны Платонаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Старыкавай Т.***

Чорт – памошнік д’ябла. Як толькі нешта дзелае чалавек дрэннае, то зразу і цапляецца за яго душу і ўжо да самай смерці. Сейчас яны ў каждага за спіной ходзяць. Нету чыстых людзей.

Смяяцца з яго нельзя, раззлуецца – мсціць будзе. Ён баіцца краста, малітвы, святой вады, царквы і гразы.

***Запісана ў в. Пракісель Рэчыцкага р-на***
***ад Канюшэнка Веры Зінавееўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Коваль М.***

Хадзіў чорт к жынке, а ён да тых пор увлёкся, так высушыў яе, лягаў спаць з ёй. Да тады сталі казаць усе ёй, каб пайшла да не таіла, расказала ўсё бацюшку, ды тады толькі ён перастаў хадзіць.

***Запісана ў в. Папаратнае Жлобінскага р-на***
***ад Жураўскай Галіны Альбінаўны, 1939 г.н.,***
***Давідэнкі Ганны Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Канавальчук І.***

Чорт – гэта нячыстая сіла, злы дух. Калі нечысць ёсць у хаце – значыць, там будуць скандалы, балеюць людзі, лаюцца, што трашчаць сцены.

***Запісана ў в. Целяшы Гомельскага р-на***
***ад Шчадровай Зінаіды Аляксееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Маісеенка В.***

Знаю, што чорт баіцца вельмі веруючага чалавека. Да такіх ён рэдка заходзіць. Да лодыраў, якія хочуць нажывіцца на чужым дабрэ, наабарот, часта прыходзяць. Трэба пастаянна насіць хрэсцік на шэе. А калі і ўбачыш чорта, то нужна перахрысціцца 3 раза, прачытаць “Ойча наш” і сказаць услых: “Згінь, ліхое, прападзі!” А яшчэ матка мая казала, што як чорт у хаце завядзецца, то ў палу, у шчыліну, нужна нож утыркнуць. Знаю йшчэ, што чорт нікагда не прычэпіцца да воску, льну, мёду, таму шта гэтыя рэчы к царкоўным адносяцца. Так з лёну дзелаюць кноты да свечак і лямпаў у царкве.

Сястра мая шчас ужо глухая стала. А раней знахаркай добрай была. Яна як-та мне і напісала на бумажцы заклінанне ад чорта, ліхога чалавека. Гэтае заклінанне трэба чытаць на святую ваду і перад выхадам куды-небудзь з хаты, умыцца ёй. Вось і само заклінанне: “Ёсць у нас ат дзьявала ілі ад ліхога чалавека тры лісты

пісаных: первый ліст – Маць Прэсвятая Багародзіца, вторый – Іоанн-крэсціцель, трэцій ліст – сам Ісус Хрыстос. Штоб цебе, дзьявалу, чорту і ліхаму чалавеку, ка мне не вязаціся і не касаціся, нет тут табе поцехі і веселья, ні радасці, ні карысці. А вот табе пацеха, радасць і карысць у старага гаспадара, хто цебя пасылает і хто наражает, там і цешся, весяліся, радуйся і ты его ламай на вечную трэцюю кадзілу, атныне і да века. Амінь”.

***Запісана ў п. Смелы Лоеўскага р-на***
***ад Міхута Фёклы Яўхімаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Каралёвай Н.***

Страшны, чорны, як звер якісь. Чорт вельмі баіцца лекарак. Душа самагубца ідзе да чорта, дажай бацюшка не спраўляе, гавора, што гэта яго чорт забраў. Нельга клясць, а то чорт уселіцца ў чалавека. Нельзя клясца, асабліва роднымі, бацькамі, дзецьмі, а то чорт падслухае і зробіць дурное.

Вось у свёкра прапала каза, ён ведаў, што яе ўкрала Марына і прадала ў Юркавічы. Ён пайшоў да яе і кажа: “Ты ў мяне казу ўкрала, дык назад прывязі і пастаў на месца”. Але яна адказала, што ніякай казы яна не крала. А сама пайшла ў Юркавічы за казой, каза зачапілася ў галлё, тут бяжыць баба і крычыць: “Чорта бачыла, там у кустах”. Пабеглі глядзець, а там каза майго свёкра. Мы яе прывялі дамоў. Свёкар потым пытаў у Марыны: “Ну, што ты брахала, ты ж украла казу?” А Марына кажа: “Клянуся, што як казы не бачыла, штоб я і дзіцёнка свайго не бачыла”. І што вы думаеце, дзіцёнак раней не балеў, а тут пачаў хварэць і скора ж памёр.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кавалёвай Вольгі Сцяпанаўны, 1913 г.н.***
***(перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

Чорт можа папасць у цэркву. Калі бацюшка пяе песню херувімы, то людзі павінны стаяць роўна, ногі, рукі трымаць разам, прыжымаць к целу, каб чорт не праскочыў.

Быў раз выпадак – усю ноч сабака рычала, рвалася, сільна гаўкала. Паглядзела – нікога німа. На ўтра глядзь, а каля дома сляды маленькія, як у авечак. Так бабы гаварылі, што гэта чэрці тут танцавалі. І каб больш такога не было, у кожны след трэба было ўбіваць гвоздзі.

Чэрці самі вялікія, больш за чалавека, замест носа ў іх пятачок.

Вось гаварылі, што чалавек з розным колерам вачэй – ад нячыстай сілы. Кажуць, што бацькамі ў іх былі чэрці, а матка – ведзьма.

Чэрці ператвараюцца ў каго толькі хочыш: і ў звярэй розных, і ў людзей. І распазнаць чорта можна толькі сільна ўгледзіўшыся ў яго.

Калі чалавек ходзіць у лазню, то там ён выганяе ўсіх чарцей, яны згараюць там, так як не вытрымліваюць такой жары. А таму чэрці ходзяць мыцца пазней, як баня астыне, і гаворадь жа: "Пасля 12 гадзін мыюцца толькі чэрці".

У жанчыны муж памёр. Праз некаторы час прыходзіць яна дамоў, а ён каля двара стаіць. З таго часу пачаў ён хадзіць вечарам кожны дзень. Гаварыў з ёй, дапамагаў па хазяйству, вячэралі разам. Жанчына нікому аб гэтым не расказвала. Суседка замеціла, гаворыць ёй, што гэта ў цябе свет дапазна гарыць і сама ты змянілася. Тады жанчына расказала ёй праўду. Тут баба ёй кажа, што калі дзела даходзіць да пасцелі, удуша. Гэта не твой муж, гэта – ператвораны чорт. Вось яшчэ раз прыйдзе, прыгледзься добра. І праўда, ён стаяў каля стала, жанчына прыгледзелася добра, а гэта чорт: і хвост у яго вісіць, і рожкі маленькія. Бабы сказалі ёй, каб узяла свячонага маку і абсыпала парог, вуглы ў хаце, і тады ён знікне. І вось ён падышоў і сказаў: "Штоб табе так цяжка дыхалася, што ты мяне не пускаеш у двор".

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Сідаракінай Зоі Мікалаеўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Вераб'ёўка Веткаўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А.***

Было мне 16 гадоў дзесьці. Кажа маці: "Позна ты гуляеш, каб табе плоха што не было, ты глядзі". А я не слухаю ды іду. Збяромся мы ў клубе і сядзім, а там жа нічога няма, хлопцы, дзеўкі збяруцца, а ў клубе хоць шаром пакаці, і кожны гультай чым-небудзь займаецца. А дамоў ідзем усе разам. Вот шлі мы так дамой ды дайшлі да дома. Там маладзіца адна добра жыла, мужык у яе добры быў, багатая была, а як мужык памёр – усё ёй засталося. А яна ж так плакала па ім, уродзе бы збясілася, так перажывала. Пахавалі мужыка, а потым яна й кажа: "Адкапайце, ён жа жывы". Адкапалі яго, а ён сапраўды жывы, а маладзіца паглядзела: "І я таксама памру хутка". А чорт узяў і абрадзіўся яе мужыком і прыйшоў да яе ў хату. І так стаў кожную

ноч хадзіць. Уляціць праз комін, а сам клямкай ляп, як праз дзверы. А баба тая і верыць, што мужык гэта яе вярнуўся. А потым узяла ды й бабам расказала, а яны падказалі ёй: “Схадзі да таго-та, таго-та, ён паможа”. Вот яна й пашла да яго. А той чалавек паслухаў яе ды й падказаў ёй: як стане ён цябе абнімаць, павядзі рукой з галавы да пояса ззаду, а там і хвост знойдзеш.

Вот вечарам ён прыляцеў зноў, чорт. Леглі яны, а баба як вот-вот каля 12 часоў было, паводзіла рукой, а ў яго хвост, як у чорта. А чорт еты пракляў яе тры разы ды праз комін і ўляцеў, а маладзіца ўпала, як мёртвая, пражыла, бальная 3 тыдні і памерла.

А вот ішлі мы, калі чорт да яе яшчэ лётаў. Ідзём, смяемся, а дайшлі да яе хаты, ужо 12 часоў было ночы. Бачым, а да хаты зарыва якоесь ляціць, страшнае, як змей з агню, а потым як ударыўся аб зямлю, аж іскры паляцелі. А мы пабеглі хто куды, вішчым, крычым, плачам. Доўга па той вуліцы і днём не хадзілі. А зарыва тое, змей той, гэта, наверна, чорт да маладзіцы ляцеў.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Лапата Юліі Апанасаўны, 1924 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

Жыве чорт заўсёды на млыне, у гумне, а паяўляецца людзям, калі яны зерне зложаць, снапы ці малоць прывязуць. Асабліва ў цемнаце, ноччу, пугае іх. І арудуе, людзям шкоду робіць: зерне раскідвае, муку псуе, камні, пясок туды сыпле. А чорт, ён такі рагаты, як чалавек, але з рагамі. І хвост у яго, і капыты, а твар чалавечы. Памінаць яго нельга, асабліва ў святы ці ў дарозе, а то нашкодзіць.

Каб засцерагчыся ад яго, трэба “Ойча наш” чытаць ці яшчэ якую малітву, яна сілу мае над чортам.

Гадоў дзесяць назад з’явіўся чорт у аднаго чалавека ў нас. Ён мельніцу меў, зараз яе ўжо няма. Шкоду ён яму рабіў, людзей пугаў, на мельніцы ноччу шумеў. А мельніку надаела ета, ён у царкву пайшоў на свята і вады святой узяў. Пабрызгаў на мельніцы – чорт і знік. А мельніца хутка і згарэла. Людзі кажуць, што гэта чорт адпомсціў.

***Запісана ў в. Галоўкі Рэчыцкага р-на***
***ад Галоўка Алены Аляксееўны, 1924 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

Адзін старшы анёл, узбунтаваўшыся, зажадаў пабратацца з Богам, а Бог яго так піхнуў, дак ён і паляцеў і торк галавой – ды ў пекла, у ад, значыць, упаў і там зрабіўся чортам.

Як чорту ў пекле стала жарка, ведама ж, ён не прывыкшы, то ўбегаў ён шукаць вады, каб купацца. Бегаў, аж бачыць возера, да вялікае. Кінуўся да яго, а як пабачыў сябе ў вадзе, спужаўся морды сваёй, не пазнаў. Давай ваду калмуціць, калмуціў, аж балота зрабіў і стаў у ім жыць, а шчэ вужоў, яшчараў, жаб, гадзюк яму туды напаўзло. Так і жыве ён з імі ў балоце.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пузан Алы Пілііпаўны, 1928 г.н.,***
***студэнтам Сераком А.***

## *Цмок*



Цмок пахожы на змея. Хто з ім добры – цмок прыносіць грошы і хлеб, каровы ў гэтага гаспадара малочныя. Цмок бывае і злым, лянівым, тоўстым (нячысты дух). Яны не прыходзяць да простых дзеравенскіх людзей. Людзі, якія жывуць у сям’і, не знаюць пра цмокаў. Але кагда людзі не ведаюць законы (парушаюць іх), цмокі зразу ідуць да іх.

***Запісана ў в. Шылавічы Чачэрскага р-на***
***ад Шыловіч Праскоўі Рыгораўны, 1908 г.н.,***
***студэнткай Купрацэвіч Т.***

Цмок – гэта такая нячыстая сіла, якая жыве ў балоці. Шмат усялякай нечысці ў балоці абітае. Гэта такое месца страшнае. А цмокам яго назвалі з-за таго, што цмокае ён у тым балоці, калі ступае туды чыясь нага, ці чалавека, ці звера. Зацмоквае ён тады сваю жэртву ў багну.

Цмока ніхто ніколі не бачыў, ён як невядзімка тая. Яго не бачуць, аднак чуюць. З балота ён ніколі не выходзіць, ён жыве ў ім і раз-пораз раскідвае свае лавушкі па ўсім балоце. Калі ў гэтую лавушку трапіць хто-небудзь, то цмок яго ніколі не выпусціць, а зацмоктвае яго ўсё глыбей і глыбей у сваю пастку. Ён цалкам глытае таго, хто яму трапіцца. Кажуць, што некаторыя бачылі, як гэтая нечысць дыхае. Ён лагодна калышыцца, прыціхае, калі каго-небудзь зацмокча, як быццам нічога і не было. Па вёсцы дажэй казалі пра чалавека, які знік у балоці, што цмок ім паласаваўся.

Раней жа ж у лесі шмат чым пасмакавацца было, не тое, што сённі. Дык як збяруцца цёткі, ды й у брусніцы ідуць. Яны і смачныя, і лекавыя. А тыя ж у балоці раслі, а што ж зробіш, хадзілі. Дык вось казалі, што цётка адная, назбіраўшы ўжо досыць ягад, паставіла яго, жбан той, на зямлю, сама разагнула спіну. Потым круць-верць – ай, божачкі, а няма ж таго жбана з брусніцамі. Быў, ды й знік. Уцекла яна адтуль. Бабам казаці стала. Тыя ж казалі, што на тым месцы, дзе ягады-та стаялі, цмок спаў, вось ён та і зацмактаў той збіранкай, жбанам тымсьці. Зацмактаў яго – і ўсё тутака. Добра йшчэ, тую бабу не зацмокнуў, а толькі ягадамі паласаваўся.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Салдаценка Ульяны Аляксееўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Дуброўскай М.***
***(2004 г.)***

# Змест

